KRYVIČ mėnesinis literatūros, kultūros ir visuomeninio gyvenimo laikraštis.

# КРЫВІЧ

## МЕСЯЧНІК ЛІТЭРАТУРЫ КУЛЬТУРЫ І ГРАМАДЗКАГА ЖЫЦЬЦЯ

ГОД 1925

№ 10 (2)

ЛІПЕНЬ—СЬНЕЖАНЬ

„KRYVIČ“ mėnesinis literatūros, kultūros ir visuomenės gyvenimo laikraštis.

# КРЫВІЧ

месячнік літэратуры, культуры і грамадзкага жыцьця

Пад рэдакціяй В. ЛАСТОЎСКАГА.

Год выданьня трэцьці

1925 г. ЛІПЕНЬ — СЬНЕЖАНЬ. № 10 (2).

В. ЛАСТОЎСКІ.

## КРЫЖОВЫ ПАХОД ДЗЯЦЕЙ.

Зьняверыўшысь у сілу рук,
у моц каванай сталі,
у чысьленасьць радоў ваяцкіх
і ў грэшных вусн сваіх малітвы, —
бацькі на поле бітвы
няведак шлюць дзяцей...
„Сьвяты Хрыстовы Гроб
сьвятымі возьмецца рукамі!“
І, вось, гасьцінцы рояцца дзяцямі...

* * *

Сотні, тысячы маленькіх
дзетак у паход
рушыла ахвоча ў край,
дзе Божы Гроб.
Кветнымі вянкамі здобіліс рады;
са званніцаў гучна білі у званы;
валваваў паветра кантаў голчны сьпеў;
нярупліва ў ветры сьцяг Хрыстоў гудзеў...
І плылі малітвы, зьмешаны з сьлязьмі
матак, сумна пазіраўшых
за сваймі дзяцьмі...

* * *

Многа страху, многа гора
кволы дзетак полк дазнаў:
бераг ўражы- бусурмацкі
сон трывожны іх пужаў.

Ў безбярэжнай вод пустэчы
сэрца дзетачак шчыміць,
і на вочках зсалавеўшых,
як брыльянт, сьляза блішчыць...

* * *

З верай крэпкай ў пудаў дзівы
буру ў моры прывялі,
ды аб бераг скальны-жорсткі
паразьбілісь караблі...
Над глыбежаю бяздоннай
апынулась дзецка рацъ:
між зубоў акул пражорных
ім прышлося паміраць...

* * *

Гэтакай ахвяры сьвет яшчэ ня знаў,
гэтку гатакомбу хто-ж калі складаў,
зьняверыўшысь у сілу рук
і ў моц каванай сталі!?..

## ЛІСТЫ.

### I.

**Да N . . . . .**

Максім учора расказаў,
які эфэкт суцьмежны
паклаў Вам на душу мой ліст,
дзе я настрой цлывежны
душы свае там пераліў.

І от, ў сьвяты Ускросу дзень
пішу ізноў я ліст пасьпешны;
што там, тады, у тым лісьце,
мной узят быў тон насьмешны
да зьяў жыцьця, — не да асоб.

Люблю я, грэшны чалавек,
чапіць застой глыбежны
і хлуд жыцьця паварушыць,
прыпын гнюса буцьвежны
на віхры слоў перасушыць.

### II.

**Да К — віча.**

Сьпяваць?! Каму сьпяваць
аб тым, што ные на душы,

аб тым, што ўсьцяж мазоліць мысьль,
што там, ў глыбі баліць,
што сном гарачным сьпіць
гатовае устаць...
Сьпяваць?!
Каму сьпяваць
на полі дзікай бітвы,
дзе стогн, праклён глушыць
і песьні і малітвы?!..

---

А. МАТАЧ.

## ДЫК ШТО-Ж ГЭТА ТАКОЕ?

Сьцяпан ехаў з кірмашу ў надта прыгнечаным стане духа. Сагнуўшыся і апусьціўшы галаву з насунутаю на лоб калматаю шапкаю, ён сядзеў на аглабіне свайго возу і панура сачыў за рухам колаў, якія круціліся кругом восяў у такт з думкамі Сьцяпана, таксама хадзіўшымі навокал аднэй і тэй-жа рэчы. Цёмная хмара турбот зацягла яго аблічча,— і на ім ня відаць было ніводнага праменю надзеі й пацехі. Глыбокія баразны маршчынаў, якімі жыцьцё ўздоўж і ўпоперак паскародзіла гэтае аблічча, выглядалі ў той момант яшчэ глыбейшымі. Відаць, што рэдка разгладжваліся яны шчасьліваю усьмешкаю, пачуцьцём задаволеньня, ці раптам бліснуўшым прывідам сьветлай надзеі. Згорбленая фігура, застыўшыя ў сваёй непарушнасці рысы аблічча і скупляны погляд Сьцяпана гаварылі аб тым, што ён у гэты час быў далёка ад усяго, што знаходзілася па-за яго цяжкімі думкамі. Нат малады, рухавы і прыгожы конік, гледзячы на якога Сьцяпан заўсёды цешыўся з патаемнай пыхай у сэрцы, цяпер яго ня радаваў, і ён машынальна стрымліваў коніка лейцамі. У іншы час ён даў-бы волю свайму гарачаму Буланчыку, але цяпер трэ' было ехаць крокам, бо ззаду плялася прывязаная да возу карова, якая й была прычынаю дрэннага настрою Сьцяпана. У галаве яго біла, як молатам, неадвязнае пытаньне: „Што рабіць? як зьвясьці канцэ? Дома чакае жонка і дзеці... Яны абрадуюцца ўвароту каровы, але і я-ж—ня вораг сабе: ня з радасьці-ж павёў яе, апошнюю карміцельку, прадаваць... Хаця-ж бы сто злоты давалі, а то“... І Сьцяпан махнуў рукою, быццам ён хацеў гэтым рухам паказаць камусь-ці нікчэмнасьць той платы, якую сулілі яму за карову.

Восенская ноч тым часам хутка распасьцягала над зямлёю сваё непразрыстае пакрыцьцё. Навокал ужо нічога ня можна было разабраць: усё зьлівалася ў адну цёмную непразрыстую гушчу, толькі яшчэ ясна віднелася шырокая шаша. Сьцяпан не зьвяртаў жаднай увагі на гэту цемру, бо на сэрцы ў яго было яшчэ цямней: там ня відаць было нават дарогі, па якой можна было-б выбрацца з цемры яго жыцьця.

Толькі Буланенькі стаў непакоіцца, палахліва азіраючыся па старонах дарогі і стрыгучы вушамі. А Стракуля з запаўшымі ад голаду бакамі пачала часьцей спатыкацца і, панурыўшы галаву, ледзь валаклася за возам, жадаючы толькі адпачынку і пажавац хоць-бы якой-небудзь саломкі.

Па кароткім часе Сьцяпан скіраваў з шашы і ўехаў у густы яловы лес, пераплецены каля зямлі альшынаю, ляшчынаю і вербалозам. Дарога пайшла гразкая, па старонах яе высокай сьцяною стаялі дрэвы, а цемра

была такая, што хоць вока выкалі. Дзеля гэтага Сьцяпан, спадзяючыся на памяць свайго Буланчыка, даў яму волю, а сам, закурыўшы люлячку, зноў аддаўся пад абладу сваіх думак. — „Эх, схавацца-б сюды, ў гэты цёмны лес, каб ня бачыць гора, ня чуць плачу жонкі й дзяцей, не цярпець паняверкі і зьдзекаў ад гэтых польскіх скуралупаў. Кінуў-бы, здаецца, ўсё, уцёк-бы сюды і адгэтуль мсьціўся-б сваім ворагам“...

— „Стой!“—крыкнуў нехта прыглушаным голасам у крок ад Сьцяпана. І не пасьпеў апошні апамятацца, як яго конік ужо скіраваўся ў бок па нечыйму загаду.

У гэты самы момант каля возу вырасьлі дзьве чалавечых фігуры.

— „Адкуль едзеш?“ — пытаюцца незнаёмцы.

— „З кірмашу“, — адказаў Сьцяпан, у якога ад неспадзеўкі й страху, здаецца, і сэрца перастала біцца.

— „Купіў, ці прадаваць вадзіў?“ — зноў пытаюцца незнаёмцы.

— „Прадаваць, але танна давалі“...

— „Вядзі за намі!“ — загадна сказалі шэрыя фігуры, і адзін з іх, узяўшыся за вуздэчку, зьвеў каня з дарогі і, спрытна кіруючы паміж дрэваў, павеў ў глыбіню лесу, а другі незнаёмец узяўся падганяць карову, якой цяжка было пасьпяваць за канём па балотністым грунце.

Сьцяпан сядзеў на возе ні жывы, ні мёртвы, чакаючы свае пагібелі...

Тым часам лес станавіўся усё гусьцейшым, — і ехаць з кожным крокам было ўсё трудней і трудней.

Ўрэшце незнаёмцы спыніліся каля вялікай разлапістай хвойкі.

Прывязаўшы каня за таўсты сук і адвязаўшы ад возу карову, незнаёмцы загадалі Сьцяпану йсьці за імі.

А ў Сьцяпана й сілы ад страху прапалі. Насілу вылез ён з возу і, ледзь перастаўляючы ногі, паплёўся за незнаёмцамі й каровай.

Ішлі ў маўчаньні. Чуцён быў толькі глухі шум ветру і трэск сукоў пад нагамі. Ідучым даводзілася рукамі разгартаць густыя чэпкія кустэ і рабіць гэта обмацкам, бо чалавечае вока ня ў стане было штолечы ўбачыць.

Як доўга йшлі, — Сьцяпан ня ведаў, але яму гэты час паказаўся векам. А дорога з кождым крокам рабілася ўсё труднейшай.

Ўрэшце пачалі спускацца ў роў. Ногі падкошваліся і скоўзалі па стромкім яго беразе. Сьцяпан напружыў усе свае сілы, каб не пчакаўзнуцца і не паляцець у невядомую яму глыбіню... Але неспадзевана для яго на дне рову заблішчэў агоньчык, які па меры зблiжаньня да яго, ўсё павялічаўся. Раптам разьляглося адрывістае гаўканьне сабакі, пасьля чаго пачуліся два-тры посьвісты, на якія правадырэ Сьцяпана адклікнуліся такім-жа сьвістам. Спусьціўшыся з самага стромкага абрыву і прайшоўшы яшчэ з дзесяць крокаў, незнаёмцы са Сьцяпанам і каровай падыйшлі да вогнішча.

Каб Сьцяпан быў у спакойным і нармальным стане, яго здзівіла-б тое, што каля вогнішча ня было ніводнай чалавечай душы, і толькі сядзеў адзін вялізны чорны лахматы сабака. Але на Сьцяпана найшло нейкае аслупеньне: ён нічога ня бачыў і ня мог скеміць, што навокал яго робіцца.

Раптам аднекуль пачалі зьяўляцца людзі, якія з жартамі і сьмехам сталі аглядаць прыведзеную карову. Жаласны выгляд перапалоханага і паўпрытомнага Сьцяпана зьвярнуў урэшце іх агульную увагу. Спазірнуўшы на яго, яны пераглянуліся паміж сабою і весела зарагаталі. Калі-ж падышлі бліжэй і акружылі яго, то заўважылі, што няшчасны ўвесь тросься.

— „Канец мой прышоў“, — падумаў Сьцяпан, і ад гэтай думкі ногі перасталі яму служыць, — і ён, як сноп, упаў на зямлю.

Некалькі чалавек кінуліся паднімаць яго, але Сьцяпан, закрыўшы вочы рукамі, пачаў матлашыцца і адбівацца нагамі, як малое дзяцё. Аднак яго паднялі і панеслі да вогнішча.

— „Спаляць, жыўцом спаляць“, — падумаў ён і, адкрыўшы перакрыўленае ад страху абліччa, аглянуўся навокал, быццам шукаючы ратунку.

— „Ня губеця... дзеткі... жонка... беднота... душы нявіннай ня губеця“... — прагабарыў ён дрыжэўшым, прыдушаным голасам.

Высокі стройны мужчына з добрародным і паважным абліччам, з аўчыннай калматай шапкай на галаве, ў чорным, даўжынёю да кален, кажушку і ў новых высокіх ботах, — відаць, старэйшы над усімі гэтымі людзьмі,—пасьпешліва падышоў да Сьцяпана.

— „Ня бойся, даражэнькі, мы табе жаднай крыўды ня зробім, ня бойся нас“, — ветла сказаў ён Сьцяпану. „А вы“, — зьвярнуўся ён да сваіх сяброў,—адыдзецеся ад яго: няхай ён разгледзіцца і супакоіцца“.

На вогнішча падкінулі дроў, і полымя ўспыхнула ярчэй. Чалавек пятнацаць незнаёмцаў распалажыліся навокал агню. Старшы іх зноў падышоў да Сьцяпана і з мілай шчырай прыязьні і прыхільнасьці пытаецца: „А колькі ты хацеў-бы за карову?“

Сьцяпан, ня верачы сваім вушам і лічачы гэтае пытаньне за здзек, маўчаў. Калі-ж на паўторнае, ўжо срогае, запытаньне ён зноў нічога не сказаў, то старшы дастаў з кішані грошы, адлічыў іх і, падаючы Сьцяпану, кажа: „Вось, бяры 200 злотых і можаш сабе ехаць да хаты, зараз цябе правядуць да твайго каня“.

Зьняверліва спазірнуўшы на ўсю грамаду незнаёмых людзей і на атрыманыя грошы, Сьцяпан дрыжачаю рукою засунуў іх за пазуху.

У гэты самы момант з лесу пачуўся посьвіст. Сабака скочыў і пачаў ветрыць носам. Потым два разы гаўкнуў і схаваўся ў цемры. Седзячыя каля вогнішча перамігнуліся між сабою і разыйшліся ад агню пад дрэвы. Купленую карову таксама адвялі ў кустэ.

Каля агню астаўся толькі Сьцяпан. Ня ведаючы, што рабіць і куды падзецца, ён нясьмела ўстаў і пачаў азірацца навокал, як-бы стараючыся скеміць, ў якой старане ад гэтага мейсца будзе яго вёска. Адчуваючы за пазухай жмут грошай, ён патроху пачаў набірацца пэўнасьці свайго становішча, і страх яго стаў прападаць. Зьнешні выгляд незнаёмых людзей і іх абыходак не здаваўся яму цяпер страшным. Ня было сярод іх ні абадраных, ні босых, у абліччах іх сьвяцілася добрасьць і нешта да сябе пацягаючае, паміж сабою яны прыязна сьмяяліся і жартавалі, а да гэтага яшчэ сам старшы гэтак уважліва з ім абышоўся.

— „Гэтак то гэтак, але што далей мне рабіць?.. Усе разышліся, — а хто мне аддасьць коніка і пакажа дарогу да дому?“ — закончыў свае разважаньні Сьцяпан.

Як-бы ў адповедзь на гэтае пытаньне па лесе разлёгся сабачы брэх, і праз хвіліну да вогнішча падбег той самы сабака, а сьледам за ім з-паза кустоў высунулася пяць новых незнаёмцаў. Не пасьпелі яны зблізіцца, як з усіх старон з цемнаты пачалі высоўвацца тыя самыя людзі, што былі раней каля вогнішча, і абступілі толькі што прышоўшых.

— „А дзе старшы?“—запытаўся адзін з гэтых апошніх пяці чалавек, дастаючы з кішані трубку папераў. Ён і не заўважыў, што старшы стаяў тут-жа ззаду і ўжо працягнуў руку да даўно чаканых дакумантаў.

— „А дзе сам зьверхнік жандармэрыі?“ — ціха запытаўся старшы акінуўшы вокам паперы і праніклiва гледзячы на новапрыбыўшых.

— „Запякалі туды, адкуль ён ужо ніколі ня вернецца!“—з самазадаволеньнем сьмяючыся адказаў рыжаваты мужчына, — „але падробнасьці — пасьля, а цяпер давайце барджджэй есьці ды хоць па чараццы гарэлкі“,—дабавіў ён, сядаючы каля вогнішча і сьцягаючы з ног боты, ў якія набраў вады. Сядзеўшыя паблізасьці сябрэ кінуліся памагчы яму разуцца і, разьвінуўшы з яго ног мокрыя ганучы, пачалі сушыць іх над полымем.

Праз хвіліну прынесена была кварта гарэлкі, аржаны вясковы хлеб адварэнае халоднае мяса. Усе новапрыбыўшыя выпілі па чараццы і пачалі есьці з апэтытам, зразумелым добра таму, каму даводзілася прабыць цэлы дзень на паляваньні, нічога ня еўшы. Не абмінулі чарачкаю й Сьцяпана: яго пачалі частаваць, як добрага госьця. Не запамяталі і аб сабапы, якому адвалілі добры кавалак мяса.

Фізычна і маральна зморaны Сьцяпан ад аднэй чарачкі гарэлкі зрабіўся п'яны, але гэта надало яму крыху сьмеласьці і крэзвасьці. Ня бачачы ўжо для сябе нічога страшнага і небасьпечнага сярод гэтых незнаёмых людзей, ён адважыўся нат загаварыць першым.

— „Скажэця мне, братке, што вы за людзі такія? Калі вы благія, то чаму вы мне нічога благога не зрабілі, і чаму я вас не баюся?“ — запытаўся Сьцяпан без належнай яшчэ пэўнасьці ў сваім голасе, ўзіраючыся кождаму ў абліччa.

Цёмнавокі малады дзяцюк, які сядзеў бліжэй за ўсіх пры агні, праніклiва паглядзеў на Сьцяпана, потым усьміхаючыся прагаварыў: „Хто мы? Ты пытаешся, што мы за людзі? Мы — такія ж, як і ты, толькі ты цярпіш і кланяешся польскім крумкачом, а мы знаць ня хочам іхняй барбарскай улады, ня хочам карыцца гэтым рабежнікам і разбойнікам, — і ось сабраліся сюды абрадзіць, як зрабіць канец усім гэтым чужацкім здзекам. І вось, у гэтых цёмных лясох, ў якіх знайшлі сабе прытулак дзесяткі тысяч такіх самых, як і мы, зьбіраецца абаронная сіла нашых мужыцкіх правоў... Ну, скажы, а ты задаволены сваім жыцьцём?“ — зьвярнуўся цёмнавокі да Сьцяпана.

Апошні сьпярша крыху замяўся, як-бы з няпрывычкі спалохаўшыся такіх адважных слоў, ці баючыся сам сказаць праўду. Але, адчуваючы нейкую незразумелую для яго самога прыхільнасьць і здаверасьць да гэтых людзей, ён адказаў: „Дзе там задаволены!.. Жыцьцё ня мілым стала!.. Вочы ні на што не глядзелі-б!.. Вывеў, ось, апошнюю кароўку прадаваць: падаткі налягаюць плаціць, а ўзяць неадкуль“...

— „Ну, от і мы не ад салодкага жыцьця сюды забраліся... Толькі ня грабіць, не забіваць мы сюды зышліся, а бараніць адгэтуль пакрыўджаных“... Дагаварыўшы гэта, малады чалавек схапіўся на ногі і, размахваючы рукамі, з гарачнасьцю дабавіў: „Так!.. Але ў тым толькі наша бяда, што мы адзін за другога хаваемся, баімося праўду сказаць, цярпімо і гнёмся, гнёмся і цярпімо, — і гэтак без канца, бяз просьвіту. Прадзяды, дзядэ, бацьке і, ўрэшце, мы, — як апошнія нікчэмныя бяспраўныя служкі!.. Але павінен-жа быць калі гэтаму канец?!.. За нас ніхто не цярпіць, дык ніхто ня будзе і бараніць нас. Мы самі мучымся, — мы самі і павінны вызваліцца з-пад гэтай мукі. Усе і ўсё на сьвеце дабіваюцца лепшай долі: слабыя, кволыя птушачкі — і тыя бароняць сваё роднае гняздо ад хіжака-ястраба, а мы цярпімо, даямо чужынцом-хіжаком ўладаць нашай гаспадаркай, ў якой мы апынуліся на становішчы

самых апошніх слуг. Нашых ўдоў, старцаў, дзяцей пазбываюць апошняга кавалка хлеба, пускаюць жабраваць,—а мы, маладыя і дужыя, глядзімо на гэта і маўчымо... Брыдка нам, сорамна!.. Дзеля чаго-ж тады мы жывём?!..“

Агонь асьветліў узрушанае абліччa прамоўцы, — і ў рысах яго і бліщчэўшых вачох, якія гарэлі агнём праўды і самаахвярнасьці, можна было заўважыць столькі шчырага цярпеньня за свой прыгнечаны народ, што гэты просты покліч распаляў у сэрцах слухачоў цэлае полымя жаданьняў для адпорнасьці і змаганьня з прыгнятацелямі.

Сьцяпан ня мог адарваць ад яго вачэй. Кождае слова гаварыўшага увайходзіла ў яго душу.

Усе іншыя сядзелі моўчкі, схіліўшы галовы, і глядзелі на агонь. Толькі старшы адышоўся пад дрэва і глядзеў у цёмны лес. Невядома, якія думкі роіліся ў яго галаве: ці ўспамінаў ён пакінуты дом і ўціснутых праз жандароў старых бацькоў, ці ўскрос перад ім абраз каханай дзяўчыны. Толькі ня чуў ён гарачых слоў цёмнавокага прамоўцы, ня чуў, як Сьцяпан разказваў аб сваіх крыўдах, аб тым, як ўдава Маланьня з трымя малалеткамі пайшла жабраваць, бо апісалі на падаткі астатнія шматке, і як бяздзетных старцаў Субоцькаў таксама за падаткі выгналі нат з хаты, якую потым разабралі на дровы, бо ніхто не хацеў купляць...

Вогнішча пачало патухаць. Зморaныя перажытым за дзень і гутаркай некаторыя з прытымбытных задрамалі.

— „Ну, даволі з вас... Ужо позна... Вядзеця яго да каня“, — прагаварыў старшы, падыходзячы да агню. Сьцяпан раптам занепакоіўся. — „Вазьмеце мяне да сябе, прымеце: не магу я больш цярпець ад іх... Б'юся, працую, ня маю й хвілінкі адпачынку, а карыстаюцца ўсім яны... Не пашкадую сям'і для агульнага дабра!“ — прагаварыў ён, зьвяртаючыся да ўсіх.

— „Ось, і грошаў гэтых таксама не вазьму“, — дабавіў Сьцяпан, дастаючы з-за пазухі атрыманыя ім 200 злотых. — „Тады, як кожды з вас аддае ў ахвяру нашаму народу, а знача — і мне, самае даражэйшае,— сваё жыцьцё, мне брыдка браць ад вас плату за тое, што пойдзе на падтрыманьне маіх-жа ўласных інтэрасаў. Сумленьне вымагае ад мяне таксама ахвярнасьці,—і калі зразу я прыняў ад вас гэтыя грошы, то ня гневайцеся, бо я ня ведаў, што вы за людзі. Цяпер-жа прашу вас прыняць іх назад,—заспакойце маё сумленьне!.. Я цяпер усё роўна дабравольна не заплачу падаткаў! Не хачу самахоць запамагаць сваіх ворагаў, падтрымліваць іх ўладу, якая за нашыя-ж падаткі павялічае ў нашай старонцы толькі лік скуралупаў-жандароў, утрымлівае сваё войска ды селіць на зямельцы, аблітай нашай крывёю й потам, сваіх людзей, варожых нашаму народу, нішчыць нашы лясэ і вывозіць іх з краю ў той час, як мы, пазбыўшыся праз вайну сваіх будынкаў, ня можам дастукацца ад гэтай ўлады дрэва на адбудову, і добрая частка нашага жыхарства і дагэтуль сядзіць у зямлянках. За нашы мазольныя грошы нам не даюць ні зямлі, ні дрэва на будынкі і апал, мы ня маем свае народнае школы, ад нас адбіраюць цэрквы, зачыняюць іх, або перарабляюць на касьцёлы. Польская ўлада хоча зрабіць нас зусім убогімі, дзікімі польнымі людзьмі, каб потым лягчэй было трымаць нас у няволі. Гэтая ўлада ўзмацовуе сваю сілу паборамі нашага народу ў сваё войска і прымушае нашых-жа братоў і дзяцей ісьці супроць нас і нашых справядлівых дамаганьняў... Не! не да іх, а да вас павінны йсьці служыць нашы жаўнеры! Гэта скажу я цяпер адкрыта сваім суседзям і

кождаму сустрэчнаму! Што-ж дала нам польская ўлада? Турмы, катаваньне, здзекі, кроў, сьлёзы, беднасьць... Дык ня буду-ж утрымліваць яе сваім каркам! Ня буду плаціць паляком падаткаў! Лепш вазьмеце гэтыя грошы на справу вызваленьня нас з-пад цяжкага і няўдзячнага ярма!..“ І пры гэтых словах Сьцяпан падышоў да старшага і ўсунуў яму за пазуху грошы.

— „Дзякуям табе,“ — загаварыў старшы, — „за добрыя праўдзівыя словы, за шчырыя і гарачыя жаданьні, якія—найлепшая для нас пацеха, помач, заслуга і падзяка! Толькі грошы ты ўсё-ж павінен узяць. Табе ня грэх гэта зрабіць, бо ты бедны. Ты павінен мець чым падтрымаць і гадаваць сваіх дзетак,—будучых змагароў за долю нашага народу. У выхаваньні здольнага да змаганьня, вольнага духам, здаровага і моцнага пакаленьня ня меншая заслуга, чым асабістае учасьніцтва ў нашай справе. Мы ўсе, якія хаваемся тут ад людзкога вока ось па гэтых лясох і крокацях, маем сабе на мэце ня толькі барацьбу са зброяй у руках супроць сваіх уціскачоў, а таксама — і дапамогу тым з нашых братоў, якіх вораг даводзіць да беднасьці і торбы, каб ня даць магчымасьці ня толькі ўзмоцніцца самім, але і выгадаваць моцных целам і духам дзетак, бо вораг ведае, што нашы дзеці, якія цяпер зьяўляюцца сьведкамі крыўды, сьлёз і гора сваіх бацькоў і кожды дзень чуюць іх жальбы на уціскачоў, — выхаваюцца і ўзгадуюцца з сэрцамі, поўнымі помсты і ненавісьці да вінавайцаў гэтай крыўды. Дык на зло ворагу мы павінны старацца ўзгадаваць і захаваць гэту пагрожлівую для нашых злачынцаў сілу, — нашае маладое пакаленьне! І ось дзеля гэтага ты і павінен узяць ад нас грошы, каб ужыць іх на неабходныя патрэбы сваіх дзетак, якія пэўна голыя, босыя і недаеўшыя сядзяць у запечку ў няцеплянай хаце без навукі й сьвятла, або чакаюць доктарскай помачы ў хваробе, якая нямала бярэ дзетак ад нашых бедных і гаротных сялян“... — закончыў сваю прамову старшы, падаючы Сьцяпану грошы.

Гэтыя апошнія словы прамоўцы папалі ў балючае мейсца Сьцяпана, які ўжо пахаваў дваіх дзяцей, ня могучы па беднасьці даць ім доктарскай помачы, а сына Іванка пакінуў дома надта хворым, таксама патрабуючым лекаў, — і ўспаміны аб гэтым, падтрыманыя пераконаньнямі „старшага“, змусілі яго ўзяць назад грошы.

Гарачая прамова і поўная самаахвярнасьці просьба Сьцяпана змусіла ўсіх задумацца. Каб не абразіць гэтай яго шчырасьці, „старшы“, пасьля некатарага разважаньня, палажыў руку на яго плячо і сказаў:

— „Што-ж, дзядзька, ідзі да нас, толькі навошта губіць табе сям'ю, калі ты можаш памагаць нам, жывучы дома: ты можаш карміць нас. Прыводзь-от нам каравэ ўпаказанае мейсца, а мы будзем табе плаціць за іх. Гэтай, што ў цябе купілі, нам выстарчыць толькі на два дні, бо нас тут многа ёсьць. Толькі трэба ўсё умела, каб да пары — да часу ўсё было шыта-крыта“...

Сьцяпан з вялікаю радасьцю прыняў гэту прапанову, згараючы адным жаданьнем памагчы ім, прыняць удзел у агульнай справе.

Умовіўшыся аб мейсцы і часе дастаўкі правізіі й горача разьвітаўшыся са сваімі новымі сябрамі, ён пайшоў за правадыром.

Выбраўшыся з рову, Сьцяпан азірнуўся ўніз. Вогнішча ўжо патухала. Каля яго ня было ніводнай душы, толькі сядзеў адзін чорны сабака.

Цяпер дарога не здавалазя Сьцяпану такой доўгай і труднай. Ён ішоў бойка і з пэўнасьцю, хоць і ў тым жа маўчаньні. Па малым часе падышлі да хвойкі, дзе быў прывязаны Буланчык. Пачуўшы гаспа-

дара, конік прывітаў яго радасным іржаньнем і пачаў нецярпліва біць капытом зямлю.

Правадыр давёў Сьцяпана да самае дарогі, і тут яны разьвіталіся.

Цяпер ужо ня стрымліваў Сьцяпан свайго Буланчыка. Адпачыўшы і згаладнеўшы конік, ня гледзячы на гразкую і выбоістую дарогу, без перастанку бег рысьсю.

Да хаты аставалася вярстоў з дванаццаць, дзеля гэтага Сьцяпану было даволі часу абдумаць сваю прыгоду. Хвілінамі ўсё здавалося яму сном, але, засунуўшы руку за пазуху і абмацаўшы жмут грошай, ён спадзіўна паціскаў плячыма і пытаўся ў сябе самога: „Дык што-ж гэта такое? Няўжо-ж — праўда? І сам жыў, і грошы ёсьць, і ўсё неяк дзіўна“...

Стаў прыпамінаць ён, як гаварылі яму тыя людзі, ды з такім пераконаньнем гаварылі, што хутка пройдзе гэты трудны час, што наш народ зажыве новым жыцьцём, у якім мы будзем самі гаспадарамі. Потым успомніў ён сваё абяцаньне памагаць ім, — і сэрца яго напоўнілася самапашанаю і пыхаю.

„Ну, што-ж, — і памагу! Ня цуда-ж чакаць з неба? Дык вун, адкуль рыхтуецца нам помач: з цёмных лясоў, гразкіх балот і глыбокіх равоў! Дык ось, дзе яны, абаронцы нашага краю, змушаны хавацца, як дзікія зьвярэ, і цёмнымі начамі, нікога ня крыўдзячы і не забіваючы, змушаны здабываць сабе пасілак для пражыцьця! Во, да чаго дайшло жыцьцё! Во, да чаго дажыўся наш бедны народ“!..

Сьцяпан расчуліўся, і некалькі буйных сьлязін пакаціліся па яго абліччы.

„Но, Буланчык, но!“.. — крыкнуў ён на каня і турзануў лейцамі. Няпрывычны да гэтагя конік здрыгнуў, выцягнуўся, выгнуў хрыбет і панёсься, як вецер. Сьцяпану аж дух стала займаць і зрабілася страшна ад гэтага дзікага гону сярод непразрыстай цемры. Прыгнуўшы галаву, каб засьцерагчы абліччa ад пырскаўшай гразі і вісеўшага над дарогай гальля дрэваў, ён памятаў толькі адно, — каб неасьцярожным рухам ляйчыны ня зьбіць каня з дарогі. Праз незаўважны час увесь узмылены і разгарачаны Буланчык раптам спыніўся. Сьцяпан падняў галаву і з аблегчаным сэрцам праканаўся, што прыехаў дамоў.

Ня гледзячы на глухую ноч, у вакне яго хаткі сьвяціўся агоньчык. Не пасьпеў Сьцяпан уехаць на панадворак, як адчыніліся дзьверы і на парозе зьявілася жаноцкая фігура.

—„Сьцяпан, ты?..“—пачулася занепакоенае і трывожнае пытаньне.

— „Зараз іду!“ — весела адказаў ён.

Праз хвіліну Сьцяпан увайшоў у хату. Яго жонка стаяла з бледным змучаным абліччам і моўчкі пранікліва глядзела на яго.

— „Ты што-ж гэта, Маланьня, на мяне ўтаропілася? Не пазнала, ці што?“ — пажартаваў ён, распранаючыся і вешаючы мокрую сьвітку. Але Маланьня не пераставала пранізваць яго вачыма. Тады, бачачы яе трывогу, Сьцяпан пасьпешліва дастаў з-за пазухі грошы.

— „На, вось! 200 злотых за карову ўзяў“,—прагаварыў ён, падаючы жонцы грошы.

На вустах Маланьні засьвяцілася зьняверлівая няпэўная усьмешка.

— „І сам жывы, і грошы прывёз... А я чаго толькі не передумала, чаго не пережыла, думала ўжо, што й ранку не дачакаю... Аджа сяньня жандарскага нейкага старшага забілі. Прыязджаў у нашу вёску опісь рабіць за падаткі, дык, як ад'ехаў ад нас, — яго ў лесе

запынілі, адабралі паперы, а самога забілі. Я ўжо думала, што й табе гэта самае зрабілі".

Дагадка аб скрутку папераў, якія бачыў Сьцяпан у лесе ў сваіх securely новаnабытых сяброў, і аб таемнай гутарцы апошніх паміж сабою маланкай праняслася ў яго галаве. Але ён прамаўчаў аб гэтым.

Маланьня тым часам пасьпешліва схавала грошы за абраз і кінулася гатаваць мужыку вячэру. Між работай яна пачала распытваць яго аб прычыне познага ўзвароту.

— „Потым, потым,—доўга расказваць, ды й здарылася са мной тое, у ва што адразу й не паверыш. Толькі справа вымагае сакрэту", — з павагай сказаў Сьцяпан.

Затым ён моўчкі пасілкаваўся, адсунуў місу, перахрысьціўся і вышаў з-за стала.

— „Ну, дзякую, Маланьня, — накарміла! А цяпер — на цёплую печ ды адагрэцца. А ты гасі сьвятло ды прыходзь, — пагаворым".

Праз некалькі хвілін у хаці стала цёмна і ціха. Толькі на печы Сьцяпан шаптаў жонцы аб сваёй прыгодзе. Здзіўленая Маланьня сядзела на ўскрай печы і, затаіўшы дух, слухала мужыка, не перабіваючы яго ніводным словам. Нажаль, цемра не давала магчымасьці бачыць яе абліччa, каб прачытаць на ім тое ўражаньне, якое вытварыла на ёй апавяданьне мужыка.

— „Памажы ім, Сьцяпанка, памажы!..." — прагаварыла яна расчуленым голосам, як мужык змоўк.—„Я хлеба сьпяку, завязі ім, бедненькім.. І няўжо-ж, Сьцяпанка, гэта ўсё збудзецца, што яны казалі, і мы дачакаемся лепшага жыцьця?... А нашаму Іванку яшчэ гарэй няўздоліцца... Але цяпер маем за што доктара папрасіць... Ігналька з Палуськай пайшлі на той сьвет ад нашай беднасьці, ад недастачы"...

Але Сьцяпан ужо ня чуў слоў жонкі. Усё, перажытае ім за гэту ноч, так яго змарыла, што апынуўшыся ў цяпле і супакоіўшыся, ён заснуў моцным сном, будучы ня ў сілах раздзяліць з жонкаю яе трывогі.

Маланьня-ж зьлезла з печы і, рупна абгледзеўшы двох спаўшых на палу хлопчыкаў, сама лягла пры малодшым хворым, трывожна прыслухаючыся да яго няроўнага дыханьня. Апавяданьне мужыка ўзварушыла яе думкі, якія не давалі ёй спаць. Толькі пасьля трэйціх пятухоў сон самжыў яе вочы. Але і ў ва сьне бачыла яна свайго мужыка сярод дзіўных незнаёмцаў у лесе і каля палыхаючага вогнішча — вялікага чорнага сабаку.

---

## „АПЯКУН".

У сяле Петрашэвічы было царкоўнае сьвята ў чэсьць апосталаў Пятра і Паўла. Па ўсёй кругаколіцы разьлягаўся мэлёдычны царкоўны звон, які ў гэты дзень неяк асабліва распальваў рэлігійнае пачуцьцё і настрой у сэрцах пажылых мужчын і жанок, а сэрцы маладых дзяўчат і дзяцюкоў змушаў біцца няведамаю для іх трывогай, добра знаёмай закаханай парачцы маладых асоб перад назначаным часам іх сустрэчы. А ў гэты дзень меліся адбыцца спатканьні ня толькі тых, якія ўжо кахаліся, але і тых зусім маладзенькіх дзяўчатак і дзяцючкоў, у чыіх сэрцах білася першае пачуцьцё сьпелай моладасьці і жаданьне кахаць. Кожды і кождая з іх стараліся ў гэты дзень паказацца адны другім

ва ўсім сваім прыгажстве і павабнасьці, кождага з іх непакоіла патаемна-трывожнае пытаньне: „Якое шчасьце пашле мне сьвяты Пятро?“

Чыста вымеценая вуліца сяла цьвіла макам рожнаколерных строяў дзяўчат і маладзіц, за якімі йшлі грамадой прыбраныя, па-магчымасьці на гарадзкі лад, дзяцюке. Некаторыя з апошніх, прыкмеўшы найбольш прыгожых дзяўчат, насьцігалі іх, перакідаліся некалькімі жартоўнымі слоўкамі і, калі ня ўскаралі на гэты раз завясьці знаёмасьці, то міналі іх, стараючыся пры гэтым стройнасьцю стану ці маладзецкай паходкай зьвярнуць на сябе увагу жаночай палавіны.

Падросткі і малыя дзеці наўпярэсьцігі сьпяшаліся першымі папасьці ў царкву. Толькі пажылыя ды самыя старыя спаволі рушылі на цьвінтар і перад тым, як увайці ў царкву, доўга і урачыста хрысьціліся.

Летні сонечны ранак, зелень садоў, прыгожы кветнік сьвяточных вопратак, часты царкоўны звон, — усё гэтае стварала ў сэрцах сялян такі урачысты настрой, што, здаецца, ня было ніводнай чалавечай душы, якая б не адчувала гэтага агульнага пачуцьця.

Аднак гэта здавалася толькі на першы павярхоўны погляд. Прыглядзеўшыся ўважліва да кождага паасобку, можна было адразу адрожніць і сумныя задуманыя аблічча, а ў некаторых—і сьлёзы на вачох. З-пад сьвяточных строяў у многіх выглядала гора і роспач. Сумныя і тужлівыя стараліся трымацца ў старане або ззаду ад вясёлай грамады.

Шчасьлівыя і нешчасьлівыя, радасныя і маркотныя, багатыя і бедныя, здаволеныя і пакрыўджаныя,—усе сьпякаліся сяньня ў царкву: адны — падзякаваць апосталам Пятру і Паўлу за іх заступніцтва, другія—прасіць гэтага заступніцтва і помачы. Уборзе вуліца сяла апусьцела, і ў цэркві пачалася служба.

У гэты час з невялічкай хатушкі вышла старэнькая жанчына. Ня гледзячы на гарачы дзень, на плечах яе была накінута вялікая цёплая хустка, пад якой бабка нешта хавала. Асьцярожна азіраючыся, яна пайшла міма цэркві, гледзячы на якую некалькі разоў азасьціла сябе знакам крыжа. Мінуўшы з дзесяць хат, яна падышла да аднэй новай хаткі на ўскрай сяла. Высокі крыты ганак, аздоблены рожнымі фігурнымі выразамі, і з такімі-ж выразамі маляваныя вокны прыдавалі хаце ветлы выгляд. Старэнькая жанчына, ўзабраўшыся па сходках, увайшла ў хату.

Там было ціха й пуста, але чыста вымецены памост і белы абрус на стале сьведчылі аб тым, што і тут сустрачалі сьвята. Увайшоўшая прывіталася і абвяла хату неспакойным ўзрокам. Пасьля, быццам аб чымсь-ці дагадаўшыся, борзда накіравалася за дашчаную перагародку, якая адлучала часьць хаты.

Там на няпрыбраным ложку, упаўшы аблiччам у подушку, ляжала жанчына. Цёмныя раскудлачаныя валасэ ў неладзе рассыпаліся пасмамі па яе плечах і подушцы. Грудзі жанчыны здрыгаліся ад плачу. Обач з ложкам вісела калыска, ў якой спала шасьцімесячнае дзяцё.

Ад убачанага аблiчча старэнькай яшчэ больш зморшчылася, вусны задрыжэлі, і на вачох паказаліся сьлёзы. Яна ціха падышла да ложка, стараючыся не закрануць калыскі, і палажыла руку на галаву маладой жанчыны — „Ну, што з табою?.. зноў нешта?.. зноў сьлезы?.. Паглядзі, — на вуліцы сьвята, людзі весяляцца, а ты ўбіваешся... Устань, Алеся, для гэткага дня і ў царкву ня шкодзіла-б схадзіць“,—пачала ўмаўляць старэнькая.

Плечы лежачай задрыжэлі, і яна загаласіла.

— „Ах, мама, мама!“—загаварыла яна праз сьлёзы, — „што для мяне сьвята, калі я на сьвет не хачу глядзець?..“

Дзяцё прачхнулася і села ў калысцы, паціраючы кулачкамі свае заспаныя вочкі. Гэта быў сынок Алесі. Убачыўшы бабку, ён ветла ўсьміхнуўся і, віставіўшы да яе свае пухленькія ручкі, зазюзюкаў: „ба-ба-ба“...

Бабка ўзяла яго на рукі і села на ўскрай пасьцелі. Папраўляючы аднэй рукой раскіданыя валасэ дачкі, яна пачала яе ўгаворваць, супакойваць і сароміць. Відаць, словы яе мелі ўплыў, бо плач Алесі пачаў сьціхаць, і ўборзе яна зусім супакоілася і ўстала.

Алеся была высокага росту, складная, поўнагрудная. Гора й цярпеньні налажылі на яе прыгожае аблічча свой сьлед, пазначыўшы высокае белае чало глыбокімі маршчынамі і ўплёўшы срэбныя ніці ў яе чорныя густыя валасэ. Па выгляду ёй можна было даць адначасна і трыццаць і пяцьдзесят гадоў.

— „А я прынясла табе й дзеткам аладачак: ведаю, што ты іх не пякла сяньня“, — сказала бабка, дастаючы з-пад хусткі белы вузлак і перадаюы яго ў рукі дачцэ. „Ну, зьбірайся барджджэй, ды пойдзем разам у царкву, я і так ужо пасьля ўсіх вышла, каб не паказвацца перад народам і ня выклікаць аб нас людзкой гаворкі“, — дабавіла яна, выказваючы сваімі рухамі нецярплівасьць.

— „Не, мама, я не пайду! Гэтае сьвята, гэты прыбраны вясёлы народ яшчэ больш будзе адцяняць маё гора“, — адказала Алеся. Пры гэтых словах яна пасьпешліва і спрытна сабрала свае рассыпаныя валасэ, закруціла іх на галаве і залажыла грэбянямі. Затым узяла ад маткі свайго хлопчыка.

— „Ну дык я ўжо адна пайду, калі ты ня хочаш“, — сказала бабка. Яна як-бы нехаця зрабіла некалькі крокаў да дзьвярэй, потым спынілася і, пасьля кароткага разважаньня, вярнулася, села каля стала і, падпёршы рукою схіляную галаву, аддалася невясёлым думкам. З-паза перагародкі вышла Алеся з дзяцём.

— „Ну, калі ты ня пойдзяш, дык і я застануся з табой. Няхай сьв. Пятро і Паўла даруюць мне гэты дзень, а пакідаць цябе адну, каб ты дзеля сьвята ліла сьлёзы, — я не магу.

Гэта самаахвярнасьць пабожнай маткі разчуліла Алесю і яна, борздa падышоўшы да старэнькай, абняла яе і пріціснула да сябе. Па яе шчоках пакаціліся сьлёзы. Старэнькая таксама незаўважна выцерла вочы канцом хвартуха.

Як-бы наперакор гэтаму смутку мацяры й бабкі маленькі хлапчук весяла трапятаўся і падскакваў на руках у Алесі. Каб даць волю гэтаму нявіннаму стварэньню, якое ў даны момант лічыла найвышэйшым для сябе шчасьцем здабытую сілу і уменьне поўзаць, маці пусьціла хлапчука на памост, дзе ён пачаў шворыцца ўзад і ўперад, зюзюкаючы нешта на сваёй, незразумелай для старых, мове.

У цэркві зноў зазванілі. Старэнькая перахрысьцілася і паглядзела ў вакно. Як раз у гэты момант пасярэдзіне пустой вуліцы, кіруючыся да іх хаты, імчаўся конна жандар. Не пасьпела бабка вымавіць і слова, як Алеся стаяла ўжо каля вакна і з пабялеўшым, як сьнег, абліччам спалоханымі вачыма глядзела на яздца. Аднэй рукой яна ўхапілася за рог стала, каб ня упасьці, а другой раптоўна сьціснула за грудзі, ў якіх быццам штось-ці з гострым болям адарвалася.

Старэнькая з посьпехам схапілася з лавы і, ўзяўшы на рукі дзяцё, схавалася за перагародку.

На сходках ганка пачуўся бразг шпораў, і праз хвіліну ў хату увайшоў рыжавусы жандар. Палажыўшы шапку на стол, ён падышоў да Алесі і, абняўшы, нахіліў да яе сваё чырвонае потнае аблічча. — „Віншую са сьвятам, маладзічка! Прымай госьця!“ — прагаварыў ён, робячы крывую і нагла-хіжацкую усьмешку, выкрываючую яго гнілыя чорныя зубы.

Алеся маўчала, і толькі ніжэй схілілася яе аблічча, ды дзьве сарамязьлівыя ружовыя плямы загарэліся на яе бледных шчоках.

Жандар адышоўся і, няўважна разваліўшыся на лаве, загадаў сабе закускі. Тут-жа ён дастаў з кішэняў дзьве кварты гарэлкі і паставіў на стале.

Як прыбітая, адышлася Алеся ад стала і, заплятаючыся нагамі, накіравалася за перагародку. Там яна упала мацяры на шыю.

— „Зноў прыехаў мяне мучыць... Я ўцяку, мама, сілы няма ў мяне больш цярпець“, — ціха шаптала яна, кусаючы вусны ад стрымліванага плачу.

— „Што ты, што ты, Алеся?.. Бог з табою!.. Згубіш тады сябе і малых дзетак!“ — палахліва прагаварыла старэнькая, аддаляючы ад сябе дачку і сьпяшаючыся выйці баржджэй да госьця.

— „Што будзе угодна вашай начальніцкай міласьці?“ — пакорліва запыталася яна, нізка кланяючыся жандару.

— „А ты што-ж, старая качарга, ня ведаеш, як трэба госьця і вашага апякуна прымаць? — звысока глянуўшы на яе, прагаварыў жандар.

— „Выбачайце, паночку, зараз“... І старэнькая, не дагаварыўшы, кінулася ў істопку.

Праз хвіліну перад ім ужо стаяла нарэзаная кілбаса і сала. — „На большае выбачайце, пане начальнік, ня маем чым прымаць... Дачка ось з гора хворая“... — гаварыла бабка, пасьпешліва кроячы хлеб.

Выпіўшы конаўкаю першую кварту гарэлкі, жандар пачаў вымагаць, каб з ім пілі Алеся з маткаю. Безбаронныя жанчыны доўга адгаворваліся, і, калі п'яны жандар крыкнуў на іх, то абедзьве, моршчачыся, папярхаючыся і адплевуючыся, выпілі па чарцы.

— „Нам нават грэх яшчэ піць: у цэркві служба, людзі моляцца а мы п'ямо“, — гаварыла борзда захмялеўшая бабка, у якой ад гарэлкі каціліся з вачэй сьлёзы.

— „А вы ведаеце, хто я?... Я ваша ўлада! Я з вамі папростаму, як з раўнёй, значыцца... Дык вы гэта адчувайце! Бо адно маё слова,— і тваю дачку, Алесю значыцца, зажануць у халодніцу й высякуць... Усё адбяруць, бо яе мужык бунтаўшчык, — супраць ўлады, значыцца, паўстаньне гатуе... А такіх мы, як мух, душым. А я ось, ведаючы ўсё гэта, вамі апякуюся... Ну, дык вы гэта адчувайце і са свайго боку мне спрыяйце“!... — гаварыў жандар заблутаным языком.

Бабка сагнулася перад ім, нізка кланялася і дзякавала. А Алеся стаяла каля стала са сьціснутымі вуснамі, не сказаўшы ніводнага слоўца. Адчуўшы на сабе прагавіта-хіжацкі ўзрок жандара, яна густа пачырванела і схаліла галаву. Хлопчык выпаўз з-паза перагародкі і, выпучыўшы свае круглыя вочкі на незнаёмага чалавека, голасна заплакаў.

Абедня ў цэркві скончылася. Народ густою грамадою паваліў з цвінтару: маладыя—на рынак, пажылыя—дамоў, або да сваякоў у госьці.

Жандар таксама падняўся і, ледзь трымаючыся на нагах, накіраваўся з хаты. — „Нанач чакай мяне“, — падміргнуў ён Алесі, і, шырока расхлябіўшы дзьверы, хістаючыся вышаў на двор.

Астаўшыся адны, абедзьве жанчыны доўга стаялі ў нейкім напружаным маўчаньні. Ганьбячыя іх апошнія словы жандара глыбока абразілі жаночы гонар маткі й дачкі, і яны ад сораму не маглі нават глянуць адна другой у вочы, не маглі парадзіцца, каб унікнуць гэтай ганьбы, бо стыдаліся гаварыць аб ёй і ведалі, што ўсё роўна ня знойдуць выхаду з гэтага палажэньня. Каб пазбыцца прыкрай для абедзьвех нацягнутасьці, бабка зарухалася каля стала, каб прыгатаваць абед да прыходу з царквы дзяцей. Яна сабрала са стала пустыя бутэлькі, нарэзала прынесенай з сабой адваранай кумпячыны, прынясла тварагу і малака. У гэту самую мінуту на дварэ затупацела некалькі пар ног, і ў хату з гоманам і шумам варваліся пяцёра дзяцей Алесі. Старэйшай з іх дзяўчынцы было гадоў з дванаццаць, а самаму малодшаму, хлопчыку, — гадкоў пяць. Убачыўшы бабку, усе ветла кінуліся да яе, цалуючы яе рукі, аблічча, шыю. Малодшы хлопчык, як відаць бабчын пястун, якбачыш забраўся да яе на калені. Алеся, з самым маленькім на руках, засмучаная глядзела на сваіх дзетак любуючыся іх жвавасьцю, вясёласьцю і прыгожымі загарэлымі абліччамі.

Пасадзіўшы дзяцей за стол, бабка накроіла пшанічнага пірага і падзяліла ўсім. Дзеці са смакам прыняліся за рэдкія для іх прысмакі, расказваючы адначасна наперабой адно перад другім аб тым, што бачылі ў цэркві. Толькі найстарэйшая дзяўчынка, заўважыўшы неспакой і маркоту мацяры, палажыла недаедзены кавалак пірага і ўстала з-за стала.

— „Ты чаму-ж не ясі, Ганнуся?“ — запыталася маці.

— „Не хачу“, — сумна адказала дзяўчына, — „я ўспомніла пра татку. Дзе ён? чаму ня з намі ён сяньня, як гэта было заўсёды? Ці мае ён хоць што есьці? Дарота і Марцеля былі са сваімі дзяцьмі ў царкві і вельмі плакалі... Іх бацькоў таксама няма“... Голас дзяўчынкі абарваўся, сьлёзы руччом хлынулі з вачэй, і яна, закрыўшы аблічча рукамі, выбегла з хаты. Другія дзеці моўчкі пераглянуліся спаміж сабою. Вышаўшы сьледам за Ганусяй, матка убачыла яе ў кутку сяней горка плачучай. Ледзь супакоіўшы дзяўчынку, Алеся ўвяла яе ў хату. Абед скончыўся ў сумным напружаным маўчаньні.

Дзевяцігадовы Зьмітручок, які любіў усё ведаць, вылез першы з-за стала і падышоў да бабкі.

— „Бабка“, — зьвярнуўся ён да старэнькай, гледзячы на яе пранікліва сваімі блакітнымі вочкамі, — „дзе наш татка? Мамка заўсёды маўчыць і плача, а мы нічога ня ведаем“...

Усе дзеці абступілі бабку, жадаючы пачуць цікавячыя іх ведамкі аб бацьку.

Бабка пагладзіла па галоўцы свайго пястунчыка Паўлючка і ціха сказала: „Ніхто з нас, дзеткі, ня ведае, дзе наш татка. Малецяся за яго, дзеткі, можа калі яшчэ і ўбачыце яго... Труднае нашае жыцьцё... Татка ваш працаваў, працаваў, новую хатку для вас пабудаваў. Здаецца, што цяпер толькі і жыць было-б... Але бяда не глядзіць на гэта: яна заўседы за плячыма... Эх!.. Толькі малыя вы, дзеткі, каб зразумець усё, перш падрасьцеця... А цяпер слухайце і шануйце сваю маму, каб яна весялейша была і ня плакала. Будзьце для яе уцехай“. — „Не, бабка, я ўсё разумею!“ — зноў загаварыў з павагай і пэўнасьцю Зьмітручок“, — „наш татка, як быў яшчэ дома, то аба ўсім расказваў. Ён казаў, што мы пражанём гэтых палякоў з нашага краю, а самі зробімся багацейшымі... І ня будзем баяцца гэтых войтаў і жандароў“. Пры апошніх словах ён кіўнуў галоўкай у напрамку вяласной гміны.

У часе гэтай бясёды Алеся сядзела каля вакна і, поўная тугі, глядзела на вуліцу. Уласныя думкі яе і словы дзяцей рвалі яе сэрца на часьці. — „Сяньня зноў прыдзе, — п'яны, люты“... — са страхам і абрыдлівасьцю думала яна аб гэтым, і палючая, але бязсільная, ненавісьць кіпела ў яе зьняважаным сэрцы.

Дзеці разышліся з хаты да сваіх вясковых равесьнікаў. Старэнькая, накінуўшы на плечы хустку і пацалаваўшы дачку, з ныючым ад жаласьці сэрцам, пайшла ў сваю халупку, дзе яна дажывала старасьць з адзіным, яшчэ не жанатым, сынам.

Алеся зноў засталася адна.

Каб разагнаць крыху сваю нуду і хоць на хвіліну забыцца аб тым зьневажаньні, якое чакае яе вечарам, яна, узяўшы на рукі хлопчыка, вышла на ганак паслухаць, як пяе моладзь, паглядзець хоць здалёк на карагоды й скокі дзяўчат і хлапцоў, сярод якіх яна калісьці была першаю. Любуючыся на гульні моладзі, яна умчалася ў сваіх думках у свой дзявоцкі час, ўспаміны аб якім зайгралі сьветлым прамянём на яе абліччы. Але п'яная лаянка прайходзячай міма хаты падпілай грамады, сярод якой хтось-ці, як наўмысьня, голасна гаварыў аб рыжым жандары,—зноў вярнула Алесю да яе балючых думак.

Сонейка між тым ужо спускалася над лесам, пасылаючы сваю разьвітальную усьмешку мінуламу дню й вясёламу карагоду сьвяточнай моладзі і абліваючы золатам сваіх праменьняў купалы царквы, вершаліны дрэў і камінэ хат. Уборзе, замест рожнаколернага букету сьвяточных вопратак і дзявочых сьпеваў, вуліца застрыкацілася і агалосілася муканьнем і бляяньнем прыгнанага з поля стада. У адказ на гэтае прывітаньне жывёлы заскрыпелі і застукалі вароты, працяжна - скрыпуча завіржджэлі калодзіжныя жураўле, і, як-бы нездаволеныя тым, што іх прымусілі перарваць сваю урачыста-паважную цэладзенную задуманасьць, пачалі спавольна і нехаця згінаць свае тонкія шыі і запускаць доўгія дзюбы ў студні, каля якіх мятусіліся з вёдрамі бабы й мужыке. Гэта сяляне паілі панач жывёлу. Алеся таксама пайшла ўходжвацца каля свае гаспадаркі, каб да прыходу жандара пасьпець управіцца з работай і паўкладаць дзяцей. Уборзе яна скончыла сваю звычайную вячорную працу і, засунуўшы з панадворку вароты, увайшла ў хату.

Дзеці былі ўжо дома і, зморaныя цэладзенным гасаньнем і гульнямі, выпілі па кубку малака і пайшлі спаць у істопку. Там было ня так горача, праз маленькае ваконца прайходзіла мала сьвятла, дзеля чаго там добра было спаць, бо мухі ня любілі гэтага цёмнага кутка. Борзда дзеткі заснулі моцным безклапотным сном.

Закалыхаўшы малога, Алеся сама прылягла на ложку, змучаная ня так фізычна, як маральна. Але сон уцякаў з яе вачэй, а думкі, адна за другую цяжэйшыя, роям тоўпіліся ў яе галаве. Яна ўспамінала, як зусім яшчэ нядаўна адчувала сябе шчасьлівай і задаволенай, жывучы ў ласцы й згодзе са сваім мужыком Сымонам. Дзякуючы мазольнай працы, ім удалося пабудавацца, зьбіцца на гаспадарку, нагадавацць жывёлы... Але бяда звалілася неспадзевана. Даказалі паліцыі, што ў Сымона пераховуецца зброя для паўстанцаў. Ледзь пасьпеў ён сам схавацца, не разьвітаўшыся на'т з сям'ёю. Двох яго сяброў злавілі. Страшэннымі катаваньнямі старалася паліцыя вырваць у іх словы здрады, а калі родныя паехалі іх даведацца, то ўжо было позна: няшчасных якраз вязьлі праз горад хаваць, пры чым вушы й насэ у мярцоў былі паадразаны, а падэшвы на нагах спалены. Катавалі й секлі іх жонак і родных, але апошнія й самі аб нічым ня ведалі, што ад іх вымагалася.

Алесю-ж мінула гэта страшная доля — фізычныя тортуры, затое яны былі заменены ня меньшымі маральнымі мукамі, дзякуючы таму, што яна ўпала ў вока жандару. Ён часта ездзіў да яе, з пагрозай вымагаючы ад безбаронной жанчыны задаволеньня усіх яго пажаданьняў. Дзеля дзетак, бедных нявінных дзетак, яна з цярплівасьцю вялікай мучаніцы зносіла ўсё... Потым думкі Алесі зноў зьвярнуліся да мужыка, і яна пачала галасна гаварыць да яго: „Дзе ты, Сымонка? Ці жыў ты, ці тужыш так па мне і дзетках, як мы па табе тужым? Можа сядзіш дзе галодны й халодны ў лесе?.. Рано ты задумаў аддаць сябе ў ахвяру народнай справе: паставіў-бы перш на ногі дзетак ці мо' выгадаваў-бы з іх добрых змагароў. А цяпер можа й ты ня ўбачыш жаданага сьвятла і волі, мо ня ўбачаць і твае дзеткі, і я можа змадзею ў горы, тузе і паняверцы“...

Сутаргі сьціснулі яе горла, і набалеўшыя грудзі пачало аж разносіць ад горкага плачу.

Раптам пачуўся грук у дзьверы. Алеся, спалохаўшыся, саскочыла з ложка і, сьціснуўшы абедзьвемі рукамі грудзі, прастаяла хвіліну ў няпрытомнасьці і, калі распачаўся такі грукат, ад якога аж зазьвінелі шыбы ў вокнах, яна хістаючыся вышла і адшчапіла дзьверы. У хату ўваліўся п'яны жандар. Потнае аблічча яго распухла, налілося кроўю, мокрыя рыжыя вусы абвісьлі, з губы цякла сьліна. Шапка ледзь трымалася ў яго на патыліцы, а ногі хадзілі ў розныя староны. Налітыя кроўю вочы жандара з дзікай лютасьцю ўставіліся на дрыжэўшую ад страха Алесю.

— „Ты што-ж гэта адразу не адчыняеш!?“ — прычэплівым голасам зарычэў ён, трымаючыся аднэй рукой за вушак, каб ня ўпасьці. — „Я... я... твой апякун і, можна сказаць, гаспадар у гэтай хаці, а ты адважваешся змушаць мяне чакаць пад дзьвярыма? Я... я, калі захачу, дык з гразёю цябе зьмяшаю, жабраваць пушчу, абярну тваю няўдзячную морду ў кавалак мяса!..“ Жандар увесь дрыжэў ад злосьці. Трасучы кулакамі, ён пачаў падыходзіць бліжэй да Алесі. Але, зрабіўшы два крокі, ён страціў роўнавагу і грымнуўся аб памост.

Ад гоману і крыку дзіця прачхнулася і заплакала. Бедная маці кінулася да яго і, баючыся, каб раззлаваны жандар не зрабіў што дзіцяці, выхапіла малога з калыскі і, моцна прытуліўшы да сябе, стала каля дзьвярэй. Яе рашучы выгляд і цамеха са стараны дзіцяці зусім разьюшылі п'яніцу. Ён падняўся з памосту і, дзіка варочаючы вачыма, падступіў да Алесі.

— „Кінь гэтае шчанё! Кінь, табе кажу!.. Я спаць да цябе прышоў, а не любавацца ім!..“

Але жанчына яшчэ мацней прытуліла да сябе малога.

— „А!!! Ты гэтак!.. Я апякуюся ёю, а яна яшчэ ўпіраецца!.. Пасяку яго! На дробныя кавалкі пасяку!!!“

У Алесі аж ў вачох пацямнела. Убачыўшы выхапленую бліснуўшую шаблю, яна кінулася за дзьверы і праз сені—ў падпаветку. Па дарозе яна пасьпешліва засунула патаемнай засаўкай істопку, дзе спалі дзеці. У хляву было цёмна, але Алеся, абмацала ў кутку сьвежае сена і, зайшоўшы ад сьцяны, закапалася ў яго. На хвіліну прытомнасьць адмовілася ёй служыць...

Тым часам, астаўшыся адзін у хаце, разьюшаны жандар пачаў біць і секчы ўсё, што яму пападалася пад руку. Чарапке начыньня ляцелі на памост, услон быў пасечаны на кавалкі, ад новага настольніка асталіся адны шматке, а абразэ паскідаў на памост і патаптаў нагамі.

Заўладаўшы чалавекам зьвер вымагаў жывых ахвяр. Не задаволіўшыся зробленым, жандар зьняў са сьцяны лямпу і, хістаючыся з боку на бок, накіраваўся ў сені ў надзеі знайсьці там вінавайцу свайго гневу. Адчыненыя дзьверы з сяней у хлеў, якія Алеся сьпяшаючыся забылася зачыніць, паказалі жандару дарогу. Увайшоўшы ў хлеў, ён пачаў сланяцца па кутках, лаючыся на чым сьвет стаіць. Але ногі адмовіліся яму служыць: ён спаткнуўся і загараў носам у гной. Лямпа выпала з яго рукі і абліла газаю саламу...

Аслабеўшая п'яная галава, пачуўшы пад сабой нешта мяккае, палянавалася ўжо падымацца. П'яніца якбачыш захроп...

Тым часам вылітая з лямпы газа загарэлася, агонь па сьвежа пасланай саломе дабег да сухога тыну, з якога была зроблена загарадка для цяляці, а адгэтуль, весела патрэскваючы, пабег ўгару па саламянай страсе. Спалоханая жывёла закідалася па хляве. Полымя дайшло да конскай загарады. Навязаны на кантары конік пачаў скакаць і біцца нагамі аб сьцяну.

Непакой і стук жывёлы адразу зьвярнуў трывожную увагу прышоўшай да сябе Алесі, але яна баялася ў сваім схове нат паварушыцца, каб ня збудзіць зноў заснуўшага хлапчука, які-б сваім плачам мог-бы навясьці жандара на сьлед. Але ўрэшце, як жывёла ўжо зараўла немым голасам, яна ня вытрымала. Асьцярожна выглянуўшы з сена, яна аж замярла...

Увесь хлеў быў ужо ў полымі. У дыме і агні з жаласным рэвам мятушыліся каровы й цяляты. Авечкі, прытуліўшыся ў кутку ня то са страхам, ня то з нявіннай зацікаўленасьцю глядзелі на дабягаючыя да іх агнёвыя языке. Змучаны і ўжо апаляны конік рабіў астатнія высілкі сарвацца з прывязі... Урэшце грымнуўся аб зямлю і, выскаліўшы зубы, затрапятаўся...

Са страху ў Алесі адняўся голас і ногі. Ня можа ні крыкнуць, ні ўстаць. Але агонь хутка дабіраўся да яе, —і міргнуўшая ў галаве Алесі страшэнная думка, што яна можа згарэць тут жыўцом з малым дзяцём, надала ёй сілы, і яна стралой вылецела на панадворак і, адчыніўшы вароты, выбегала на вуліцу.

Спрабавала крычаць, але слабы з пярэпалаху голас яе безадказна замёр у глухой бязлюднай вуліцы. З сярэдзіны сяла чутны былі сьпевы і гукі гармоніка. Гэта гуляла маладзь. Алеся ў няпрытомнасьці кінулася туды, клічучы на помач, але ніхто за гоманам і шумам не пачуў яе. І толькі тады, як пажар ужо адусюль стаў відзён, усе кінуліся ў яго напрамку.

Збуджанае сяло закішэла, як патрывожаны мурашнік. Разьягліся раздзіраючыя душу крыкі, плач, прычоты... З знаёмай ужо хатушкі выбегла напоўадзетая матка Алесі, трымаючы перад сабой абраз „Неапалімай Купіны". Словы малітвы, просьба аб помачы зрываліся з яе пабялеўшых вуснаў, але ногі яе ня слухалі, і яна асталася ззаду ўсіх.

Пакуль зьбегся народ, полымя ўжо лізала сьцены новай хаты. Алеся з дзікім крыкам і лямантам кідалася кругом яе, благаючы ратунку, але не знайшлося адважных кінуцца ў полымя. Усе бегалі, сутарыліся, гвіжэлі, як мурашкі, кожды стараўся быць карысным па сваёй сіле, але спыніць агонь ня было ўжо рады...

Раптам, праз увесь крык, шум, гоман, трэск і стук пранёсься дзіцячы крык, за ім—другі... У маленькім аконцы істопкі мільганулі голенькія ручкі, і адтуль вырваўся страшны патрасаючы лямант... З грудзей усіх пранёсься глухі стогн, і ўся таўпа замярла ў немым адрантвеньні...

У адказ на дзіцячы енк і просьбы разьлёгся страшэнны нечалавечы крык Алесі. Кінуўшы з рук малога, яна сунулася ў полымя, але некалькі мужчынскіх рук пасьпелі схапіць яе ў той мамант, як яна ўжо гатова была схавацца ў агні. Тут яна страціла прытомнасьць і сьцяла зубы...

А лямант з істопкі павялічаўся. Дзіцячыя ручкі высоўваліся праз ваконца, просячы аб ратунак... Таўпа ў немым страху глядзела на гэта... Жанчыны ў гістэрычным плачы рвалі на сабе валасэ...

Раптам, распіхаючы таўпу, ў аднэй сарочцы, з раскудлачанымі валасамі, на гарэўшы ўжо ганак хаты скочыў дзевятнацццацігадовы брат Алесі, Паўлюк. Не пасьпела таўпа апамятацца, як ён з разгону ўдарыў у дзьверы, засунутыя з сярэдзіны. Дзьверы зьляцелі з завесаў, і Паўлюк апынуўся ў сенях. На сустрач яму папалася курыца, якая папоначы мятушылася ў дыму, і ён машынальна сунуў яе пад паху. Не трацячы часу, ён, ня ведаючы, дзе засаўка, пачаў біць і трасьці дзьверы істопкі, за якімі дзеткі клікалі бацька і матку. „Зараз, дзеткі, зараз!.. Ня бойцеся!..“ — крыкнуў ён, як дзьверы крыху падаліся, але ў гэту самую хвіліну дым і полымя абхапілі Паўлюка, і ён, не пасьцеўшы нат крыкнуць, ніцма ўпаў на зямлю...

З істопкі пачуўся прыдушаны крык, і затым... усё сьціхла...

Таўпа завыла немым голасам, загаласіла, застагнала й забожкала..

Набожныя перахрысьціліся...

А ў гэты самы час з трэскам і стогнам грымнулі бэлькі і з імі— апошняя надзея на ўратаваньне жыцьця нявінных ахвяр...

Крыху ачнуўшыся, таўпа кінулася зноў залівацъ дагараючыя бярвеньні.

У гэты момант Алеся, вырваўшыся з рук трымаўшых яе мужчын, уся зьлітая вадою, з раскудлачанымі валасамі, з няпрытомнымі блуклівымі вачыма, з раставўленымі, як крылы, рукамі, дзіка крычучы і разам сьмяючыся, кінулася к дагараючай хатцы. На хвіліну застыла яна, як стод, з паднятымі ўгару рукамі, а затым, агаласіўшы кругаколіцу страшным дзікім хохатам, скрылася з вачэй таўпы ...

Дзесьці блізка пачуўся стогн, і з-за вугла суседняй хаты выпаўз жандар з чырвоным апухшым абліччам і абсмаленымі валасамі, вусамі і з апаленым целам. Спалоханая таўпа рынулася ў староны, лічучы яго за прывід. Некатарыя на’т пачалі хрысьціцца...

— „Вады, вады!“.. хрыпеў ён. Але на яго просьбу ніхто не адклікнуўся...

Заліўшы недагарэўшыя дзеравіны, людзі разышліся па хатах.

Цераз дзьве хаты ад пажарышча, на парозе суседа Міхала знайшлі старэнькую матку Алесі. Яе разьбіў паляруш, адабраўшы мову і левую часць усяго цела. Правай рукой яна прыціскала да сябе абраз „Неапалімай Купіны“...

А назаўтрае дзьве чорныя труны стаялі ў цэркві. У аднэй, доўгай, увесь чорны і звугаляны ляжаў труп Паўлюка, якога знайшлі на пажарышчы з курыцай пад пахай. У другой, шырокай труне, ляжала пяць дзіцячых трупікаў, ад якіх засталіся блізка адны толькі скорчаныя шкілецікі.

Царква стагнала і дрыжэла ад плачу і прычотаў. Толькі маленькі хлопчык-сіротка сьмяяўся, седзячы на сьвечнай скрынцы і гледзячы на бліщчастыя абразэ, падсьвечнікі, панікадзілы...

АЛЬГЕРД ШЛЮБСКІ.

# МАТЭР'ЯЛЫ ДА ГІСТОРЫІ КРЫЎСКАЙ ЭНОГРАФІІ.

## I.

## П. Шэйн (1826 — 1900).

„П. Шэйн адносіўся з незахаваным недавер'ем да ўнутраных сіл Беларускай народнасьці".
*В. Стукаличъ*, Н. Никифоровскій. Вільня, 1910, бал. 11.

Павал Базылевіч Шэйн радзіўся ў 1826 г. ў Магілеве ў заможнай жыдоўскай сям'і, якая вяла таргоўлю. Першапачатную асьвету ён атрымаў ад рабіна ў жыдоўскім фанатычна-рэлігійным духу. Але, перавезены ў 1843 г. ў Маскву на лячэньне, ён знаёміцца з новымі ідэямі, пад уплывам якіх прыймае лютаранства і такім парадкам парывае сувязь з юдэйствам, са еваёй сам'ёй і нацяяй... У Маскве П. Шэйн знаёміцца з некатарымі прадстаўнікамі тагочаснай маскоўскай інтэлігенціі і маскоўскімі славянафіламі, пад уплывам якіх бярэцца за зьбіраньне помнікаў маскоўскай народнай творчасьці. Гэта было ў 50-х годах мінулага стагодзьдзя, калі Шэйн вандраваў па Маскоўшчыне, Разаншчыне і Сімбіршчыне, як хатні настаўнік (*В. Ѳ. Миллеръ*, П. В. Шейн, Масква, 1901, бал. 3 — 6; *яго-ж*, П. Б. Шейн, „Рускія Вѣдомости", 1885, № 290).

У 1865 г. Шэйн прызначаецца настаўнікам нямецкае мовы перш у Дзьвінскую, а потым у Вітабскую гімназію, дзе, як адзначаюць Пыпін, Мілер і Карскі, ён жыве і працуе сем гадоў. Ніжэй мы падаём копію службовага сьпіску П. Шэйна, які захоўуецца ў Беларускай Дзяржаўнай бібліатэцы ў Менску і які абхоплюе кругабег часу ўключна да службы Шэйна ў Вітабску.

П. Шэйн атрымаў пасаду ў Крывіі (Беларусі) зусім выпадкова ў пагоні за кавалкам хлеба. Да часу пераезду на Беларусь Шэйн ужо выдаў „Русскія народныя былины" („Чтенія въ общ. ист. и др. Росс." 1859 г.) і рыхтаваў, а неўзабаве і выдаў — „Русскія народныя пѣсни" (1868 — 1870, 1877 г.г.). Дзеля гэтага ясна, што і на новым мейсцы, ў Вітабску, Шэйн пачынае наладжваць зьбіраньне народнай творчасьці. Што П. Шэйн ня быў зусім падрыхтаваны да заняцьця крыўскай этнографіяй,—сьведчыць акад. Карскі, які адзначае, што да 1865 году (г. зн., году пераезду Шэйна ў Вітабск) ён нават нічога ня ведаў аб крыўскай мове (*Карскій*, Бѣлоруссы, I, бал. 271). З гэтым згаджаецца і праф. Ў. Ігнатоўскі („Кароткі нарыс нацыянальна-культурнага адраджэньня Беларусі", Менск, 1921 г., бал. 31). Паводле слоў А. Е. Багдановіча (бацькі крыўскага песьняра М. Багдановіча), вядомага ў крыўскай этнографічнай літэратуры брашурай: „Пережитки древняго міросозерцанія у бѣлоруссовъ" (Горадня, 1895), — Шэйн абсалютна ня ведаў і жыцьця крыўскага народу. Як прыклад, А. Багдановіч адзначыў, што Шэйн не разабраў некатарых слоў у рукапісах А. Багдановіча (які яму так сама прысылаў матэр'ялы), неправідлова прачытаў іх, а так, як вышла незразумелае слова, то Шэйн, доўга не чакаючы, напісаў да яго тлумачэньні,

(Аўтор гэтых радкоў бачыўся з А. Багдановічам у Менску ў 1923—24 г г.). П. Шэйн ня быў навукова падрыхтаваны да этнографічных досьледаў, ён ня меў належнай асьветы і зьяўляўся ў гэтай галіне самавукам. Гэтую кепскую падрыхтоўку Шэйна адзначае і Карскі ў сваім „Разборѣ этнографическаго труда П. Шейна...“ (Спб., 1899, бал. 80). Яе ўбачыць кожды, хто азнаёміцца з мэтадамі зьбіраньня, запісваньня, клясыфікацыяй і распалажэньнем этнографічнага матэр'ялу. Цікава адзначыць, што сам П. Шэйн лічыў сябе навуковым аўторытэтам, што відаць з яго слоў: „Маей справай будзе разсартаваць чаканы матэр'ял, разабраць яго і вырашыць, што больш або менш патрэбна апублікаваць для навукі“ („О собираніи памятниковъ народной творчести для издаваемаго Академіей Наукъ Бѣлорусскаго сборника П. Шейна.“ Спб. 1894).

Шэйн падыходзіў да зьбіраньня крыўскае народнае творчасьці з мэтамі абмаскаліваньня, ён зьяўляецца адным з шматлікіх русыфікатараў Крывіі ў другой палавіне XIX стагодзьдзя. Вось што ён піша з Вітабску у адозве-праграме аб зьбіраньні крыўскай творчасьці: „Ня мала гавораць і пішуць цяпер аб абрусеньні тутэйшага краю, спрадвеку рускага. Няужо-ж досьледы старажытнасьці, жыцьця і мовы тутэйшага простага вясковага праваслаўнага люду, яго сьветагляду, яго стасунку да другіх станаў, яго разуменьняў аб Богу, аб бацькаўшчыне і г. д. ня ёсьць абрусеньне краю, ня ёсьць руская справа?“ (Гэта адозва захоўуецца ў Беларускай Дзяржаўнай бібліатэцы ў Менску). Аб „русской наукѣ“, „русскомъ обществѣ“, „русскомъ народѣ“ Шэйн гаворыць і ў другой вышэй успомненай праграме, выданай ў 1894 г.

Ен цікавіўся маскоўскай мовай і літэратурай (*Карскій*, П. Шейнъ, „Рус. Филологич. Вѣст.“ Варшава, 1900, № 4, бал. 296) і на крыўскую літэратуру глядзеў, не як на самаістую мову, а як на мову вялікарасійскую, якая мая некатарыя мяйсцовыя асобнасьці.

Вынікамі такіх ясна выяўленых русыфікатарскіх тэндэнцій П. Шэйна было тое, што крыўскую мову ён перарабляў на маскоўскі капыл, як кажа Карскі, зблізкаў яе з „грамматическимъ написаніемъ“ (Бѣлоруссы, I, бал. 273). Цікава, што ўсюды Шэйн адзначаў: „матэр'ялы... толькі тады могуць мець належную цэннасьць і служыць надзейнай асновай для навуковых досьледаў, калі ў іх па-магчымасьці будуць захаваны ўсе адмены мяйсцовай мовы... адным словам, гэта перадача павінна быць выканана, па-магчымасьці, з фатаграфічнай правідловасьцю“ (О собираніи памятниковъ народ. творч.“, Спб., 1894). I ня гледзячы на падобныя, зусім правідловыя заявы, матэр'ялы выходзяць нікуды ня вартымі. Нават акад. Карскі прымушаны адзначыць, што імі (для філёлёгічных мэтаў) можа карыстацца толькі той, хто добра ведае крыўскую мову: „карыстацца „Матеріалами“ Шэйна для мэтаў лінгвістычных можна толькі знаёмым з народнай мовай, дый ім трэба браць з іх рожныя данныя з вялікай асцярожнасьцю“ (*Карскій*, Бѣлоруссы, I, бал. 294).

Як-жа здарылася гэтае дзіўнае зьявішча, калі Шэйн хацеў рабіць адно, а ў яго выходзіла зусім адваротнае? Справа ў тым, што на 2820 нумараў, якія знаходзяцца ў першых трох кнігах „Матеріаловъ“ Шэйна, на яго долю прыходзіцца толькі 130 запісаў (*Карскій*, „Разбор этн. труда Шейна“, бал. 24, 30). Ось па гэтых 130 сваіх няграматных запісах Шэйн і перарабіў усе дастаўленыя да яго запісы народнае творчасьці (*А. Пыпинъ*, „Исторія русской этнографіі“, IV, Спб., 155. *Шэйнъ П.* „Бѣлорусскія пѣсни“, бб. 821 — 832).

Такой этнографічнай працай П. Шэйн прынёс шмат шкоды крыўскай справе, бо, зьнішчаючы крыўскія асобнасьці, Шэйн даваў матэр'ял

русыфікатарскім вучоным для навуковага абаснаваньня тэорыі, што крыўская мова зьяўляецца мяйсцовай адменай, „нарѣчіемъ“ маскоўскай мовы. Неправідловыя мэтады запісаў Шэйна ў свой час былі адзначаны М. Муркай у „Archiv'e für slavische Philologie“ Ягіча (1892 г.), Карловічам у „Wisle“ (II, б.б. 235--236). Дый самы склад супрацоўнікаў Шэйна, за выключэньнем Н. Нікіфароўскага, быў зусім не падрыхтаваны да навуковага зьбіраньня этнографічных матэр'ялаў (гл. аб складзе супрацоўнікаў у Карскага: „Разборъ этногр. труда Шейна..“ бб. 26—27). Пад вялікай нездаверлівасьцю знаходзіцца і тая карысьць, якую маглі прынясьці Шэйну ў зьбіраньні матэр'ялаў спавешчаньні й загады губэрнатараў, архіерэяў і зьверхніцтва Віленскага Вучомнага Округу (ibidem, б. 2).

Як-жа адносіцца сам П. Шэйн да таго народу, творчасьць якога дала яму імя ў навуцы? У рэцэнзіі на яго першы выпуск „Матеріаловъ“, паміж іншым, чытаем аб крыўскай творчасьці: „толькі вялікай народнай здольнасьцю можна тлумачыць такія багацтвы ў галіне своеаблічнай песьні і своеаблічнага абычаю“ (рэцэнзія *С. Т—ова*, „Историческій Вѣстникъ“, 1887, № 10, б. 225). Між тым сам Шэйн нічога добрага ў крыўскім народзе ня бачыць, ён адносіцца з нездаверлівасьцю да духовых сіл Крывічоў. В. Стукаліч, які блізка знаў П. Шэйна, акрэсьляе яго стасунак да крывічоў у такіх рысах: „Шэйна можна-б было, нават, назваць і народнікам, але яго верай і надзеяй былі выключна вялікарусы. Пры нескрываным няпрыхільным адношаньні П. Шэйна да ўсяго крыўскага тым больш заслуговуе ўвагі яго няўтомнасьць і цярплівая вытрываласьць у зьбіраньні помнікаў крыўскай народнай творчасьці. Але само сабой разумеецца, што паўзяты пункт погляду на аб'ект досьледу ня мог не адбіцца да некатарай ступені на працах П. Б. Шэйна ў галіне беларускай этнаграфіі.

...зляжыўшы сабе даволі нявыгодны погляд аб беларускай народнай масе, П. Б. Шэйн ня шукаў і не чакаў знайці ў яе духовым сьвеце і зьнешнім акружаньні якія-колечы цэнныя ў маральным ці ў эстэтычным адношаньні рысы. Дзеля гэтага ён ня ўжываў асаблівых высілкаў пранікнуць глыбей у духовы склад дасьледаванай народнасьці“ (*В. Стукаличъ*, Н. Я. Никифоровскій“, Вільня, 1910 г., бал. 9).

Пададзенага досіць, каб зрабіць вывады, што П. Шэйн з навуковай стараны быў няграматным у той галіне, ў якой ён працаваў, што ён вельмі адмоўна адносіўся да Крывічоў і што ён наўмысьня перарабляў крыўскую мову з мэтай больш яе зблізіць да маскоўскае. Такім парадкам, ён зьяўляецца адным з русыфікатараў Крывіі.

Пераведзены ў 1872 г. з Вітабшчыны зноў на Маскоўшчыну, Шэйн у 1873—74 г.г. друкуе сабраныя ў Вітабскай Крывіі „Бѣлорусскія пѣсни“ („Записки Рус. Геогр. Общ.“).

У 1877 г. на сродкі Расійскае Акадэміі Навук Шэйн едзе ў Крывію па этнографічныя матэр'ялы, а потым у працягу некалькіх наступных гадоў езьдзіць на свае ўласныя сродкі, вынікам чаго зьяўляецца выданьне яго вядомых „Матеріаловъ“... (1887—1901). Апрача гэтага, ў 1898 і 1900 г.г. вышлі дзьве кнігі „Великоруссы“. Вядомы і некатарыя другія працы Шэйна дробнага характару (гл. *Миллера*, „П. В. Шэйн“, 1901, б. 18—19).

Ніжэй пададзеныя два лісты П. Шейна да гісторыка Вітабшчыны А. П. Сапунова (1888 г.) адносяцца да пары, калі П. Шэйн, жывучы за межамі Крывіі, выдаў першую кніжку „Матеріаловъ“ і зьбіраў матэр'ялы для выданьня наступных кніг. Лісты гэтыя цікавы тым, што яны 1) гавораць аб мэтодах зьбіраньня этнографічных матэр'ялаў, якія ўжываў П. Шэйн, і 2) выяўляюць стасункі паміж Шэйнам і Раманавым.

Лісты П. Шэйна падаём у перакладзе з расійскай мовы.

„26 лютага 1888 г. С.(анкт) П.(ецярбург).
Нов. Ямская, 21, кв. 6.

I.

Вельміпаважаны Аляксей Парфенавіч!

Яшчэ раз важуся лістоўна панавіць сваю найшчырэйшую, ледзь ня сьлёзную просьбу. Дзеля Бога і ўсяго для Вас сьвятога, дзеля гонару Вашага, шанаблівага ўжо ў літэратуры імені, дзеля жаласьці да маіх старых лет [1]) якія так бязжаласна марную на дасьледаваньне агульнай нам бацькаўшчыны — Беларусі, спробуйце пусьціць на ўсіх парусах Вашы паважныя уплывы для здабычы матэр'ялаў у дапаўненьне да аддзелу пахавальных і памінальных абрадаў у 2-ой часьці майго беларускага зборніка, які друкуецца Акадэміяй. Названы аддзел да крыўднасьці аказуецца такім (!) нудным і нетасоўным да папярэдняга — вясельнага, так, напр., апошні займе ня меньш 30 друкаваных аркушаў, а на долю першага бадай ці набярэцца і 4. Запісаць зноў у розных мяйсцовасьцях Вашай губэрні патрэбныя абычаі й абрады можна са шмат меньшай труднасьцю, чым арыгінальныя славесныя творы народу, дзе вымагаецца фотографічная пунктуальнасьць [2]) ў перадачы гукавой стараны гэтых твораў. А абычаі, абрады, забабоны і г. п. зможа перадаць кожды (!), які быў калі-колечы ачавідцам і сьведкам у працягу многіх гадоў, і чым прасьцей і натуральней будзе выклад падобных фактаў, тым лепш, абы самыя факты былі праўдна і поўна перададзены. Апрацоўку іх для друку не наракаючы бяру на сябе, як я гэта практыкаваў дагэтуль у працягу ўсяго доўгага пэрыёду маей збіральніцкай дзейнасьці. А калі Вы запытаецеся, якім-жа спосабам седзячы і шчыра служачы ў Вітабску, зможаце здаволіць маю просьбу (?), дык я вам скажу і пакажу не адзін шлях, а некалькі, якія на мой погляд бязумоўна павядуць да дасягненьня жаданай мэты: 1) праз найбольш адданых Вам вучняў старшых кляс Вашай гімназіі [3]), — калі толькі захочаце, як мае быць, іх зацікавіць у імя роднай навукі. Гэты шлях ня раз мною выпрабаваны і заўсёды аказываў мне важныя услугі. 2) Праз сэмінарыстаў [4]), вучаніц духоўнага вучылішча і наогул праз духоўных асоб ўсякага ўзросту, рожнага стану і заслуг. Тут, я думаю, не адмовіцца памагчы Вам сваім уплывам і мяйсцовы архіерэй, з якім Вы, пэўна, ў добрых стасунках. 3) Заклікаючы ў падмогу праз лісты (а дзе здарыцца і праз асабісты ўплыў) рожных, добра знаёмых Вам у губэрні, інтэлігентных асоб, якія стала жывуць у вясковай глухой правінціі і якія, знача, зьяўляюцца надта блізкімі спацікачамі быту акружаючага іх мяйсцовага

[1]) У 1888 г. Шэйну йшоў 62 год.

[2]) Шэйн часта пісаў аб літэральнасьці перадачы пры запісваньні народнае мовы, але цікава, што ні на аднэй балонцы сваіх пяці кніг ніводнага разу ён не падаў правідловага запісу крыўскае мовы. Што тут: ці абсалютная навуковая неграматнасьць, ці русыфікацыя? Па мойму, — адно і другое. Праф. Карскі аб гэтым кажа вельмі асьцярожна: „Да слабых старон выданьня залічаецца ня зусім пуктуальная ортографія, тлумачаная крыху памылковым поглядам выдаўца на свае рэдактарскія абавязкі (*Карскій*, П. В. Шейн, „Р. Ф. В.“).

[3]) А. П. Сапуноў у той час быў настаўнікам Вітабскае гімназіі.

[4]) Маюцца на ўвазе сэмінарысты Вітабскае духоўнае сэмінарыі.

жыхарства. Я на першым пляне маю на ўвазе сьвятара Караткевіча з Усьвят, Л. Паўл. Карсакову, Лепэльскага павету, і А. Мак. Сементоўскага, калі толькі не пасьпеў яшчэ заўладаць імі мой спаборнік, п. Раманаў [1]). Мне здаецца, што запраўдныя мяйсцовыя асьвечаныя патрыёты з душой і сэрцам, як Вы (!) і вышэй названыя, не павінны пакінуць мяне без свае жывой помачы на карысьць досьледаў краю, катораму я прынёс у ахвяру гэтулькі гадоў жыцьця, здароўя і грошы, не падтрыманы і не заахвочваны нікім, а толькі прасьледаваны сваім акруговым вучомным зьверхніцтвам, тым самым зьверхніцтвам, якое за адну толькі пасьвяту яму п. Р.(аманавым) зборніка (!) [2]) зараз-жа ўзяло яго пад сваё цёплае крылцо, перавяло яго са штатных надзірацеляў у інспэктары народных школ, чым і забасьпечыла яму пэнсію на 900 руб. Калі каго-колечы з названых вышэй асоб можна барждзэй і пэўней зацікавіць у карысьць маей справы падарункам маей кнігі, то я і на гэта гатоў, хоць і ня зусім ахвоча, бо больш сотні экзэмпляр.(аў) яе раздарыў я ў надзеі маючай быць карысьці у форме прысылкі мне безплатна для майго прадпрыемства матэр'ялаў. Пры гэтым такія людзі, як Л. П. Карсакова і Сементоўск(і), здужаюць бяз труднасьці заплаціць па 2 руб. 50 кап. за экзэмпл., калі яны запраўды цікавяцца працай па дасьледаваньню Беларусі. Людзьмілі-ж Паўлаўне звыш таго грэх было-бы адмовіцца ад дапамогі зьбірачу, ў скарбніцу якога яна здавён лічыцца найбольшай укладчыцай [3]). Няўжо-ж яна адмовіць гэтаму, вельмі ўдзячнаму ёй зьбірачу, у яе духовай, так патрэбнай для яго, помачы цяпер, калі справа падыходзіць да вянчаючага канца? Дык ось, чакаю ад Вас у борздым часе адповедзі з ўкладамі. „Да не посрамятся надѣющіеся на Тя".—Нікіфар.(оўскаму) нядаўна пісаў і чакаю адповедзі [4]).

---

[1]) Гэты і наступны ліст адчыняюць заслону паміж адносінамі выдатнейшых прадстаўнікоў крыўскае этнаграфіі—Шэйнам і Раманавым. Шэйн першы выступіў у друку з крыўскімі этнографічнымі матэр'яламі, а Раманаў зьяўляўся прадаўжцаелем пачатай Шэйнам працы. Але з тае прычыны, што „Бѣлорусскіе Сборники" Раманава ў некатарай меры стаялі вышэй Шэйнаўскіх матэр'ялаў, — апошні, баючыся за сваю „навуковую" апінію, вельмі блага адносіўся да Раманава. Тое самае было і ў стасунках да Нікіфароўскага: пакуль ён даваў Шэйну матэр'ялы, Шэйн лічыў яго „уважаемымъ сотрудникомъ", а калі Нікіфароўскі, кінуўшы даваць яму матэр'ялы, сам уступіў на шлях выдавецтва сабранага, то таксама стаўся ворагам Шэйна. І паміж гэтымі трыма этнографамі пачалася дробненькая, мяшчанская зайздрасьць, барацьба, змаганьне, што часамі перайходзіла ў друк, каб падарваць аўторытэт сярод грамадзянства і навукі да аднаго з іх (гл., напр.: *Е. Романовъ*, „Способы собиранія матеріаловъ П. В. Шейномъ", „Витебскія Губ. Вѣд." 1890, № 33). Паводле слоў нябожчыка А. П. Сапунова, які іх добра ведаў, Шэйн ненавідзіў Раманава і Нікіфароўскага, Раманаў — Шэйна і Нікіфароўскага, а апошні ненавідзіў Шэйна і Раманава. Усе спробы А. Сапунова пагадзіць іх не дасяглі свае мэты.

[2]) Некаторыя кнігі „Бѣлорусскаго Сб." Раманаў прысьвячае Папячыцелю Віленскага Вучомнага Округу Н. А. Сергіеўскаму.

[3]) Людзьміла Паўлаўна Карсакова, якая даставіла Шэйну некатарыя запісы.

[4]) Шэйн, як відаць, прасіў Н. Я. Нікіфароўскага прысланць яму этнографічныя матэр'ялы. Шэйн абавязан Нікіфароўскаму дастаўкай вялікага ліку этнографічных матэр'ялаў: „Па сьведчаньню асоб, якія блізка стаялі

А. С. Бірулі і А. Фр. Лісоўскай мой найшчырэйшы паклон. Дабедайцеся, ці ёсьць у іх мая кніга і чаму так доўга не даюць мне прыемнасьці атрымаць вестку аб іх жыцьці - быцьці. Увесь Ваш П. Шэйн"

II.

„С.(ант) П.(ецярбург), Новая Ямская, 21, кв. 6.

Вельміпаважаны Аляксей Парфенавіч!

Вы былі ласкавы пазволіць мне, каб я нукаў і панукаў Вас лістоўнымі напамінамі памагаць мне ў „крохобирствѣ" [1]) матэр'ялаў для лепшага выкананьня ўзложанай на мяне Акад.(эміяй) Н.(авук) задачы. Месяц таму назад я адправіў да Вас заказны сьлёзна - прасіцельны ліст аб адшуканьні і дастаўцы мне ў кароткім часе этнографічных данных, якія датычуць пахавальных і намінальных абрадаў беларускага жыхарства ў Вітабск. губ. Я з гэтай мэтай паказаў Вам і на асновы і на способы, якія-б маглі паслужыць падмогай у дасягненьні мае „скромнай" мэты. І што-ж? Да гэтага часу ад Вас ні паказу, ні адказу. А між тым у чаканьні патрэбных для маей працы дапаўненьняў я спыніў работу ў друкарні. Я лічыў і лічу справядлівым разлічаць на прыхільную помач мне ў маім прадпрыемстве, на карысьць дасьледаваньня Беларусі, са стараны яе запраўдных асьвечаных патрыётаў, якія добра ведаюць, што я на гэтае дасьледаваньне ахвяраваў нямала часу, сродкаў і здароўя, што пачаў я яго тады, калі на Белай Русі ня чуваць было аб ніякіх Раманавых, і вёў яго пад ціжарам рожных жыцьцёвых і службовых няпрыемнасьцяў у працягу дзесяці гадоў і інш. і што я ўвесь астатак жыцьця ахвяраваў яму, г. зн., гэтаму дасьледаваньню. — Калі не памыляюся, то ў лісьце да Вас быў ўложаны ліст да Н. Як. Нікіфароўскага. Як ён? Ці зьбіраецца ён напісаць мне? Ці пісалі Вы Сементоўскаму і другім каму - колечы ў правінцыю ўплывовае слоўца датычна маей просьбы? Ці не закінулі аб гэтым слоўца ў сям'і Бірулі, адкуль я заўсёды раней атрымліваў даволі цікавых данных (!). Гэта мілая сям'я заўсёды са шчырай прыхільнасьцю і любоўю адносілася да маей працы. Яшчэ раз прашу Вас перадаць ад мяне нізкі паклон і сьлёзную просьбу аб дастаўцы вышэйназваных апісаньняў. Разам з тым даведайцеся, ці ёсьць у іх экзэмпляр майго новага зборніка? Калі няма, то незабаўна вышлю ім.

Дык ось, ізноў і йзноў моўлю Вам („паки и паки глаголю Вамъ"), што з нецярплівасьцю чакаю ад Вас адповедзі са ўкладамі і — ў крайнім здарэньні — бяз іх. На „няма" й суда няма. Але адказвайце цэля Бога, хоць адмоўна. Прынамні ня буду больш затрымліваць ходу друкаваньня другой часьці майго зборніка... і то выйгрыш. Шчыра Вам адданы П. Шэйн.

8-га сакавіка 1888 г.

---

да Нікіфароўскага, большая часьць выданага Шэйнам матэр'ялу з беларускай этнографіі паступіла да яго іменна ад Нікіфароўскага" (*Н. Никифоровскій*, Бѣлорусскія пѣсни „Частушки", Вільня, 1911). А некатарыя робяць катэгорычную заяву, што, каб ня было Нікіфароўскага, то бязумоўна, ня было-б і Шэйна (*В. Стукаличъ*, Н. Никифоровскій, б. 10).

[1]) „Крохобирство матеріалов", як адзначае В. Мілер (*В. Ѳ. Миллеръ*, П. В. Шейнъ, Масква, 1901, б. 2), быў любімы выраз Шэйна, які ён часта ужываў, паказуючы ім на вельмі карплівую, цяжкую, марудную працу па зьбіраньню этнографічных матэр'ялаў.

P. S. Дарэчы спытаюся ў Вас: ці задаволены Вы тым, што я пазнаёміў Вас з В. Гр. Дружыніным? Ён мне казаў, што вядзе з Вамі перапіску і з прыемнасьцю выконывае Вашы даручэньні. Я са свае стараны вельмі гэтаму абрадаваўся. Паверце, што я заўсёды гатоў пускаць у ход ўсю сілу свайго уплывовага слова, дзе толькі можна на карысьць і славу Вашай справы".

## III.

## СЛУЖБОВЫ СЬПІСАК П. ШЭЙНА.

(У перакладзе з расійскай мовы).

**Формулярны сьпісак аб службе вучыцеля нямецкай мовы ў Вітабскай гімназіі, залічанага ў VIII рангу Шэйна.**

Сфармаваны 30 сьнежня 1871 году.

§ 1. Залічаны ў VIII рангу Павал Базылевіч Шэйн, вучыцель нямецкай мовы Вітабскай гімназіі, сарака сямі гадоў, евангеліцка-лютаранскага веравызнаньня, пэнсіі 1320 руб. [1]).

§ II. Ураджэнец г. Магілева, сын жыда.

§ III—VI. (Аб маемасьці). Няма.

§ VII—IX. Выхаваньне атрымаў дамовае [2]).

Пасьля выспытаў ў Радзе Тврской гімназіі на найменьне дамовага вучыцеля нямецкай мовы, атрымаў ад Папячыцеля Маскоўскага Вучомнага Округу пасьведчаньне на гэтае найменьне 19 жніўня 1860 г. пад № 2612.

З дазволу п. Папячыцеля Маскоўскага Вучомнага Округу ад 4 жніўня 1861 г. пад № 2094 быў дапушчаны ў Радзе Тульскай гімназіі да выспытаў на найменьне вучыцеля рускай мовы ў паветавых вучылішчах і пасьля выспытаў атрымааў пасьведчаньне на гэтае найменьне 31 кастрычніка 1861 г. пад № 959.

Цыркулярам па Маскоўскаму Вучомнаму Округу № 56 назначаны вучыцелем рускай мовы ў Тульскае паветавае вучылішча з 1861 г. 10 лістапада.

Атрымаў ня ў лік пэнсію за трэцюю часьць году.

Цыркулярам па Маскоўскаму Вучомнаму Округу № 20 назначаны штатным „смотрителемъ" Епіфанскага паветавага вучылішча з даручэньнем яму часовага выкладаньня расійскай мовы ў тым-жа вучылішчы 1864 г. 23 ліпня.

Загадам п. Папячыцеля Віленскага Вучомнага Округу ад 6 кастрычніка 1865 г. пад № 1386, абвешчаным у прапанове п. Памочніка Папячыцеля Віленскага Вучомнага Округу ад 11 кастрычніка 1865 г. пад № 852, назначаны ў Дынабурскую гімназію вучыцелем нямецкай мовы.

---

[1]) У службовым сьпіску з 1866 г. пэнсія П. Шэйну азначана ў ліку 550 руб.

[2]) Матэр'ял гэтага § службовага сьпіску аб асьвеце П. Шэйна паказуе няправільнасьць данных аб нібы атрыманай ім вышэйшай адукацыі ў маскоўскім унівэрсытэце (гл. *Шейнъ, П. В.*, „Виленскій Календарь на 1901 г." Вильня, б. 312).

Загадам п. Папячыцеля Віленскага Вучомнага Округу ад 4 лістапада 1865 г. пад № 8711 перамешчаны на такую-ж пасаду ў Вітабскую гімназію.

Па загаду зьверхніцтва перамешчаны на тую-ж пасаду ў паралельныя клясы пры Вітабскай гімназіі 1867 г. 1 студня.

Зьвернуты на папярэднюю пасаду вучыцеля паралельных [1]) кляс Вітабскай гімназіі 1869 г. 20-га лютага.

Журналам 25-га гадовага сабраньня „Императорскаго Русскаго Географическаго Общества“ 13 студня 1871 г. прысуджана П. Шэйну, за зложаны ім зборнік Вялікарускіх песьняў, малы залаты мэдаль.

§ X—XI. (Аб удзеле ў войску і судовых справах). Ня быў.

§ XII. Па загаду Міністра Народнай Асьветы 24 траўня 1869 г. № 11 быў звольнены ў 1869 г. заграніцу ў часе летніх вакацій, на 29 дзён.

§ XIII. (Аб нагародах чынамі). Ня быў.

§ XIV. (Аб сямейным палажэньні). Не жанаты [2]).

* * *

У 1899 г. П. Шэйн сьвяткаваў 40 - гадовы юбілей свае працы (*П. Полевой*, П. Шейнъ, „Нива“, Спб., 1899, № 45), а ў наступным 1900 г. 14 жніўня ён памёр ў рыжскім шпіталі ў цяжкім матэр'яльным палажэньні (гл. нэкролёг: *П. В. Шейнъ*, „Нива“ 1900, № 37; *Е. Романовъ*, у „Могилев. губ. Вѣд.“ 1900, № 67).

Пасьля Шэйна асталася значная часьць не надрукаваных матэр'ялаў (*В. Миллеръ*, Шейн, 1901; б. 16—17; *Карскій*, „Рус. Фил. Вѣст.“ 1900, б. 294) і каштоўная бібліотэка (*Карскій*, „Р. Ф. В.“, б. 296), але, як відаць, усе гэтыя рукапісы загінулі, бо ў 1922 г. бібліатэку Шэйна распрадавалі букіністы Ленінграда; пішучаму гэтыя радкі былі прысланы купленыя ў Ленінградзе ў крамах кнігі, якія належалі бібліатэцы П. Шэйна.

У свой час вельмі добрыя ацэны далі аб працах П. Шэйна акадэмікі Весялоўскі, Карскі, О. Мілер, Сабалеўскі і прафэсары Уладзіміраў і Сумцоў. Мы, бязумоўна, ня можам адмаўляць у вялікай ролі П. Шэйна, як ў разьвіцьці крыўскае этнографіі, так і ў зьбіраньні этнографічнага матэр'ялу, ня гледзячы на тэндэнційнасьць апошняга, але павінны адзначыць, што праца П. Шэйна пераацэнена вучонымі Маскоўшчыны. Крыўская этнографічная навука павінна аднясьціся да іх больш сурова.

---

[1]) Трэба чытаць „нармальных“.

[2]) Шэйн, ня гледзячы на сваю зьнешную няпрыгожасьць, жаніўся ў 1888 г. і меў дачку. (*Миллеръ*, П. Шейн, 1901 г., бал. 12). „Ён сваім выглядам, зьведзенымі рукамі і хворымі нагамі (ужываў кавёлаў) заўсёды рабіў уражаньне калекі“ (ibid., бал. 1—2).

А. МАТАЧ.

# АБШАР ЗАЙМАНЫ КРЫВІЧАМІ І КРЫЎСКАЯ КОЛЁНІЗАЦЯ.

„Зямля ёсьць кніга, дзе гісторыя чалавецтва запісуецца ў геаграфічнай номэнклятуры". *Акад. Я. К. Грот.*

Кожды народ, засяляючы бязлюдны абшар зямлі, надаваў занятай мяйсцовасьці першыя географічныя назовы. У гэтыя назовы народ укладаў свой сьветагляд, сваё разуменьне прыроды, зьязваў з імі свае рэлігійна-маральныя паняцьці і веду аб сваёй старажытнай мінуўшыне. Дзеля гэтага натуральна, што першапачатныя географічныя назовы былі не прыпадковымі: кожды з гэтых назоў меў сваё акрэсьленае, усім зразумелае, значэньне. Назовы надаваліся мяйсцовасьці або па яе фізычных асаблівасьцях, або ў чэсьць божышча ці асобы, або ў чэсьць гістарычных падзей, або па імені целага народу ці яго якой-колечы галіны. Топографічныя назовы, а такжа назовы, зьвязаныя з рэлігійным культам, абрадамі і абычаямі, сьведчаць аб першапачатнай сталай аселасьці жыхарства на данай мяйсцовасьці. Назовы гэтыя, перадаваныя з пакаленьня ў пакаленьне, маглі, аднак, мяняцца пад уплывам мовы новых чужаплемных прыходцаў, але, будучы надзвычайна жывучымі, яны, хоць і ў папсаваных і зьмененых формах, усё ж зьяўляюцца помнікамі мовы таго першапачатнага жыхарства, якое стварыла іх, і ў гэтым сэнсе сьведчаньне такіх назоў аб этнографічным насяленьні той ці іншай зямлі адзначаюцца нязьбітнай пэўнасьцю. Яшчэ большай жывучасьцю адзначаюцца географічныя назовы, паходзячыя ад імён народаў і плямёнаў, а такжа тыя назовы, якія надаваліся парубежным мяйсцовасьцям на этнографічных ці палітычна-географічных межах паміж гэтымі народамі і плямёнамі. Географічныя назовы парубежных мяйсцовасьцяў утрымаліся на мейсцы многалічэбных г а р а д к о ў, с т а р о ж а ў, а с е к а ў, м е ж а ў, р у б я ж о ў і г. пад. ўкрапленьняў, якія рабіліся для абароны ад нападаў суседніх народаў і відавочныя сьлядэ якіх захаваліся яшчэ ва многіх мяйсцох і да нашых часаў. Пры гэтым трэба заўважыць, што географічныя назовы, якія захаваліся на мейсцы старажытных крэпасьцяў, не заўсёды могуць сьведчыць аб першатубыльчасьці на данным мейсцы таго народу, да мовы якога належаць гэтыя назовы, бо крэпасьці маглі быць пабудаваны і прыходцамі, высесьніўшымі першабытнае жыхарства. Каб больш-меньш судзіць, да каго належалі абаронныя мяйсцовасьці,—да тубыльцаў ці прыходцаў,—трэба параўнаць номэнклятуру гэтых мяйсцовасьцяў з хорографічнай номэнклятурай бліжэйшых натуральных пунктаў, і калі назовы апошніх зыходзяцца па мове з назовамі тых абаронных сяліб, то апошнія былі пабудаваны ня прыходцамі, а тубыльцамі, якія першапачатна стварылі і хорографічную номэнклятуру даннай мяйсцовасьці. Зусім зразумела, што досьледы ў галіне гістарычна-географічнай номэнклятуры цесна звязаны з лінгвістыкай і што толькі пасьля фундамантальнай філёлёгічнай распрацоўкі іх, гістарычная географія можа скарыстацца імі, ня рызыкуючы пэўнасьцю сваіх вывадаў і дапушчэньняў. Дзеля гэтага нашы крыўскія філёлёгі павінны прылажыць асаблівую старэннасьць у досьледах географічнай номэнклятуры, якая мае аграмаднае значэньне ня толькі для гістарычнай географіі, як навукі, але можа праліць многа сьвятла на гістарычнае жыцьцё крыўскага народу, імені якога прыслужнікі чужацкай дзяржаўнай палітыкі старэнна унікалі і унікаюць на

балонах гістарычных навук, але якога ніяк ня можна выкрэсьліць з балонак старажытных пісьменных помнікаў і той аграмаднай кнігі нашага народу, якая называецца Крыўскай зямлёй. Цяпер паглядзімо, як-жа вялікай была наша зямля і як далёка сягала наша колёнізацыя згодна данных географічнай номэнклатуры, прыведзенай у кнізе найбольш безстароннага вучонага, паважанага праф. Н. П. Барсава, „Очерки русской исторической географіи“, выд. II, Варшава, 1885 году.

Географічнае палажэньне Крывічоў Пачатны Летапіс акрэсьляе начамі Дзьвіны, Дняпра, Волгі і палуднёвай часьцю Азёрнага краю. Гэткае палажэньне ў цэнтры важнейшых водных шляхоў усей усходна-эўропэйскай раўніны было прычынай важнага гістарычнага значэньня Крывічоў для славянскай колёнізацыі. З невядомых нам цяпер прычын свой колёнізацыйны рух Крывічэ каля X ст. накіравалі галоўным чынам на ўсход, заселены фінскімі плямёнамі, у землі Меры, Весі, Муромы і Мардвы па рэках Маскве і Клязьме, аж да сярэдняй Волгі. Адгэтуль яны пасунуліся на палуднёвы ўсход да начаў Дону і Паўночнага Данца. Заходзячы так далёка ад сваей мітраполіі, крыўскія колёністы, аднак, ня трацілі з ёю зямельнай сувязі і, заняўшыся на новазанятых землях сваімі сталымі промысламі, як земляробства і пчальніцтва, вымагаючымі аселасьці,—моцна зрасьліся з выробленай імі зямлёй і злажылі такім чынам „галоўную аснову вялікарускай народнасьці“ (*Барсовъ*, бал. 174). Сувязь Крыўскіх колёністаў з мітраполіяй тлумачыцца ня толькі географічнымі і экономічнымі варункамі, але і еднасьцю крыўскай палітычнай ўлады, што відаць са сьведчаньня Устаўнай граматы Смаленскай біскупіі XII стаг., што Суздальска-Залеская дань была выбірана Смаленскімі (г. зн., Крыўскімі) князямі. Праўда, што колёнізацыя парэчча Волгі, сягаючая надта даўных часаў, ішла сюды і з другіх канцоў усходнага Славянства, але галоўнай сілай яе было вялікае племя Крывічоў (ibid., бал. 149). Пацьвярджае гэта і географічная сувязь крыўскага Падняпроўя з Паволжам, а такжа той факт, што колёнізацыйны рух Славян адбываўся па рэках, а знача ішоў ён з верхняга Паволжа Уграю, Акою, Клязьмаю і Волгаю са Смаленскай зямлі і, ясна, засяляўся толькі Крывічамі. Зьвяртаючыся да данных географічнай номэнклатуры гэтага краю, запраўды знайходзім у даволі значным ліку сьлядэ крыўскіх пасяленьняў у кругаколіцы Клязьмы і сярэдняга Паволжа. Так, каля Масквы р. і Клязьмы—вёска Крыўцоўская, якая ў 1504 годзе прыналежала Ануфрэеўскаму манастыру ў Звінігорадзе („Собр. Госуд. Гр. и Договор.“, I, 365), цяперашнія сялібы Крэчкава або Крычкаў у Ніжагорадзкім павеце, Крыўцы і Крыўцовы—адна сяліба на Істры ў Клінскім павеце, а другая ў Бронніцкім на Разанскай шосе, тры Крыўцовы ў цяперашняй Валадзімірскай губ.: адно — ў Юр'еўскім павеце на рацэ Мікалаеўцы, 32 вяр. на поўдзень ад паветавага гораду (каля яго сяліба Вёскі), другое—на поўнач, 54 вяр. ад таго ж гораду на рацэ Нэрлі, а трэйцяе—ў Шуйскім павеце, 38 вёрст ад пав. гораду; тут-жа—Крыўцы на р. Воршы Валадзімірскага павету на паўночны захад у адлегласьці 42 вёрст ад пав. гор. і Крывіцы, сяло Мурам. п. на р. Жарнове на палуднёвы захад за 15 вёр. ад Мурама. Але больш яшчэ падобных назоў сустрачаем на поўнач ад Клязьмы ў закруце, які творыцца цячэньнем Волгі ад сутокаў Тверцы і Кастрамы. Тут мы знайходзім: Крывец Дзьмітраўскага пав. на р. Дубне, Крэва, сял. Карчэўскага пав. на Волзе пры ўплыве р. Крэўкі за 6 вёрст ніжэй Карчэва і ўпабліжы, на правай старане Волгі — Крывец (за 17 вёрст ад Карчэвы); далей маецца цэлы рад сяліб з назовамі „Крыў-

цоў“ на поўнач ад Карчэвы: на р. Гусеўне за 22 вярсты ад Калязіна, на р. Вонжы за 6 вёр. на поўнач ад Кашына, два Крыўцовы за 47 вёрст ад Угліча каля Пераяслаўскай граніцы і трэйцяе — за 24 вяр. на поўдзень ад таго-ж гораду; затым — Крыўцы, 40 вёрст на палуднёвы захад ад Мышкіна, Крывец на правай старане Волгі, 7 вёр. ад таго-ж гораду; вёскі Крыўцовы. якіх налічаецца да шасьці ў Мышкінскім, Маложскім, Рыбінскім і Пашахонскім паветах, дзьве сялібы Крывандзіны ў Раманава-Барысаглебскім пав., Крывік на р. Сіці Маложскага пав., Крывец Вялікі і Малы па р. Сухоне Валагодзкага пав., дзьве Крывецкіх сялібы ў Нікольскім пав., вёска Крывоўская ў Кадніkaўскім пав. Усе гэтыя назовы паказуюць, як далёка на паўночны ўсход і поўнач сягала колёнізацыя Крывічоў.

Множства крыўскіх назоў у кругаколіцы р. р. Акі і верхняга Дону паказуюць, што Крыўская колёнізацыя разьвівалася такжа і на палуднёвы ўсход. Там, паміж іншым, у кругаколіцы Акі знайходзіцца вёска Крыва-Гарадзішча, Арлоўск. пав., недалёка ад пачаў Акі, на захад ад Кром і сяло Пакрыўскае, таго-ж пав., на поўдзень ад Арла на Курскай шосе; Крэўе ці Валасатае, Болхаўск. пав., каля пачаў Нугра; каля яго—Радзіно, Крыўчэ на паўночны захад і Крыўцоў на поўнач ад Болхава; на р. Жыздры—Крычына, ў Казельскім павеце, паміж дзьвяма сялібамі Валасовымі; на захад ад іх у тым жа павеце—Крывуша; далей на поўнач—Крыўская па Протве, Малаярасл. п., на поўнач ад Малаяраслаўпа. У кругаколіцы Дону — Крывая (Пакрыўская), Вялікі і Малы Крывец, у Елецкім пав., на Любоўшы, доплыве Сосны; ручэй Крывец. які ўлівaецца ў Сосну; рэчка Крыўка, прытока Варонежа, ніжэй Задонска. Затым, далей на поўдзень горад Астрагожск паказуе ўжо на парубежную вайсковую заставу. Пры гэтым трэба заўважыць, што такія назовы сялібаў, як „Валасатае, Валасовая“, паказуюць на пасяленьне Крывічоў у гэтым краі яшчэ ў паганскія часы.

Вельмі рана, яшчэ ў пэрыёд паганскай старажытнасьці, Крывічэ зьяўляюцца сталымі насельнікамі Азёрнага краю, дзе яны маюць свой палітычны цэнтр — Ізбарск. Пачатны Летапіс называе Крывічоў у ліку трох зямель, прымаўшых удзел у легендарным прызваньні варажскіх князёў, з якіх адзін сеў „на Ізбарску у Крывічоў“. Пэўныя сьлядэ крыўскага разсяленьня ў гэтым краю прадстаўляюць назовы сялібаў: Крыўкіна, Дзямянскага пав., на захад ад возера Вельля; два Крыўцы на Беразьні, правым доплыве р. Полісты, ў паўночна-заходным кутку таго-ж павету; Крывец, Порхаўск. пав., на захад ад Порхава, каля Прошчаніц; Крывец, таго-ж пав., на поўдзень ад Порхава і Крывіны каля пачаў р. Шалоні. Колёнізацыйны рух Крывічоў на паўночны захад быў спынены чудзьдзю (фінамі), а такжа частымі нападамі варажскіх дружын, якія па сьведчаньню Пачатнага Летапісу прыходзілі „изъ заморья“ і „имаху дань... на всѣхъ Кривичѣхъ“. Сьлядэ паўночна-заходнай колёнізацыі Крывічамі Азёрнага краю засталіся ў назовах такіх сялібаў, як Крывовіц Пскоўск. пав., каля правага берагу Пскоўскага возера, на поўнач ад Пскова і на поўдзень ад сялібы Власавай (Воласавай) Губы і рэчкі Валосны, назовы каторых паказуюць на даўнае, яшчэ за паганскія часы, засяленьне Крывічамі гэтага краю; затым — Крыўскае Пскоўск. пав., на палуднёвым беразе Пскоўскага возера пры доплыве ракі Андогі; Смаленскі пасад на Кудзебі і на поўдзень ад яго — вёска Крывіна; далей на захад каля Мар'енгаузэна — сяліба Крыкін (Крыўкін). Колёнізацыя Ільменскіх Крывічоў у палуднёва

-заходным кірунку распашыралася ад вачаў р. Вялікай, граніц цяперашніх Апоцкага і Вялікалуцкага паветаў, да Дзьвіны, захоплюючы вазёры Себеж і Асвей і кругаколіпу р. Дрысы да прытнага загібу Заходнай Дзьвіны на поўнач (каля Дынабурга), дзе мы бачым цяпер сялібы Крэслаў ці Крэслаўку (Kreews-laukas— Крыўскае поле = зямля Крывічоў) на Дзьвіне, Вялікія Крывіны на паўночны ўсход вёрст за 20 ад Дынабурга і Крывіны на поўнач ад таго-ж гораду. На гэтым абшары зьвяртаюць на сябе увагу сялібы Крывіна, Пскоўск. губ., на р. Льжы, на ўсход ад прыгарада Краснага (на самай граніцы Пскоўскай губ. з Вітабскай); Крывіны за 10 вёрст на захад ад яго; Крыўцы, Пскоўск. г., на возеры Ужы, каля той-жа граніцы; Крывінка на ўсход ад Люцына, на левай старане р. Льжы; ўпаблізку — Крыванда, Люц. пав., па дарозе з Люцына ў Апочку; Крэвулі, Рэж. пав., на палуднёвы ўсход ад Рэжыцы і за 6 вёрст ад іх на захад — Крывіна, Люц. пав., затым — Крыцаўка, Себеж. пав., на ўсходнім беразе р. Себежа.

Пасьля палітычнага упадку Ізбарска (каля палавіны XI стаг.) цэнграм заходных Падзьвінскіх Крывічоў стаўся Полацак, ад якога яны ўжо ў часе летапісца атрымалі сваю назову „Палачане“. Яшчэ раней цэнтрам усходніх Падняпроўскіх Крывічоў быў Смаленск. Да прыходу варажскай ўлады Полацкая і Смаленская галіны Крывічоў не зьяўляліся строга разьмежанымі палітычнымі адзінкамі, бо эканамічна і тэрыторыяльна яны былі зьвязаны Днепра-Дзьвінскім водным шляхам, па якім ішла бойкая таргоўля паміж Готамі з захаду,—Баўгарамі і Хазарамі з усходу. Гоцкія купцэ, перавозячы свае тавары на ўсход праз крыўскія землі, праводзілі свае торговыя вадаплавы з сільна узброенаю старожаю, якая часта займалася па дарозе грабежніцтвам, часта пераходзячым, на разе перамогі з іх стараны, нават у палітычнае паняволеньне асобных крыўскіх мяйсцовасьцяў. Гэтакі стасунак гоцкіх „гасьцей“ палітычна аб'яднываў Крывічоў, пакуль інтэрасы іх прыдняпроўскай галіны ня былі адарваны заняцьцем вялікага воднага шляху „изъ Варягъ въ Греки“ скандынаўскімі Норманамі, якія са звычайных таргоўцаў („гасьцей“) паступова абярнуліся ў заваёўнікаў надта выгоднага для іх таргоўлі Паільменьня і Падняпроўя. Пасьля гэтага Палачане апынуліся ў аднаборстве з заходнымі Готамі, націскаючымі сваімі торговымі дружынамі на Падзьвіньне, а такжа з Літоўскімі плямёнамі, пасуванымі на ўсход тымі ж Готамі. Былі, праўда, выпадкі, калі гэтыя плямёны для апору Готам злучаліся з Палачанамі, што відаць са сьведчаньня летапісу (Іпат. сьп., 124), што ў радох Полацкага войска была Літва і Лівь. На перадавыя вайсковыя заставы Полацкіх Крывічоў па Зах. Дзьвіне паказуюць такія назовы крыўскага паходжаньня, як Крэйсбург (скарочаная назова ад латыска-ням. слова „Kreews-burg“ — горад Крывічоў; пазьней называўся Крыжбор); затым — Герціке і Кукейнос (Kukenoys) [1]), цяперашні Кукэнгаузэн на Дзьвіне вышэй Фрыдрыхштата, і, ўрэшце Рыга,—пры вусьці Дзьвіны на мейсцы цяперашняй Рыгі, назова якой паходзіць ад старасьлавянскага слова „ізрыгаті“ (у даным выпадку гэтае слова акрэсьляе мейсца „ізрыганія“ р. Дзьвіною сваіх вод у мора). На Крыўскае паходжаньне гэтай назовы сьведчыць дацяперашняе ужываньне падзьвін-

---

[1]) У гэтых гарадкох сядзелі крыўскія князе, з якіх Вячко (Vesceke) княжыў у Кукейносе (Генрых Латыш. Chronicon Livonicum vetus, in Gruberi Originib. Livon., бал. 1202, 1240). Кукейнос—па-латыску Kohknese, мейсца звозкі дрэва.

скімі гонщчыкамі (плытнікамі) тэрмінаў „рыгво, рыга“ для абазначаньня вусьця ракі.

На поўдзень ад Дзьвіны крыўскае разсяленьне йшло ўдоўж Літоўскіх сяліб, мяшаючыся з імі ў кругаколіцы Вяльі і Нёмана да самага водападзелу гэтай ракі з Прыпяцю. Тут знайходзім сялібы з такімі назовамі: Крыцэвічы на р. Храбораўцы, упадаючай з полудня ў Дзьвіну, вёрст за 25 ніжэй Дзісны; Новыя Горадцэ на Дзісьне, вёрст на 20 вышэй яе вусьця; Крывічэ на рацэ Сервачы, правай прытоцы Вяльі (Вялейскага павету); далей на поўдзень—сяліба Крэва, на палуднёвы ўсход ад Сьвянцян, і недалёка ад яго — Гарадзечна, Гарадзіскі, Гарадзілаў, Славенск, Смолінск на р. Жыжме і Крыўцы, на паўночны захад ад Ліды. У такіх назовах, як Н. Горадцы, Гароднікі, Гарадзечна, Горадзіскі, Гарадзілаў, потым — Гародзінкі (каля вусьця Бярэзіны), Гарадзенента (на паўночны ўсход ад Вялейкі), Гарадкова Градзі (на левай старане Вяльі, недалёка ад Варнян), — відаць сьлядэ парубежных вайсковых пабудаваньняў — гарадзішч, якія займаюць з аднэй стараны ўсё левае пабераджжа нёманскай Бярэзіны, а з другой — кругаколіцу верхняй Вяльі да вусьцяў Ашмянкі і Нароча.

Далей, на яўныя сьлядэ Крыўскіх пасяленьняў у палуднёва-заходным кірунку паміж вадазборнікаў р. р. Прыпяці, Нёмана і Заходнага Буга, паказуе рад наступаючых назоў: сял. Крывічы, Новагор. пав., на р. Нёмане, на поўнач ад Новагорадка; у тым-жа Новагор. пав. дзьве Крывых вёскі; Крывічэ, Слонім. пав., на паўночны захад ад Слоніма; Крывошын на р. Шчары; Крыўцэ, Пінск. пав., каля р. Яцольды, на поўнач ад Пінска; Крыўляны на поўнач ад Ковеля, на р. Мельніцы. Затым, па пьверджаньню праф. І. Д. Беляева, пасяленьні Крывічоў у заходным кірунку ад Прыпяці даходзілі аж да Пултуска [1]). І запраўды, у парэччы Зах. Буга мы знайходзім сялібы: Крыўляны, Кобрын. пав., на захад ад Кобрына; Крыўляне каля Каменца-Літоўскага; Крывацічэ (Krzywacicze) і Крыва (Krzywa) каля Бельска.

Пашырэньне Крывічоў на поўдзень па Дняпру і яго доплывых сьведчыцца ня толькі назовамі тых заселеных пунктаў, якія знайходзіліся пад дзяржаўнай залежнасьцю ад Смаленска, але й назовамі сялібаў, якія сустрачаем і ў землях летапісных Радзімічоў, Северан і Дрыгвічоў. Тут мы бачым вёску Крывец, Рослаўльск. пав., па дарозе з Рослаўля ў Смаленск; Крывец, Горацкага пав., на паўночны захад ад г. Горак; Крывец, Мсьцісл. пав., на р. Сожы, на поўнач ад Мсьціслаўля; Крэчаны і Крыўскае, Рагачоўскага павету, на поўдзень ад іх — Крыўск на р. Узе і Крыўская на поўнач ад Сожскай прытокі Чачоры; Крыўск і дзьве Крыўчы, Рэчыцкага павету; Крывічэ, таго-ж павету, на поўдзень ад Бярэзіны, каля начаў р. Брагінкі, Крывец Вялікі і Крывец Малы ў Новазыбкаўскім павеце вёрст за 10 на палуднёвы захад ад Старадуба і Крыўск Гомельскага павету.

Такім чынам мы бачым, што ў землях Радзімічоў, Северан і Дрыгвічоў, у кругаколіцы верхняга Дняпра да сутокаў яго з Сожам, ёсьць нямала Крыўскіх назоў, лік якіх паступова павялічаецца з поўдня на поўнач, так што ў цяперашніх, напр., Старабыхаўскім, Чаўскім і Чэрыкаўскім паветах, якія, згодна акрэсьленьню летапісаў, увайходзілі ў

---

[1]) И. Д. Бѣляевъ, „Исторія Полотска или Сѣв.-Зап. Руси отъ древнѣйшихъ временъ до Люблинской уніи“. Масква, 1872 г.

тэрыторыю Радзімічоў, распашыраны блізка адны толькі Крыўскія назовы. Гэта дае падставу для дапушчэньня, што краіна па абедзве староны Дняпра да вусьцяў р. Сожа была занята Крывічамі. Даволі значная частка гэтай краіны была нават палітычна зьвязана са Смаленскам, бо г. Мсьціслаўль, што на р. Вехры, доплыве Сожа, стаіць у ліку Смаленскіх гарадоў (1156 г. Іпат. сьп., бал. 70).

Ў дзяржаўнай залежнасьці ад Смаленска была й Северанская зямля. Аб гэтым у „Повѣсти временных лѣтъ“ А. А. Шахматава (Том І, Петраград, 1916 г.) на бал. 10 чытаем: „И по сихъ братии (пасьля Кія, Шчэка і Харыва) дьржати почаша родъ ихъ къняженье въ Поляхъ, а въ Деревляхъ свое, а Дрьгъвичи свое, а Словѣне свое Новѣгородѣ, а другое на Полотѣ, иже и Полочане, отъ нихъже и Кривичи, иже сѣдять на вьрхъ Вългы и на вьрхъ Двины и на вьрхъ Дънѣпра, ихъже градъ есть Смольньскъ; туда бо сѣдять Кривичи; т а ж е С ѣ в е р ъ о т ъ н и х ъ“. Праўда, што паводле рэдакціі „Повѣсти“ ня зусім ясна, ад каго „Сѣверъ“? Але разабрацца ў гэтым нам дае магчымасьць сьведчаньне праф. Шафарыка („Слав. древн.“ ў перакладзе на рас. мову Бадзянскага, т. II, кн. І, бал. 159), які кажа, што „па перасяленьні многіх Славянскіх родаў у VI стаг. ў Дакію, Мізію і Панонію і па заняцьці пакінутых імі мейсц другімі галінамі, з пераменаю жыхароў перамяніліся й назовы: імёны Крывічоў, Палачан, Радзімічоў і др. усіліліся, а імя Славян зьменшылася і асталося толькі пры адзіных насельніках кругаколіцы Ільменскай“. Адгэтуль, зусім зразумела, што „вялікае племя Крывічоў“ не магло быць у дзяржаўнай залежнасьці невялікай часткі астаўшыхся на мейсцы Ноўгародзкіх Славян, як таксама не маглі быць у гэтай залежнасьці ад апошніх і Северане, дзеля гэтага і словы летапісу „таже Сѣверъ отъ нихъ“ трэба тлумачыць, што Северане зьяўляліся палітычна-географічнай галіной Крывічоў, аб чым сьведчыць і крыўская географічная номэнклятура у Северанскай зямлі. Акад. А. А. Шахматаў і праф. Д. І. Ілавайскі таксама таго погляду, што Ноўгародзкіх Славянаў барждзэй можна прызнаць галіною Крывічоў, а не наадварот (*Шахматовъ*, „Къ вопросу объ образованіи Русскаго народа“; *Д. И. Иловайскій*, „Великій Новгородъ и Бѣлоруссія“ по поводу „Разсказовъ изъ Русской исторіи Бѣляева“. — Гл. часопісь „Русскій Вѣстникъ“, 1864 г., № 8, бал. 646 і наступныя).

Калі-ж цяпер прыняць пад увагу, што Северская зямля ў адношаньні да цэнтру крыўскага разсяленьня ляжыць на поўдзень па-за землямі Радзімічоў, Дрыгвічоў і Драўлян і што ў землях гэтых плямёнаў уцалела таксама нямала крыўскіх географічных назоў, — то трэба прыняць за праўдападобнасьць, што ўсе гэтыя племянныя групы зьяўляліся палітычна-гоеграфічнымі галінамі аднаго этнографічна цэлага К р ы ў с к а г а народу. А што на тэрыторыі некатарых з гэтых палітычна-географічных груп адзінага крыўскага племені, як, прыкладам, на тэрыторыі быўшых Дрыгвічоў і часьцю Драўлян, мы ня сустрачаем географічных назоў з каранём „Крыў“, то гэта тлумачыцца прыроднымі варункамі тэрыторыі, на якой першыя прыходцы-Крывічэ ў непраходных балотах і лясох знайшлі натуральную крэпасьць, якая сама па сабе заступіла патрэбу будаваньня г а р а д к о ў, с т а р о ж а ў, а с е к а ў і г. п. А пазьней да Крыўскіх насельнікаў дрыгвы і лясоў прырасьлі топографічныя найменьні Дрыгвічоў і Драўлян, ад якіх і пачалі атрымліваць назовы сталыя сялібы ў гэтых землях. Такое дапушчэньне прадстаўляецца тым больш праўдным, калі зьвярнуць увагу на тое, што мяйсцовасьці з назовамі крыўскага паходжаньня мала ня цэлым колам

абхоплююць з поўначы, палуднёвага ўсходу і захаду тэрыторыю бышых Дрыгвіцкай і Драўлянскай зямель, і толькі на поўдні гэтае кола перарываецца тэрыторыяй Палян. Што-ж датыча летапіснага апавяданьня аб паходжаньні Радзімічоў і Вяцічоў „отъ Ляхъ“, то ў гэтым апавяданьні ёсць часьць праўды, асабліва, калі скіраваць увагу на тлумачэньне летапісца: „Бяста бо дъва брата въ Лясѣхъ, Радимъ, а другыи Вятъко; и прешьдъша, сѣдоста: Радимъ, на Съжю, и прозъвашася Радимичи, а Вятъко сѣде съ родъмь своимь по Оцѣ, отъ негоже прозъвашася Вятичи“ (*А. А. Шахматовъ*, „Пов. вр. лѣтъ“, Петраград, 1916, бал. 12). У гэтым тлумачэньні, надта сходным з тлумачэньнем аб наданьні Славянам назову „Русь“, гаворыцца аб паходжаньні не саміх Радзімічоў і Вяцічоў „отъ Ляхъ“, а толькі двох братоў, якія, падобна Рурыку, прышоўшы з Балтыцкага памор'я, палітычна аб'яднальі пад сваім старшынствам дзьве галіны крыўскага племені па р. р. Сожу і Ацэ, і ад якіх гэтыя галіны атрымалі свае назовы, маючыя, згодна з летапісам, азнаку не этнографічную, а палітычную. Гэтае першапачатнае родавае об'яднаньне, якое мела мяйсцовы характар, зразумела, не пярэчыць пазьнейшай палітычнай залежнасьці Радзімічоў і Вяцічоў ад Смаленска.

Істнаваньне крыўскіх географічных назоў на тэрыторыі з абедзьвех старон Дняпра да дoплыву ў яго р. Сожу і дзяржаўная залежнасьць Радзімічоў і Северан ад Смаленскіх Крывічоў зьяўляецца вынікам не аднэй толькі звычайнай колёнізацыі Крывічамі парэчча Дняпра: паміж прыдняпроўскімі плямёнамі, г. зн., Крывічамі, Радзімічамі, Вяцічамі, Северанамі і Драўлянамі была і больш цесная сувязь на аснове этнографічнай аднолькавасьці гэтых плямёнаў. Так, аб рэлігійнай і абычаёвай аднолькавасьці іх у „Повѣсти временныхъ лѣтъ“ А. А. Шахматава, том I, выд. 1916 г. на бал. 12 і 13 чытаем: „А Древляне живяху звѣриньскъмь образъмь, живуще скотьскы, и убиваху другъ друга, ядуще вьсе нечисто, и брака у нихъ не бываше, нъ умыкаху уводы дѣвица. А Радимичи и Вятичи и Сѣверъ одинъ обычаи имѣяху: живяху въ лѣсѣ, якоже вьсякыи звѣрь, ядуще вьсе нечисто, и срамословие въ нихъ предъ отьци и предъ снъхами, и браци не бываху въ нихъ, нъ игрища межю селы, и съхожахуся на игрища, на плясания и на вься бѣсовьскыя пѣсни, и ту умыкаху жены собѣ, съ неюже къто съвѣщавъся; имѣяху же по дъвѣ и по три жены. И аще къто умьряше, творяху тризну надъ нимь, и посемь сътворяху кладу велику, и възложаху на на кладу мьртвьца, и съжьжаху, и посемь, събьравъше кости, въложаху въ судину малу, и поставляху на стълпѣ на путьхъ, еже творять Вятичи и нынѣ. Сиже творяху обычая и Кривичи и прочии погании, не вѣдуще закона Божия, нъ творяще сами собѣ законъ“.

Пры гэтым трэба прыняць пад увагу, што хрысьціянін-летапісец, манах, ідэалізуючы абычаі Палян-хрысьціянаў і ў той-жа час ганьбячы „звѣриньское“ і „скотьское“ жыцьцё верхнядняпроўскіх плямёнаў, ня мог у сваім апавяданьні быць безстаронным судзьдзёй іх абычаяў, бо гэтыя плямёны, як жыхары лясных нетраў, маючы дзе хавацца ад прасьледаваньняў накіданай ім сілай чужой хрысьціянскай веры, доўгі час не паддаваліся ёй. А таму, каб дагадзіць варажска-хрысьціянскай ўладзе, летапісец стараўся ганіць працаўнікаў гэтай ўлады, што й відаць з насьмешліва-грэблівага тону летапіснага апавяданьня аб абычаях „не вѣдущихъ закона Божия“ плямёнаў. Асабліва летапісец стараецца ганьбіць Драўлян і, нават, адрожнівае іх ад другіх плямёнаў наданьнем

разбойніцкай азнакі („убиваху другъ друга“). Гэта ганьба стане зусім зразумелай, калі ўспомніць легенду аб заядлай барацьбе з Драўлянамі князя Ігара і Ольгі. Акад. А. А. Шахматаў кажа, што „асобныя манастырэ дзеля рожных палітычных і эканамічных інтэрасаў былі ў самых блізкіх стасунках да таго ці іншага князя; многія з манастыроў былі зьвязаны з вядомым князем ўжо пры самым сваім заснаваньні (прыкл., Ізяславаў манастыр сьв. Дзьмітрыя, Ўсеваладаў ман. сьв Міхайлы); такія манастырэ станавіліся і дзедзічнымі архівамі і палітычнымі канцэлярыямі князя. Ня ўнік агульнай долі і Пячорскі манастыр“ [1]). Дзеля гэтага няма нічога дзіўнага, што ў той час, калі „маральнае значэньне летапісу добра разумелася князямі“,—„рукою летапісца кіраваў палітычны ўздойм і сьвецкія інтэрасы“ [2]). А таму ідэалізацыя Палянаў і адрожніваньне іх ў абычаях сужэнства ад няхрышчоных плямёнаў зьяўляецца тэндэнційнасьцю, асабліва ярка выступаючай, калі ўспомнім многажэнства самога князя Валадзіміра сьвятога. Ўдадатку, тыя ці іншыя формы сужэнства не зьяўляюцца яшчэ тыповай адзнакай данных плямёнаў, бо, згодна довадаў сучаснай этнолёгіі, ўсякі народ на сваім доўгім шляху ад першабытнага дзікага стану да сучаснай цывілізацыі перажываў усе формы сужэнства, пачынаючы з пачатнай формы бязладнага сужывецтва і канчаючы моногамічнай сям'ёй. Што-ж да пахавальнага абраду, то на аднолькавасьць яго сярод усіх падняпроўскіх крыўскіх плямёнаў, сьведчаць сучасныя археолёгічныя раскопкі. Ня рожніліся Паляне ад „невѣдущихъ закона Божия“ і прывязаннасьцю да паганства, бо накінутае варажскай ўладай хрысьціянства не магло адразу Перетварыць рэлігійнага сьветагляду народных гушч, закаханьне якіх да сваіх багоў так ярка ахарактэрызавана ў летапіснай сцэне паганьбеньня і патапленьня стода Пяруна, якога тыя-ж Паляне выклікалі з Дняпра словамі: „Выдыбай, выдыбай, божа!“

Абагуліваючы вышэйпададзенае, прыходзім да вываду, што абшар, на які сягала колёнізацыя Крывічоў у пачатках іх гістарычнага жыцьця, можна абмежыць на поўначы Белавозерам, ад яго — простай лініяй да Ільменскага возера, ад апошняга граніца крыўскай колёнізацыі простай лініяй ідзе на захад немаль да вусьцяў р. Дзьвіны, адгэтуль па сярэдняй Вялі і Нёману мяжа крыўскіх пасяленьняў, агібаючы крывой лініяй тэрыторыю Літвіноў, ідзе на палуднёвы захад да г. Пултуска Любл. губ., ад Пултуска мяжа ідзе простой лініяй на Ковель, адгэтуль — да сярэдняга цячэньня р. Варонежа, ад апошняй — да сутокаў р. р. Акі і Волгі, а адгэтуль—да Белавозера.

Зусім зразумела, што на ўсім гэтым абшары Крывічэ не маглі захаваць да нашых часаў у цэласьці свайго этнографічнага аблічча: Крывічэ, якія колёнізавалі землі Паоцкага і Паволжскага парэччаў, заселеных фінскімі плямёнамі, па зьліцьці з апошнімі паслужымі, паўтараючы словы праф. Барсава, „галоўнай асновай вялікарусскай народнасьці“ [3]), а палуднёвая крыўская колёнізацыя ў значнай меры лягла ў аснову украінскай народнасьці.

---

[1]) *А. А. Шахматовъ.* Повѣсть временныхъ лѣтъ. Том I. Петраградъ, 1916 г., бал. XVI ўступнай часьці.

[2]) ibidem.

[3]) Аб гэтым сьведчыць маскоўскае аканьне, якое, па мыслі праф. Доўнар-Запольскага, ёсьць „глыбокі сьлед колёнізацыйнага руху Крывічоў у кругаколіцу Оцкага басэйну ў прадоўжаньні многіх стагодзьдзяў“

На паказаным абшары найбольш заселенымі палітычнымі і тарговымі цэнтрамі Крывічоў былі: Ізбарск, Полацак, Вітабск (Видбеск. Дбескъ), Усьвят (Въсвятъ), Лукомль (цяпер мяст. ў Сенінскім пав.), Лагожск (цяпер м. Барысаўскага пав. на р. Гайне (Гнойне), прытоцы р. Бярэзіны), Ворша (Ръша), Копысь, Дрьютескъ Дрътескъ (на вярхох р. Друча ў Магіл. пав.), Ізяслаўль і Менск (на р. Сьвіслачы); Одрьскъ, які па акрэсьленьню Хадакоўскага быў на р. Одровь, упадаючай з правай стараны ў Дняпро ў Копыскім пав.; Голотичьскъ ня то цяперашняе м. Аліта на р. Нёмане, ня то м. Галоўчына ў Маг. губ. за 31 вярсту на паўночны захад ад Магілева [1]); Смаленск і Сьмядынь (пры сутоках р. Сьмядыні й Дняпра ніжэй Смаленска); Любеч (цяпер мяст. Горадненскага пав. Чарніг. губ. пры сутоках р. Болгачы з Дняпром); Тураў (цяпер м. Турава Пінскага пав. на р. Прыпяці) і Дорогічын (Дорогычинъ, Дрогичинъ, Дрочево), цяпер м. у Горадзеншчыне на беразе Зах. Буга, на пагранічча з Люблінскай губ.

З вышайпададзенага трэба зрабіць вывад аб вялікай бязсэнсоўнасьці мянюшак „Русь, Рускі", якімі была ахрышчана Крыўская зямля і народ сьпярша пануючай варажскай дынастыяй, і „Беларусія, Беларус" (такжа як „Малороссія, Малорусс"), якія пасьля былі накінуты Крывічом Маскоўскай уладай у адрожненьнэ ад „Вялікарусаў" і „Вялікарусіі".

Нажаль, ў радох нашага націянальнага адраджэньня знайшліся такія асобы, каторыя нязгодны „крывіцца" [2]), а воляць лепш аставацца ў лягеры „белых". Такім адраджэнцам я хачу сказаць во-што. Калі мы, правадырэ націянальнага адраджэньня, хочам уваскросіць слаўнае імя нашага вялікага народу, паказаць ўсяму сьвету, кім быў наш народ і хто ён цяпер ёсьць,— мы павінны разадраць цёмную заслону навуковай схолястыкі і тэндэнційнасьці, якая здэнаціяналізавала наш розум, здольнасьці й пачуцьці, і, парваўшы ланцуге антынаціянальнага выхаваньня, ў аўрэолі нашай новай навукі, здаровай крытыкі й мастацкай творчасьці паказаць нашае запраўднае націянальнае абліччa.

Самай-жа галоўнай і першай азнакай гэтага абліччa зьяўляецца нашае націянальнае імя „Крывічэ", якое акрэсьляе гісторыю нашага народу, як асобнай націянальнасьці, а ня тая „белая" афарбоўка, якая зусім пазбаўляе нас права на гістарычную мінуўшчыну і акрэсьляе наш народ, як нейкую коляровую адмену рабоў „рускай" націянальнасьці. Трымаючыся назову „Беларус", мы ня можам пачынаць нашай гісторыі, бо якраз ад часу наданьня нам гэтага назову гісторыя нашага народу канчаецца, і пад гэтым тэрмынам мы ня маем свае гістарычнай мінуўшчыны. Дзеля гатага, хто маніцца працаваць на ніве націянальнага адраджэньня Крыўскага народу і ў той самы час будзе карыстацца такім сільным сродкам дэнаціяналізацыі, як накіданьне яму штучнай, хоць і асьвячонай стагодняй практыкай, назовы „Беларусь", назовы, якае дае повад і Паляком лічыць нас „Белапалякамі", — гэтым самым ужо робіць шкодную для свае-ж працы карыкатурную нелёгічнасьць і адразу ставіць палку ў калясьніцу націянальнага руху. Асабліва-ж

(*М. В. Довнаръ-Запольскій.* Изслѣдованія и статьи. Том І. Кіяў, 1909 г., бал. 408). Ці лёгічна пасьля гэтага лічыць крыўскую мову „нарѣчіемъ" маскоўскай, а не наадварот?!

[1]) *Н. Барсовъ.* Матеріалы для историко-географіческаго словаря Россіи. Вільня, 1865, бал. 52.

[2]) Слова аднаго рэдактара „Беларускай" часопісі.

нелёгічным зьяўляецца назоў „Беларусь“ для чырвонай часьці нашага краю—Радавай Беларусі.

ДАПАЎНЕНЬНЕ.

Да увагі на бал. 30 трэба дадаць, што ў Герціке княжыў Ўсевалад (Wiscewaldo, rex de Gercike). Гл. грамату біскупа Альбэрта Герцікскаму князю Ўсеваладу ў Bung'es Urkundenbuch. 21. N. 15. 1209. Грамата называе падуладнымі Усеволоду гарадэ Antina [Autina (Уцяны?)] і Zeesowe (Заслаў?). Гэта зьяўляецца довадам, што ўлада Палацкіх князёў у нжнім Падзьвіньні не абмежвалася толькі зьверхніцтвам над абароннымі заставамі ці замкамі, а распашыралася такжа на вядомую тэрыторыю, што сьведчыць аб большай ці меньшай сталасьці гэтай ўлады ў названай кругаколіцы.

Што да назову „Крэйсбург“ (на той-жа бал.), то крыўскае паходжаньне яго надта выдзяляюць латыскія народныя назовы гэтага гораду: Krisburga і Krewcemenillis.

---

Ю. СУЛІМІРСКІ.

## АБ НАЗОВАХ „КРЫВІЯ“ І „БЕЛАРУСЬ“.

Імя „Крывія“, як назоў тэрыторыі, занятай племем Крывічоў, выступае разам з першымі пісанымі гістарычнымі помнікамі на ўсходнай Славяншчыне. Знае Крывічоў і іх тэрыторыю рускі Пачатны Летапіс, які, апавядаючы аб тым, як род Рурыкаў заснаваў сваё княжэньне у Палянаў, зазначае пры гэтым, што побач з падбітымі Палянамі іншыя плямёны былі эшчэ незалежнымі, мелі свае княжэньні: „въ Деревляхъ свое, а Дреговичи свое, а Словѣне свое въ Новѣгородѣ, а другое на Полотѣ еже есть Полочане; отъ ихъже Кривичи, иже сѣдять на верхъ Волги и на верхъ Днѣпра, ихъже градъ Смоленскъ [градъ сей отъ нихъ созданъ, (Пераяслаўскі сьпісак)]: тудѣ бо сѣдятъ Кривичи; таже Сѣверъ отъ нихъ“ (Сьпіскі: *Лаўрэнціеўскі*, *Іпат.*, *Нікон.*, *Васкр.*, *Тверскі*, *Софійскі Ноўгародзкі і інш.*).

Найменьне „Крывічы“ было вядомым і нямецкім гісторыкам. Гэтак, кронікар Дусбург (Dusburg, capit. 315), пад 1314 годам піша:

„Frater Henrikus Marschalkus — venit ad terrum Crivitae, et civitotem illam que parva Nogardia dicitur cepit“. Гэта знача: „Брат Гэнрык Маршалак прышоў у зямлю Крывіція і места яе, каторае Новагорадкам завецца, здабыў“.

Імя Крывічы ведама было і ў Італіі: ў жыцьцёпісе сьв. Параскевіі (Paraxedis), князёўны полацкай, пісаным па-лацінску, полацкая князёўна названа „Regina Krivitae“ = Каралеўна Крывічоў („Kazanie na Pogrzeb Maryanny Korsakównej“, Люблін 1687, б. II, 49).

Усе выдатнейшыя вучоныя, згодна гістарычным даным, тэрыторыю Крывічоў абазначаюць па верхнім Нёмане, па Дзьвіне, Дняпру і верхняй Волзе. У ліку крыўскіх гарадоў называюць: Смаленск, Ізбарск, Полацак, Менск, Новагорадак.

Ізбарск і Смаленск вельмі рана, ў X стаг., былі падбіты вайсковымі дружынамі Норманаў, якія слылі ў нас пад імязовам „Русь“, узятым з фінскай мовы. Чужынцы-заваёўнікі імя „Русь“ пачалі ўжываць дзеля акрэсьленьня падуладнасьці падбітых плямён, пераносячы гэтае імя і на

падбітыя Крыўскія землі. Асабліва-ж пашырылася ў нас імя „Русь“, калі пачалі заводзіць хрысьціянства, якое на ўсходна-славянскіх землях ў X—XI ст. было верай панучых сфэр і гарадзкога жыхарства, а знача — ў пераважнасьці верай тых самых Варагаў - Русі і верхаводзячых ў рэлігійных справах Грэкаў. „Русь“ было імем ня толькі новабудаванай Варагамі дзяржавы, але і назовам новай хрысьціянскай веры ў адрожненьне ад славянскага паганства. І вось усё, што не ўкладалася ў рамкі хрысьціянства, як яго разумелі візантыйцы (і Вараґі-Русь), лічылася адрынутым, „бесаўскім“. Усякае выражэньне дахрысьціянскага вераньня бязумоўна асуджалася і прасьледавалася, як чартоўскае... Пад гэтае паняцьце (чартоўскага, процілеглага хрысьціянству і варажскай над славянамі ўладзе), падтасовалася і праяўленьне народнасьці (гэта знача, — мова мясцовых плямён, іх звычаі, абычаі і націянальныя імёны). Словам, ў Варагаў - Русі прынцып народнасьці быў падменены прынцыпам праваслаўя і варажскай ўлады, а адно і другое выражалася ў імені „Русь“. Также даволі рана праз хрысьціянства, якое par excellence было верай Рускай, і праз пануючую напоў - крыўскую напоў - варажскую (Рагнеда - крывічанка, Валадзімер - вараг) дынастыю гэтае імя „Русь“ пачало прыліпаць і да Крывічоў, не падбітых Варагамі (Полацкіх).

Калі ў XIII ст. крыўскія землі апынуліся пад панаваньнем Літоўскай дынастыі, нашы прашчуры імязовы „Літва“, „Літвін“ прынялі як тэрдля абазначаньня дзяржаўнай прыналежнасьці. Кожды Крывіч з роду і племені—быў „літвіном“ па дзяржаўнай сваёй прыналажнасьці і „русін“ па веравызнаньню.

Так разумелі тэрмін „Русь“ вялікія князі Літоўскія і нашы крыўскія пісьменьнікі ўключна з Францішом Скарынам. Так, в. кн. Казімір ў каце 1440 году падзяляе сваіх падданых: „Ляхъ, Литвинъ, Витблянинъ, Русинъ (Кіяўшчына) или съ иныхъ нашихъ земль“. З гэтага бачым, што толькі адна Кіяўшчына, як быўшы цэнтр і гняздо Варагаў -Русі, насіла назоў „Русь“, ў палітычна-тэрыторыяльным значэньні. Праглядаючы акты і дзяржаўныя дакуманты б. вял. кн. Літоўскага раз-пораз сустрачаем гэткія акрэсьленьні: „Шляхта литовского и руского народу“ ў значэньні каталікі і праваслаўныя, або „панове и шляхта обоего закону и веры хрестіянское: римского закону — Литва и греческого — Русь“. (*Первольфъ*, „Славяне“, т. III, ч. II).

Географ і гісторык в. кн. Літоўскага, Гваґнін, італьянец, які жыў ў канцы XVI ст., гаворачы аб Вільні, кажа: „...у гэтым горадзе сьвятынь Рымскай і Рускай веры, мураваных і дрэўляных маецца каля 40; такжа мітрапаліт рускі, ў царкве рускай вялікай, прысьвячонай Прасьвятой Дзеве, якую яны называюць Прачыстай, мае сваю сталіцу. А ва ўсім княстве Літоўскім сем рускіх ўладык: полацкі, львоўскі, валадзімерскі, пінскі, луцкі і кіяўскі. („Кronika“ надрукаваная па - лацінску ў 1578 годзе, а ў перакладзе на польскую мову ў 1611 г).

З першапачатнага назову „Русь“, пад уплывам візантыцкага канцэлярскага стылю, вытварыліся назовы „Русь Белая, Чорная, Вялікая і Малая (Глядзі стацьцю *Первольфа* ў Archiv für Slav. Philologie „Аб назовах Русь (Россія) Вялікая, Малая, Белая“).

Назоў „Белая Русь“ найраней выступае ў прускіх немцаў, як тэрмін географічны, але пад гэтым географічным назовам яны разумелі ня крыўскія землі, а землі, распаложаныя на ўсход ад Белавозера. На аднэй з першых друкаваных карт наагул і першай друкаванай карце Нямеччыны ў асобнасьці, апрацаванай кардыналам Мікалаям Кузанам ў 1460 годзе

і адбітай ў 1491 годзе, паказаны: Polonia, Prussia, Samogitia, Livonia, Lituania, Podolia, Russia (Галічына) і Alba Russia sive Moscovia (Белая Русія або Масковія). Гэтакім чынам, у канцы XIII і пачатках XIV ст. назоў „Белая Русь“ немцы лічылі паралельным назовам для абазначаньня Масковіі. На некатарых картах XIV ст. назоў „Белая Русь“ аднесены яшчэ далей на поўнач, на адну шырыню з Халмагорамі; гэтакае палажэньне мае „Белая Русь“, прыкладам, на карце Масковіі італьянскага географа Якуба Гастальді 1548 году, дзе мы бачым на далёкай поўначы Russia bianka (Белая Русь), а на поўдні з правай стараны Дняпра — Russia Rossa (Чырвоная Русь). (Гл. „Курс Белоруссоведения. Лекции читанныя в Белорусском народном университете в Москве летом 1918 года“. Масква, 1918 — 1920 г., б.б. 95 — 96. Стацьця праф. *Анучына*). У XVII і XVIII ст. Белая Русь саўсім немаль зыходзіць з географічных карт. А гэта вось чаму.

Масковія пасьля слаўнай перамогі над татарамі на Кулікавым полі (1380 г.), замест найменьня „Чорная Русь“ (нявольная), пачала сябе называць „Белай Русьсю“ ў значэньні вызваленай з-пад татарскага ярма [1]). Гэты назоў праўдападобна за ёй і астаўся-бы назаўсёды, каб ня другая важная падзея ў жыцьці Масковіі. Такой важнай падзеяй было сужэнства маскоўскага в. князя Івана III з грэцкай царэўнай Аленай.

Да заваяваньня туркамі Візантыцкай імпэрыі грэцкае праваслаўе мела апору ў візантыцкіх імпэратарах. Пасьля-ж заваяваньня туркамі Візантыі адзіным незалежным праваслаўным манархам астаўся цар маскоўскі. Жанідзьба з грэцкай царэўнай як бытцым ставіла яго ў палажэньне спадкаберцы візантыцкіх імпэратараў. Так прынамні глядзела на гэта маскоўскае і часьцю грэцкае духавенства, што дало свае вынікі. Іван III прымае тытул цара (ў дакумантах пісаўся нават „цесарь“) і прысваівае сабе візантыцкі гэрб двохгаловага арла. А каб апраўдаць гэты амбітны назоў, грэкі падсовуюць Маскве мысль гістарычнага яе пасланніцтва ў аб'яднаньні ўсіх усходна-славянскіх аднаверцаў пад сваёй уладай, у чым Царгорадзкі патрыярхат абяцае сваю дапамогу „Трэйцяму Рыму“. З гэтай мэтай ўсю „Русь“ (па веры), падзяляюць на царкоўныя правінціі, ў выніку чаго паяўляецца ў пачатках XVI ст. на сьвет канкрэтная царкоўна-адміністратыўная тэрмінолёгія: Русь Вялікая (Масковія), Русь Малая (Украіна) і Русь Белая (крыўскія землі, якія ўходзілі ў склад в. кн. Літоўскага).

Гэту царкоўна-адміністратыўную тэрміналёгію ахвотна прыймае (пакуль што, — прыватна) толькі маскоўскі ўрад, абазначаючы тэрмінам „Белая Русь“ крыўскія землі толькі да Дняпра, а пасля паходу Івана Грознага на Полацак,—пашыраючы гэты назоў да Дзьвіны і Бярэзіны. Ужо Іван IV даводзіў: „вся руская земля наша вотчына“. Знача, ужо ў канцы XVI ст. замысл хітрых грэкаў увайшоў ў пераконаньне Маскоўскіх

[1]) *Первольф* („Славяне“, т. III, ч. II, б. 168) так кажа: „Названіе „Белая Русь“ форма книжная; оно сначала означало Русь Московскую (не Литовскую, не Польскую); такъ и называлась она, напр., у прусскихъ крестоносцевъ, у разныхъ книжниковъ средней Европы, въ Польшѣ (примѣромъ у архіеп. Яна Ласкаго, 1514 г.) да и въ самой Москвѣ; но позже со второй половины XVI ст. „Белая Русь“ — это земли литовско-русскія по Двинѣ, Березинѣ, Сожу и верх. Днепру, около Мстиславля, Могилева, Рши (Орши), Свислоча, Рѣжицы, Мозыря, Бобруйска; около „волостей русскихъ“ въ отличіе отъ „волостей литовскихъ“ — около Новогрудка, Слонима, Гродны, Минска“.

цароў. Пры гэтым Масква пачала называць крыўскую пісьменную мову „бѣло-руской“, і гэты назоў яна мела толькі ў Маскові і нідзе больш (гл. *Первольфъ*, „Славяне“, т. III, ч. II, б. 168). У нас у той час яна называлася „рускай“, бо літары (славянскія), якімі выражалася крыўская мова на пісьме, былі прыналежнасьцю „рускай“ царквы. Усё гэтае імязоўніцтва ведама было толькі Маскве, да другіх краёў даходзіла яно туманнай легендай.

Гэтак Гвагнін так піша: „Руская зямля, якую здавён Роксоляніяй называюць, ляжыць ад усходу сонца пры Белым возеры, пры рацэ Танаіс (Дон), якая Эўропу ад Азіі аддзяляе; на захад — да граніц Валахіі і Малдаўской зямлі; з поўдня граніцыць з горамі Татрамі. Аё сць траякая: адна Белая—каля Кіява, Мозыра, Мсціслаўля, Вітабска, Оршы, Полацка, Смаленска, Северскай зямлі, якая здавён да в. кн. Літоўскага прыналежыць; Чорная—ў Маскоўскай зямлі, каля Белавозера і там усюды да Азіі; Чырвоная—пры горах, якія Татрамі называюць“... (Kronіki Sarmacii Europ., бал. 323).

Падобна Гвагніну „Чорнай Русьсю“ называе яшчэ Масковію Стрыйкоўскі. Сымон Старавольскі (ў „Geografii Polski“, выданай ў 1656 годзе па-лаціне ў Wolfenbüttel) тлумачыць: „Русь... паложаная за Донам і на́чамі Дняпра здавён-даўна празываецца Чорная Русь, а пазьней яе пачалі зазвычай называць Масковіяй. Царства гэтае ад гораду і ракі Масквы атрымала назоў, а перш называлася Азіяцкая Сармацiя, а Дняпроўская Русь—Эўропэйская Сарамцiя, а сама Польшча Вандаліяй называлася“.

Усе гэтыя гісторыкі жылі ўжо ў часы, калі Масковія была вызвалена з-пад татарскай няволі, але яны памяталі аб яе ранейшым паярэмленьні і дзеля гэтага зазначалі: „даўней называлася Чорнай Русьсю, а цяпер Масковіяй“, яўна блутаючы пры гэтым рожнародныя тэрміны: царкоўна-адміністратыўны тэрмін (Белая Русь), народна-гісторычны (Чорная Русь) і палітычны (Масковія). Дый ня дзіва, што чужыя зьбіваліся, калі зьбіваліся ў гэтых нозовах і самі народы, якім імязовы гэныя былі гісторыкамі прыпісываны.

Затое добра разьбіраліся ў гэтым маскоўскія „собиратели Руси“: яны разумелі, што Маскве трэба абаруч трымацца імені „Русь“ і што ўсе ўсходна-славянскія землі, дзе жывуць праваслаўныя, падлягаючыя зьверхнасьці маскоўскіх патрыархаў, трэба хрысьціць афарбоўкамі і памерамі гэтага імені цля палітычнай экспансіі.

Першы раз старакрыўская мова была названа „беларускай“ у кнізе „Kazanie św. Cyrylla patryarchy Jorozolimskiego“ (1596 г.), у прадмове да якой аўтор яе, Сьцяпан Зызані, кажа, што выдаў ён тое-ж самае і ў мове „białoruskiej“. Калі прыняць пад увагу, што абодвы браты Зызанії-Кукелі (трава кукаль па грэцку — зызані) былі, як змагары за праваслаўе, цесна зьвязаны з Маскоўскім патрыархатам [1]), то будзе ясна, скуль гэты тэрмін трапіў першы раз у польскую кніжку. Па-за гэтым адзіночным прыпадкам, у краёвай пісьменнасьці не сустрачаецца ў такім значэньні „Белая Русь“ да другой палавіны XVII ст. Лаўрын Зызані ў 1596 годзе старакрыўскую мову называе „літоўскай“ („Катехізисъ, по-литовски—оглашеніе“), гэтак сама называе яе і Памва Бэрында

[1]) Брат Сьцяпана, Лаўрын Зызані напісаў для Масквы катэхізм, праглядзіўшы які, маскоўскі патрыарх Філарэт надрукаваў у Маскве ў 1627 г. (гл. *Сопиковъ* „Опытъ Росс. бібліографіи“, Спб. 1813, б. 124).

ў сваім слоўніку 1653 году („Пѣтелъ: Ческі і Рускі, когут. Волынски, пѣвень. Литовски — петухъ“, бал. 133).

Тэрмін „Белая Русь“ пачынае ўходзіць у жыцьцё пасьля таго толькі, калі цар Аляксей Міхайлавіч (1645 — 1676), заваяваўшы немаль усю Літву, да Коўны і Берасьця ўключна, прыбірае тытул „Царя и самодержца всея Великія, Малыя і Бѣлыя Руси“. Андрусаўскім мірам 1667 г. былі далучаны да Масковіі усходна-крыўскія землі — Смаленшчына і Севершчына. Гэта быў першы падзел крыўскіх зямель. Як пры ўсякім цадзеле суцэльнага народнага організму, так і ў гэтым здарэньні пайшлі перабежчыкі. Нашых перабежчыкаў у Масковіі сустрачалі вельмі прыхільна, бо яны былі, папершае, культурным элемэнтам, якога Масковіі не хапала, а, падругое, былі праваднікамі „сабірацельскай“ палітыкі Масковіі. З гэтага часу назоў „Белая Русь“ (ўсё яшчэ як тэрмын царкоўна-адміністратыўны) пачынае пранікаць і на захад ад лініі Андрусаўскай угоды.

У 1772—1796 годах усходна-крыўскія землі былі далучаны да Расійскай імпэрыі. Царыца Кацярына любіла называць нованабытыя землі „отъ Польши возвращенными“, але ўзварот гэты расійцы разумелі ў той спосаб, што Полацак, Менск, Магілеў і др. гарады становяць спадак па патомках Валадзіміра, прадстаўніцай якіх бытцам была царыца Кацярына. Апіраючыся на царкоўна-адміністратыўны назоў, царыца Кацярына актам, выданым 6 лютага 1774 году, першы раз у гісторыі надала крыўскім замлям дзяржаўна-адміністратыўны назоў Белай Расіі („нѣкоторыя провінціи, общеназываемыя Бѣлой Россіей“).

У Кацярынінскай „Бѣлой Россіи“ было устаноўлена Беларускае генерал-губэрнатарства і для дасьледаваньня нованабытага краю — навуковая установа „Бѣлорусское Вольно-Экономическое Общество“ ў Вітабску. Беларускім праваслаўным біскупам быў назначаны вядомы Юры Коніскі; беларускім уніяцкім архібіскупам — Іраклі Лісоўскі, а такжа была заснавана новая каталіцкая беларуская архібіскупія ў Магілеве, з архібіскупам Богуш-Сестржанцэвічам на чале.

Гэткім чынам у канцы XVIII ст. зьявілася на сьвет не істнаваўшая датуль дзяржаўна-адміністратыўная адзінка — Беларусь у складзе Расійскай імпэрыі.

Пасьля першага падзелу Польшчы у 1772 годзе ва ўсей Эўропе узрасло зацікаўленьне як гісторыяй Польшчы, так і гісторыяй крыўскіх зямель, далучаных ад яе да Расіі пад імем Літвы. Самы грунтоўны досьлед даў у канцы XVIII ст. англійскі вучоны гісторык Ватсон [1]), які на аснове філёлёгіі і гісторыі давёў, што славянская часьць Літвы няправільна называецца „Літвой“ ці „Русьсю“, а што істотным імем славянскай народнасьці, засяляўшай Літву, ёсьць імя „Крывічы“.

Об'ектыўныя довады Ватсона і праца Шафарыка мелі ўплыў на расійскага гісторыка Карамзіна і на гісторыка Літвы — Нарбута. За Карамзіным і Нарбутам пайшлі немаль усе расійскія і польскія гісторыкі першай палавіны XIX ст. (да 1860 гадоў).

Аднак, як Карамзін, так і Нарбут высказаліся даволі неакрэсьлена, дзеля гэтага да 60-х гадоў XIX ст. адміністратыўная адзінка „Белая Россія“ афіцыяльна лічылася ў расійцаў „Літвой“, а заходная часьць — нават „Польшей“.

---

[1]) Гл. „O sławianach i ich pobracimcach. Część I, obejmująca rozprawy o języku Samskryckim, tudzież o literaturze Indian, przez W. S. Majewskiego. Варшава, 1816 г. А такжа „Teka Wileńska, 1857, № 1, бал. 225.

Дзеля заслуг езуітаў, якія прычыніліся да таго, што крыўскія землі былі далучаны да Расіі без закалотаў і пратэстаў, — Кацярына пакінула шырокія правы памешчыкам, якія, як адзіная інтэлігенцыя ў краю, з каторай рэкрутавалася і чыноўніцтва, ад 1772 да 1830 году вытвараюць „беларускую“ пісьменнасьць. Уся гэта „беларуская“ пісьменнасьць была друкавана ў чыстай польскай мове, а толькі па тэрытарыяльнай прыналежнасьці аўтораў і па мейсцу выхаду кніг названа „беларускай“. Гэткім чынам ў утвораную царыцай Кацярынай „Беларускую правінцію“ палякі й езуіты ўлілі польскі зьмест; гэта ім было лёгка зрабіць, бо над шырокімі народнымі масамі крыўскага сялянства Расія аддала ўладу ў рукі памешчыкаў-палякаў, а апошнія прадстаўлялі край перад дзяржавай.

Калі ў 1831 годзе выбухла польскае паўстаньне, то расійскі ўрад пабачыў, што Беларусь зьяўляецца аб'ектам польскіх прэтэнсій. Ні палякі, ні расійцы ня лічыліся з аграбленым і абязволеным крыўскім народам, які знаходзіўся ў прыгоннай залежнасьці. Ні адным, ні другім ня прыходзіла ў галаву прызнаць за гэтым „простым“ народам хоць цень самаістасьці. Аб Беларусі ставілася толькі пытаньне ў плашчыні—Польшча гэта ці Расія? Палякі даводзілі, што мова „тутэйшага“ народу ёсьць провінціянальная адмена польскай мовы, расійцы-ж наадварот, што гэта—правінціянальная адмена „русскаго языка“. Палякі ў гэтай спрэчцы мелі моцны аргумант—вытвараную імі „беларускую пісьменнасьць“, чаго у расійцаў яшчэ ня было.

У кождым здарэньні пасьля 1831 году стаў для расійцаў ачавістай бязсэнсоўнасьцю назоў „Беларусь“ з яго польскім зьместам,—і цар Мікалай перамяновуе „отъ Польши присоединенныя провинціи“ ў „Западную Россію“.

Але ў „рускасьці“ крыўскіх зямель расійскі ўрад ня меў пэўнасьці. Вельмі характэрны выпадак апавядае Доўнар-Запольскі („Изслѣдованія и статьи“, т. І. Кіяў, 1909 г., б. 337):

„У 1835 годзе вядомы гісторык Устрялов вылажыў обэр-пракурору сьвятарнейшага сыноду Пратасаву і міністру народнай асьветы Увараву, што Літоўскае князьства—такжа Русь. Пратасаў, для якога гэта было важна „дзеля палітычных мяркаваньняў“, і Увараў прышлі ад гэтага „ў захват“ (выражаючы яго ў француcкай мове); яны пастанавілі „тотчасъже“ далажыць аб гэтым цару“.

Пасьля гэтага спрытнага „адкрыцьця“ па нейкім часе была распачата праца па дасьледаваньню „Западно-русскаго“ края. Праца гэта была даручана тром найпаважнейшым навукова-дзяржаўным установам: Расійскаму Географічнаму Таварыству, Статыстычнаму Камітэту і Расійскаму Генеральнаму Штабу. Першым прыступіла да працы Расійскае Географічнае Таварыства, якое вырабіла падробную праграму дасьледаваньня краю і разаслала яе ўсім урадовым установам для выкананьня. Сабраныя матэр'ялы былі публікаваны ў „Этнографічных зборніках“ гэтага таварыства (1853—1864 г. г.) пад рэдакціяй Кавеліна. У першым зборніку, у стацьці самога Кавеліна, крыўская мова названа „тамошней“. У трэцім зборніку знаходзім стацьцю „Замѣтки о западной части Гродненской губерніи“, ў якой надрукаваны слоўнік „Бѣлорусско-кривичанскаго языка“ (б.б. 193 — 201) і сабраньне „Кривичанскихъ пѣсенъ“ (б.б. 201—276). У 1857 годзе вышла з друку першая гісторыя Беларусі Турчыновіча („Обозрѣніе исторіи Бѣлоруссіи съ древнѣйшихъ временъ“, СПБ. 1857). Турчыновіч побач з назовам „Бѣлоруссы“ ўжывае назоў „Крывічы“ нават у агалоўках часьцей свае кнігі, прыкл., „Книга

третія. Литва покоряетъ Кривскія земли". Крыху раней, ў 1855 годзе, паяўляецца праца генерал-маіора Бэз-Корніловіча „Историческія свѣдѣнія о примѣчательнѣйшихъ мѣстахъ въ Бѣлоруссіи", дзе між іншым саўсім слушна кажа: „Народъ Кривичанскій занималъ всю Витебскую губернію, южную часть Псковской, сѣверо-западную часть Смоленской и сѣверную половину губерній Могилевской и Минской, къ чему неоспоримымъ доказательствомъ служитъ самое нарѣчіе бѣлорусскаго языка, до сихъ поръ оставшееся въ разговорномъ, хотя обрусѣломъ языкѣ употребляемомъ жителями тѣхъ мѣстъ".

Побач Географічнага Таварыства працаваў Дэпартамант Генеральнага Штабу, які ў 1857, 1858 і 1859 годах разсылае апрацаваныя ў папярэднія годы асобныя інструкцыі і праграмы для дасьледаваньня нашага краю. У 1861 годзе выдана было Штабам апісаньне Віленскай губэрні, якое напісаў Корэва („Матеріалы для географіи и статистики Россіи, собранные офицерами Генеральнаго Штаба. Виленская губернія. Составилъ генеральнаго штаба капитанъ А. Корева". СПБ. 1861, VIII, IV; 804 балоны). У гэтай салíднай кнізе аўтор так характэрызуе жыхарства Віленшчыны: „Славяне, населяющіе Виленскую губернію, кромѣ выходцевъ изъ Великороссіи, великороссіянъ, раздѣляются на бѣлоруссовъ, черноруссовъ и кривичей" (бал. 290). Для характэрыстыкі пераважаючай мовы ў Віленшчыне аўтор падае адрыўкі „изъ пѣсенъ славянъ", якіх называе „племенемъ кривичанскимъ". Усе прыведзеныя песьні даюць пробкі крыўскай (беларускай) мовы.

Другім выданьнем Генеральнага Штабу было апісаньне Горадзенскай губэрні („Матеріалы для географіи и статистики Россіи, собранныя офицерами Генеральнаго Штаба. Гродненская губернія. Составилъ членъ Имп. Рос Геогр. О-ва генеральнаго штаба подполковникъ П. Бобровскій". СПБ., 1863 г., ў дзьвёх часьцях: I-я XXII+866 бал.; 2 я VIII+1074 балоны). Хоць пад уплывам ужо абрусіцельнай палітыкі расійскага ўраду ён запэўняе, што Горадзеншчына была і ёсьць „русская", але пры гэтым тлумачыць, што беларусы ёсьць патомкамі Крывічоў (б.б. 622—623).

Статыстычны Камітэт распачаў сваю работу па дасьледаваньню нашага краю ў 1835 годзе (ўсьлед за „адкрыцьцем" Устралава) і вёў яе ў прадоўжаньні 1840-х годаў. Ўрэшце, пад рэдакцiяй М. Лебёдкіна выдрукаваны былі вынікі працы Камітэту пад агалоўкам „О племенномъ составѣ народнонаселенія Западнаго Края Россійской имперій" (ў „Запісках Геогр. О-ва", 1861, кн. III). Паводле гэтай афіцыяльнай статыстыкі ў 1830 — 1860-х годах 26106 душ яшчэ лічыла сябе Крывічамі.

Пад уплывам паўстаньня 1861 году стаўся гвалтоўны паварот: ў Маскве і Петраградзе раптам загаварылі аб прадвечнай рускасьці крыўскага краю і адначасна аб абрусеньні яго. „У ўсіх на вуснах было слова абрусеньне... „западно-рускаго края", іронізуе расійскі вучоны Пыпін. Побач з бязлітасным нішчаньнем польшчыны на крыўскіх землях Расія энэргічна выступіла і супроць першых праблескаў нацыянальнага адраджэньня крыўскага і украінскага народаў. Пыпін так аб гэтым апавядае („Бѣлорусская этнографія"): „Няведама, па якому сыгналу пачаліся гэтыя нападкі, але яны вышлі з ўсякай меры прыстойнасьці і пісьменніцкай годнасьці. Сьмерць Шэўчэнкі, ў каторым, пры ўсёй няпрыхільнасьці да характару яго твораў, нельга было ня прызнаць выдатнага паэты, утрата якога выклікала многа гарачага спачуцьця і ўспамінаў паміж яго пабратымцаў, — для „Вѣстника" („Вѣстникъ Сѣверо-Западнай Россіи" 1862 — 1863, т. IV, апрѣль IV, бал. 32 — 42) паслужыла прычынай да стацьці запраўды агіднай („гнусной"): гэта быў цэлы паток лаянкі, і

галоўнай прычынай усіх недастаткаў Шэвчэнкі аказывалася тое, што ён быў не „благороднаго“ паходжаньня. Мысль аб выданьні кніг для народнага чытаньня на украінскай мове, якую выкладаў Кастамараў ў „Основѣ“, сустрэчана была градам абвінавачань, як мысьль шкодная і ледзь не здрадная. Тут ужо было сказана, што мысль аб кнігах на украінскай мове ідзе „не ад Бога“ (дык?), а хутка пасьля і ў другіх стацьцях было вытлумачана, што украінафільства ёсць акурат галіна польскай інтрыгі — славэтная тэма, якая пасьля многа разоў паўтаралася і шчасьліва дажыла, са сваімі вынікамі, да нашых дзён“.

Пад рубрыку „польскай інтрыгі“ было падведзена і крыўскае адраджэньне. Пацьверджанае досьледамі многіх расійскіх вучоных і такіх грунтоўных навукова-дзяржаўных установ, як „Географическое Общество“, „Статистическій Комитетъ“ і „Генеральный Штабъ“, — існаваньне найменьня „Крывічы“ для абазначаньня нашага народу і краю было асуджана, адкінута і прыпісана польскай інтрызе [1]). У гэтым паходзе супроць найменьняў „Крывічы“ і „Украінцы“ прымала удзел ўсё расійскае грамадзянства, як лібэралы, так і чорна-рэакцыйныя кругі: усе, з славянафіламі на чале, згаджаліся і напіралі на абрусеньне крыўскіх зямель. Замест найменьняў „Крывічы“ і „Украінцы“ расійская прэса і ўвесь дзяржаўны апарат прапагавалі найменьні „бѣлоруссы“ і „малоруссы“, якія павінны былі абазначаць толькі этнографічную адмену „адзінага расійскага народу“. Пры чым гэтыя тэрміны ня былі пашыраны на займаныя „бѣлоруссами“ і „малоруссами“ тэрыторыі: для апошніх былі прыняты „раз назаўсёды і безпаваротна“ тэрміны „Сѣверо-Западный“, і „Юго-Западный Край“.

Аднак трэба было і для сябе і для заграніцы абаснаваць, на штò апіраецца назоў „бѣлоруссы“. Зрабіць гэтае абаснаваньне ўзяўся прускі немец, які быў на расійскай службе, — Экерт. Гэты апошні прышоў да высваўку, што нішто так выразна і праўдна не вызначае граніцы паміж народнасьцю „рускай“ і „польскай“, як веравызнаньне. Гэткім чынам ў „Западной Россіи“ ўсе тыя, якія вызнаюць праваслаўную веру, павінны лічыцца рускімі, а тыя, хто вызнаюць каталіцтва, — палякамі“ (У прадмове, напісанай Экертам да „Атласа народонаселенія Западно-Русскаго края по вѣроисповѣданіямъ“. СПБ. 1861 г.). Пры гэтым Экерт, разлічаючы на народную цемнату, кажа: „чым ніжэй ступеня асьветы, на якой стаяць народы, параўнаныя паміж сабой з нацыянальнай стараны, тым важней і больш рашуча значэньне веравызнаньня, як спосабу разгранічэньня народнасьцяў“ (б. 10). А ўрэшце канчае Экерт свае мяркаваньні гэткай мудрай мысьлю: „Калі беларусы і не называюць себе гэтым імем, то яны — гаворапь па-беларуску, а знача чуюць і думаюць „по русски“.

Запачаткаванае маскоўскімі дзеячамі 1860-х гадоў абрусіцельства крыўскіх зямель агульнымі і аднадушнымі высілкамі расійскай публіцыстыкі, навукі, школьніцтва і адміністрацыі было замацована на працягу наступных 60-ці гадоў: назоў „Крывічы“ быў выціснуты з жыцьця і немаль з пісьменнасьці. Вытварана была расійскімі вучонымі тэорыя аб „общеруссахъ“, малодшай галіной якіх сталіся „бѣлоруссы“.

Імя „Крывічы“ зрэдка толькі і нясьмела паяўляецца сярод крыўскіх адраджэнцаў-паэтаў: Марцінкевіча, Каганца, Купалы, К. Буйло, Бядулі, Ластоўскага, Езавітава і некатарых паэтаў з малодшага пакаленьня.

---

[1]) Цяпер расійская рэакцыя найменьні „Крывіч“, „Крывія“ таксама тлумачыць польскай інтрыгай, прыдаўшы ёй назоў „Крыўскай акціі“.

З папярэдняга агляду мы павінны зрабіць вось які вывад: усе старыя народы, якія маюць за сабой тысячалетнюю гісторыю, носяць па некалькі імёнаў, каторыя адбіваюць яго гістарычную долю.

Прыкладам, народы нямецкага племя спрадвеку былі ведамы Лацінцам пад найменьнем Германцаў, у Славянаў яны называліся Немцамі, у французаў — Алеманамі, а ў Літвіноў — Vokiečiai, а самі сябе яны называюць рожна, залежна ад гістарычнай мінуўшчыны паасобных галін Нямецкага племя, як то: Готы, Швабы, Саксы, а пасьля наагул ўсе — Deutsche. Хто-ж пры здаровым розуме будзе цьвердзіць, што Германцы, Немцы, Алеманы і Дойтшы не адзін і той-жа народ ад самага свайго пачатку?

Гэтак сама народы чудзкага або фінскага племені самі сябе называюць Суомі (Suomi), Суомаляйсэт (Suomalaiset), Немцы-ж іх называюць Фінамі, Славяне — Чудзьдзю.

Эстонцы самі сябе завуць дваяка: Suomelased і Esti; у Латышоў яны — Ігауні (Iggauni) у Чухонцаў — Віроляйсэт (Wirolaiset).

Скандынаўцы — у сябе Свэоны (Sweoni), а ў Чухонцаў, Фінаў і Эстаў—Руоці (Ruoci). Жыхары Даніі называюць сябе Донамі, а ў Фінаў яны называюцца Ютамі.

Народы кельтыцкага племя у сябе называюцца Галамі, Гелямі (Gaeli), а ў Немцаў — Wälsche, у Славянаў — Влахі, Валохі.

Маскалі самі сябе называюць Рускімі, а ў нас і ў Украінцаў яны — Маскалі, у Чухонцаў — Вэннэлясэд ((Wennelassed).

Палякі у сябе — Поляцы (Polacy), у нас — Палякі, а даўней у нас і ў Украінцаў называлі іх — Ляхі, у Літвіноў яны — Lenkai.

Так сама і наш народ у сваёй тысячалетняй гісторыі насіў тры імені: Крывічы, Літвіны, Русь. Разбіраючы гэтыя тры імені па іх гістарычнаму значэньню, згодна ўсім данным, толькі першае імя ёсьць імем нашым ўласным, самім народам сабе дадзеным (крывічы — родныя сабе па крыві, сваякі), а другія два былі нам накінуты са стараны.

Сягоньня, калі народ сіліцца адрадзіцца ад самых каранёў сваіх і шукае старэнна кождага ценю свае індывідуальнасьці (ў мове, ў абычаях, ў мастацтве і пісьменнасьці), важна прыпомніць яму яго ўласнае імя, ў дадатку—імя, каторае гаворыць аб лепшых днях жыцьця нашага народу, з яго вольнымі вечамі і слаўнымі змаганьнямі за сваю незалежнасьць. Важна самым іменем народу зазначыць, што ён — не фарбаваная адмена чыейсь індывідуальнасьці, а сам па сабе індывідуальнасьць. Гэта ня значыць, што мы павінны выракацца назоваў „Беларусь, Беларусы“, дый гэта ня ў нашай моцы, бо і апошнія замацаваны за намі 100-летняй гісторыяй, цэлай гарой пісьменнасьці, і, ўрэшце, так называлі і будуць называць нас маскалі і нашы-ж памаскаленыя „землякі“, якім так дарага гістарычнае ярмо і зьвязаная з ім няволя, што няздужаюць здабыцца на вольную думку.

Звыш усяго сказанага трэба дадаць, што апошнімі часамі заграніцай намножылася асаблівага кірунку „беларусаў“, якія, прыналежачы да абозу чорнай расійскай рэакціі, даволі ахвотна называюць сябе „Белымі Русамі“, прыдаючы гэтаму імю значэньне, процілеглае „чырвоным“ русам. Гэткая ігра словам „белы Рус“ замацовуе ў вачох заграмічнікаў за нашым адраджэньнем апінію чорнай рэакціі, апінію вельмі шкодную нам і нічога супольнага з нашым адраджэньнем ня маючую.

Часьцю з рэакційных крыніц, а часьцю на грунце зьменавехаўства людзей, па складу душы свае чорных, якія сьвежа перамаляваліся ў „чырвоных“, падняўся гвалт супроць імён „Крывія, Крывічы“. Сьвежыя

адэпты „чырвонасьці“ з роспачч.у хапаюцца за белы фігавы лісток „общерусскости“, як за апошні ратунак ад паглынаючай іх чырвонасьці. З гэтага абозу пасыпаліся аргуманты ад Ілавайскага, нясмачныя „перасьцярогі“, лаянка і г. пад.

Адкідаючы без адповедзі гэныя выступленьні, на адну рысу з тых нападак мы павінны зьвярнуць увагу. Ня маючы аргумантаў, каб запярэчыць ачавістай праўдзе, што імя „Крывічы“ ёсьць стары і ўласны назоў нашага народу і краю, які мае ня толькі роўнае права на існаваньне з іншымі навейшымі і са стараны накінутымі нам назовамі, але больш таго, як назоў самаістны, можа павясьці Крывічоў да акрэсьленьня свае нацыянальнай істоты, без номэнклятурнай залежнасьці ад „общерусскости“,—праціўны абоз падсовуе нашым ворагам мысьль разьбіваньня крыўскага адраджэньня пры помачы племяннога дзяленьня адзінага і суцэльнага крыўскага народу. Мэтад гэты ў свой час пробавала тасаваць да Украінцаў царская Расія, памыкаючыся, замест адзінага украінскага руху, вытвараць мяйсцовы сэпэратызм— Кацярынаслаўскі, Харкаўскі, Кіяўскі, Валынскі, Кубанскі. Гэтага мэтаду хапаюцца цяпер элемэнты, якія ўпіснуліся ў наш адраджэнчы рух, але для якіх рух гэты чужы. Яны разважаюць самі ў сабе так: калі гэта мае быць самаісты народ, а ненабела фарбаваная Русь, то хай-жа ён разаб'ецца на дробныя сэпаратныя адзінкі і згіне. Дзеля гэтага крычаць нашы фарбаваныя Русы аб Дрыгвічох, Дрэўлянах, Радзімічох і інш., стаўляючы іх побач з агульнанацыянальным імем „Крывічы“. Так на саламонавым судзе фальшывая маці вымагала расьцяць жывое дзяцё надвая, каб толькі яно не дасталося праўдзівай маці.

Калі ворагі нашага адраджэньня стараюцца адарваць ад нас Палесьсе пад імен Дрэўлян, то з гэтай прычыны няма што цешыцца. Пробы такія былі, ёсьць і будуць, але дагэтуль такім спробам з адраджэнчага абозу яшчэ ніхто не патураў. Прыпісываньне грам. Ластоўскаму жаданьня разьбіць крыўскі адраджэнчы рух ёсць брыдкая выхадка. Жаданьне паставіць на годную вышыню імя „Крывічы“ лёгічна выплывае з разуменьня адраджэнча-нацыянальнага руху які павінен апірацца на гістарычную мінуўшчыну і самаістную індывідуальнасьць нашага народу, а не на расійскія русыфікатарскія традыціі. Усякая абарона русыфікатарскіх традыцій, хоць-бы з адраджэнчага абозу, зьяўляецца рэакціяй, якая ўдадатку чапляеца за палітыку царскай ўлады, хіба ў тайнай надзеі на ўзварот тэй ўлады. Зьбіваючы крывічоў на ролю провінціяльнай адмены „агульнарускага“ пня, нашы пазаднікі гэтым самым пазбаўляюць наш народ яго самаістай гісторыі, яго асобнай культуры і ў будучым—дзяржаўнага адраджэньня. Бо якое ж апраўданьне могуць мець ў вачох ўсяго сьвету на асобную самаістную культуру і на асобнае дзяржаўнае існаваньне Русы ад Русаў (Белыя ад Вялікіх)?!

Нашае адраджэньне ад самых сваіх пачаткаў (ад Марцінкевіча, Богушэвіча і Купалы) было „крыўскай пропагандай“, бо імкнулася раскрыць самаістыя сілы і рысы нашай духовасьці, нашай гісторыі, словам, — нашай народнай істоты ў мінуўшчыне і будучыне. Крыўскае адраджэньне ад сваіх першых пачаткаў мае на мэце **злучыць** разбіты гістарычнымі падзеямі вялікі і слаўны крыўскі народ духова і фізычна, а не разьбіць яго. Прыняць той ці іншы назоў для абазначаньня сябе залежыць ад нас саміх, а не ад тых ці іншых чужынцоў.

Будучыну перад сабой мае толькі той народ, каторы мае ясна выражаныя індывідуальныя рысы, а ня рысы, якія зьяўляюцца адбіцьцём чужой індывідуальнасці ў мове, ў гісторыі, ў творчасьці і сваім нацыя-

нальным імені. Гэта будзе не індывідуальнасьць, а паводле акрэсьленьня Безсонова „промежутокъ и недоумокъ“. Як „Беларусы“, мы—толькі адбіцьцё агульна-рускай індывідуальнасьці, нейкі „промежуток и недоумокъ“, але, як „Крывічы“,—мы асобны індывідум, асобнае славянскае племя са сваей багатай мінуўшчынай, сваей асобнай мовай, тэрыторыяй і духовай творчасьцю.

Здаровая лёгіка, гісторыя, інтэрасы і традыціі нашага адраджэньня кажуць: Крывія, Русь (Беларусь), Літва—імёны, пад якімі мы ведамы ў гісторыі, але з гэтых імёнаў толькі першае—Крывічы—нашае ў л а с н а е імя. Дык, не выракаючыся пражытых ў мінуўшчыне імён, ня маем права выракацца імені, пад якім выступілі мы на гістарычную арэну, імені, якое акрэсьляе нашу націянальную індывідуальнасьць і зьяўляецца запарукай самаістасьці ў будучыне.

Хай сабе палітычныя інтрыганы, заскорбшыя ў паняцьцях колішняга расійскага царызму і маскоўскага „собирательства“, крычаць і пеняцца,—гэта звычайна: так сустрачала рэакція ўсе вялікія праўды,—мы ж цьвёрда пераконаны, што лепшыя, перадавыя сілы, з намі, што адраджэньне нашае пойдзе і далей шляхам вызваленьня, а знача,—неунікнёна, да свае індывідуалізаціі пад імем „Крывічы“.

---

ВЛАСТ.

## ПАЧАТНЫ ЛЕТАПІС АБ КРЫВІЧОХ У АСЬВЯТЛЕНЬНІ ГІСТАРЫЧНАЙ КРЫТЫКІ.

По мнозѣхъ же времѣнехъ сѣли суть Словѣни п о [1]) Дунаеви, гдѣ есть нынѣ Угорьска земля и Болгарьска. И отъ тѣхъ Словѣнъ розидошася по землѣ и прозвашася имены своими, гдѣ сѣдяше на которомъ мѣстѣ... Такоже и т и [2]) Словѣне пришедше [съ Дуная [3]] и сѣдоша по Днѣпру и нарекошася П о л я н е, а д р у з и и Д р е в л я н е [4]), зане сѣдоша въ лѣсѣхъ; а друзіи сѣдоша межю Припетью и Двиною и нарекошася Дреговичи; инии (сѣдоша на Двинѣ и нарекошася [5])] Полочане, рѣчки ради Полоты, яже втечетьвъ Двину. [Иніи [6])] Словени же пришедше съ Дуная сѣдоша коло озера [Ладожского, и оттолѣ приде и сѣдоша около озера [7])] Ильмера и прозвашася с в о и м ъ

Па доўгіх часах аселі Славяне па Дунаю, дзе цяпер Угорская і Баўгарская землі. І ад тых Славянаў разышліся па зямлі і празваліся сваімі імёнамі, дзе на якім мейсцы аселі... Такжа і гэтыя (усходныя) славяне прышлі з Дунаю і аселі па Дняпру і назваліся Паляне, а другія Дрэўляне, дзеля таго, што аселі ў лясох; а другія аселі між Прыпяцю і Дзьвіной і назваліся Дрыгвічы; іншыя аселі па Дзьвіне і назваліся Палачане, дзеля рэчкі Палоты, што ўліваецца ў Дзьвіну. Іншыя Славяне-ж, прышоўшы з Дунаю, аселі каля возера Ільменя, і празваліся сваім імем, і пабудавалі горад і назвалі Ноўгарад, а другія аселі па Дзясьне і па Семі, і па Суле і назва-

имянем [6]) и сдѣлаша град и нарекоша Новъгородъ, а друзии сѣдоша по Деснѣ [9]), и по Семи [10]), и по Сулѣ [11]) и нарекошася Сѣверъ. И тако розидеся словѣньскии языкъ.

лісяСевер. I так разышоўся славянскі народ.

*Лаўр. сьп., Львоўск. сьп., Іпац. сьп., Нікон. сьп., Васкр. сьп., Софійск. сьп., Соф. 1 сьп.*

[1]) Нікон. сьп.: „обаполъ“. [2]) Пераясл. сьп.: „останци“. [3]) Ўстаўка з Пераясл. сьп. [4]) У Пераясл. сьп.: „Деревляне, Поляци“. [5]) Ўстаўка з Лаўр і Іпац. сьпіскаў. [6]) Ўстаўка з Пераясл. сьп. [7]) Ўстаўка з Васкр. сьп.; у Софійск. сьп. замест гэтага сказу дададзена: „Моиска порицаема“. [8]) У Васкр сьп.: „иным имянемъ“. [9]) У Софійск. сьп: „деснѣй странѣ“. [10]) У Софійск. сьп.: „сѣвернѣй странѣ“. [11]) У Софійск. сьп.: „лиси“.

Годна увагі, што ў гэтай ведамцы аб Крывічох не упамінаецца. Палачане пададзены саўсім асобным самаістным племям, як і ўсе іншыя плямёны. Тебеньков („О происхожд. Руси.“ Тифлисъ 1894, б. 145) робіць з гэтага такі вывад: Гэтае… „першае паданьне захавала памяць аб плямёнах, якія калісьці перасяліліся з Дунаю; паміж тых плямён назовы Крывічоў няма: яна прапускаецца і латапісцам. Вытлумачыць пропуск інакш—спамылкай ці недаглядам — будзе не праўдападобна: спамылка была-бы лішне вялікая і саўсім не адпавядала бы заданьням сумленнага летапісца, які ўзяўся за такую цяжкую працу, а пры афіціяльным яго характары—і адпавядальную“.

Польскі гісторык Лелевэль кажа, што перасяленьне славянаў—байка: „Гэткі вялікі многалічэбны народ, як славяне, не прыходзіць, а вырастае на мейсцы… Ужо за 2000 гадоў і шмат раней, жыў між рэкамі Одрай, Віслай, Нёманам, Бугам, Прыпяцьцю, Дняпром, Днястром і Дунаем той самы народ, які і цяпер жыве, каторага і цяпер называюць Славянскім. Народ гэты вельмі многалюдны, але тады насіў саўсім іншыя назовы“… Dzieje Polski, 1830, бал. 14).

Шафарык у сваёй грунтоўнай працы „Славянскія старажытнасьці“ сабраў шмат довадаў аб пракавечным Карпата-Прыпяцкім паходжаньні Славянаў. Гэта, само сабой, не выключала магчымасьці перасовываньнеся паасобных славянскіх грамад з аднаго на другое мейсца.

Пагудка аб масавым перасяленьні ўсходна-славянскіх плямён з берагоў Дунаю ніякімі гістарычнымі данными не пацьвярджаецца [1]) Ар-

[1]) Летапіс апавядае, што калі *Волахи* напалі на Дунайскіх Славянаў, аселі паміж іх і пачалі прыгнятаць, то адны Славяне пайшлі на Віслу і празваліся Ляхамі, другія пайшлі на Днепр і празваліся Палянамі і г. д. Волохі або Валохі — гэта рымляне. Мова ідзе аб разбураньні імпэратарам Траянам Дака-Гецкага царства, якому папярэднік Траяна, імпэратар Доміціян, плаціў дань. Гэты адзіны з самых ранніх успамінаў Славянства летапісец прыняў за час прыходу Славянаў на Днепр. Але гэту ведамку нельга класьці ў аснову гісторыі ўсходнага Славянства. Магчыма, што вайсковыя Дака-Гецкія дружыны, падбітыя Рымлянамі, вышлі з-над Дунаю і падбоямі

хэолёгічныя данныя гэтак сама хутчэй паказуюць на Прыпяцка-Карпацкі аўтохтонізм славянскіх плямён, чымся на іх масавае перасяленьне. Гэтае паданьне утварылася праўдападобна на аснове дзьвёх праўдзівых падзей: на аснове колішніх падбояў і палітычнай залежнасьці некатарых палуднёва-ўсходных славянаў ад славянаў прыдунайскіх, што вельмі праўдападобна ў стасунку да Палянаў і, наагул, Понтыйскага славяства. Народная памяць аб колішняй залежнасьці ад Дунайскіх Славянаў была падмацавана сьвежым фактам переваґі прыдунайскіх эмігрантаў, пераважна духавенства, ў першыя стагодзьдзі пасьля прыняцьця хрысьціянства. У вуснах навапрыбыўшага баўгара-сэрбскага духавенства аргумант аб ўзаемнай кроўнасьці тубыльцаў і прыходцаў быў важнай зброяй, якая пагаджала мяйсцовае жыхарства з заваёўнікамі і пануючымі станамі. Блізасьць, алё ўсёж-такі адменнасьць кніжнай мовы і мовы тагочаснай інтэлігенції ад мяйсцовай тлумачылася большай архаічнасьцю і чыстасьцю першай, культарная-ж і соціальная перавага прыходцаў, якія тут занялі палажэньне вышэйшага стану, ачавіста пахлебляла мяйсцовым „адзічэўшым“ славянам, што яны — малодшая галіна старэйшага, культурнейшага прыдунайскага пня. З гэтых асноў разьвілося ў часы летапісца паданьне аб перасяленьні ўсіх усходна славянскіх плямён з Дунаю, — з мейсца, адкуль было прынесена хрысьціянства, пісьменасьць і адкуль паходзіла ў значнай часьці тагочасная інтэлігенція, з якой да часу напісаньня летапісу былі ўжо значна зліўшыся другія прыходцы — заваёўнікі Варагі.

Пры, гэтым нічога не гаворачыя топографічныя назовы, як Паляне (сьцепнякі), Дрэўляне (жыхары лясоў), Дрыгвічы (жыхары балот), Север,

ўсходнага Славянства над Дняпром ўрэзаліся апошнім у памяць. Гэта была навала вайсковага стану, які мог часова даць вярхоўны, пануючы элемэнт ўсходна-славянскаму жыхарству, але толькі ня шырокае перасяленьне адразу цэлага народу і такога вялікага, што мог запоўніць край ад Дуная да Волхава.

З Візантыцкіх крыніц нам ведама, што ў III ст. па Н. Х., на землях цяперашняй Украіны, былі заснаваўшы дзяржаву Готы. У IV ст. цар Готаў Германарых заваяваньнямі расшырыў гэту дзяржаву на многія народы ўсходнай Эўропы, ў назовах якіх можна распазнаць Эстаў, Мэру, Мардву. Былі паняволены Германарыхам і Вэнэды, г. зн., Славяне, бо так называлі славянаў ў тыя часы Немцы і другія зах.- эўропэйскія народы. Пісьменнік VI ст. па Н. Х. Іорнанд, які быў родам з Мізіі (з ніжняга Дунаю) і добра знаў Славянаў, кажа, што па паўночных склонах высокіх гор, ад начаў Віслы, жыве многалюдны народ Вэнэтаў, якія называюць сябе рожнымі імёнамі па рожнасьці родаў і мейсца пасяленьня, але галоўныя іх назовы *склавены* і *анты*. Першыя жывуць на поўнач да Віслы, а на ўсход да Дняпра. (usque ad Danastrum); лясы і балоты замяняюць ім гарады. Другія самыя сільныя з Вэнэтаў, Анты, жывуць па берегох Чорнага Мора ад Днястра да Дняпра. Знача, Славяне займалі край ад Карпат да Дняпра, дзе і было іх гняздо. Гэтыя карпацкія Славяне з канца V ст. і праз усё VI ст. грамілі Вызантыю, перайходзячы за Дунай. Дзякуючы гэтым паходам на Візантыю, якія пачаліся ў III ст., стаў засяляцца Славянамі Балканскі паўвостраў. Візантыцкія гісторыкі гавораць аб нападах Славянаў на Візантыю да другой чверці VII ст. З палавіны VII ст. візантыцкія кронікі не даюць ніякіх вестак аб Славянах да XI ст., з якога часу яны ізноў пачынаюць нападаць на Візантыю. Гэты прыпын нападаў Славянаў на Візантыю выходзіцца з навалай Обраў, аб якіх упамінае і Пачатны Летапіс.

(плямёны, якія жылі на поўнач ад Кіява), каторымі надзяляе летапісец аўтохтоннае усходна-славянскае жыхарства, ярка адбівае ад другага парадку племянных (Крывічы, Радзімічы, Вяцічы, Словене) і палітычных (Палачане, Ноўгародцы) назоў. Дзеля гэтага мы павінны сцьвердзіць, што летапісец у першай сваёй ведамцы адзначае толькі адно племя „Словенѣ“ і ў іх два палітычна-племянныя асяродкі: Полацак і Ноўгарад. У пагудцы аб перасяленьні славянаў аўтор Повесьці і не задаецца мэтай разабрацца ў племянных і палітычных стасунках усходнага славянства, яго першая мэта — давясьці адзінства славянскай сям'і, адзінства славянскай мовы. Трэба было яму давясьці, што царкоўна-баўгарская мова павінна быць адна для ўсяго славянства, дзеля гэтага летапісец і стварае тэорыю, падобную да біблійнай, аб разсяленьні славянаў, якую заключае сказам: „тако розыдеся словеньскій языкъ: тѣмже и грамота прозвася словеньская“. А з гэтага ўжо робіць далейшы вывад, што і вера ўсяго славянства павінна быць адна; думку гэту ён зручна падсовуе ў апавяданьні аб пачатку славянсаай граматы: „Перш за усё была дадзена славянская грамата Мораве, якая цяпер на Русі і ў баўгараў дунайскіх. Міфодзі быў біскупам у Панонii, на пасадзе апостала Андроніка, вучня апостала Паўла. А апостал Павал вучыў у Іліры, дзе перш жылі Славяне: знача Павал і нам Русі вучыцель. А славянскае племя і рускае адно племя: ад Варагаў празваліся Русьсю, а спачатку былі Славяне“... („Курсъ Русск. Ист.“ Ключевскаго. Т. I, бал. 98).

Чаму-ж у аснову летапісу паложана тэорыя не аб аўтохтонізме усходнага славянства, а аб прыходзе яго зьнекуль? На гэта адпавядае нам сам характар летапісу: ён ня ёсьць пачародным сьпісаньнем фактаў, але зьяўляецца вучоным творам перапрацоўкай фактаў паводле згары паўзятага пляну і з ясна пастаўленымі мэтамі; гэты помнік паказуе, як уяўлялі сабе пануючыя клясы, кніжныя людзі пачатку XII ст., гісторыю усходнага славянства. Пануючая кляса заўсёды пераносіць свае інтэрасы і свой тэндэнцыйна-дзяржаўны сьвятагляд ня тэрыторыю і народ, над якім пануе, а дзеля таго, што гэта пануючая кляса была прышлай, то яна ахвотна прыпісывала перасяленьне і аб'екту свайго панаваньня. Дзеля гэтага, гаворачы аб перасяленьні Славянаў, аўтор летапісу аруднуе агульнымі і нічога не гаворачымі тэрмінамі: Паляне, Дрэўляне, Дрыгвічы, хоць ведама, што ў палёх (стэпах) жылі ў тыя часы не адны Славяньне, а шмат іншых народаў, як роўна і ў Дрэвах (лясох), акром Славянаў, сяліліся рожныя фінскія і другія плямёны. У ліку тых, што перасяліліся, аўтор называе такжа жыхароў палітычных цэнтраў, у якіх і запраўды сядзелі чужаземныя дружыны, — ў адных даўжэйшы, у другіх карацейшы час, — але не падае мясцовых назоў, асабліва такога вялікага племя як Крывічы, каб ня выклікаць запярэчаньня. Вось чаму, гаворачы аб перасяленьні Славян з Дунаю, Повесьць, а рачай яе аўторы, маўчаць аб Крывічах і, гаворачы аб Радзімічах і Вяцічах, глуха кажуць „бѣ отъ Ляхъ“.

| | |
|---|---|
| Поляномъ[1])... бѣ путь изъ Варягъ въ Греки и изъ Грекъ по Днѣпру и верхъ Днѣпра волокъ до Ловоти ) и по Ловоти внити въ Ильмеръ озеро великое, изъ негоже озера потечетъ Волховъ и | Палянам... ёсць шлях з Вараг у Грэцію і з Грэціі: па Дняпру, а ўверсе Дняпра валок да Ловаці (Болаці) і па Ловаці ўходзіцца ў вялікае Ільмень возера, з якога возера выцякае Волхаў і ўліваецца |

вътечеть въ озеро великое Нево и того озера устье внидеть въ море Варяжское, и по тому морю ити до Рима, а отъ Рима прити по томуже морю ко Царюграду, а отъ Царягорода прити въ Понтъ море, въ неже втечеть Днѣпръ рѣка. Днѣпръ бо потече изъ Оковского [3]) лѣса, и потечеть на полъдне, а Двино исъ того же лѣса потечеть и идеть на полунощье и внидеть въ море Варяжское; исъ того же моря потече Волга на въстокъ и вътечеть семьюдесять жерелъ [4]) въ море Хвалиськое. Тѣмже и изъ Руси можеть ити по Волзѣ въ Болгары и въ Хвалысы и на въсток доити въ жербій Симовъ, а по Двинѣ въ Варяги, а изъ Варягъ до Рима, отъ Рима же и до племени Хамова.

ў вялікае возера Нева і таго бозера вусьця ўходзіць ў Варажскае мора, і па гэным моры ідзецца да Рыму, а ад Рыму па тым жа моры да Царграду, а ад Царграду прыходзіцца ў Понт мора, ў якое ўліваецца рака Днепр. Днепр выплывае з Вокаўскага лесу і плыве на поўдзень, а Дзьвіна з таго-ж лесу плыве на поўнач і ўходзіць ў Варажскае мора і з таго-ж мора плыве Волга на ўсход і ўпадае сямюдзесяцю рыгамі ў Хвалынскае мора. Тым-жа (шляхам) з Русі можна плысьці па Волзе ў Баўгарыю і ў Хвалысы і на ўсходзе дайсьці ў краіны Сімава племя, а па Дзьвіне у Варагі, з Вараг да Рыму, ад Рыму-ж і да Хамавага племя.

*Лаўр. сьп., Іпац. сьп., Нікон. сьп., Васкр. сьп., Тверск. лет., Софійс. 1, Соф. Ноўг., лет. Абрамкі, Львоўск. сьп.*

[1]) Пераясл. сьп.; „Словеномъ“. [2]) Львоўс. сьп. „Волоти“ [3]) Іпац., Пераясл. сьп.: „Воковскаго“; Львоўс. Васкр. „Волковьскаго“; Тверск. сьп.: „Волоковскаго“. [4]) Нікон., Абрамкі: „жерелъ“.

З „Вараг у Грэкі“ істнавалі шмат раней прannoтораныя, бліжэйшыя і выгаднейшыя шляхі па Дзьвіне, Нёману і Прыпяці. Ехаць ад Кіява ў ў Швэцію праз Ноўгарад блізка ў двоя было далей і трудней: трэба пераходзіць, акром фінскай затокі, тры ракі, два возеры, дзьве-тры пераваланкі, тымчасам, як з Дзьвіны ў Бэрэзіну была толькі адна пераваланка. Паводле ўсякай праўдападобнасьці таргоўля бурштыном была першай пабудкай для прамысловага разьвіцьця нашай раўніны, для утварэньня між паасобнымі славянскімі родамі вядомай народнай еднасьці.

Падобна золату, волаву, солі, дарагім скурам, слановай косьці, пернасьцям, — і бруштын іграе значную ролю ў гісторыі аткрыцьця зямель. Бруштын быў тым больш важны, што ён папраўдзе можа быць названы аднамяйсцовым вытворам прыроды, унікумам, бо знаходжаньне яго абмежана выключна толькі невялічкай лапінкай на зямельным клубе, а ласьне—каля Балтыцкага моря. Грэкі ў найдаўнейшыя

часы пасылалі сваіх мораходаў і купцоў з Мілецкіх калоній, каля Понту Эўксінскага, ўверх да Гіпэрборэйцаў (паўночных народаў).

Гэткім чынам у пагоні за бруштыном была першы раз пройдзена па самай сярэдзіне усходная Эўропа, з поўдня на поўнач, ад Чорнага да Балтыцкага мора ў Прусію,—адзінае мейсца знаходжаньня бруштыну Ужо фінікійцы, першапачатныя таргоўцы бруштыном у часы Гомэра, дабывалі яго з Балтыцкага ўзбярэжжа, але скрывалі свае дарогі, якімі даходзілі да бруштынародных берагоў. Грэкі таксама скрывалі тайну дабываньня тавару, роўнавартнага золату.

У пярэдней Азіі і на Архіпэлагу бруштын лічыўся ня толькі найкаштоўнейшым кадзілам ў храмах багоў і царскіх палацах, але і самай дарагой аздобай вычурных вопратак. Хутка і на захадзе, ў Рыме, ў часы імпэратараў „электрон“ стаўся знадабьбем значнага попыту. Гісторык Плініій апавядае (Н. Л. XXXVII, 11), што імпэратар Нэрон шукаў вялікай скалькасьці бруштыну, каб аздобіць пацеркамі з яго сеці, якія акружалі арэну імпэратараў у часе глядыятарскіх гульбішч. Дзеля гэтай мэты пасланы быў сухаходам рымскі ваяр праз Дунай і Панонію да бруштыновага ўзьбярэжжа, ў затоку Baltica.

Што Рымляне мелі тарговыя стасункі з нашым краем, даводзяць многалічэбныя знаходкі рымскіх манэт ў парэччах Прыпяці, Нёману і і Дзьвіны. Пераважна знаходзяць манэты Марка Аўрэлія. („Истор. землевѣдѣнія„. Лекціи К Риттера, СПБ. 1864).

Гэтыя манэтныя знаходкі ідуць безперапынна, пачынаючыся за некалькі стагодзьдзяў да Нар. Хр. і цягнучыся да XII ст. па Н. Хр. Фінікійскія манэты зьмяняюцца грэцкімі, грэцкія зьмяняюцца рымскімі, рымскія арабскімі, арабскія—візантыцкімі, візантыцкія нямецкімі. Усе гэтыя знаходкі з поўнай верагоднасьцю запэўняюць, што названыя рэкі служылі тарговым шляхам ў працягу больш тысячы гадоў да паяўленьня ў Кіяве Варагаў, а такжа, што насяляючыя тутэйшы край папярэднікі Крывічоў, славянскія тутэйшыя плямёны, мелі сталыя стасункі ня толькі з палуднёвай Грэцкай і Рымскай Эўропай, або пазьнейшым нямецкім заходам, але і з Азіяцкімі дзяржавамі Пэрсаў і Арабаў.

Грэцкі даўны тарговы шлях з Балтыцкага ў Чорнае мора ішоў па Нёману, па Вяльі з пераваловай ў Бярэзіну і ў Днепр, скуль у Грэкаў і увесь Днепр насіў назову Бярезіны (Boristenus). Гэта быў самы кароткі і выгодны шлях. Але бязумоўна купцы хадзілі і ад усьцяў Віслы, па Зах. Бугу, з пераваловай ў Чорнаморскі Буг, а такжа па Прэгелю і па Прыпяці ў Днепр.

Географ II ст. па Н. Х., Пталамей, даволі падробна пералічае нават малыя плямёны тутэйшых жыхароў, але болш за ўсё для нас цікава, што затоку, ў якую ўліваецца Вісла з поўдня і Нёман з усходу, называе ён Вэнэдзкай. Ва ўсходным кутку гэтай затокі (а знача пры сутоках Нёмана) ён памяшчае галіну Вэнэдаў, племя Велетаў (Волатаў).

Летапісны шлях „з Вараг у Грэкі“ паказуе толькі тое, якім шляхам ішло Варажскае заваяваньне ўсходна-славянскіх плямёнаў, бо бліжэйшыя шляхі па Нёману Дзьвіне для Варагаў былі недаступны. У гэтай недаступнасьці — была істотная прычына карыстаньня Варагамі далёкім акольным шляхам для сваіх таргова-вайсковых стасункаў з Грэцыяй. Акром таго гісторыя тарговых шляхаў раскрывае нам другую вельмі цікавую старану стараветнай гісторыі усходнага славянства: яна дае нязьбітыя довады таго, што істнавалі дзьве славянскія групоўкі—Балтыцкае Славянства і Понтыйскае, і старая гісторыя гэтых дзьвёх славянскіх галін ішла сваімі асобнымі шляхамі. Ужо пісьменнікі VI ст.

Іорнадн і Пракопій, ясна раздзяляюць даўнейшых Вэнэдаў на дзьве галіны, з якіх заходную (балтыцкую) мянуюць Словенамі, а ўсходна-палуднёвую — Антамі. Як ведама, да заснаваньня Ганзэйскай сувязі, таргоўля на Балтыцкім моры знаходлілася ў руках Балтыцкіх славянаў. Срэзнеўскі выводзіць слова „Hansa“, якое было перанята Немцамі ад Славянаў, ад „Wiąza“—сувязь. Географ II стагодзьдзя Птоламей Балтыцкае мора, ад усьця Віслы да усьця Нёмана, называеВэнэдзкім (Немцы называлі славянаў Вэнэдамі). Ва ўсходным кутку гэтай Вэнэдзкай затокі ён памяшчае Вэнэдзкае племя Велетаў-Люцічоў, па-нашаму—Волатаў. Цікава адзначыць, што магілы бронзавага веку у Барысаўшчыне і некатарых паветах Вітабшчыны і Могілеўшчыны народ называе „валатоўкі“, г. зн., — магілы Волатаў, якіх наш Крывіч лічыць сваімі безпасярэднымі продкамі так жыва, што яшчэ данядаўна ў Праводную нядзелю (Наўскі Вялікдзень) хадзілі на валатоўкі „хрыстосавацца з дзядамі“. Гэтыя данныя гавораць, што да заняцьця Немцамі, торговыя шляхі ад бурштыновых берагоў у Грэцію, знаходзіліся ў руках славянкага племя Волатаў-Люцічоў, якія былі адціснуты ад берагоў Балтыку Немцамі. Аб Люцічох гл. *Шафарыка* „Славянскія Древности“, Москва, 1848, т. II).

| | |
|---|---|
| И по сихъ братьи р о д и х ъ [1]) держати почаша княженіе въ Полях, а въ Деревляхъ с в о е [2]) [княженіе], а Дреговичи с в о е, а Словѣни свое [3]) в ъ Н о в г о р о д ѣ, а другое на Полотѣ, иже Полочане; отъ нихъже Кривичи, иже сѣдять на верхъ Волги, и на верхъ Двины и на верхъ Днѣпра, ихъ же градъ есть Смоленьскъ [град сей отъ нихъ созданъ [4])]: тудѣ бо сѣдять Кривичи; таже Сѣверъ отъ нихъ [5]). | І пасьля гэтых братоў (мова аб Кію, Шчэку і Харыве), іх род пачаў княжыць у Палянаў; а ў Дрэўлянаў сваё (княжэньне), а Дрыгвічы сваё, а Славяне (мелі) сваё, ў Ноўгарадзе, а другое на Палоце, што (называюцца) Палачане; ад іх-жа Крывічы, што сядзяць ў вярхох Волгі і ў вярхох Дзьвіны і ў вярхох Дняпра, іхні-ж горад Смаленск, горад гэты імі збудаваны: бо тут сядзяць Крывічы; такжа Север ад іх. |

*Лаўр. сьп., Іпац. сьп., Нікон. сьп., Васкр. сьп., Тверск. лет., Соф. 1, Соф. Ноўг., Пераясл. сьп., лет. Абрамкі, Львоўск. сьп.*

[1]) У Ноўг., Васкр., Тверск., Саф. 1 і Саф. Ноўг. слова „братьи“, прапушчана; замест гэтага і „род их“ маецца: „родех“, „по сихъ родах“. [2]) Пераясл. сьп.: „собѣ“. [3]) Пераясл. сьп.: „Новгородци“. [4]) Ўстаўка з Пераясл. сьп. [5]) Никон. сьп., Тверск. лет., Соф. 1., лет. Абрамкі—пішуць слова „Сѣверъ“ з вялікай літары і ўвесь сказ: „таже Сѣверъ отъ нихъ“ аддзяляюць ад далейшага пунктам (праз што ведамка аб Северанах набірае значэньня, што яны паходзяць ад Полацкіх Крывічоў).

Прапусьціўшы Крывічоў у ліку плямён, што перасяліліся з Дунаю, летапісец называе іх у ліку тых незалежных дзяржаўных адзінак, якія,

паводле яго вестак, мелі свае асобныя княжствы. Пры гэтым Палачане прызнаюцца за аднаплемных з Ноўгародцамі. Ад Ноўгародзкіх і Полацкіх Славянаў летапісец выводзіць Смаленскіх і Северскіх Крывічоў. Усё гэта тлумачыцца тым, што летапісец карыстаўся некалькімі народнымі паданьнямі, адны ад друг х незалежнымі. Першае паданьне захавала памяць аб плямёнах, ці лепш славянскіх дружынах, прыбыўшых з Дунаю; паміж іх Крывічоў ня было, дык яны і прапускаюцца летапісцам. Далей, калі летапісец пераходзіць да апісаньня навейшых часаў то яму ведамы ўжо Крывічы, і ён сумленна памяшчае іх у ліку плямён, якія „мелі сваё княжэньне“. Летапісец нічога ня кажа аб паходжаньні Крывічоў і аб значэньні іх племяннай назовы, але гэта й ня ўходзіць ў заданьне летапісца, які ўзяўся апісаць Кіяўска-Ноўгародзкую гісторыю Русаў (Зраўняй: *Тебеньковъ*, „О происхождении Руси“, 145 – 146). Паводле летапісца, імя „Словене“ пакрывеецца імем „Крывічы“, і пры гэтым яны займаюць аграмадны абшар ад Вял.-Ноўгараду да Полацка, Смаленска і Любеча, абхоплюючы Палескія балоты на поўдні і стыкаючыся з Літвой на захадзе.

| | |
|---|---|
| Се бо токмо Словѣнескъ языкъ въ Руси: П о л я н е [1]), Деревляне, Ноугородьци, Полочане, Дреговичи, Сѣверъ, Бужане, зане сѣ д о ш а [2]) по Бугу, послѣже Волыняне [прозвашася [3])]. А с е с у т ь и н и и я з ы ц ы и ж е д а н ь д а ю т ь Р у с и [4]) Чюдь, Мера, Весь, Мурома, Черемись, Моръдва, Пермь, Печера, Ямь, Литва, Зимгола, Корсь, Нарова, Либь, си еуть свой язык имуще. | Толькі гэта славянскія народнасьці ў Русі: Паляне, Дрэўляне, Ноўгародцы, Палачане, Дрыгвічы, Северане, Бужане, таму што аселі па Бугу, пазьней Валынянамі пра зваліся. А гэта іншыя народнасьці, якія даюць дань Русі: Чудзь, Мера, Весь, Мурома, Чэрамісы, Мардва, Перм, Пячора, Ям, Літва, Зімгола, Корсь, Нарова, Ліў, гэта ёсьць асобнья народнасьці. |

*Лаўр. сьп., Іпац. сьп., Ноўгар. сьп., Васкр. сьп.. Тверск. л., Соф. 1., Соф. Н., лет. Абрамкі, Львоўскі сьп.*

[1]) Соф. сьп.: „Поляце“. [2]) Іпац.: „сѣдятъ“. [3]) Ўстаўка з Тверск. лет., ў якой далей дададзена: „а Волинци оже Словѣня иже прозваша ю“. [4]) Тверск. сьп.: „сими всѣми обладаху Русь, иже отъ Кіева града, и дань емляху на нихъ“.

У гэтай ведамцы летапісец спачатку пералічае паасобныя плямёны Славянскіх народнасьцяў (языка), пасьля—Фінскага і, ўрэшце,—Літоўскага, пры гэтым за ўходзячыя ў склад Русі прызнае толькі Славянскія („се бо токмо Словенскъ языкъ въ Руси“), а ўсіх іншых да Русі не залічае, бо яны толькі „дань даюць Русі“. З гэтага просты вывад, што ў часы летапісца імя „Русь“ распашыралася толькі на вядомыя славянскія плямёны, а не на Фінскія і Літоўскія. Далей, разглядаючы гэту ведамку, мы, акром таго, бачым, што імя „Русь“ пакрывала сабой далёка ня ўсе і ўсходна-славянскія плямёны. У ліку ўспомненых тут плямён

шмат якія прапушчаны і прытым тякія, каторыя паводле слоў летапісца, вельмі рана падпалі пад уладу прызваных князёў. Дапусьціць, што славянскія плямёны пералічаны тут толькі дзеля прыкладу — трудна, бо ў гэткім здарэньні ў канцы павінна было-бы стаяць нешта кшталтам „і проч.“, „і др.“, чаго мы ў ніводным сьпіску не знаходзім. Астаецца думаць, што пропуск зроблены сьвядома. Разгледзім, якія-ж плямёны прапушчаны? Гэткімі зьяўляюцца: Крывічы, Вяцічы, Радзімічы, Харваты, Дулебы, Улучы і Ціверцы. Аб прычынах пропуску чатырох апошніх мы яшчэ можам думаць, што ў часы летапісца гэтыя плямёны, зусім магчыма, утрацілі сваю старую сувязь з Русьсю, будучы часцю адціснуты, часьцю вынічшчаны Уграмі, Печанегамі, Полаўцамі і інш. Але чаму-ж прапушчаны першыя плямёны? Адзіна легічная, выплываючая з праўднага тлумачэньня летапісаў, атрымліваецца гэткая адповедзь: — таму, што яны ў склад Русі ня уходзілі, Русамі сябе не называлі і за Русь нікім ня лічыліся (Гл. *Тебеньковъ*, „О происх. Руси“).

Аб „Руси“ сярод усходнага Славянства, — кажа Ключэўскі („Курсъ Руск. Ист.“, I, 139), — у VIII ст. саўсім ня чутно, а ў IX і X ст. ст. „Русь“ паміж усходнага Славянства яшчэ ня ёсьць Славяне, бо выдзяляюцца як прышлы і пануючы элемэнт над тубыльчым паднявольным Славянствам.

У Архангелагорадзкім сьпіску летапісу захавалася ведамка, што Ізбарск, які ляжыць каля Вял. Ноўгарада, быў горадам Крывічоў. У Васкрасенскім сьпіску пад 1471 г. пададзена прамова староннікаў маскоўскага князя на ноўгародзкім вечы, дзе Белавозерская Весь названа Крыўскай: „Потомъ же правнукъ его князь Владимеръ крестился и всѣ замли наши крести: Рускую, и нашу Словѣнскую, и Мерску и Кривичску Весь, рекше Бѣлоозерскую, и Муромскую и Вятичи“.

| | |
|---|---|
| Радимичи бо и Вятичи отъ Ляховъ. Бяста бо 2 брата въ Лясѣхъ, Радимъ, а другий Вятко, и шедше сѣдоста [1]) Радим на Съжю [2]) и прозвашася Радимичи, а Вятъко сѣде съ родомъ своимь по Оцѣ, отъ негоже прозъвашася Вятичи. | Радзімічы-ж і Вяцічы ад Ляхаў. Былі 2 браты у Ляхаў: Радзім, а другі Вятка, і прышоўшы аселі Радзім на Сожы і празваліся Радзімічы, а Вятка асеў з родам сваім па Ацэ, і ад яго празваліся Вяцічы. |

*Лаўр. сьп., Іпац. сьп, Нікан. сьп., Васкр. сьп., Соф. 1,, Соф. Н., Пераясл. сьп., Львоўскі сьп.*

[1]) Нікан., Васкр., Пераясл., Соф. 1, Соф. Н.: „сѣдоша“.
[2]) Васкр., Тверск., Соф. 1.: „Рсьшу“.

Акадэмік Шахматаў („Къ вопросу объ образованіи русскихъ нарѣчій“ ў Жур. Мин. Нар. Просв.“, ч. CCCXXII, 1899 г.) кажа: „Трудна дапусьціць, каб у гэтай зьменцы не адблася жывая народная пагудка, абапертая на істотнай праўдзе. Але праўда гэта была не ў паходжаньні Радзімічоў і Вяцічоў ад польскага племя, а ў тым, што некалісь яны сядзелі далей на захад ад таго мейсца, дзе іх застае гісторыя, і пры гэтым у блізкім суседстве з Ляхамі“. Гэтыя легендарныя Радзім і Вятко з родамі іх не канечне мелі быць арганізаваным племем, якое пераходзіла з аднаго мейсца на другое, што мы рашуча адкідаем.

Гэта былі такія ж зьверхнікі купецка-вайсковых дружын, як і Рурык з яго братамі, якія распасьцягалі тут сваё панаваньне над мяйсцовым крыўскім жыхарствам. Імёны іх бязумоўна Славянскія.

„З IX стагодзьдзя Немцы горача і дружна пачалі выбіваць Заходных Славянаў з іх зямель, ад Эльбы. З бегам часу яны ўсё далей і далей ціснулі іх да мора. Хто не хацеў паддацца, павінен быў кінуцца ў мора“ (*Забѣлинъ*. „Истор. Русск. Жизни“, бал. 87).—„Налогі і цяжкая няволя“,—казаў Вагорскі князь у XII ст.,—„зрабілі нам сьмерць больш прыемнай, чым жыцьцё... Няма мейсца на зямлі, дзе мы маглі-бы прытуліцца і ўцячы ад ворагаў. Астаецца пакінуць зямлю, кінуцца ў мора і жыць морскімі глыбінамі“. (*Котлеревскій*, „Древности права Балтійскихъ Славянъ“. Прага, 1874, ч. I, б. 149). Гэтак маглі гаварыць і думаць, многія з тых славянскіх дружын, якія яшчэ ў IX і X ст. ст. дазнавалі націск нямецкай навалы. „Паняволеньне Немцамі Абатрытаў ў 844 годзе безпярэчна прымусіла ўсіх жадаўшых волі, шукаць сабе прыпынку дзеколечы ў пакроўных ім славянскіх землях, а пэўней за усё—на нашым усходзе“ (*Забѣлинъ*, бал. 88). Таргова-вайсковыя славянскія дружыны, асабліва тыя, што сяліліся на востраве Ругія—Велеты, даўно зналі тарговыя шляхі па Нёману й Дзьвіне.

Тебеньков („Происхожденіе Руси“, Тифлис, 1894, ч. I, б. 152 і далейшыя) у імёнах Радзімічы і Вяцічы дабачае сьляды паганскага рэлігійнага культу, перанесенага да нас гэтымі славянскімі дружынамі. „Гэткімі багамі зьяўляліся, прыкл., у гор. Арконе на востраве Руеене (па-славянску „Рана“ або „Руяна“) Сьветавід, а ў горадзе Рэтры, ў зямлі Радаран, паходзячых з племя Люцічоў (Вільцаў) — Радагост... Абодвы імёны відаць складныя і раскладаюцца на Света-віт і Рада-гост; у першым імю мы заўважаем прыметнік—сьветлы або сьвяты (абодвы аднаго караня) і віт—пераможца (санскрыцк. Vidjaya—перамога, той-жа карэнь чуваць у славянскім слове віт-язь. Другое імя складаецца з Раде і госьць, на сучаснай мове—купец.

Ключ для аб'ясьненьня паходжаньня гэтых імён можна знайсьці ў гісторыі Балтыцкіх Славянаў. Жыхары горада Ругіі або Руяны былі галіной некалісь вельмі сільнага племя, але ў VIII ст. аслабеўшага. Племя гэтае жыло побач з Нямецкімі варажымі народамі і яно павінна было весьці з імі цяжкія, заўзятыя і заўсёдныя войны. Праўда, побач з гэтым яны займаліся і таргоўляй, але гэта вечнае змаганьне з заўзятым ворагам, якое цягнулася, мабыць, многа сталецьцяў, павінна было адбіцца на іх быце і сьветаглядзе. Племянны іх бог мусіў набыць ваяўніцкі характар, і імя „Сьветлы-пераможца“, увекавечыла яго галоўны характар.

Палажэньне паклоннікаў Радегаста было саўсім іншае. Іх землі нідзе не гранічылі з Немцамі, яны знаходзіліся ў другой баявой лініі, акружаныя і заслоненыя сваімі аднаплемцамі. Акром таго, маючы пры сваёй зямлі бераг мора з вусьцямі многіх вялікіх рэк, яны з самых даўных часоў абярнулі сваю энэргію на таргоўлю і мораплаўніцтва. Дзеля гэтага галоўнае праяўленьне сілы і магутнасьці іх бога павінна было выразіцца ў апецы іх галоўнага заняцьця—таргоўлі. І вось у іх галоўны бог „Радегаст“ (па-славянску — „Радегощ“),—апякун таргоўлі і купцоў, „Радѣтель гостьбѣ“ (таргоўлі).

Гэтак, галоўнымі багамі у Прыбалтыцкіх Славянаў былі „Рад“ апякун і „Віт“ — пераможца. Калі мы пароўнаем карані імён гэтых багоў

з каранямі назоў Рад-імічы і і Вит(або Вят)-ічы,—падобнасьць атрымаецца паражаючая [1]). Запазычаньне гэтых імён ад Прыбалтыцкіх паганскіх багоў пацьвярджае часьцю сам летапісец які кажа аб прыходзе гэтых плямён з захаду ад Ляхаў. Ляхамі-ж ён называе ўсіх ведамых яму заходна-Прыбалтыцкіх Славянаў, прыкл., Люцічоў, Паморцаў і др. Паданьне гэтае, мабыць, летапісцам ня выдумана, бо на гэта ў яго ня было ніякай мэты, а ўзята з даўнай народнай пагудкі.

Падругое, на Крыўскай тэрыторыі Радзімічы пакінулі многа сьлядоў свайго істнаваньня ў назовах мяйсцовасьцяў, рэк і др. Гэтак, ў аколіцах р. Сожы мы сустрачаем назовы сяліб Радомля, на р. Проні—Радчына, Радзінскае, Радовішча; рэкі Радзіца, Радовішча і многа іншых, пры гэтым некатарыя з іх напамінаюць імя бога шмат больш, чым сама назова племя. Прыкладам, на рацэ Нерусі [2]) сяліба Радагошч ніжэй горада Дзьмітраўска; другая сяліба Радагошч на палуднёвы захад ад Дзьмітраўска; Радагошч у аколіцах р. Сойма; Радагошч каля ракі Дзясны і, ўрэшце, Радагушч на правым беразе ракі Акі, на поўнач ад гор. Адаева. (*Барсовъ.* „Географія начальной лѣтописи“. Варшава, 1873, бал. 134).

На абшары Крыўскіх зямель нямала захавалася назоў і з каранём *Віт.* Прыкл. стары горад Віцічоў, рэчка Віцьба і на ёй горад Вітабск (стар. Вітбеск).

Прыходзячы да нас з паморскага краю, дзе была зямля Славія, Люцічы-Волаты прынасілі і сваё краёвае імя, якое яны надавалі асабліва сваім вайскова торговым стаянкам. У вусьцях Нёмана быў горадок Славонія. Паміж вярхоўямі (начамі) Вяльі, Бярэзіны й Нёмана мы знаходзім можа самую найдаўнейшую сялібу Люцічоў-Волатаў, сяло Славагошч, ў начах ракі Гайны, каля Лагойска. Тут праходзіў самы просты шлях з Нёмана ў Днепр (Нёман — Вялья — Бярэзіна). Славяне йшлі да гэтага Славагошча пераволокамі —і вось на дарозе паміж Вяльёй і Гайнай знаходзім дзьве сялібы Стайкі.

На гэтай рачной вышыне, адкуль ва ўсе стораны расцякаюцца дробныя рэчкі і дзе ляжаць Радашковічы і Менск, пачынаецца, між іншым невялічкая рэчка Бярэзіна —даплыў Нёмана (не-Дняпроўская). На гэтай Бярэзіне стаіць мястэчка Славенск, старадаўны горад, які акружаны імёнамі мейсц, носячых прастары славянскі характар і сустрачаных ва ўсіх славянскіх землях: Нерава, *Холхлы*, Доры, Кіявец, Валожын, Волма, Віткоўчына. Супроць сутокаў Бярэзіны й Нёмана з левай яго стораны знаходзіцца Навагорадак, а на поўнач ад яго знаходзім сялібу Славіненту. Ад горада Славенска на Нёманскай Бярэзіне, блізка ў простым кірунку на захад, у адлегласьці 90 вёрст істнуе, як мы ўжо зазначылі, Славагошч; адгэтуль 35 вёрст да Барысава. Ад Барысава 75 вёрст на захад есьць Славені, ў начах р. Бабра, доплыву р. Бярэзіны; далей 50 вёрст на захад — Славеня, злева ад Дняпра, каля Шклова; яшчэ далей 50 вёрст у тым-жа кірунку — Слаўнае ў начах р. Проні. Калі гэтымі імёнамі можа азначацца шлях, па якому ішла словенская (Лютыцка-Волацкая) таргоўля, то яны паказуюць на

[1]) У „Чтеніяхъ Общ. Истор. и Древн. Рос.“ (1846, № 1, балон. 11) Суровецкі падае цікавую думку, што Анты, Вэнэды, Вэнэты і Вяцічы гэта адно і тое-ж самае найменьне. Як ведама, Вэнэды ў VI ст. кіравалі напа дамі на Візантыю і панавалі на Балтыцкім моры.

[2]) Варта зьвярнуць увагу на гэту драбніцу: рака Радзімічоў названа „Не-Русь“.

кірунак галоўнай дарогі ад усьцяў Нёмана. Галоўнымі станціямі гэтай таргоўлі былі пасьля Славоніі на ніжнім Нёмане — Славянск на нёманскай Бярэзіне, або агульная рачная вышыня каля на́чаў Нёмана, Вялы і дняпроўскай Бярэзіны, дзе стаіць старадаўны горад Менск, каля каторага за 7 вёрст на ўсход маецца сяліба Слаўцы.

Абаснаваньнеся Словен (Люцічоў-Волатаў) ў прыільменскай старане адбывалася з Нёманскага шляху ўнутранымі дарогамі, а не ў абход па моры. Ад на́чаў дняпроўскай Бярэзіны плыве ў Дзьвіну р. Ула; 25 вёрст на захад ад яе сутокаў знаходзім ніжэй Полацка сялібу Славену пры возеры. Ад Улы ўверх Дзьвіны дарога йдзе да Суража, дзе ў Дзьвіну ўліваецца р. Усьвяч, якая выплывае з вазёр Усьвята і Усменя, а ад гэтых вазёр ў 5 ці вярстах працякае рака Ловаць (паводле летапісу —Волаць) да гор. Вялікіх-Лук, міма сялібы Славуя, пры возеры, на левым беразе, і пасьля — Купуя, на правым беразе. Рака Ловаць або Волаць ужо прыпамінае Волатаў, ды і ўсе магілы бронзавага веку ў гэтай старане называюцца „валатоўкі“.

На поўдзень ад Нёманскага шляху, ў парэччы Прыпяці, такжа сустрачаем імя Славян ў сялібе Словінску, паміж Спораўскім возерам, праз якое працякае Яселда, і ракой Мухаўцам, якая ўліваецца каля Берасьця ў Буг. Гэты Словінск распаложаны на перавале, які злучае шлях Балтыцкага і Чорнага мора. Гэта ў на́чах Прыпяці. У нізох яе адзін са значных левых доплываў мае назоў Славэчна, ў якую ўліваецца рэчка Славянішка. Адгэтуль на поўнач, пры ўтоках Бярэзіны ў Днепр, ёсьць возера Славенскае.

Паданьне аб прышоўшым з-за мора Туры, які княжыў на Прыпяці ў Тураве, мабыць,—паданьне вельмі даўнае. Летапісец спамінае аб ім мімаходам, кажучы аб Полацкім Рогвалодзе, і тлумачыць, што і той і другі прышлі ў наш край самі па сабе, незалежна ад Ноўгародзкага „прызваньня“; але калі.—аб гэтым ня кажа. Імя „Туро“ ўпамінаецца Іорнандам, пры сьпісаньні падзей III стагодзьдзя. Можна думаць, што купецка-тарговыя дружыны Словенаў (Люцічоў-Волатаў) пад камандай гэтага Тура заснавалі над Прыпяцьцю дзяржаўна-палітычную адзінку.

Але цікавей за усё тая акалічнасьць, што імя „Словены“ зьяўляецца ўсюды, дзе толькі адкрываецца лучнасьць водных шляхоў. Толькі што мы назвалі Славенск, каля якога дацяпер істнуе старасьвецкі Славагошч.

Усе гэтыя сялібы са славянскім імем трэба аднесці да даўных тарговых і прамысловых паходаў па нашым краю Балтыцкіх Славянаў, лепшых маракоў свайго часу. Іх гісторыя не запісана, або запісана чужаземцамі ў позныя часы, калі яна ўжо саусім канчалася. Дык ня дзіва, што ў кроніках нічога няма аб іх сувязі з нашым краем. Але агромны лік пагудак аб Волатах, якія апавядаюцца й цяпер па Нёмане, Вялі, Прыпяці і Дзьвіне, паданьняў, аб якіх апавядае й Пачатны Летапіс, кажучы аб прыходзе Радзімічоў і Вяцічоў ад Ляхаў,—хіба-ж ўсё гэта не становіць паважнага сьведчаньня. З усей усходна-славянскай раўніны імя Славянаў найбольш зазначана ад усьцяў Нёмана да верхняй Волгі і Белавозера, з паваротамі направа й налева, па усёй Крыўскай зямлі. Дзеля гэтага летапісец саўсім правільна паступае, не разрожніваючы ноўгародзкіх Словенаў ад полацкіх, якія былі на Крыўскіх абшарах таргова-дружыннай клясай да нормандзка-нямецкай навалы праз Фінскую затоку. Саўсім правільна называе летапіс Радзімічоў і Вяцічоў прышоўшымі ад Ляхаў, бо гэта былі дружынныя старшыны тых-жа словен-

скіх (Люціцка-Волацкіх) дружын, якія мелі імёны, выводныя ад популярных у сябе багоў.

А Радимичи, и Вятичи и Сѣверъ одинъ обычай имяху: живяху [1]) въ лѣсѣхъ, якоже и всякий звѣрь, ядуще все нечисто, и срамословье въ нихъ предъ отци и предъ снохамі [2]), и браци не бываху въ нихъ, но игрища межю селы; схожахуся на игрища, на плясанье и на вся бѣсовская игрища, и ту умыкаху жены собѣ, съ нею же кто съвѣщашеся (*Пер.* „...и ту умыкаху собѣ жены...“ прапушчана; замест гэтага дададзена: „и ту слѣгахуся, рищуще на плясаніа, и отъ плясаніа познаваху; которая жена или дѣвица до младыхъ похотеніе имать, и отъ очного взозрѣнія, и отъ обнаженіа мышца, и отъ прѣстъ ручныхъ показаніа, и отъ прьстнеи даралаганіа на прѣсты чужая, тажъ потомъ целованія съ лобзаніемъ и плоти съ сердцемъ раждегшися, слагахуся, иныхъ поимающе, а другыхъ поругавше, метааху на посмѣяніе до смерти“); имяху же и по двѣ и по три жены. И аще кто умряше, творяху тризну над нимъ, и посемь творяху кладу [3]) велику, и взложахуть и на кладу [4]) мертвеца сожьжяху, а по семь собравше кости, вложаху въ судину малу и паставляху на столпѣ на путѣхъ [и въ курганы сыпаху [5]], еже творять Вятичи и

А Радзімічы і Вяцічы і Север аднакі абычай мелі: жылі ў лясох, як і ўсякі зьвер, ядучы ўсё нячыстае, і лаянка ў іх перад бацькамі і перад нявесткамі, і шлюбаў не бывала ў іх, але ігрышчы паміж сёламі: сходзіліся на ігрышчы, на танцы і на ўсе бесаўскія гульні, і тут умыкалі жон сабе, з каторай хто зьвеціцца (*Пераясл. сьп.*: „...і тут умыкалі сабе жоны“ прапушчана; замест гэтага дададзена: „і тут зьлягаліся, лётаючы на танцы, і з танцоў пазнавалі каторая жонка або дзева мае похаць да маладых, і ад вочнага пагляданьня, і ад абнажаньня пахаў, і ад пальцаў ручных паказаньня і ад персьняў ў дары ўскладаньня на чужыя пальцы, такжа пасьля цалаваньня і цела з сэрцам распаліўшы, зьлягаліся, іншых бяручы (ў жоны), а другіх зьняважыўшы, кідаючы на высьмяваньне да сьмерці“); мелі-ж і па дзьве і па тры жоны. І калі хто памрэ, трызну па ім спраўлялі, і пасьля рабілі груд вялікі, і ўсклаўшы на груд мярца спалялі, а пасьля сабраўшы косьці, ўкладалі ў малое начыньне і стаўлялі на стаўпе пры дарогах [і курганы насыпалі], што робяць Вяцічы і цяпер. Гэтыя-ж абычаі маюць Крывічы і іншыя

нынѣ. Си же творяху обычая Кривичи и прочии погани, не вѣдуще закона Божия, но творяще сами собѣ законъ.

пагане, якія ня ведаюць Божага закону, але самі сабе творацць закон.

*Лаўр. сьп., Іпац. сьп., Нікон. сьп., Тверск., Соф. 1, Соф. Н., Пераясл. сьп., Львоўск. сьп.*

[1]) Пераясл.: „потомъ начаша жити“. [2]) Нікон., Васкр., Твер., Соф. 1, Соф. Н.: „предъ редители, и племени не стыдятся“. [3]) Пераясл. сьп.: „громаду дровъ“. [4]) Ўстаўка з Пераясл. сьп.

Першапачатковыя адзіночныя, зложаныя з найбліжэйшых сваякоў, сялібы, якімі жылі ўсходныя славяне, з бегам часу разрасталіся ў сёлы, каторыя памяталі аб сваім агульным паходжаньні, захаваным ў бацькаўскіх назовах гэткіх сёл: Жыд*чычы*, Мірац*ічы*, Дзедз*ічы*, Дзедагосьц*ічы*. Для такіх сёл, зложаных са сваякоў, важнай справай было дабываньне жон. Пры панаваньні многажэнства сваіх жанок нехватала, а чужых не уступала радня дабрахоць і дармо. З гэтага вынікала патрэба дабываньня жон крадзежай. Такія крадзежы адбываліся, поводле летапісу „на игрищахъ межю селы“, г. зн., — на рэлігійных сьвятах ў чэсьць агульных, ня родавых багоў „ у воды“, каля сьвятарных крыніц або на берагох рэк і вазёр, куды зьбіраліся жыхары і жыхаркі з рожных сёл. Пачатны Летапіс выбражае рожныя формы жанідзьбы і рожныя ступені „людзкасьці“, культурнасьці ўсходна-славянскіх плямён. Дзеля таго, што ацэншчыкам гэтай культурнасьці быў манах, які паходзіў з Палянаў, то ён з гэтай стараны ўсе іншыя плямёны ў параўнаньні з Палянамі стаўляе ніжэй. Апісуючы паганскія абычаі Радзімічоў, Вяцічоў, Северанаў і Крывічоў, ён адзначае, што на тых „бѣсовскихъ“ игрышчах „умыкаху жены собѣ, съ нею же кто съвѣщашеся“, гэта знача, — з каторай хто змовіцца. „Умычка“ і была ў вачох стараветнага палянскага пісьменніка нізшай формай жанідзьбы, нават запярэчаньнем яе: „браци не бываху въ нихъ“, а толькі „умычкі“. Сварка між родамі, выкліканая „умычкай“ чужых жанок, лагодзілася вяном, — адступным выкупам за захопленую нявесту ад яе сваякоў. З часам вяно абярнулася ў простую прадажу нявесты жаніху яе сваякамі, паводле ўзаемнай угоды абедзьвех старон; акт гвалту замяняўся угодай з абрадам мірнага „хожденія по невѣсту“, якое такжа, як відаць, праводзілася аплатай вяна. Вось гэты другі абычай — купляньня жон — быў у Палянаў: „не хожаше зять по невѣсту, но привожаху вечеръ (прыводзілі яе вечарам да жаніха), а заутра приношаху по ней, что вдадуче“, г. зн., — на другі дзень прыносілі за нявестай, што давалі: у гэтых словах бачаць паказ на пасаг. Так чытаецца гэтае мейсца ў Лаўрэнціеўскім сьпіску летапісу. У Іпаціеўскім: „ завтра приношаху, что на ней (за яе) вдадуче“. Апошні сказ хутчэй гавора аб вяне. Абедзьве рэдакцыі адзначылі дзьве новыя стадзіі ў разьвіцьці форм жанідзьбы. Ходжаньне жаніха па нявесту, якое замяніла „умычку“, было заступлена прыводам нявесты да жаніха. (Гл. *Ключевскій*: „Курсъ Руск. Истор.“ ч І, М. 1914., бал. 129 — 131).

По сихъ[1]) же лѣтѣхъ, по смерти братьѣ сея, [Радима и Вятка[2]] бы-

У гэтыя годы, па сьмерці братоў тых, Радзіма і Вяткі, былі крыў-

ша обидимы [роды ихъ][3]) Деревляны [4]) и инѣми околнымі.

джаны роды іх Дрэўлянамі і іншымі суседзямі.

*Лаўр. съп., Іпац. съп., Нікон. съп., Адрывак Ноўг., Соф. 1, Соф. Н., Пераясл. съп., Львоўскі съп.*

[1]) Пераясл. съп.: „по мнозѣхъ“. [2]) Ўстаўка з Львоўск. съп.; ў Пераясл. съп. замест. „Радима и Вятка“ напісана „Кія, Щека и Хорива“. [3]) Ўстаўка з Лет. Абрамкі; ў Тверск. лет.: „Поляне“. [4]) Соф. і Лаўр. съп.: „Древляне“.

У гэтай летапіснай ведамцы чуваць адгалосак даўных змаганьняў паміж Балтыцкім і Понтыйскім славянствам. Летапісец адносіць гэтыя змаганьні ў часы легендарныя: „па сьмерці братоў тых“. Адны летапісы паказуюць, што гэтыя крыўды дзеяны патомкам Радзіма і Вяткі, а іншыя,—што патомкам „Кія, Шчэка і Харыва“.

Въ лѣто 6367. Имаху д нь Варази приходяще] [1]) изъ заморья[2]) на Чюди и на Словѣнѣхъ, на Мери и на Вьси[3]) и на Кривичихъ[4]) [отъ мужа по бѣлѣ веверицѣ][5]); а Козари имаху[6]) на Поляхъ[7]) и на Сѣверѣ и на Вятичихъ, имаху по бѣлей веверицѣ[8]) отъ дыма.

Году 6367. Бралі дань Варагі, прыходзячы з замор'я ад Чудзі, і ад Словенаў, ад Меры, і ад Весі, і ад Крывічоў, ад мужа па белай вавёрцы, а Казары бралі ад Палянаў і ад Северанаў і ад Вяцічоў, бралі па белай вавёрцы ад дыма.

*Лаўр. съп., Іпац. съп., Нікон. съп.,Васкр. съп., Тверск. съп., Соф. 1, Соф. Н., Пераясл. съп., Пскоўск. 1., Пскоўск. 2., Абрамкі, Архангелагор. съп.*

[1]) Ўстаўка з Іпац., Нікон., Соф. Н., Пераясл., Пск.1. [2]) Абрамкі: „за море“. [3]) Папраўлена на „Вьси“ паводле Шахматава „Повѣсть временныхъ лѣтъ“, Петр., 1916; у Пераясл. съп.: „на весѣхъ“; у Тверск., Соф.1., Соф.Н., Пераясл., Лаўр., Абрамкі: „на всѣхъ“. [4]) У Нікон.: „на чюди“... заменена: „на Словѣнехъ, рекше на Новгородцехъ, и на Мещерехъ и на Кривичѣхъ“; гістор. Тац шчаў дадае: „и отъ Русси“. [5])Васкр.: „вѣкшицѣ“, Нікон.: „по бѣлѣ вѣверецѣ“; ўстаўка паводле Нікон., Тверск., Соф 1., Соф. Н., Пскоўск. 2.; Арханг. гэту ведамку памяшчае ўсьлед за кароткім апавяданьнем аб жыцьці плямёнаў гэткімі словамі: „Словени свою власть имуще, а Кривичи свою, а Меряне свою, и кождо своимъ родомъ живяше“ (Ноўгар.1.: „владяше“); а Чудь (Арханг.: „Новгородцы“) свою власть имуще; и дань даяху Варягомъ“. Але пасьля Ноўг. 1. і Арханг. расходзяцца: Н.1—„отъ мужа по бѣлѣ веверици“, Архан.—„отъ человѣка по бѣлѣ вѣкшицѣ на годъ“; у Пскоўск.2—прапушчана; пасьля ўсе тры дадаюць: „а иже у нихъ живяху Варяги [Пскоўск. 2: „или даньщики тѣхъ“], то тѣ насиліе дѣяху имъ, Словѣномъ, и Кривичемъ, и Меряномъ, Чюди“. [6]) Пераясл.: „на Козарѣхъ“. [7]) Пераясл.: „на Кіянѣхъ“. [8]) Васкр., Тверск., Соф.1., Ноўгар. 1: „по бѣлѣ вѣкшицѣ“; Нікон.: „по бѣлѣ, рекше по вѣкше“; Абрамкі: „по бѣлѣ“ (проста).

У палавіне IX ст. палажэньне ўсходнага Славянства паводле Летапісу было такое, што на поўначы бралі з яго дань Варагі, а на поўдні — Хазары. Гэты адвечны падзел на Балтыцкае і Понтыйскае Славянства аўтор Повесьці праўдна перадае ў аснове: землі Словена-Крыўкія ўходзілі ў сфэру Балтыцкіх інтэрасаў, а землі Палянаў і другіх палуднёвых Славянаў ўходзілі ў сфэру камплексу інтэрасаў Чорнаморскага пабярэжжа.

У 859 годзе Варагі бяруць яшчэ дань „прыходзячы з замор'я" гэта знача, яны яшчэ тут ня селяцца. Яны прыяжджаюць з-замор'я і выбіраюць дань ад Словенаў (гэта знача ,— паводле Летапісу — Ноўгародцаў), ад Чудзі, ад Меры, і ад Весі, і ад Крывічоў Што да апошніх, то трэба думаць, што Варагі не выбіралі дані з усей Крыўскай зямлі, а толькі з паўночных яе частак, бо тады-б Варагам ня трэ' было хадзіць акольным шляхам па дань ад Крывічоў праз Фінскую затоку: яны мелі-бы бліжэйшы і лепшы шлях праз Дзьвіну і Нёман, тым часам яны гэтым бліжэйшым шляхам не хадзілі, а не хадзілі таму, што не давала ім тут праходу нязломленая імі воля Крывічоў і што targовы шлях па Дзьвіне і Нёману знаходзіўся ў руках нашых і заходных Люцічоў—Славянаў.

Хазары, пачынаючы з VII ст., валадалі абшырным краем ад Дняпра да Каспійскага мора і Волгі, ў сфэру іх уплываў ўходзілі і крыўскія галіны Северан і Вяцічоў. Хазары ва ўсім Каспійска-Чорнаморскім краю аж да Кіява і Чарнігава трымалі ў сваіх руках таргоўлю; Варагі-ж імкнуліся заваладзець ўсей таргоўляй поўначы, што, ўрэшце, і ўдаецца ім даканаць 400 гадоў пазьней, калі Немцы занялі усьце Дзьвіны, але яшчэ ў IX ст. сфэра торговых уплываў на Балтыцы падзялялася між Славянамі і Немцамі, якія прабівалі сабе дарогу на поўначы праз Ноўгарад.

Хто панаваў сваім торгам на Балтыцкім памор'і гэта лепш за ўсё відаць з таго, што Люцічоў-Волатаў замяняюць на Балтыцы не паўночныя Нормане, а Ганзэйская Сувязь палуднёвых Немцаў, г. зн., — тое-ж славянскае Памор'е, заваёванае Немцамі. Галоўнымі асяродкамі Ганзэйскай таргоўлі і для Немцаў служаць тыя-ж славянскія Паморскія гарады. Немцы абаснаваліся ў старых і даўно наседжаных славянамі гнёздах. З пазьнейшых данных (умоў, заключаных Смаленскам і другімі крыўскімі цэнтрамі з гарадамі Любэкам, Вісмарам і Штэцінам) можна дагадывацца, што торг па Дзьвіне і Нёмане знаходзіўся ў руках Люцічоў, якія яшчэ ў II ст. па Н. Х. мелі сваю торговую філію ў вусьцях Нёмана.

| | |
|---|---|
| Въ лѣто 6370... И въ тоже время возсташа¹) Кривичи и Словѣнѣ и Чюдь и Меря²) на Варяги, [рекше на Нѣмци]³), и⁴) изъгнаша Варяги за море и не даша имъ дани, и почаша сами собѣ володѣти⁵) [и грады ставити]⁶); и не бѣ въ нихъ правды, и [паки]⁷) въста родъ на родъ⁸) и быша въ нихъ усобицѣ⁹) и воевати почаша сами на ся. И [събравшеся], | Году 6370... І ў той час паўсталі Крывічы, і Словені, і Чудзь, і Мера на Варагаў, маўляў Немцаў, і прагналі Варагаў за мора і не далі ім дані, і пачалі самі сабой валадзець і гарады ставіць; і не было ў іх праўды, і зноў паўстаў род на род і былі ў іх міжсобіцы і ваяваць пачалі самі з сабой. І сабраўшыся мовілі самі сабе: „пашукаем сабе князя, каб валадзеў на- |

рѣша сами въ себе: „поищемъ собѣ князя иже володѣлъ нами и судилъ[11]) по праву, и идоша[12]) за море къ Варягомъ къ Руси[13]); сице бо тіи звахуся Варязи Русь, яко се друзии зовутся Свие[14]), друзии же Урмане, Анъгляне, друзии Гъте, такои си[15]). Рѣша Руси[16]) Чюдь[17]), Словѣни [рекше Новгородци][18]), Кривичи[19]) [и Вси[20]] : „земля наша [добра][21]), велика и обильна, а наряда[22]) въ ней нѣтъ, да поидѣте княжити и[23]) володѣти нами. И изъбрашася[24]) три братья [отъ Нѣмец][25]) съ роды своими[26]) и пояша по собѣ всю Русь[27]) и придоша: старѣйшій Рюрикъ сѣдѣ Новѣгородѣ[28]) а другій, Синеусъ, на Бѣлѣ-озерѣ, а третій Труворъ, Изборьстѣ[29]), [а то нынѣ пригородъ Псковскій, а тогда былъ въ Кривичехъ большій городъ][30]); [и начаша воевати всюду][31]). И отъ тѣхъ Варягъ находниковъ][32]) прозвашася Русь и оттолѣ словеть Руская земля[33]).

мі і судзіў па праву", і пайшлі за мора к Варагам к Русі; гэта так зваліся Варагі-Русь, як то другія завуцца Швэды, другія Нормане, Англяне, другія Готы, так і гэтыя. Мовілі Русі Чудзь, Словені, маўляў Ноўгародцы, Крывічы і Весь: „зямля наша добрая, вялікая і багатая, а ладу ў ёй няма, прыдзеце княжыць і валадзець намі. І абралася троя братоў спаміж Немцаў з родамі сваімі і ўзялі з сабой ўсю Русь і прышлі да Словенаў: старшы Рурык. сеў ў Ноўгарадзе, а Сінеус ў Бела-возеры, а трэцьці, Трувар, — ў Ізбарску (Словенску), цяпер гэта прыгарад Пскоўскі, а тады быў у Крывічоў вялікі горад; і пачалі ваяваць усюды. І ад тых Варагаў прыходнікаў празваліся Русь і стуль слыве Руская зямля.

*Лаўр. съп., Іпац. съп., Нікон. съп., Васкр. съп., Тверск. съп., Соф. 1, Соф. Н., Пскоўскі 1, Пскоўскі 2., Абрамкі, Ноўгародзкі 1, Архангелагор., Львоўскі.*

[1]) Львоўскі: „воевали". [2]) Нікон.: „Словене, рекше Новгородци, и Мера и Кривичи". [3]) Ўстаўка з Тверск. і Львоўск. [4]) Лаўр., Іпац., Пераясл., Абрамкі: „и въ тоже время". [5]) Пераясл.: „быти безъ власти". [6]) Ўстаўка з Нікон., Васкр., Тверск., Соф. 1, Соф. Н., Пскоўск. 1, Ноўгародзк. 1, Арханг. [7]) Ўстаўка з Абрамкі. [8]) З Пскоўск. 2.; у Ноўгар. 1., Соф. Н., Арханг.: „градъ на градъ". [9]) Тверск., Соф. 1, Пскоўск. 2,: „и бысть межи ими рать". [10]) З Ніконаўск.; у Арханг.: „снидошася вкупѣ". У Тацішчава дададзена: „старѣйшины земли, собравшись отъ Славянъ, Руси, Чуди, Кривичъ и прочихъ предѣлъ". [11]) Іпац.: „и рядилъ по ряду"; Васкр., Тверск., Соф. 1.: „и рядилъ ны и судилъ бы во правду"; Абрамкі, Архангел.: „судилъ бы по правдѣ"; Соф.: „иже

бѣнами водилъ, и радѣлъ, и судилъ правду"; Никон..: „поищемъ межь себѣ, да кто-бы въ насъ князь былъ и владѣлъ нами, поищемъ и уставимъ таковаго или отъ насъ, или отъ Козаръ, или отъ Полянъ, или отъ Дунайчевъ, или отъ Варягъ. И бысть о семъ молва веліа, овѣмъ сего, овѣмъ другаго хотящимъ. Таже совѣщавшеся, послаша въ Варяги." Васкр. перадае гэту ведамку саўсім іначы: „и послаша къ Нѣмцемъ; и послы же Новоградскіе шедше въ Прускую землю, обрѣтоша князя Рюрика, отъ рода Римьска царя Августа, и молиша его, дабы шелъ княжити къ нимъ. Князь же Рюрикъ взя съ собою два брата, Синеуса и Трувора. и племяника своего Олга и нача мыслити, хотя ити на Русь". [12]) Нікон., Тверск., Соф. 1, Соф. Н., Львоўск. [13]) З Ніконаўск. сьп. [14]) Соф. сьп. „друзии зовутся Свие" прапушчана. [15]) Псковск. 1, Ноўгар. 1, Арханг. „сице бо" прапушчана. [16]) Іпац., Пераясл.: „Русь"; Васкр., Тверск., Соф 1, Соф. Н., Львоўск.: „Варягомъ". [17]) Нікон.: „Меряне"; Арханг.: „Чудь и Меряне". [18]) Устаўка з Нікон. сьп. [19]) У Псковск. 1 „Кривичи" прапушчана. [20]) Ўстаўка з Лаўр., Іпац., Пераясл. [21]) Устаўка з Васкр., Тверск., Соф. 1. [22]) Васкр., Твер, Соф. 1, Архангелагор: „нарядникъ"; Псковскі 2: „кто бы владѣлъ нами и по праву рядилъ"; Нікон.: „анаряда въ ней нѣтъ" прапушчина. [23]) У Нікон „княжить и" прапушчана. [24]) Псковск. 2: „ и вдаша имъ". [25]) Ўстаўка з Іпац., Васкр., Тверск, Соф. 1; у Абрамкі: „Князи Нѣмскія"; Псковскі 1: „отъ Варягъ, отъ Нѣмецъ". [26]) Нікон., Пераясл., Львоўск.: „родомъ своимъ"; Тацішчаў: „своими домами". [27]) Васкр., Тверск., Соф. 1, Архангелагор., Ноўгар. 1: „дружину многу"; Нікон., Псковск. 1, Псковск. 2, Львоўск. „пояше по себѣ..." прапушчана. [28]) Іпац., Пераясл.: „и придоша къ Словѣномъ пѣрвѣе и срубиша гародъ Ладогу, и сѣдѣ старѣйшій въ Ладозе Рюрикъ"; гэтак перадае і Тацішчаў; з мест „срубиша городъ" у яго: „утвердили городъ старый"; Нікон: „и бысть Рюрикъ старѣишина Новѣгородѣ, а Синеусъ старѣйшина бысть на Бѣлѣ-озерѣ". [29]) Псковск. 1: „Словенскѣ"; у Псковск. 2 і Абрамкі далейшае прапушчана. [30]) Ўстаўка з Архангелагор. сьп. [31]) Васкр. сьп, Тверск., Соф. 1. [32]) Нікон, Васкр., Тверск., Соф. 1. Ноўгар. 1, Архангелагор. [33]) Лаўр., Іпац., Пераясл., Львоўскі: „прозвашася Руская земля".

Памяшчаючы гэту ведамку у сваёй гісторыі, Карамзін дзівуецца: „дзіўнае і ня маючае ў гісторыі роўнага сабе здарэньне: Славяне дабравольна нішчаць сваё старадаўнае народнае кіравецтва і заклікаюць князёў ад Варагаў, якія былі іх ворагамі. Ўсюды меч сільных або хітрасьць пышных заводзілі самаўладзтва: ў Расіі яно ўмацавалася з агульнай згоды грамадзянаў"...

Ясна, што славянскую свабоду на нямецкае самаўладзтва Славяне зьмянілі пад прымусам. Але ў XI і пачатках XII ст. Рускай княжай ўладзе, пачаўшай ужо асымілявацца з падбітымі славянамі, патрэбна было абаснаваньне праўнасьці іх ўлады, а також абаснаваньне права на далейшыя падбоі усходнага славянства, асабліва — яшчэ не саўсім падбітых імі Крывічоў. Вось з гэтай мэтай і ўтворана была казка аб добравольным прызваньні „валадзець і княжыць", а також аб тым, што прызывалі Варагаў і тыя плямёны, падбіць якія ляжала ў праграме гэтых

захопнікаў ўлады над славянамі. Пры тым, у асобе Рурыка летапіс рысуе свае паняцьці аб значэньні для зямлі князя, аб яго праве валадзець зямлёй, аб яго абавязку ваяваць і будаваць гарадкі, саджаючы ў іх сваіх мужоў, каб трымаць ў паслухмянасьці падбітыя плямёны і зьбіраць з іх дань.

„Паданьне аб прызваньні князёў, як яно вылажана ў Повесьці, саўсім не народнае паданьне: яно ня носіць на сабе яго звычайных азнак". Гэтае паданьне ...„дайшло да нас, як яго знаіі і разумелі кніжныя вучоныя людзі XI і пачатку XII ст. ст., да якіх прыналежаў невядомы аўтор Повесьці Временных лет". (*Ключевскій*, „Курсъ Русск. Ист.," т. I, бал. 156—157). „Каля палавіны IX ст. банды балтыцкіх варагаў праніклі фінскай затокай і Волховам да Ільменя і сталі браць дань з паўночных славянскіх і фінскіх плямён. Туземцы, сабраўшыся з сіламі, прагналі гэту навалу і для абароны ад далейшых нападаў нанялі партыю другіх варагаў, якіх называлі Русьсю. Умацаваўшыся у бароненым краю і набудаваўшы сабе „гарадоў", вайсковых стаянак,—наёмныя вартаўнікі сталі трымаць сабе як заваёўнікі. Вось усё, што здарылася. Факт складаўся з двох момантаў: з наёмнай умовы з чужаземцамі і з вераломнага захопленьня імі ўлады пад тубыльцамі. Нашае паданьне аб прызваньні князёў паставіла ў засені другі момант і абапёрлася на першым, — на акце добравольнай перадачы ўлады чужаземцам. Ідэя ўлады з грунту гвалту перанесена на грунт права, і вышла саўсім ня дрэнна прыдуманая юрыдычная падстава пачатку рускай дзяржавы (*Ключевскій*, „Курсъ Руск. Ист.", т. I, бал. 155—156) ці, лепш кажучы,—юрыдычнае абаснаваньне панаваньня заваёўнікаў над паняволенымі: Рурык з дружынай, маўляў, неахвотна нават ішоў, але што-ж,— калі выбраўся, то няма рады,—трэба валадзець, тым больш, што, маўляў, мы, Варагі, самі не напрашаліся да вас.

| | |
|---|---|
| Въ лѣто 6373. ..и прия Рюрикъ власть всю одинъ [1]) и раздая грады [и волости] [2]) мужемъ [и племенемъ] [3]) своимъ, овому Полотеск [4]), овому Ростовъ, другому Бѣло-Озеро. И по тѣмъ городомъ суть [находници Варязи, [5]) а] перъвии насельници въ Новѣгородѣ Словѣне, въ Полотстѣ Кривичи, въ Ростовѣ Меря, на Бѣло-Озерѣ Весь, въ Муромѣ Мурома, и тѣми всими обладаша Рюрикъ. И бяста у него 2 мужа, не племені его, но боярина, [и не дастъ имъ Рюрикъ ни града, ни села] [6]), и та испросистася ко Царюграду съ родомъ своимъ [7]). И поидоста [изъ Но- | Году 6373. ...і прыняў Рурык ўсю ўладу адзін і раздаваў гарады і воласьці мужом і плямёнам сваім, таму Полацак, таму Ростаў, другому Бела-возера. І па тых гарадох ёсьць прыходцы Варагі, а першыя насельнікі ў Ноўгарадзе Словені, ў Полацку—Крывічы, Роставе—Мера, на Бела-возеры—Весь, ў Мураме—Мурама, і тымі ўсімі абладаў Рурык. І былі ў яго два мужы, ня племени яго, але баярыны, и ня даў ім Рурык ні гораду, ні сяла, і тыі адпрасіліся ў Царград з родам сваім. І пайшлі з Ноўгарада па Дняпру, ідучы міма Смаленска, і не зьявіліся ў Смаленску, бо го- |

вагорода] [8]) по Днѣпру [и идуче мимо] [9]) [Смоленскъ, и не явистася въ Смоленску: зане градъ великъ и многъ людьми. И приплыста подъ горы Кіевскія] [10]) и узрѣста на горѣ градокъ [малъ] [11]) и упрошаста, и рѣста: „чий се градокъ?“ Они же рѣша: „были суть 3 братья: Кий, Щекъ, Хоривъ, иже сдѣлаша градокъ сь, и изгибоша, и мы сѣдимъ платяче дань родамъ ихъ“. Аскольдъ и Диръ [рекоста имъ: „и мы есмя князи Варяжскіе“] и [12]) остаста въ градѣ семь [княжити] [13]), и многи Варяги съвокуписта, и начаста владѣти Польскою [14]) землею [и бѣша ратни и со Древляны и со Угличи] [15]).

рад вялікі і многалюдны. І прышлі пад кіяўскія горы і ўбачылі на гарэ гарадок малы і спыталіся, мовячы: „чый то гарадок?“ Яны-ж мовілі: „былі тры браты Кій, Шчэк і Харыў, што збудавалі гэты гарадок і вымерлі, і мы сядзім, плацячы дань з іх родам“. Аскольд і Дзір мовілі ім: „і мы ёсьць Варажскія князі“ і асталіся ў гэтым горадзе князяваць, і многа Варагаў сабралі і пачалі валадаць Палянскай зямлёй і былі ў вайне і з Дрэўлянамі і з Углічамі.

*Лаўр. сьп., Іпац. сьп., Нікон. сьп., Тверск. сьп., Соф. 1 сьп., Пераясл. сьп., Пскоўск. 1 сьп., Пскоўск. 2, сьп. Абрамкі, Архангел.гор. сьп., Львоўск. сьп.*

[1]) Іпац. і Пераясл., якія першапачатна памяшчаюць Рурыка ня ў Ноўгарадзе, а на Ладазе, дадаюць: „и пришедъ къ Ильмерю и срѣби городъ надъ Волховомъ и прозваша и Новъгородъ“; з імі згодзен і Тацішчаў. [2]) Устаўка з Іпацієўск. сьп. [3]) Устаўк. з Нікон. сьп. [4]) У Абрамкі „овому Полотескъ“ прапушчана. [5]) Устаўка з Лаўр., Іпац., Тверск. сьп. [6]) З Архангелагор. сьп. [7]) Архангелагор.: „вои своими“. [8]) З Пскоўск. 1, Арханг.; паводле Тацішчава: „отъ Смоленска“. [9]) З Лаўр. сьп., Іпац., Арханг. [10]) Устаўка з Архангелагор. сьп. [11]) Устаўка з Арханг. сьп. [12]) Устаўка з Арханг. сьп. [13]) Устаўка з Архангел. сьп. [14])Васкр., Твреск., Соф. 1, Арханг.: „Полянскою“. [15]) Арханг. сьп.: „Юргеци“. Устаўка з Васкр., Тверск., Соф. 1, Арханг., Львоўск.; Пскоўскі 1 сьп. перадае гэтае здарэньне каротка: „и пришедше на Днѣпру въ Полянѣхъ засѣдоша градъ Кіевъ“.

У гэтай летапіснай ведамцы Рурык рысуецца фэодалам, які раздае сваім васалам гарады, але летапіс упамінае толькі аб тых гарадох, якія ўжо з самага пачатку зьяўляюцца незалежнымі дзяржаўнымі адзінкамі. Тут, відавочна, высказуецца толькі старая пагудка, што некалісь гэтыя гарады станавілі адно палітычнае і племяннное цэлае, заселянае племем Крывічоў, але ўжо ў тым часе, калі Варагі падбілі Ноўгарад, гэтыя гарады былі пазамежамі дасяганьня Варагаў, дзеля чаго і абазначаны раздадзенымі. З пазьнейшых летапісных ведамак выяўляецца, што ў Полацку і Тураве валадзелі мяйсцовыя асобныя князі, якіх летапісец, па аналёгіі са сваімі, называе прыбыўшымі з-за мора і што Ноўгарад стаяў на чале

толькі дзеля таго, што быццам прызваны яго валадар быў праўдзівага княжага роду. З гэтай мысьлю летапісец робіць яго самаўладцам зямлі, прымушаючы братоў яго ў час памерці. Па свайму характару ўся гэта зьменка — не народнае паданьне і не легенда: гэта проста асабістыя мяркаваньні аўтора летапісу, як павінна была-бісьці гісторыя з самага пачатку, каб па магчымасьці прыблізіць кіяўскага манарха (для катарага і быў пісаны летапіс) да ідэальнага тыпу, якім для летапісца быў візантыцкі імпэратар. Аўтор летапісу сам не спасьцярагае таго, што ідзе ад пустога мейсца, якому хоча прыдаць характар зародку Рускай манархіі, бо Ноўгарад, які прызываў Варагаў, яшчэ не істнуе і зьяўляецца на сьвет толькі ў постаці новазбудаванага прышоўшым Рурыкам гарадца.

Далей летапісец апавядае, як Аскольд і Дзір занялі Кіяў. Грунт гэтай ведамкі ня ў імёнах. Запраўдны зьмест паданьня раскрываецца ў тым істотным варунку, што ў тыя часы ў Кіяве аставаліся на жыцьцё людзі, якія праходзілі гэтай дарогай у Царград, што насяленьне тагочаснага Кіява было зборышчам Варагаў, што Кіяў пры іх помачы запанаваў над мясцовым жыхарствам і што, словам, Кіяў у тыя часы быў такім-жа гняздом для сноўдаючыхся па краю напоўкупецкіх, напоўразбойніцкіх банд, як і паўночны Ноўгарад. Палажэньне Кіява,—наўскрай лясоў з аднэй стараны і наўскрай стэпаў (палёў) з другой стараны, а такжа на сумежжы рожных плямён,—спрыяла умацаваньнюся чужакоў. А тое, што тут зыходзіліся шляхі з усей поўначы, з якіх важнейшыя (Прыпяць з заходу і Дзясна з усходу) уплывалі ў Днепр немаль пад самым Кіявам, — спрыяла ў будучыне разросту гораду і заваёўніцкім плянам яго валадароў. На летапіснай памяці Кіяў разрастаўся ад наплыву ў яго Варагаў праз Ноўгарад. Сюды зьбіраюцца нездаволеныя Рурыкам, або тыя, што ўратаваліся ў змаганьні з ім, словам, - Кіяў быў прыстанішчам шукаючых лёгкай нажывы. Але летапісец засяляе Кіяў галоўным чынам з Ноўгарада і гэтым дае зразумець, што ў істоце гэта была сьпярша колёнія Ноўгародзкіх Варагаў. І вось у палавіне IX ст. стары родавы гарадок Кіяў становіцца Ноўгародзкай колёніяй Варагаў і, наагул,—вольніцы, якая зьбеглася з усіх старон. Гэткае насяленьне хутка павінна было выявіць задаткі саўсім іншага разьвіцьця, чым было перш у родавым ці торгова-прамысловым гарадку. Скупленая дружына, пераважна вайсковая, павінна была перш за ўсё дабываць харчы. Калі раней для малога гарадца харчоў ставала, то з наплывам новых людзей трэ' было іх дабываць болей. Вось першая, для усіх агульная справа, якая змагла злучыць і зьвязаць ў адзін вузёл усе думкі і імкненьні новых людзей, каторыя сабраліся з рожных старон, з рожных плямён, з рожнымі заданьнямі і мэтамі жыцьця. Харчаваньне затым становіцца асновай быту гэтага новага прышлага грамадзянства і галоўнай пружынай яго чыннасьці (Зраўняй: *Забѣлинъ*, „Истор. Русск. жизни“. М. 1879, 95—109).

Въ лѣто 6390. ...п о и д ѣ [1]) Олегъ [изъ Новагорода] [2])—[въ судѣхъ къ Кіеву] [3]) поим воя многи [Варяги [4]), Чюдь, Словѣни, Мерю, Весь, [5]) Кривичи [6])], и приде къ Смоленьску [съ Кривичи [7])]

Году 6390. ..пайшоў Алег з Ноўгарада ў вадаплавах к Кіяву, ўзяўшы многа войска: Варагаў, Чудзі, Славенаў, Меру, Весь, Крывічоў, і прышоў да Смаленска з Крывічамі.

[и сташа выше города, и шатри изставиша многи разноличны цвѣты. Увѣдавше же Смольняне, изыдоша старѣйшины ихъ къ шатрамъ и спросиша единого человѣка: „кто сей прійде? царь ли, или князь въ велицѣй славѣ?“ И изыдѣ изъ шатра Ольгъ, имый на рукахъ у себя Игоря, и рече Смольняномъ: „сей есть Игорь князь Рюриковичъ Рускій“. И нарекоша его Смольняне государемъ. И вдася весь град за Игоря][8]); и прия градъ и посади въ немъ мужъ[9]) свои[10])' оттуду поидѣ внизъ [по Днѣпру][11]) [и пришедъ взя Любецъ, и посади мужъ свои][12]). И прице къ горамъ Кіевскимъ и увѣди[13]) Олегъ, яко Оскольдъ и Диръ княжита въ Киевѣ.. И убиша Аскольда и Дира... И сѣде Олегъ княжа со Игоремъ Рюриковичъ въ Киевѣ... И бѣша у него [мужи] Варази и Словѣни и прочии прозвашася Русью. Се же Олегъ[14]) нача городы ставити и устави дани [по всѣй земли Рустѣй][15]): Словѣномъ, и Кривичемъ и Мери, и[16]) [устави][17]) Варягомъ дань даяти, [а][18]) отъ Новагорода гривень 300 на лѣто мира дѣля, еже до смерти Ярославлѣ даяше Варягомъ[19]). [И многи ины страны притяжа къ Рустѣй земли и дани взложи на ня][20]).

[и стануў вышэй гораду, і шатроў наставіў многа рожных колераў. Увідзелі Смаленцы і вышлі старшыны іх да шатроў і спыталі аднаго чалавека: „хто гэта прышоў? ці цар, ці князь ў вялікай славе?“ І вышаў з шатра Алег, маючы на руках у сябе Ігара, і мовіў Смаленцам: „гэта ёсьць Ігар князь Рурыкавіч Рускі“. І назвалі яго Смаленцы гаспадарам. І здаўся ўвесь горад пад Ігара];

и прыняў горад і пасадзіў у ім сваіх мужоў, адтуль пайшоў ўніз па Дняпру і прышоўшы узяў Любеч, і пасадзіў мужоў сваіх. І прышоў да гор Кіяўскіх і даведаўся Алег, што Аскольд і Дзір княжюць у Кіяве... І забіў Аскольда і Дзіра.. І сеў Алег князяваць з Ігарам Рурыкавічам у Кіяве. І былі ў яго мужы Варагі і Словене і іншыя, якія празваліся Русьсю. Тут Алег пачаў гарады будаваць і устанавіў дані па ўсёй зямлі Рускай: Словенам, і Крывічом, і Меры, і устанавіў Варагам дань даваць, а ад Ноўгарада грывень 300 на год дзеля міру (згоды), каторую да сьмерці Яраслава давалі Варагам. І многія іншыя краі далучыў да Рускай зямлі і дань узлажыў на іх

*Лаўр. съп., Іпац. съп., Нікон. съп., Васкр. съп., Твер. съп., Соф. 1, Пераясл. съп., Пскоўск. 1, Абрамкі, Архангелагор., Ноўгар. 1, Львоўск. съп.*

[1]) Арханг. съп.: „поидоста“. [2]) Устаўка з Нікон., Васкр., Тверск., Соф. 1, Архан., Львоўск. [3]) Устаўка з Тверск. съп.

[4]) Тверск. сьп.: „Аряги“. [5]) Тверск. сьп. „Весь“ прапушчана. [6]) Лаўр., Іпац., Тверск.; у Абрамкі: „поимъ воя многи и Кривици“; у Арханг. „поимъ воя“ прапушчана; Тацішчаў прамоўчвае аб Весі і Крывічох. [7]) Ўстаўка з Лаўр, Іпац., Тацішчава. [8]) Ўстаўка з Архангелагор. сьп. [9]) Арханг.: „намѣстники“. [10]) У Ноўгар. 1 сьп. усё папярэдняе заменена сказам: „и начаста (Алег і Ігар) воевати, и налѣзоста Днѣпръ рѣку и Смоленскъ градъ“. [11]) Ўстаўка з Нікон., Васкр., Тверск., Соф. 1. [12]) Ўстаўка з Лаўр., Іпац., Пераясл. сьп. [13]) Іпац. Васкр., Тверск. сьп.: „увидѣ“. [14]) У Ноўг. 1: „Ігорь“. [15]) Ўстаўка з Нікон., Васкр., Тверск., Соф. 1, Арх. сьп. [16]) Нікон. сьп.: „Словеномъ и Варягомъ даяти иКривичемъ и Мерямъ“. [17]) Ўстаўка з Лаўр., Іпац., Пераясл., Абрамкі, Львоўск. [18]) Ўстаўка з Нікон., Соф. Н., Ноўгар. 1. [19]) Нікон. сьп.: „и нынѣ даютъ“; Архангел., Ноўгар. 1: „не даютъ“. [20]) Ўстаўка з Тверск., Васкр., Соф. 1, Соф. Н.

Паданьне перадае ведамку аб зборным вялікім паходзе ўсякіх людзей і плямён пад кіравецтвам Варагаў на заваяваньне воднага Дняпроўскага шляху і ня толькі на заваяваньне, але і на пасяленьне па ім. Сіла, відаць, была вялікая, бо займаюць Смаленск, крыўскі Любеч і, ўрэшце,—Кіяў, у якім ўвесь гэты люд астаецца на жыцьцё. Гэткім чынам два варажскія тарговыя цэнтры, Ноўгарад і Кіяў, разам з іншымі гарадамі, якія знаходзіліся на гэтым тарговым шляху, апынуліся ў руках аднаго гаспадара — княжага роду Рурыкавічаў. Вось дзеля чаго ў „Повесьць“ унесена яе аўторам цікавая размова аб княжым родзе. Вуснамі летапісца гавораць патомкі Рурыка XI і XII ст. ст., што валадзець патомна над заваяванымі гарадамі і землямі павінны толькі праўдзівыя Рурыкавічы, іх род, а ня іншая асоба, што ніякі іншы чалавек ні род ніякіх правоў на валаданьне краем ці горадам ня мае, акром часовага права „кармленьня“ з якога гораду, дадзенага з княжых рук.

Збор-дружына з Варагаў, Словен і іншых, пасяліўшыся ў Кіяве пад ўладай Варагаў-Русаў, — ўсе сталі прозывацца з гэтага часу Русьсю. Каб абасьпечыць сабе панаваньне над заваяваным краем, Алег пачаў будаваць гарады на граніцах. Сюды ў Кіяў ён перавёў і Ноўгародзкія дані, а гэтым самым зазначыў, што старшым гняздом Варагаў адгэтуль будзе ўжо ня Ноўгарад, а Кіяў. Каб супакоіць і заморскіх Варагаў, Алег устанавіў плаціць ім што год па 300 грывень „для міра“, г. зн., каб адкупіцца ад іх нападаў; з тых часаў дань гэта акуратна выплачвана была аж да сьмерці Яраслава. Гэтак уладзіўшы справы са сваей бацькаўшчынай Нормандзіяй і першым горадам, ў якім акрэплі Варагі, яны пад імем „Русь“ пачалі заваёўваць бліжэйшыя да Кіява народы. Першымі „прымучыў“ Алег Дрэўлянаў і аблажыў іх даньню. На другі год ён перамог Северанаў і ўзлажыў на іх лёгкую дань, каб не плацілі Хазарам. На трэцьці год сталі плаціць яму дань „па шэлягу“ Радзімічы, як плацілі Хазарам. Гэткім чынам заснаванае Алегам Рускае князьства цягнулася ад Ноўгарада да Кіява і абыймала землі, прылягаючыя да Дняпра. На захад ад Дняпра былі падбіты толькі Дрэўляне. Аб Дрыгвічох, якія жылі паміж Прыпяцьцю і Дзьвіной, летапіс ня кажа нічога. Паводле яго ведамак, там у Тураве і ў заходных Крывічоў (у Полацку) жылі нейкія асобныя Варагі, незалежныя ад Алега. Алег праслыў у Русі мудрым. Мудрасьць яго выразілась ў тым, што ён завязаў ў адзін вузел абодвы канцы грэцкага шляху; за гэты чын ўся слава таго пакаленьня была

перанесена легендарнай гісторыяй на Алега: ён быў фактычным заснаўцом Рускай дзяржавы і рускай дынастыі. Ад часу заваяваньня Варагамі-Русьсю дняпроўскага шляху і абаснаваньнеся іх у Кіяве пачынаецца новы паварот у гісторыі крыўскіх зямель: пачынаецца доўгі чарод сталецьцяў абароны сваей незалежнасьці ад Варажскай навалы (дынастыі Русаў).

Въ лѣто 6391. Иде Олегъ на Древляны и примучивъ я[1]) имаше на нихъ дань по чернѣ кунѣ[2]) [съ человѣка въ годъ][3]).

Году 6391. Ідзе Алег на Дрэўлянаў і, прымучыўшы іх, браў з іх дань па чорнай куніцы з чалавека ў год.

*Львоўскі сьп., Іпаціеўскі, Ноўгародзкі, Васкрасенскі, Тверскі, Софійскі 1-шы, Софійскі Ноўгародзкі, Пскоўскі, Архангелагорадзкі, Абрамкі, Лаўрэнціеўскі.*

[1]) Ноўгар., Васкрас., Соф. 1, Соф. Ноўгар., Абрамкі: „примучивъ я“ прапушчана. [2]) Архангелагорадзкі: „куницъ“. [3]) Устаўка з Архангелагорадзкага. У Львоўскім і ў Тацішчава: „отъ дыма“.

Въ лѣто 6392. Иде Олегъ на Сѣверяне [и на Козары][1]), [и побѣди Сѣверяны][2]) и възложи на нь дань легъку, и не дасть имъ Козарамъ дани платити, рекъ: „азъ имъ противенъ, а вам нечему“[3]).

Году 6392. Ідзе Алег на Северанаў і на Казараў, і перамог Северанаў і ўзлажыў на іх дань лёгкую, і не даў ім плаціць дані Казарам, мовячы: „я ім працівен, а вам яны што?“.

*Львоўскі, Іпац., Ноўгар., Васкрасенскі, Тверскі, Соф. 1, Софійскі Ноўгар., Пскоўскі, Абрамкі, Архангелагор., Лаўрэнціеўскі.*

[1]) Устаўка з Архангелагорадзкага сьп. [2]) Устаўка з Лаўрэнц., Іпац., Пскоўск., Абрамкі, Львоўскага. [3]) У Тверск.: „есть онѣ кчему? — васъ обороню“.

Въ лѣто 6393. Посла Олегъ къ Радимичемъ рька: „кому дань даете?“ Они же рѣша: „Козаромъ“. И рече имъ Олегъ: „[не дайте Козаромъ, но][1]) мнѣ дайте“[2]), и вдаша Ольгови по щьлягу[3]), якоже Козаромъ даяху. И бѣ обладая Олегъ Поляны[4]), и Деревляны, [и Сѣверены][5]) и Радимичи, а съ Угличи[6]) и Тиверцы[7]) имяше рать[8]).

Году 6393. Паслаў Алег да Радзімічоў, мовячы: „каму даяце дань?“ І мовіў ім Алег: „не давайце Хазарам, але мне дайце“, і далі Алегу па шэлягу, як і Хазарам давалі. І абладаў Алег Палянамі, і Дрэўлянамі і Северанамі і Радзімічамі, а з Углічамі і Тіверцамі вёў вайну.

*Лаўрэнціеўскі, Іпац., Тверск., Пскоўскі, Львоўскі.*

[1]) Устаўка з Лаўрэнц. і Іпаціеўск. сьп. [2]) Тацішчаў дадае: „ежелижъ Козаре на васъ приидутъ, азъ васъ обороню“. [3]) Тацiш-

чаў дадае: „отъ плуга“. [4]) Пскоўскі: „Кіяны“. [5]) Устаўка з Лаўрэнц, Тверск, Львоўск., такжа і з Тацішчава. [6]) Пскоўскі: „Уличи“; Тверскі: „и Посуличи“; Львоўскі: „а съ Суляны“. [7]) Пскоўскі: „Иверцы“. [8]) Пскоўскі: „имяше рать“ прапушчана.

Въ лѣто 6415[1]). Иде Олег на Греки, а Игоря остави въ Киевѣ; поя же множество Варягъ и Словенъ[2]) и Чюдь, и Кривичи, и Мерю[3]) и Деревляны[4]), и Радимичи[5]) и Поляны, и Сѣверы, и Вятичи[5]) и Хорваты[6]) и Дулѣбы[7]) и Тиверцы[8]) яже суть толковины[9]): си [вси[10]) звахуся отъ Грекъ Великая Скуѳь. И съ сими всими поиде Олегъ на конехъ и на кораблехъ, и бѣ числомъ кораблей 2000 и поплѣниша землю всю[11])... И заповѣда Олегъ даяти воемъ на 2000 корабль по 12 гривень на ключь[12]) и потомъ даяти уклады [13]) на рускыя грады [первое] [14]) на Киевъ, также на Черниговъ, и на Переяславль, [и на Новгородъ[15])], [ и на Полтѣскъ][16], и на Ростовъ, [и на Смоленскъ][17]) и на Любечь[18]), и прочая гради, по тѣмъ бо городомъ седяху [велиции] [19]) князи, подъ Олгомъ суще...

Году 6415. Ідзе Алег на Грэкаў, а Ігара пакінуў у Кіяве, узяў-жа множства Варагаў і Словенаў, і Чудзі, і Крывічоў і Меру, і Дрэўлянаў, і Радзімічоў, і Палянаў, і Северанаў, і Вяцічоў, і Харватаў, і Дулебаў, і Тіверцаў, якія ёсьць талкавіны: гэтыя ўсе называюцца у Грэкаў Вялікая Скіфія. І з гэтымі ўсімі пайшоў Алег на конях і на караблёх, і было лікам караблёў 2.000 і паняволіў зямлю ўсю (Грэцкую). . . І казаў Алег даваць воям на 2000 караблёў па 12 грывень на ключ і пасьля даваць уклады на рускія гарады: перш на Кіяў, такжа на Ноўгарад, і на Полацак, і на Ростаў, і на Смаленск, і на іншыя гарады: па тых бо гарадох сядзяць вялікія князі, якія знаходзяцца пад Алегам.

*Лаўрэнціеўскі, Іпаціеўскі, Ноўгародзкі, Тверскі, Соф. 1, Соф. Ноўгар. Пскоўскі, Абрамкі, Архангелагор., Ноўгарод. 2, Львоўскі.*

[1]) Архангелагор. і Львоўскі сьпіскі адносяць гэту ведамку на 6414 г.; Софійскі сьп.—на 6411; Ноўгар. 1 і Архангелагор.—на 6430. [2]) Тацішчаў дадае: „и Руси“. [3]) Архангелагорадзкі сьп. іх не упамінае. [4]) У Софійскім сьп. „и Деревляны“ прапушчана. [4]) Архангелагорадзкі іх не упамінае. [5]) Іпаціеўскі, Пскоўскі, Архангел. „и Вятичи“ прапушчана. [6]) Архангелагор. іх не упамінае [7]) Архангелагор. іх не упамінае. [8]) Архангелагор. і гэтых не упамінае. [9]) Тверскі: „тлъкованыи“. Соф. „яже суть толковины“ прапушчана. [10]) Устаўка з Лаўрэнц., Іпац., Тверск. [11]) Устаўка з Тверск. [12]) Пскоўскі: „человѣка“, Львоўскі: „Корабль“. [13]) Тверскі: „выходъ“; Пскоўскі: „у грады“. [14]) Устаўка з Лаўрэн., Ноўгар., Пскоўск., Львоўск., Тацішчава. [15]) З Пскоўск. [16]) Устаўка з Лаўр.,

Васкр., Тверск., Соф.1. [17]) Устаўка з Тверск., Пскоўск., Львоўск. [18]) Соф. „таже на Черниговъ и на“ прапушчана. [19]) Устаўка з Лаўрэнціеўск. сьп.

Учасьце Полацка ў паходзе 907 году на грэкаў не пацьвярджаецца сьпіскамі летапісу, пісанымі ў Смаленску (Абрамкі, Радзівілаўскі), а такжа іншымі сьпіскамі, як Іпацьеўскім, Ноўгародзкім, Софійскім Ноўгар., Пскоўскім, Архангелагорадзкім, Ноўгародзкім 1 і Львоўскім. Дзеля гэтага вельмі магчыма, што ўстаўка аб учасьці Полацка ў гэтым паходзе пазьнейшая. Тое-ж самае можна сказаць і аб учасьці ў гэтым паходзе Смаленска.

(Працяг ў чароднай кніжцы „Крывіча“).

---

А. МАТАЧ.

## НАСЬПЕЎШАЕ ПЫТАНЬНЕ.

Апошнімі часамі ў крыўскіх (беларускіх) часопісях было паднята пытаньне аб патрэбе навуковага з'езду, які, між іншым, заняўся-б высьвятленьнем нашай гісторыі і моваведаньня. Прызнаючы такі з'езд справай насьпеўшай, падаю ў дыскусыйным парадку свае думкі аб нашым правапісе.

Кождая пісьменнасьць у пачатнай стадзіі свайго разьвіцьця ці пры адраджэньні чэрпае гукі, формы слоў і ўзвароты сказаў з крыніц народнай мовы, з славеснай народнай творчасьці, ці з папярэдніх пісьменных помнікаў свайго або нат чужого народу. Абагуліваючы ўсе асобнасьці славесных і пісьменных форм народнай мовы і творчасьці, пачатная або адраджоная пісьменнасьць стварае сваю граматыку, правілы і законы каторай, як узятыя з жывой для даннага моманту народнай мовы. бязумоўна павінны быць падпарадкаваны ўнутранаму зьместу, вокалізму і консонантызму апошняй. Карацей кажучы, ўсякая пісьменнасьць падпарадкуецца (рачэй — павінна падпарадкавацца) фонэтычным і лёгічным асобнасьцям народнай мовы. На аснове гэтых асобнасьцяў пісьменнасьць стварае сваю граматыку, сынтаксіс і правопіс. якія павінны зьяўляцца правільным зьнешнім адбіцьцём ня толькі гукавых асобнасьцяў, славесных форм і ўнутранага складу народнай мовы, але й гісторыі даннага народу і яго пісьменнасьці. Тая пісьменнасьць, зьнешнія формы якой (гукі словасклад і правопіс) найбольш адпавядаюць ўнутранай старане народнай мовы (зьместу і фонэтычным асобнасьцям), — лічыцца самай ідэальнай. Нажаль, мы ня бачым гэтай ідэальнай законнасьці ў разьвіцьці нашай адраджаючайся пісьменнасьці. Прычын гэтаму многа, я не бяруся іх дасьледаваць, але немалаважнай з іх зьяўляецца уплыў на нацыянальную пісьменнасць літэратурнай і афіцыяльнай мовы той дзяржавы, пад урадаваньнем якой знаходзіўся або знаходзіцца данны народ. Гэта прычына ярка адбілася на разьвіцьці нашай (крыўскай) нацыянальнай пісьменнасьці.

Мы ведаем, што пісьменнасьць (славянская) прышла да нас адначасна з чужой варажска-хрысціянскай ўладай і ад самага свайго зародку пачынае абслугоўваць інтэрасы рэлігіі і дзяржавы. Царкоўна-славянская

мова, як мова рэлігіі і дзяржавы, прымае ў вачох падбітага народу азнаку чагосьці выжшага, сьвятога, чаго ня мае права перайначыць або зьмяніць звычайны сьмяротны. Аднак жа, ня гледзячы на такую пашану да славянскай граматы, з пад пяра першых пісьменнікаў-манахаў, якія дагэтуль ня зналі іншай мовы, акром свае матчынай, — пачынаюць натуральным парадкам, незаўважна для саміх пішучых, выходзіць ня толькі аддзельныя словы з крыўскімі формамі і асобнасьцямі, але на'т — цэлыя сказы. Прыкладам, у Астраміравым Евангельлі (1056 — 1057 г.), Ізборніках Сьвятаслававых 1073 і 1076 гг. і Повесьці Временных Лет сустрачаем такія асобнасьці крыўскай мовы: а) формы назоўнага і вінавальнага склонаў лічбы многай імёнаў мужскога і жаночага родаў (чядѣ, вѣдовицѣ, Кривичѣ, мужѣ, мечѣ, обручѣ, три воробиѣ, кораблѣ, манастырѣ, банѣ, овьцѣ, дѣвицѣ, вежѣ); б) формы род. склону адзін. ліку іменаў жаночага роду (отъ наложницѣ не мозѣте погубити Руськыѣ землѣ, съберѣте пьшеницѣ); в) формы загаднага ладу дзеясловаў (не мозѣте, идѣте, рьцѣте, живѣта, подвигнѣмся, сядѣте, потягнѣмъ, загребѣмъ); г) ужываньне мяккога *т* ў перамешку з вымаганым тады баўгарскім правопісам цьвярдым *т* (помажять, обрѣтаеть, вылѣзуть, омывають, въливають, въкушають, вѣрують, служать, прящають); д) цьвярдое *р* побач з вымаганым граматыкай мяккім (въземъ дары приде къ Сьвятославу); е) аканьне (манастырѣ, прящають, сядѣте). З слоў і выразаў заўважым такія (сустрачаныя ў „Повѣсти временныхъ лѣтъ“): въбързѣ (ўборзѣ), ... другъ друга *сѫпихаху* въ *греблю*,. и ту спровьрже животъ свои *зълѣ* (як цяпер гаворaць ў Слонімшчыне: „ён *зле* скончыў сваё жыцьцё, *зле* беднаму жыць на сьвеце)... У далейшым ходзе разьвіцьця нашэй пісьменнасьці славянскі правопіс паступова мяняецца пад уплывам вокалізму і консонантызму народнай мовы, славянскія формы слоў і ўзвароты замяняюцца крыўскімі, а ўрэшце пачынаюць зьмяншацца ў пісьменнасьці і царкоўна-славянскія словы, якія замяняюцца народнымі. К канцу XIV ст. эволюція гэта даходзіць да таго што крыўская пісьменная мова ў вял. кн. Літоўскім становіцца мовой дзяржаўнай, царкоўнай, мовай навукі і мастацкай літэратуры, пры чым чыстата, правільнасьць і правопіс яе, а также фонэтычныя асобнасьці к палове XVI стаг. ужо блізка зыходзяцца з асобнасьцямі **жывой** народнай мовы. У нашай пісьменнасьці XVI ст. асталіся немаль толькі асьвячоныя рэлігіяй і вякамі зьнешнія азнакі ц. славяншчыны — кірылаўскія літары, многія з якіх, па вымаганьню фонэтыкі, утрацілі сваё першапачатнае значэньне, займанае імі ў славянскай мове Так, літара *ѣ*, якая ў ц.-слав. мове азначае мяккі гук е (ѣ), у Чэцьі 1489 г. і другіх помніках ужываецца ўжо, як найбольш падхадзячая літара з славянскай абэцэды, для абазначаньня крыўскіх дыфтонгаў *іе*, *ые*: пустѣте, творѣте говорѣте, помолѣтеся (*М. В. Довнаръ-Запольскій*, „Изслѣдов. и статьи“. Т І, Кіяў, 1909 г. , бал. 424); замест абазначаньня ў царк.-слав. мове *у* дыфтонгам *оу*, апошні ў той жа Чэцьі абазначае крыўскі дыфтонг *уо*: докоуле, оттоуле (*ibidem*, бал. 420); літара *и* пасьля галосных прымае значэньне йота, прыкл.: Жомоитъского, Клавдѣи, окрутныи, невъставичныи, имѣнеи, вышеи і г. пад, („Лѣтописецъ в. кн. Литовъского“ па сьп. Рачынскага); аканьне, запачаткаванае першымі пісьменнымі помнікамі XI XII ст., „з паловы і канца XV стаг., зьяўляецца ужо пануючым“, а „у Чэцьі 1489 г. яно прадстаўляе звычайае зьявішча: „прящать, багата, вясло, веселя і інш.“ (*ibidem*, бал. 409); сіпячыя *ж*, *ч* *ш*, а также *р* і *ц* з мяккіх па ц.-слав. пісоўні ў крыўскай пісьменнасьці ўжываюцца, як твёрдыя, дзеля чаго пасьля іх пішуцца ўжо не мяккія, а цьвёрдыя галосныя, напр., у Чэцьі

1489 г. і Летапісцы в. кн. Літоўскага (сьп. гр. Рачынскага) чытаем: *чы*стое, *дрыж*аху, к*ры*вавы, *Ры*му, пр*ы*ити, ж*ы*вых, *цэ*сар, *цэ*рков і г. пад. Для абазначаньня звонкага (момантальнага) *г* ў словах, узятых з чужаземнай мовы*), прыдумана злучэньне дзьвёх літар *гк*, напрыклад: *кг*рунт, пар*кг*амен, Жи*кг*имонт, Ав*кг*уст, юр*кг*ельты, *кг*махи, *Кг*абрияловичъ, *Кг*идиминъ, Оль*кг*ирдъ, Я*кг*еила, зэ*кг*ар і г. пад. ў „Собраніи древнихъ актовъ и гр. городовъ Минской губ.“ (Менск, 1848 г.), ў „Собраніи др. грам. и актовъ городовъ Вильно, Ковно, Трокъ и др. (Вільня, 1843 г.), ў „Рукописномъ отдѣленіи Виленской Публичной библіотеки“ (Вып. I, 1871 г.) і ў „Летапісцы в. кн. Літоўскага“ (Проф. *Е. Ѳ. Карскій*. „Обзоръ звуковъ и формъ бѣлорусской рѣчи“, Масква, 1885 г., бал. 69, 70 § 163). Урэшце, славянскія канчаткі імёнаў *ніе, тіе, ліе* (жела*ніе*, бра*тіе*, весе*ліе*) ў „Актахъ, относящихся къ исторіи Зап. Россіи“ Археографічнай Камісіі (Спб. 1848 г.) скарочваюцца ў *нье, тье, лье* (положе*нье*, нада*нье*, пи*тье*), а ў „Летапісцы в. кн. Літоўскага“ становяцца пануючымі крыўскія канчаткі *не, те, ле* (Креще*не*, една*не*, кнеже*не*, кровопроли*те*, з бра*те*ю, на ус*ти*, весэ*ле* — весэ*ле*мъ). Такім парадкам, правопіс нашых пісьменнікаў дасягае значнай меры ідэальнага зблiжэньня з асобнасьцямі крыўскай фонэтыкі, зблiжэньня, якое толькі магчыма было перадаць, карыстаючыся кірылаўскай абэцэдай, у каторай не знайходзіцца ўсіх літар для абазначаньня гукаў нашай мовы. Зусім магчыма, што нашы пісьменнікі, сярод якіх ў той час было ўжо многа людзей асьвечаных, прыдумалі-бы і новыя літары**), адпавядаючыя орыгінальным гукам крыўскай мовы, каб з канца *XVI* стаг. ня стаўся паварот да адраджэньня ц.-слав. мовы.

Славянскі Усход, немаль выключна праваслаўны, пад напорам рэформацыі і каталіцтва высовуе ідэю роўнацэннасьці ц.- славяншчыны з лацінай, на якой у тыя часы пісаў, гаварыў і думаў увесь асьвечаны Захад. А дзеля таго, што Усходнае Славянства прадстаўляла сабой мозайку рожных дыялектаў, то гэтыя апошнія былі вытлумачаны, як „адзічэньне“ і „апрасьценьне“ першапачатна адзінай і высока-культурнай кніжнай ц.-славяншчыны. І вось, у той час, калі на Захадзе пад уплывам рэформацыі адраджэньне сягала да жывых крыніц народнай мовы, то у нас, наадварот, стаўся паварот да мёртвай ц.-славяншчыны, да скасаваньня жывых моваў на карысьць адналітнай кніжнай мовы. Паваротным стаўбом на шляху гісторыі разьвіцьця нашай пісьменнасьці была граматыка, апрацаваная Мялеціем Сматрыцкім і выданая ў Еўі ў 1618 годзе. Граматыка гэта, узяўшы пад увагу ўплывы жывых моваў— крыўскай, украінскай, маскоўскай—на ц.-богаслужэбную пісьменнасьць, давала тэорыю „адраджэньня“ нашай пісьменнасьці, навязуючы ёй граматычныя і лексычныя формы „агульнай“ славяншчыны. Але бяда ня ў самой тэорыі Сматрыцкага, а ў тым, што тэорыю гэту пастаноўлена было правясьці ў жыцьцё пры помачы школ, у якіх „простая“ мова была ня толькі выкінута, але й забаронена вучням, каторыя павінны

*) У крыўскай мове ёсьць толькі глухое *г*, вымова якога адпавядае лацінскаму *h*; раней гэты гук хоць абазначаўся літарай *г*, але пры чытаньні крывічамі вымаўляўся як *h*, што дало свой уплыў на цяперашнюю вымову гэтага гука ў ц.-слав. мове (*П. Безсоновъ*, „Бѣлор. пѣсни“. М., 1871 г., бал VI).

**) У гэтым кірунку быў ужо зроблены пачатак Ф. Скарынаю, у друкарнях якога надаваліся новыя вычурныя формы літарам для прыгажства, але далей магло стацца, што тая ці іншая форма літары паслужыла-б для абазначаньня той ці іншай фонэтычнай асобнасьці крыўскай мовы.

былі гаварыць паміж сабой мовамі навукі—грэцкай, лацінскай і ц.-славянскай. Гэтым разьвіцьцё крыўскай пісьменнасьці ужо ў сярэдзіне XVII ст. было спынена. Прыгожую мову пісьменных помнікаў XV—XVI ст. ст. заступае бяздарны кніжны жаргон, саўсім няздатны да жыцьця. Панаваньне гэтага кніжнага жаргону на працягу каля 200 гадоў, а пазьней уплыў расійскай школы і граматнасьці, — навучылі цэлыя пакаленьні нашых прашчураў непашаны да роднай мовы з яе асобным жывым лексыконам і фонэтыкай, а пазьней вырабілі прывычку да зьнешніх азнак літэратурнай мовы—граматычных форм і літар. У выніку гэтых уплываў „культурныя“ слае нашага грамадзянства ў XIX ст. сталі глядзець на народную мову, як на нейкую провінцыяльную адмену мовы, стрыманай у сваім разьвіцьці недастаткам асьветы. Расійская ўлада (а цяпер і польская на захопленых ёю крыўскіх землях) прыводзіць гэты аргумант у апраўданьне сваe дэнацыяналізацыйнай палітыкі.

Пад уплывам гэтай палітыкі і падпарадкаванай ёй навукі ўзгадавана і наша цяперашняя адраджэнчая інтэлігенцыя, якая, ўступіўшы на шлях адраджэньня крыўскай пісьменнасьці, пры ўсёй сваёй добрай волі, закаханьні і прыхільнасьці да роднай мовы, не змагла адразу вызваліцца ад схолястычнага кірунку мысьлі, выхаванай на пакланеньні перад літарай чужой кніжнай вучобы. Дзеля гэтага няма нічога дзіўнага, калі пісьменнікі новага перыёду нашай літэратуры распачалі адраджэньне крыўскай пісьменнасьці з запазычаным лексыконам, формамі, моваскладам і літарамі. Нікому ня прышло ў галаву, што маскоўская абэцэда, паложаная ў аснову нашай граматыкі, ўзята з **мёртвай** славянскай мовы і што літары яе ня могуць поўнасьцю перадаць гукаў і фонэтычных асобнасьцяў **жывой** і багатай формамі крыўскай народнай мовы.

Разгледзім паасобку тыя літары, якія не заўсёды адпавядаюць фонэтыцы крыўскай мовы. Літара *е* въ такіх словах, як „пень, дзень“, выгаворваецца аднолькава з маскоўскім *е*, але ў словах „сем, век, сена, вераценца, жанке“, яна ўжо гучыць, як дыфтонг *іе*. Літара *э* ў словах „эй, гэты, шэры“ адпавядае маскоўскай *э*, а ў словах „рэпа, рэдкі, панэ“ яе ўжо няма як чыстага гука, а чуецца дыфронг *ыэ*. *О* ў словах „вока, возера, сонца“чытаецца, як чысты гук, а ў словах „вол, конь, салодкі, горкі, родны“ гучыць, як дыфтонг *уо*. *Ё* ў словах „вёска, сёлы, вазёры“ вымаўляецца як јо, а ў словах „мёд, лёд“ ужо чуецца трыфтонг *іуо*. Усе гэтыя дыфтонгі, перадаваныя на пісьме адзіночнымі літарамі маскоўскай абэцэды, могуць з бегам часу (ў сілу прывычкі „чытаць, як напісана“*) адбіцца на фонэтыцы нашай мовы ў карысьць зблiжэньня яе з маскоўскай літэратурнай мовай. З другой стараны, не адзначаючы на пісьме гэтых фонэтычных асобнасьцяў, мы часта робім незразумелымі формы і значэньне слоў. Возьмем, напрыклад, такі сказ: „Прывязі канём вады“. З напісаньня „канём“ не відаць, у якім склоне стаіць гэтае слова: ці—ў творным адзіночнага ліку, ці ў давальным множнага, а цераз гэта ня точным зьяўляецца і ўвесь сказ, бо няведама, ці трэба прывязьці вады пры помачы каня, ці для таго, каб напаіць коні. Бо калі мы хочам сказаць гэту фразу ў першым значэньні, то яна напісана правільна, і літара *ё* ў слове „канём“ гучыць чыста. А калі-ж мы гэтай фразай выказуем жаданьне даць канём вады, то тады павінны сказаць і напісаць не „канём“ а „кан*іуо*м“. Тое-ж са-

*) А гэта якраз ёсьць абавязковае правіла фонэтычнай пісоўні, якая лічыцца ў нас істнуючай(!?).

мае мы ўбачым і ў наступных сказах, запісаных па цяперашняй граматыцы: „Гэта кніга напісана простым **мужыком**“. „**Каталіком** забаронена хадзіць у царкву“ і г. пад. Ня робіць таксама наш сучасны правопіс рожніцы паміж канчаткамі творнага і меснага склонаў адзіночнага ліку прыметаў, займяў і числаў. Так, мы пішам „стар*ым* — аб стар*ым*, ма*ім* — на ма*ім*, адн*ым* — пры адн*ым*“ тады, як у месным склоне, згодна большасьці лепшых фонэтычных запісаў крыўскіх этнографаў, трэба абазначаць дыфтонг *уо* (*ю*=*іуо*): аб стар*уом*, на мал*уом*, на ма*іуом*, пры адн*уом*. У гэтым здарэньні варта адмежыцца ад польскага правопісу, у мес. склоне якога ў словах star*ym*, moj*im*, jedn*ym*, drug*im*, літара *і* (*у*) стаіць бяз націску, а знача зьўляецца беглай і можа быць заменена любой галоснай, тады як у нашай мове гэты канчатак мае націск і дзеля гэтага вымагае сталай формы. Тое-ж самае трэба сказаць і аб аднолькавасьці ў нашым правопісе формаў роднага і давальнага склонаў адзін. ліку некатарых займяў і числаў жаночага роду. Р. тэй — Д. тэй; Р. аднэй — Д. аднэй (як і у польскім правопісе (Р. еdnej — Д. еdnej), дзе *е* (*э*) беглыя). Каб унікнуць запярэчаньняў, скланеньні займяў і числаў трэба падпарадкаваць зьменам прыметаў і адрожніваць давальны склон ад роднага такім парадкам: Р. старой, малой — Д. стар*оуй*, мал*уой*; Р. той (та*іе*) — Д. т*уой*; Р. адной (адна*іе*) — Д. адн*уой* і г. пад. Затым, у крыўскай мове ёсьць яшчэ адна самабытная старая форма іменаў, якую варта ўвясьці ў літэратурную мову*), але якую таксама ня можна перадать без абазначаньня дыфтонгаў, бо бяз іх гэта форма траціць сваю вымову, а знача—зьмест і цэннасьць Гэта ёсць форма назоўн., він. і клічн. склонаў іменаў муж. і жан. роду лічбы многай (пан*ыэ*, багатыр*ыэ*, мужык*іе*, жанк*іе*, дзяўк*іе*) і род скл. адзіночнага ліку іменаў жан. р. (воз трав*ыэ*, ня купіў каз*ыэ* і інш.**) Такім парадкам, патрэба фонэтычнага правопісу вымагаецца ня толькі для правільнай перадачы гукаў, але нават зьместу і форм нашай мовы. Правілы-ж і законы, якім павінна падпарадкавацца абазначаньне ў нашым правопісе дыфтонгаў, ужо часьцю распрацаваны дасьледчыкамі крыўскай мовы***). Нам астаецца сабраць гэтыя досьледы, дапоўніць іх, аформіць, зрабіць з іх свае аканчальныя вывады для дапоўненьня і патрэбных зьмен нашай граматыкі. Прыклад у гэтым кірунку быў пададзены мной у аддзеле запісак 9 (1) нумару „Крывіча“ за 1925 г., на бал. 103-105.

Далей, што датыча ўжыванай намі літары *і*, то апошняя, строга гаворачы, не зьяўляецца галосным гукам, роўназначным *и*, а знакам для зьмякчэньня цьвёрдых галосных, які паміж дзьвяма галоснымі абазначаецца *j* (=й) йотай. Ужываньне гэтай літары, як галоснай, слушна заменена літарай *и* ў цяперашнім расійскім правопісе, які мае асобныя знакі для мягкіх галосных гукаў. Гэта самае варта было-б зрабіць і ў нашым пра-

*) Форма гэта таксама прыдалася-б нам для адрожненьня значэньня слоў. Прыкладам, возьмем слова „палі“. З яго напісаньня ня відаць, ці гэта есьць імя ад слова „поле“, ці дзеяслоў загаднага ладу ад „паліць“. Калі-ж напішам „паліе“, то стане ясным, што гэта—множ. лік імені, а „палі“ загадны лад дзеяслову. Або возьмем такі сказ: „Мазалі, мазалі салам“. Каб гэта стала адразу зразумелым, то трэба напісаць так: „Мазал*іе* мазалі салам“.

**) Старажытныя нашы пісьменнікі гэты дыфтонг абазначалі ня зусім адпавядаючай літарай „ѣ“ (Гл. аб гэтым вышэй).

***) Прыкладам, досьледы проф. М. В. Доўнар-Запольскага ў яго кнізе „Изслѣдованія и статьи“, т. I, Кіяў, 1909 г., бал. 405—424.

вопісе, тым балей, што прыняўшы літару *и*, мы аднаўляем гэтым сувязь паміж нашай старажытнай і сучаснай пісьменнасьцю.

Сярод літар для абазначаньня зычных гукаў нам трэба мець яшчэ адну літару для звонкага *г* ў словах, узятых з чужаземнай мовы (ганак гарнец, Габрусь і г. пад). Для гэтай мэты можна ужыць „*кг*", як пісалі ў нас даўней і як удачна пробаваў пісаць гэты знак Максім Гарэцкі ў сваіх творах (гл. „Колядная пісанка").

З прыведзеных прыкладаў відаць, што наш цяперашні правопіс, які вытвараўся на асобнасьцях жывой народнай мовы і мае ў сваёй істоце кірунк фонэтычнага правопісу, усё-ж такі ня ўнік вялікіх фонэтычных адступленьняў ад народнай мовы, дзякуючы запазычанай абэцэдзе. Затое ў іншых выпадках гэтае імкненьне да фонэтычнай перадачы пераўвялічана. Гэта — ўжываньне ў імёнах падвойных мяккіх зычных на мейсцы царкоўна-славянскіх канчаткаў *ніе*, *тіе*, *сіе*, *ліе*, *жіе*, *діе* („вучэ*ньне*, жы*цьцё*, вало*сьсе*, вясе*льле*, збо*жжа*, суд*зьдзя*" замест славянскай формы „уче*ніе*, жи*тіе*, вла*сіе*, весе*ліе*, збо*жіе*, суд*ія*). Проф. Е. Ѳ. Карскі („Обзоръ Звуковъ и формъ бѣлорускої рѣчи". Масква, 1785 г., бал. 60 § 124) у гэтым удваеньні зычных не знайходзіць „двох яўных зычных гукаў, а толькі усіленую вымову аднаго. Гэтым тлумачыцца і ваганьне зборнікаў беларускіх песьняў паміж ужываньнем простай і удвоенай зычнай": у адных зборніках знаходзім „спачыва*ньне*, спасыла*ньне*", а ў другіх — „спачыва*не*, спасыла*не*". У запісах Федэроўскага і Сержпутоўскага (якія лічацца найлепшымі) пераважаючай формай у гэтым выпадку зьяўляецца ўжываньне адзіночнай зычнай: здарэ*нё*, вясе*лё*, Палѣ*сі*, здарэ*не* і г. пад. Гэтая апошняя форма, зусім сходная з правопісам нашай старажытнай пісьменнасьці, зьяўляецца рацыянальнай, бо ў гістарычнай фонэтыцы не сустрачаецца выпадкаў, каб прапаўшае зьмякчаючае *і* (*j*) замянялася гукамі *н*, *т*, *с*, *л*, *с*. Есьць толькі выпадак пераходу гэтага *і* (*j*) пасьля губных *б*, *в*, *п*, і губна-насавога *м* у літару *л*. Так, з *бjуду* вытварылася слова *блюду*, з *пjуjу* (літоўскага spiauti) — *плюю*, з люб*jу* (*jубjу*?) — *люблю*, з Древ*jане* — Древ*ляне* *) і. г. пад. Адгэтуль зразумела, чаму ў крыўскіх этнографічных зборніках пападаецца слова „здароў*ле*": тут *л* на мейсцы першапачатнага *j*: здравіе.

Не зразумелым такжа зьяўляецца падвойнае мякчэньне гукаў *з*, *с*, *ц*, перад мяккімі зычнымі, дзе гэтыя гукі мякчацца самі сабой па закону упадобленьня без ужываньня пасьля іх *ь*, напр., *зьлес*, *сьмех*, *цьвек*, *цьвёрды*, *зьдзек*, *сьвяты*, *сьцiолы*, *зьдзерці*, *сьцерці*, *сьсе* (апошняе паходзіць ад *ссать*, *сосать*, дзе *с* зьяўляецца на'т аcьвярдзеўшым пад уплывам *ъ* і *о*) і г. пад. Мякчэньне *з*, *с*, *ц* ў гэтым здарэньні і без *ь* зьяўляецца фізычай няўнікнёнасьцю, бо нашы органы мовы, выгаворваючы які-колечы гук, у той жа самы момант падгатаўляюцца да вымовы наступаючага гуку. Гэтае падвойнае мякчэньне паказаных гукаў ёсьць, пэўна, вынікам уплыву польскага правопісу з яго спэцыяльнымі асобнымі літарамі *ć*, *ś*, *ź*, якія ўжываюца на'т перад цьвёрдымі складамі (ćwiczenie, ćwerkać, święty, świronek, szczęście, szczęśliwość, źródło). Але ў словах zliczyć, zlitować się, zlizać, związać, zwić *z*—цьвёрдае ў той час, як мы ў гэтых здарэньнях, (пэўна, па аналёгіі са злучэньнямі *цьв сьв*) пішам *зьлічыць*, *зьлітавацца*, *зьлізаць*, *зьвязаць*, *зьвіць* і г. д. Дапушчэньне уплыву польскага правопісу ў гэтым здарэньні становіцца тым больш праўдным, калі скіраваць увагу

*) *А. И. Соболевскій*. „Древній ц.-славянскій язык. Фонетика". Масква, 1891 г., бал. 120, 121.

на мякчэньне *з, с, ц* якраз у тым-жа злучэньні *ćw św* (*цьв, сьв*), у якім яго блізка выключна дапускае польскі правопіс.

Затым, варта зьвярнуць увагу на запрапанаваныя граматыкай Б. Тарашкевіча формы числаў *два* і *дзьве*: род — двух, дзьвюх; дав. — двум, дзьвюм; твор. — двумя, дзьвюма; мес.—двух, дзьвюх. Узятыя ў такім выглядзе, гэтыя формы зьяўляюцца ачавістай пародыяй на формы маскоўскія. Па сваёй істоце гэтае число ёсьць формай старажытнага падвойнага ліку і таму павінна зьмяняцца згодна яго законаў, якія адпавядаюць і крыўскім народным формам гэтага слова: двох — дзьвёх, двом — дзьвём, двама — дзьвяма, двох — дзьвёх. Тут *ё* і *я* (ў жаночым родзе) паходзяць ад стара-славянскага *ѣ* (двѣма).

Вышэй пададзенымі недахватамі нашай абэцэды й правопісу, ведама-ж, ня вычарпаны ўсе запярэчаньні нашай пісоўні, якая, маючы на мэце перадачу фонэтычных асобнасьцяў крыўскай мовы, у той самы час далёка не дасягае гэтай мэты. Наш правопіс дасягнуў толькі фонэтычнай перадачы *канчаткаў* слоў (прыкл.: прышоў, зрабіў, сядзець, спаць, валоў, кроў, сьпіцца, сядзіцца). Але фонэтычная адменнасьць апошніх яшчэ не акрэсьляе самабытнасьці нашай мовы ў сям'і славянскіх моваў. Самабытнасьць мовы акрэсьляецца яе гукавымі асобнасьцямі ў *каранёх* *) слоў, а гэтыя асобнасьці якраз нашым правопісам не перадаюцца. Так, пішучы „звон, поп, мёд, месяц, горкі, моцны, толькі, бойся, хлеб, грэць“,— мы перадаём гэтым правопісам гукавыя асобнасьці маскоўскай мовы, тады як у каранёх гэтых нашых слоў ясна чутны крыўскія дыфтонгі *уо* (*іуо*), *ыэ* (*іе*). У выніку гэтага наша старая і самабытная мова, дзякуючы сучаснай граматыцы і правопісу, якія зафіксавалі толькі асобнасьці *канчаткаў* слоў, а ў *каранёх* пакінулі маскоўскі правопіс,— выглядае провінціянальным дыялектам расійскай мовы. А гэтае апошняе зьяўляецца запярэчаньнем адраджэньню нашай пісьменнасьці. Бо як-жа можна гаварыць аб адраджэньні яе, калі з правопісу ня відаць, што наша пісьменнасьць калісьці знаходзілася на высокай ступені разьвіцьця з выпрацаванымі, згодна фонэтычным асобнасьцям жывой народнай мовы, формамі правопісу, сходнымі з цяперашнімі асобнасьцямі нашай мовы? Мы ведаем, што ня толькі ў слове, як зьместу народнай мысьлі, але і ў форме гэтага слова, ў кождым паасобку гуку яго ці злучэньню гукаў — адбіваецца гісторыя народу. Дык трэба-ж дасягнуць таго, каб нашы словы, формы і гукі на пісьме былі адбіцьцём гісторыі нашай пісьменнасьці, гісторыі крыўскага, а не расійскага ці польскаго народаў, сярод моваў якіх, наша пісьменная мова выглядае цяпер, як толькі провінціяльная адмена, або, як гавора Безсонаў, „промежутокъ и недоумокъ“. Каб пазбавіцца гэтых прадузятых пагляддаў аб провінцыяльнай адменнасьці і „промежуточности“ нашай народнай і пісьменнай мовы, мы павінны пайці на сустрач вымаганьняў ідэі крыўскага нацыянальнага адраджэньня і стварыць гістарычна-фонэтычны правопіс, у якім-бы адбівалася як гісторыя нашай багатай у старажытнасьці пісьменнасьці, так лексычныя і фонэтычныя асобнасьці крыўскай мовы. Для нас гэта тым балей магчыма і патрэбна, калі прыняць пад увагу, што наша пісьменнасьць да паловы XVI стаг. ў сваім правопісе ужо перадае немаль усе гукавыя асобнасьці нашай сучаснай мовы.

Канчаючы свой нарыс, засьцерагаю, што мая крытыка правопісу не

*) Канчатак слова зьяўляецца толькі зьнешняй адменай яго, а карэнь прадстаўляе ўнутраны зьмест слова і акрэсьляе яго паходжаньне.

зьмяншае вялікіх заслуг перад нашым адраджэньнем аўтараў першых нашых граматык, якія прапрацавалі шляхі адраджонай пісьменнасьці. Пры гэтым, паручаючы сваю стацьцю для развагі працаўнікам крыўскага адраджэньня, ведаю, якія вялікія труднасьці зьвязаны з рэформай абэцэды і правопісу. Гэту рэформу могуць рабіць толькі высокааўтарытэтныя вучоныя установы, а не паадзіночныя асобы самавольнымі выступленьнямі.

---

В. Л.

## ПРЫЧЫНЫ ЗАНЯПАДУ КРЫЎСКАЙ МОВЫ Ў XVII СТ.

Для об'ектыўнай ацэны аддзельных падзей у мінуўшчыне неадзоўным варункам зьяўляецца зразуменьне псыхікі тагочаснага грамадзянства: падыходзіць да мінуўшчыны трэба не з сягоняшнімі нашымі паняцьцямі і сьветаглядам, а найперш уясьніць сабе паняцьці і сьветагляд людзей, якія жылі і дзеялі ў данныя часы.

Гаворачы аб падзеях XVII ст., мы найперш павінны сабе ўявіць, што ў тыя часы так ясных нам сягоньня паняцьцяў аб нацыі не істнавала. Паняцьце нацыі заступалася дзяржаўнай прыналежнасьцю і веравызнаньнем. Пры тых варунках палітычнага жыцьця, ў якіх апынулася нашае грамадзянства ў XVII ст., калі кіруючая роля ў дзяржаве пераходзіла ў рукі палякаў і спольшчаных нашых вышэйшых кругоў, зьвязь з народнымі масамі пачувалі адзіна толькі тыя, якія яшчэ трымаліся ўсходнага абрадку (як праваслаўныя так і уніяты) з яго славянскай літургіяй і царкоўнай пісьменнасьцю. І, вось, сягоньня здаецца нам загадкай, чаму ў той час, калі пад напорам гуманізму ўсе заходнаэўропэйскія мовы адраджаліся, вызваляючыся са скоўваўшых іх пут мёртвай лаціны, то наша мова у гэтым самым часе пачала занепадаць і што раз больш зыходзіць з публічнага ужытку.

Прычыны гэтага былі многія, але галоўная з іх—памылковы пагляд нашага тагочаснага грамадзянства на „стараруекую“ мову, якая ў істоце ніколі не істнавала, або істнавала толькі ў выабражэньні кніжнікаў XV і XVI ст., якія думалі, што мова царкоўных кніг, прынесеная разам з хрысьціянствам з Баўгарыі, была першапачатна адзінай супольнай мовай для ўсіх плямён Усходнага Славянства. У істоце мова царкоўнай пісьменнасьці ніколі ня была мовай народных мас Усходнага Славянства, падзел якога на племянныя дыялекты бязумоўна істнаваў яшчэ ў паганскія часы.

Усходны абрад накінуў усяму Ўсходнаму Славянству ад Адрыятыку да Ноўгарада адну царкоўную пісьменнасьць. Пісьменнасьць гэта ў часы панаваньня лаціны на Захадзе, давала Ўсходнаму Славянству некатарую перавагу, але калі настаў час адраджэньня народных моваў у Зах. Эўропе, гэта еднасьць царкоўнай славяншчыны аказалася лішне зьвязуючай. Трэба было кождаму ў аддзельнасьці славянскаму народу парваць з царкоўнай пісьменнасьцю і зьвярнуцца да жывых крыніц народнай мовы, але напор ворагаў праваслаўнай веры змушаў конфэсіянальна думаючых нашых прашчураў не разьдзяляцца а, наадварот, цясьней яднацца і ў мэтах самаабароны карыстацца адзінай пісьменнасьцю.

На крыўскіх землях славянская граматнасьць, ўбіраючы ў сябе лексычны матэр'ял з жывой народнай мовы, да XVI ст. здолела далёка адыйсьці ад мовы літургічных славянскіх кніг, прыбліжаючыся немаль



Балонкі крыўскага Псалтыра XVI ст., якія могуць служыць ілюстрацыяй прыбліжаньня мовы царкоўных кніг да мовы народнай.

саўсім да мовы крыўскага народу. І наша мова, дзякуючы натуральнай эволюцыі, вызвалілася б з ланцугоў славяншчыны, каб не змаганьне за веру, якое з надзвычайнай зацятасьцю разыгралася на нашых землях.

Змаганьне за адзіную для ўсяго Усходнага Славянства праваслаўную веру, падтрыманае ўсходнімі патрыархамі і маскоўскай дзяржаваю, павярнула разьвіцьцё нашай пісьменнай мовы назад, да царкоўнай славяншчыны, як я была прызнана мовай царквы і навукі для ўсяго праваслаўнага Славянства. Рашылі, што асобныя племянныя славянскія дыялекты ня ёсьць аддзельныя мовы, а адзічэўшыя і агрубеўшыя галіны „любезного" і „сущельного языка словенского". А дзеля гэтага трэба перавучыць народы славянскага Усходу на адзіную для ўсіх іх славянскую мову. Для гэтай мэты павінны былі служыць чысьленна закладаныя па нашым краю ніжэйшыя і вышэйшыя брацкія школы. У слаўных грэка-лаціна-рускіх школах народная мова служыла толькі памочным знадаббем да навучаньня ц.-славянскай мовы. У дадатку уставы гэтых школ вымагалі, каб „спудеи" паміж сабой не гаварылі „простай", г. зн., жывой народнай мовай, але толькі мовамі навукі: грэцкай, лацінскай, славянскай і (ў межах Рэчыпаспалітай) польскай. У выніку, новыя пакаленьні навучаліся гаварыць барбарскай тарабаршчынай, якая, як успамін, захавалася дасягоньня ў украінскіх комэдыях у ролях вучоных дзячкоў. Мова гэта, наскрозь штучная, ня мела дапасаваньня ў практычным жыцьці. На соймах, сойміках, судох і ў войску, замест пагарджанай „простай" мовы, пачынае штораз часьцей быць ужыванай мова польская, бо жыцьцё не магло быць нагнутым да надуманых тэорый, выкалыханых у манастырскіх кельях.

Трыумфальны паход польшчыны ў XVII ст. не саўсім слушна прыпісуюць адзіна дэнацыяналізатарскаму уплыву езуітаў і езуіцкіх школ: заслуга спольшчаньня вышэйшых кляс нашага грамадзянства можа быць ў роўнай меры прыпісана як езуітам, так і праваслаўным манастыром з іх брацкімі грэка-лаціна-рускімі школамі.

У пісьменнай-жа мове сталася эволюцыя ў другую старану. Ужо ў канцы XVI ст. Сьвятагорац у сваіх кнігах заклікаў:

„Книги церковныя всѣ и уставы словенскимъ языкомъ друкуйте; сказую бо вамъ тайну великую, яко діаволъ толикую зависть имаетъ на словенскій язык, же ледво живъ отъ гнѣву... А то для того діаволъ на словенскій язык борбу тую мает, занеже есть плоднѣйшій одъ всихъ языковъ и Богу любезнѣйшій... Тако да знайте, як словенскій языкъ предъ Богомъ честнѣйшій есть и отъ еллинскаго и латинска, же се не байки суть".

Ідучы на сустрэч духу часу і конфэсіональным вымогам, Мялеці Сматрыцкі ў 1618 годзе выдае сваю славянскую граматыку, якая павінна была, як пісалі ў маскоўскім выданьні гэтай граматыкі 1848 г., „паслужыць да паправы царкоўных кніг". Паправа царкоўных кніг адбывалася ня толькі ў Масковіі, але і ў нас, заступаючы ў кнігах царкоўных мову крыўскую, баўгарскай мовай маскоўскай рэдакціі. Для прыкладу возьмем кнігу „О сакраментах".

| *Кутэінскае выданьне 1637 г.* | *Чарнегаўскае выданьне 1717 г.* |
| --- | --- |
| *Вопр.* Которая естъ форма того сакраменту, албо ли которыя словы совершают тую тайну? | *Вопр.* Кая форма, или совершеніе тоя тайны? |



Грунвальдзкая бітва 1410 г. (Гл. аддзел „Запіскі“).

*Отв.* Суть тые слова Христовы над хлѣбомъ: „пріимите и ядите, се есть тѣло мое“. А над виномъ: „Пійте отъ нея вси, си есть кровъ моя“. Тых абовемъ словъ самъ Спаситель зажилъ, гды на тайной вечери своей хлѣбъ и вино въ правдивую кровъ перемѣнилъ“.

*Отв.* Совершается тайна сія по словесѣхъ Христовыхъ силою Духа св. реченными: „и сотвори хлѣбъ убо сей честное тѣло Христа твоего, а еже въ чаши сей, честную кровь Христа твоего, преложивъ я Духом твоимъ светымъ“. По глаголѣхъ бо сихъ пересуществованіе абіе бываетъ, и премѣняетъ хлѣбъ въ истинное тѣло Христово, а вино въ истиную кровь Христову“.

Гэткую эволюцію ад XVII да XVIII ст. прайшлі ўсе больш чытаныя кнігі, якія прыходзілася часьцей друкаваць, так што ў XVIII ст. ўсе нашы крыўскія кнігі былі ўжо папраўлены як са стараны мовы, так і са стараны зьместу. Жывая мова захавалася адзіна толькі ў вуснах нашага сялянства.

Філ. канд. Я. СТАНКЕВІЧ.

## ПАЧАТНАЕ „О — Е“ Ў СЛАВЯНСКІХ МОВАХ.

Ёсьць некалькі слоў, якія ў крыўскай (беларускай), украінскай і маскоўскай мовах пачынаюцца гукам *о* (каторае ў крыўскай мове, дзеля аканьня, не пад націскам перайходзіць у *а*), а ў іншых славянскіх мовах — гукам *е*, прыкладам: крыўск. — *а*дзін, *во*зера, *а*лень, *во*сень; украін.—*о*дин, *о*зеро, *о*лень, *о*сіць; маскоўск.—*о*динъ, *о*зеро, *о*лень, *о*сень. Але ў стара-царк.-славян.—*іє*динъ, *іе*зеро, *іе*лень, *іє*сень; баўгар.-*е*динъ, *е*зеро, *е*ленъ, *е*сень; сэрба-харв. — *jé*dan, *jé*zero, *jé*len, *jé*sen; словен.—*é*den, *jé*zero, *jé*len, *jé*sen; чэск. — *je*den, *je*zero, *je*len, *je*sen; польск. — *je*den, *je*zioro, *je*leń, *je*sień. Некатарыя вучоныя славісты лічылі, што *о* ўзьнікла з праславянскага *е*, многія-ж маскоўскія славісты, а ў тым ліку і „наш“ праф. Карскі, лічылі гэта найгалоўнейшым довадам таго, што існавала калісьці адзіная „праруская“ мова, з якой пазьней разьвіліся цяперашнія крыўская, украінская і маскоўская мовы. Аб гэтым пытаньні шмат пісалі, але да апошняга часу ўсё ж ня было даведзена паходжаньня пачатных *о—е* і адносін іх паміж сабою. Ажно нядаўна прафэсар Саратаўскага унівэрсытэту Г. Ільлінскі ў стацьці „Къ вопросу о чередованіи гласныхъ ряда *о—е* въ началѣ словъ въ славянскихъ языкахъ“ („Slavia“, R. II, 2—3, Прага, 1923) падробна разгледзіў і **а к а н ч а л ь н а р а з ь в я з а ў г э т а е п ы т а н ь н е**.

Праф. Ільлінскі спачатку разглядае довады іншых вучоных і зьбівае іх. Падаём паасобку гэтыя довады і крытыку іх.

Праф. Коласаў даводзіў, што формы з *je* старэйшыя за формы з *о*, і што гэтае *je* ўзьнікла з старэйшага, цьвярдога (нейотованага) *е*, якое пры іншых умовах зьмянілася ў *о*. У гэтым довадзе ён апіраўся на тое, што 1) ў літоўскай мове ёсьць формы з *е* (elnias— алень), 2) што формы з *je* ёсьць у ст.-ц.-сл. мове і 3) што ў словах, запазычаных з грэцкай мовы, гэтае *е* ў крыўскай і украінскай мовах заменена на *о*; як прыклад апошняга, праф. Коласаў прыводзіць слова „*о*лей“. Але, даючы гэты прыклад, ён не зацеміў, што гэтае слова з *о* ёсьць і ва ўсіх іншых славянскіх мовах, прыкл., сэрб.-харв.—ȍlaj, слов.—ólej, чэс.—olej, влс.—wolij, польск.—olej; у ст.-ц.-сл.—*іе*леи, але побач з ім і—*о*леи.

Праф. Ягіч лічыў, што слова „*о*лень“ ўзьнікла з „*е*ленъ“ праз пасярэдніцтва „jolenь“ (je—jo—o). Ён успамінае яшчэ аб асабовых імёнах з *е* ў грэцкай мове, якія ва ўсходна-славянскіх мовах далі *е* (прыкл.: Евдокія, Елена, Евстафій, Евфросинія, Елисей). Гіпотэзу Ягіча праф. Ільлінскі зьбівае тым, што „яна пакідае адкрытым пытаньне аб **п р ы ч ы н е** адпаду *j* ў пачатку слова, які адпад немагчымы ўжо таму, што прымушае верыць у пераход *е* ў *о* перад *мяккімі* зычнымі, тады як у іншых прыпадках гэты пераход маем толькі перад цьвярдымі“. Што-ж датыча асабістых імёнаў грэцкага паходжаньня, дык Ільлінскі пэўны, „што ў гісторыі іх утварэньня бязсумлеву меў вялікую ролю і псыхічны дзейнік аналёгіі, ў частцы—контомінацыя. У кожным прыпадку ужо адно тое, што гэтыя словы не славянскага, а грэцкага (тачней, візантыцка-грэцкага) паходжаньня, трэба да падобных „аргумантаў“ адносіцца з найвялікшай асьцярожнасьцю“ [1]).

---

[1]) Іншыя вучоныя, а паміж імі й Сабалеўскі, выясьняюць, што пачатнае *е* грэцкіх слоў, у пару перайманьня гэтых слоў наверненымі на хрысьціянства Славянамі, вымаўлялася самымі Грэкамі як *о*. Тое-ж самае гаво-



Бітва пад Оршай 1514 г. (Гл. аддзел „Запіскі“).

Ільлінскі зьбівае й гіпотэзу Фортунатава, перапрацаваную потым Шахматавым, якія навучалі што *е* перад *і*, *е*, *ѣ* дысымілявалася ў *ä*, якое дало *о*, пры гэтым *j* ў некатарых дыялектах адпала, бо „дысыміляцыя гука *е* перад наступным вузкім галосным знайходзіцца ў супярэчнасьці з тэндэнцыяй рускай мовы захоўваць праслав. „*е*“ *ў гэтым жа палажэньні*“. Апрача таго, яна ня мае фактычнай апоры, бо „*жана*, *жаніх*“ і інш., на якія паклікаецца Шахматаў, могуць мець у сабе той-жа карэнь gens-, які захаваўся ў гоцк. gêns, ст.-інд.—ganis; гэтак-жа *жалеза* паходзіць

рыцца і аб словах, перайманых з скандынаўскае мовы, як *Олег*, *Вольга*, Скандынавы ў той час самі вымаўлялі *о* замест *е*.

ад караня ĝhēl-; *щапити* — ад *скеп-*, šĉap-, якое дайшло дагэтуль у баўг. *штапъ* (палка), ср.-хор.—štap, маск.—*щапъ* (засечка на дрэве). Тое-ж адносіцца й да караня šĉam—у слове „*щамити*“. Яшчэ болей незразумелы адпад пачатнага *j* ў групе *jä*, бо іншых прыкладаў гэтага адпаду няма. Калі-ж у старых усходна-славянскіх памятках знаходзім *е*, а ня *о*, дык гэта таму, што пісакі пакідалі іх як чужыя для свайго вуха ў тым выглядзе, як знаходзілі ў палуднёва-славянскім арыгінале; а *ће* ў луж.-сэрбскай мове нічагусенькі ня значыць, бо гук *ћ* зьяўляецца ў гэтай мове ня толькі перад *е*, але і перад іншымі галоснымі, на'т—перад *і*: гэта паказуе, што ўмовай яго зьяўленьня было што хаця, але толькі ня якасьць галоснага *е*.

Ня выдзержуе крытыкі й гіпотэза Лянга, што спачатку былі формы з *о* (*о*лень), якое далей праз йотацыю сталася *jo* (jolen', jozero), а з апошняга ў некатарых славян. мовах—*je* (jeleń). Але ведама, што *о* найменей здольна прымаць *j*.

Калі-ж, кажа Ільлінскі, нельга вывесьці ані *о* з *е*, ані наадварот, дык трэ думаць, што абедзьве формы аднолькава старыя.

Ужо Пацебня даводзіў, што *о* і *е* ў гэтых словах ўзьніклі з прабалтаславянскага *а* йотаванага, значыцца,—*ja*. Да яго прылучыўся Міклошыч. Што *о* ў вышэй паказаных словах не зьяўляецца ніякай „рускай“ асобнасьцю, вельмі добра паказаў Сабалеўскі, але, зьбіўшы іншых, ён не давёў, адкуль-жа запраўды ўзяліся *о* і *е*. Праф. Ільлінскі ў сваёй стацьці кажа, што абодва гэтыя галосныя ёсьць „*рэфлексы адпаведных індо-эўропейскіх гукаў*“. „Факты недвузнанычным спосабам паказуюць, што *фальшывая* (мнимая) *асаблівасьць „рускае“ мовы запраўды шмат старэйшая ня толькі за рускую мову, але і за ўсе славянскія* (курсыў мой.—*Я. С.*). Цьвердзіць праціўнае, — знача ўпадаць у непаразуменьне, прыроднае трэцяй чэцьверці XIX ст., але недазволенае ў 1-й чэцьверці XX, калі дарослая этымолёгічная веда ўжо параўнальна цьвёрдымі крокамі ступае па непамернай пушчы лексычнага матэр'ялу“. Ніжэй Сабалеўскі шляхам падрабязнага этымолёгічнага аналізу адпаведных лексычных данных паказуе, што *чарадаваньне рускіх формаў з пачатным „о“ з іншаславянскімі з пачатным „е“ прадстаўляе факт не славянскае фонэтыкі, а факт індо-эўропэйскага чарадаваньня галосных раду о,- е-* (Курсыў мой —*Я. С.*). Вось гэтыя прыклады, якія падаю, скараціўшы да мінімума, дадзены аўторам падробны разгляд іх.

1. *Озеро-езеро.* Але ў маск. мове захаваліся й сьляды варыянта *езеро*: ў нвг. *езеро, лезеро*, а слова *озеро* ёсьць і ў іншых Славян, прыкладам, на Балканах у Эпіры адно возера грэкі завуць Ozeros. Назоў гэты астаўся ад старых славянскіх сяліб VI ст. Стара-прускае assaran (зн. azaran) — „мора“ і шмат інш.

2. *Осень-есень.* Ст.-прус. assanis, гоцк.—asans (час жніва), ст.-верх.-ням.—aran, arn (жніво). У маскоўскай мове ёсьць гэтае слова і з пачатным *е*: разан.—*есень*, тамб.—*есенясь* (сёлета ўвосень). З другога боку (дадам я) ў чэскай мове маем oseni (рунь).

3. *Олень-елень.* Літ. alnis (цяпер—elnias. *Рэд.*)—алень; латыскае—alnis (лось), а таксама літ.—elnis, ст.-літ.—ellenis, грэцк. ἐλα-ϕος—алень (з eln-bhos) побач з ἐλλος—алянё (з ἐλόσς).

4. Крыўс. (бел.)—в*о*жык, маск.—*ожъ*; іншаслав. маюць—jež. Але і ў крыўскай мове маем — *е*жык, а маск. — *ёжъ*. *Еж* узьнікла з інд.-эўроп. караня ēĝh-(калоць), ад каторага пачынаюцца літ.—*eži*s (цяпер—*ežys.Рэд.*), ствн.—igil; побач з каранём ēĝh-быў карань oĝh-, ад якога ўтвораны *ож*, *ож*ык і армян. ozni (ежык).

Сюды адносяцца й такія словы, як маск. „*ожина*“, крыўск. „*ажына*“. Да гэтае групы належаць і назовы рыбы з сям'і акунёў або яршоў: ст.-прус.—assegis, літ.—ežgis, чэс.—eždik (акунь), польск. — jezgarz (ерш). Значыцца й тут чарадуюцца карані ēgh- і ogh-.

5. *Асётр-есетр.* Як у іншых прыпадках, так і тут, роўналежна з ēgh- быў карэнь ēk- у тым-жа значэньні. Ад яго паходзяць літ.—ešeris (цяпер пішацца—ešerys. *Рэд.*)—„акунь“ і слов.—jesetrъ; апрача таго, ў літ мове ўжываюцца ašeris і ašetras (асётр), а праславянская мова знала побач „jesetrъ“ і „osetrъ“.

6. *Ольха-ельха.* З адной стараны і ў усходна-славянскіх мовах ёсьць *е*, гэтак: маск., вяцк. і валаг.—*ёлха*, нжг. — *елоха*, *ельшина*, *елховый*, *елешникъ*, *елшаникъ*. Але з другой стараны і іншыя славянскія мовы маюць *о*: словен. дыялект — ólša, чэс. — olše, влс.—wolša, п.—olsza, olcha; ст.-прус. aliskande, літ. — alksnis, дыялект літ. (усх.-літ.) — aliksnis, ствн. — olira, лац.—alnus (з alisnos або alsnos).

7. Маск. *овинъ* (месца сушэньня збожжа), ст.-крыўс.—*еўе*, новакр.—*еўня*, літ.—jauja.

8. *Олово-елово.* Срб.-баўг.—*іелово*, *іеловѣлъ*, нов.-баўг. — *елово*, *еловъ*; у іншых славянскіх мовах ім адпавядаюць формы на *о*: ст.-ц.-сл.— *олово*, крыўс. — *волава*, укр. — *олово*, маск. — *олово*, сх. - *олво*, сл. — olovo, влс. — woloj, р. — olov (дадам, што і чэс. — olovo). Літ. — alvas, ствн.—elo (жоўты), ірскае—luide (цына).

9. Крыўс. *ля*меш (ці з націскам на першым складзе *ле*меш), маск.— *о*межъ, баўг. — *е*меж ср.-хар.—*je*mlješ, *je*mješ.

10. *Одинъ-единъ.* З інд.-эўр. edhi, odhi+паказальнае займя *нъ*.

11. *Одва-едва.* Тут тое самае. Крыўс. — *ледзь*, пол. — ledwie, маск.— *едва*. Тут карэнь *едъ-*, *одъ-* злучыўся з паказальным займем *въ*. Крыўс.— *ледзь* з *ледзьве* сталася шляхам контомінацыі (скрыжаваньня) jedve з jelē, lē. Дадам, што ёсьць яшчэ чэскае sotva.

12. *Ješče* (с.-ц.-сл.—*іеште*, с.-х.—ješče, ч.—ješte, кр.—*яшчэ*, п.—jeszcze, м. — *еще* і *ošče* (баўг.—*оште*, дыялект м.—*още*). Побач з гэтымі дзьвяма формамі ёсьць яшчэ трэцяя—*jьšče*: сл.—išče, iše, влс.—hišče, м. дыялект— *ищо*, укр. дыялект—*ище* і (дадам ад сябе) крыўс. дыялект — *ішчэ*. Утварыліся яны ад трох асноў паказальных займеньняў ō-, ē-, ī-, прыкладам— паказальнае займя tje (той)=(він. склон адз.ліку ed+tje>edtje>estje>ešče, od+tje>odtje>ostje>ošče, id+tje>idtje>istje>išče.

Значэньне ўсіх трох формаў было адно — „вось гэта ў вялікшай ступені“. Адгэтуль—адзін маленькі крок да значэньня „яшчэ“.

Гэткім парадкам морфолёгічная структура прыслоўя *яшчэ* ў прынцыпе ня рожніцца ад лацінскага *ecce*, якое ўзьнікла з ed+ke [2]).

Як бачым, чарадаваньне пачатных *о* — *е* зьяўляецца асаблівасьцю праінд.-эўроп., ды, апрача таго, пачатнае *е* маюць і ўсходна-слав. мовы, а іншыя слав. мовы маюць часта *о*.

---

[2]) Хто хацеў-бы аб пачатных *о*—*е* шырэй даведацца, няхай чытае разгляданую стацьцю Ільлінскага ды Сабалеўскага „Лекціи“ (1907, бал. 31).

ПАГАШЧАНІН.

# ПАГОСТ.

(Успаміны з нядаўнай мінуўшчыны).

Гадаваўся я змалку часьцю ў аколіцах, часьцю ў самой вёсцы Стары-Пагост, а знача дзіцячыя годы жыў яе інтэрасамі, яе сьветаглядам і абычаямі. З гэтых часаў захаваўся ў мяне даволі значны запас успамінаў і перажываньняў, якія ўрэшце дапаўняліся пазьнейшымі ўражаньнямі, дзякуючы таму, што я падтрымліваў стасункі з жыхарамі гэных аколіц.

У папярэдні сваім нарысе аб пагоскай школе (гл. „Крывіч" № 1, б. 26) я ўжо зазначыў, што між пагашчанамі істнавалі легенды аб слаўнай мінуўшчыне х вёскі, якая, быццам, была калісь горадам, каторы меў многа царквей і княжае замчышча. Памятаю, раз, вяртаючыся з начлегу, мясцовы селянін, Матуз, які сярод вяскоўцаў слыў асілкам, апавядаючы аб быўшым тут горадзе і яго праваліўшыхся „ў скрозьдоньне" царквох і палацах, паказаў мне, дзе былі гарадзкія вароты. Гэта было за вёскай, насупрапь новага магільніка. Па сьвежа скошанай нізіне, ў старану засьценка Загацьця, папраўдзе, відаць быў сьлед нейкай старой грэблі, даўно ўжо закінутай.

„Вось тут былі гарадзкія вароты", — сказаў дзядзька Матуз, паказуючы на груды камянёў і выпукласьці грунту, якія быццам і запраўды паказвалі на сьляды нейкай руіны,—„а ад варот направа і налева ішла крэпкая сьцяна кругом гораду".

І мне тады здавалася, а мо і папраўдзе гэта было, што ад мейсца, названага „варотамі", ішлі нівамі сьляды накопнага валу. Аб „праваліўшымся", а паводле іншых вэрсый „заварожаным" горадзе, істнуе на ўсім абшары, як доўга і шырока крыўская зямля, безканечнае множства легенд і апавяданьняў, але, мне здаецца, нідзе яны не апавядаюцца з такой бязьмежнай верай і рэальнасьцю, як ў Старым Пагосьце.

Пры гэтым цкава, што нявідомы горад меў сваё асобнае найменьне: звалі яго Багоцк. Ў некаторыя дні году горад гэты выступаў на ўзьверх зямлі і тады, хто годзен быў, бачыў і людзей і будынкі. Многа было ачавідцаў сьведчыўшых, што бачылі Багоцк. Толькі адны апавядалі, што ў нявідомым горадзе кіпела саўсім звычайнае жыцьцё — торгоўля на рынках і вуліцах, песьні і танцы ў корчмах. Другія—бачылі жыхароў Багоцка, тоўпячыхся перад царквамі, ў якіх ішла набожная адправа пры яркім асьвятленьні царквей пылаючымі сьвячамі. Як першыя, так і другія „ачавідцы" ў апавяданьнях дадавалі эпізод аб „Белай Пані", каторая ездзіць ў карэце, запрэжанай чацьвёркай белых коней.

Аб „Белай Пані" істнаваў асобны багаты цыкль апавяданьняў. Выходзіла, што яна, як быццам, была не гаражанка, а прыязджала ў горад Багоцк са сваіх палацаў (паводле іншай вэрсыі—замку), што быў на горцы ў канцы пагоскага возера, паміж гэтым возерам і амшарай, што прылягала да Красенскага возера. Палац яе таксама праваліўся. Яе-ж, „Белую Паню", на Купальле а-поўдні можна кождаму сьмеламу што год бачыць, бо тады разступаецца гара, і адчыняюцца дзьверы ў палац. Тыя, каторыя бачылі, апавядалі, што „Белая Паня" сядзіць на аграмадных каваных скрынях з грашыма і горка плача, а перад ёй чатэры чорныя сабакі з аграмаднымі бліскучымі вачамі грозна рычаць на зьбліжаючагася да палацу. Ня было яшчэ сьмялчака, які-бы адважыўся зблізіцца да скарбаў, а каб такі знашоўся, то і сам стаўся-бы багатым і „Белую

Паню“ ашчасьлівіў-бы, бо тады вышаў-бы наверх зямлі палац, і „Белая Паня“ стала-бы падаўнаму жыць на зямлі. Толькі аднэй сьмеласьці мала: трэба яшчэ „слова“ ведаць, а бяз гэтага дыкі сьмялчакі, бывала, жыцьцём плаціліся. Старая ўдава, Магдалена Рыдзіка, апавядала, як яна на ўласныя вочы бачыла раз разступіўшуюся гару і „Белую Паню“, а перад ёй цэлы вал людзкіх касьцей: то былі косьці тых, што ня ведаючы „слова“, а кіраваныя толькі сьмеласьцю, памыкаліся увайсьці ў палац. Бачыла яна гэта, будучы яшчэ малой, пасучы гусей ў канодны Купальскі поўдзень.

З „Белай Паняй“ лучыўся яшчэ другі цыкль апавяданьняў, гэта—аб скарбах, закапаных на астраўку, ў канцы Красенскага возера, пасярод вышэй спомненай амшары, куды штогодна на Купальле хадзілі акалічныя сяляне „пілнаваць грошы“, г. зн., чакаць тэй хвіліны, калі, паводле глыбокай і усеагульнай веры, яны засьвецяцца. А засьвяціцца схаваныя грошы ў купальскую ноч павінны абавязкова. Дзякуючы гэтаму, увесь астравок быў пакапаны ў ямы. Скуль там узяліся тыя грошы, — легенда апавядала вось што: „Белая Паня“, дачка князя, была невымоўнай красы, і ў ёй закахаўся чужаземны багаты купец. Бацька князёўны, хочучы заўладаць багацьцямі купца, нарушыў сьвятасьць гасьціннасьці і ўначы адсек галаву сьпячаму ў яго доме купцу, забраў каваныя скрыні золата, якое і так купец быў прывёзшы з сабой, каб аддаць ў падарунку каханай дзяўчыне. Яе бацька труп забітага і часьць скарбаў забраў і тэй-жа начы закапаў іх на астраўку, а сам па дарозе дамоў быў забіты слугой, які ў свой чарод таго-ж дня утонуў ў возеры. Пасьля такога злачыну зямля здрыгнулася, — і палац праваліўся. Князёўна навекі асталася за кару пілнаваць скарбаў за тое, што ведаючы аб замыслах бацькі, не паўстрымала яго. Бацька князёўны і слугі, што памагалі яму ў злачыне, былі перакінуты ў чорных сабак, якія вечна з сабой грызуцца. Купец час ад часу ўстае з зямлі, бярэ сваю адсечаную галаву рукой за валасы і ходзіць па астраўку, пасьвечваючы сабе бліскучымі, як сьвечкі, вачамі. Тут вэрсыі разыходзяцца: адны кажуць, што ходзіць купец, шукаючы захаваных тут яго ўласных скарбаў, а другія кажуць, што — шукаючы сваіх крыўдзіцеляў.

Ня безцікаўна адзначыць, што каля 1895 году на гэтым астраўку маскаль Паўлуха выкапаў прыпадкова скарб, зложаны з некалькіх тысяч сярэбраных арабскіх манэт. Часьць гэтага скарбу, каля 2-х фунтаў, была ад яго адабрана паліцыяй і пераслана ў Петраград, ні то ў Архэолёгічную Камісію, ні то ў Эрмітаж. Як ня дзіўна, але ў вышай прыведзенай легендзе ёсьць, здаецца, нейкі адгалосак падзей, меўшых мейсца больш тысячы гадоў таму назад. Бо скуль-жа гэта вера ў тое, што на астраўку знаходзяцца закапаныя грошы? Тым больш, што закінуты паміж дрыгвы астравок, сам па сабе не выяўляў нічога асаблівага.

Вяртаючыся да заварожанага Багоцка, трэба дадаць, што пад зямлёй ён жыў поўным сваім жыцьцём, аб чым сьведчыць тое, што ў сьвяточныя дні, а-поўдні, прылажыўшы вухо да зямлі, можна было чуць званы ў царквох, а ў некатарых здарэньнях — нават царкоўныя сьпевы. Я сам, наслухаўшыся апавяданьняў аб падземным горадзе і сьвята веручы ў іх, няраз пралежваў цэлымі гадзінамі, прытуліўшы вухо да зямлі і раз заснуўшы, прысьніў такое дзіва, што прахапіўшыся, як няпрытомны, бег дамоў. А дома напужаў маю матулю сваім бяззьвязным апавяданьнем, перамешаным з дзікай фантазыяй.

Хто думаў-бы, што нашы сяляне глядзяць на ўсякія зьявішчы прыроды і легенды, як на загадкі для себе,—той вельмі памыляўся-б. Пасьля

майго выезду ў горад і бліжэйшай знаёмасьці з кніжкай,—пачалі толькі закрадацца ў маю душу розныя неразгаданыя пытаньні, якіх раней у мяне ня было. Пакуль я жыў у вёсцы, паміж вяскоўцаў, кождая зьявішча было проста і ясна.

Вясковы жыхар, прынамні даўней, меў гармонічна закончаны свой сьветагляд. Праўда, ў гэтым сьветаглядзе рэальнай веды было вельмі мала: большая часьць яе складалася з легенд, забабонаў і традыцый, а найболей з самай буйнай фантазіі.

Фантазія вясковых жыхароў ахвотна затрымлівалася на апавяданьнях аб закапаных скарбах, і дзеля гэтага многа было мейсц, аб якіх апавядалі, што ёсьць закапаныя грошы. А аб аднэй яблынцы ў полі, старой, пакрыўленай, казалі, што пад ёй чорт нават жадаючым пазычае грошы. І гэта пераказвалі з такой верай, што ня было мейсца якому-бы то не было скептыцызму.

Аб паказваньнюся скарбаў існаваў ня толькі бязмерны лік апавяданьняў, але было нямала й ачавідцаў, прычым такіх, аб якіх ніяк нельга сказаць, што былі гэта сьвядомыя містыфікатары. Прыкладам, успамінаецца мне расказ аднэй вельмі шанаванай у вёсцы кабеты, як ёй паказваўся скарб ў яе ўласнай хаце. Было гэта, паводле яе слоў, ў нядзельныя дні, калі выходзілі ўсе з хаты. Сядзела яна каля акна, аж бачыць,— выбягае з падпечку белы, як сьнег, барашка, другі раз— жоўты коцік, а трэцьці і апошні раз выбег з падпечку маленькі сьветлавалосы хлопчык, пакружыўся па хаце, а пасьля заплакаў і зьнік. Пры гэтым яна кождую сваю відзежу апавядала з такімі падробнасьцямі, што немагчыма, каб гэта было голай выдумкай.

Калі-ж да цыклю апавяданьняў аб скарбах дадаць ня менш абшырны цыкль аб нябожчыках, апавяданьні аб якіх перадаюцца з безпадобным рэалізмам, асабліва, аб паказываньнюся малых дзяцей плачучым на могілках маткам,—то прыходзіцца думаць, што ў данным здарэньні мы маем перад сабой не сьвядомую ману, ці ігру фантазіі, якая ў паасобных здарэньнях ня выключана, а праяву агульнага нэрвовага зьнебыткаваньня, якое служыць, асабліва ў кабет, грунтам да самых крайніх праяў гістэрыі.

Агульна бяручы, крыўская вёска жыла вельмі бедна, асабліва-ж бедна жылі жыхары вялікіх вёсак, дзе пры малазямельлі і шнуравой гаспадарцы. зямля выкарыстваласяа толькі напалавіну. Прыкладам, ў гэтым самым Старым Пагосьце на звыш 60 гаспадароў, толькі 3—4 гаспадары мелі хлеб на стале ад новага да новага; палавіна ж вёскі ад вясны да жніва хлеба ня бачыла.

Варункі быту вясковай жанчыны—маці і гаспадыні—асабліва цяжкія. Што год—у цяжку, адно аднімае, другое далучае да грудзей, і гэта — пры штогоднай галадоўцы і надмернай працы. Бо вясковая жанчына першая ў хаце ўстае і апошняя лажыцца спаць, маючы на сон 4—5 гадзін ў содні. Пры гэткім жыцьці 30-ці гадовая жанчына выглядае саўсім завяўшай, зьнебыткаванай, з разьбітым здароўем і нэрвамі. Палажэньне мужчыны ня лепшае за палажэньне жанкі, бо на яго падае ўся мускульная гаспадарская і заробкавая праца. У гэтай атмосфэры голаду, недамаганьняў, заўсёднай фізычнай працы і нястачы ўмысловай, фантазія заагняецца,—і даволі самай лёккай прычыны, каб мозг вышаў з роўнавагі і пайшоў торам гістэрыі і галюцынацій.

Мне прышлося раз быць ачавідцам і учасьнікам масавай гістэрыі з галюцынаціямі. Было гэта ў восенскую цёмную ноч, каля поўначы. Па вёсцы, як зазвычай, хадзілі два вартаўнікі. Адзін з іх быў Сьцёпка

бондар, чалавак з пылаючымі вачыма — вынік хронічнага недаяданьня і гістэрыі, другі—малады хлапец. Сьцёпка, сваім звычаям, калі не спаў, то лгаў. Пад чорную восенскую ноч настрой ў яго быў пануры, і ён ўсё баяў хлапцу аб нябожчыках і чарцях. Хлапец слухаў з самай шчырай верай, тросься ад страху пры кождым шэлесьце і подмуху ветру. Аж, ўрэшце, даведзены да апошняга рубу напяцьця нэрваў, хлапец крыкнуў несваім голасам „чорт!“ і кінуўся ўцякаць дамоў. Сьцёпка — за ім. Убегшы ў бліжэйшую хату, з няпрытомным крыкам „чорт!“ спалашылі спаўшую ўжо сям'ю, якая ў панічным страху завыла ў унісон ускочыўшым да іх вартаўнікоы і інстыктыўна з крыкам, вераскам і аглушаючым візгам дзяцей апынулася на вуліцы. За 5 — 10 мінут была з'эліктрызавана палавіна вёскі. Усе крычэлі, дрыжэлі, плакалі і вылі,— і толькі, спусьця добрую гадзіну, больш прытомныя дапыталіся, якая прычына гэтага непакою. Калі выясьнілася, што па вёсцы ходзіць чорт,—кінуліся хто за кол, хто за сякеру, і, сагнаўшы баб і дзяцей у вясковую карчму, кінуліся шукаць чорта. У непрагляднай восенскай цемнаце наэлектрызаваная забабонным страхам таўпа ганялася ўсю ноч да раніцы за міражамі і галюцынацціямі па ўсіх вясковых гародах і рожных будынках. Калі пры дзенным сьвятле ўзбураньне адхлынула,— пачалі разыходзіцца, але так і асталіся цьвёрда пераконанымі, што чорт быў, паказваўся, а толькі неўдалося злавіць яго. Пад раніцу, апавядалі, чорт перакінуўся ў чорнага ката са званочкам. Пры гэтым цікава, што калі ката і ня ўсе бачылі, то званочак яго усе пагалоўна чулі.

Гэткія масовыя галюцынацыі—здарэньне рэдкае. Затое склоннасьць да галюцынацый індывідуальных заўважалася ў большасьці жанок і крыху менш сярод мужчын. Надзя Рубніковіч, жанчына каля 30 гадоў, апавядала гэткае здарэньне. Калі памёр у яе хлопчык 3—4 гадоў, яна ніяк не магла забыць яго. Летам, полючы гародніну, жаночым абычаям, вельмі распашыраным, яна кожды дзень галосіць ды прычытуе. Ажно раз, у самы поўдзень, глядзіць, — бяжыць баразной між бульбоўніку яе хлопчык. „Дык я,— кажа, — і абамлела. Пад лыжачкай занудзіла, у вачох пацямнела, і ўсю мяне потам зьліло“. Калі прышла да сабе, — хлопчыка ўжо ня было. Але затое пасьля гэтага пачаў ён да яе, галосячай ў гародзе, часьцей прыходзіць у поўдні. „Прыдзе, сядзе перада мной і забаўляецца, але ніколі ня даўся ў рукі ўзяць. Як я толькі выцягну да яго рукі, то ён і разьвеецца“. Кончылася гэта трагічным здарэньнем. Раз, як зазвычай, „прышоў“ яе хлопчык, прысеў перад жанчыной, а пасьля стаў расьці і страшнець, ўрэшце кінуўся біць яе. Жанчыну знайшлі пасьля гэтага ў гародзе пасінеўшай, а калі адцуцілі,— ўсё цела яе было пакрыта сінякамі. Гэта апошняя форма гістэрыі вядома сучаснай мэдыцыне, але ў вясковай глушы такое здарэньне прымалася, як відочны факт таго, што „трэба мець меру матчынаму жалю і не турбаваць нябожчыкаў“.

Відочна, гэтым ўсеагульным аслабленьнем нэрваў трэба тлумачыць вялікую склоннасьць жанок да сьлёз. Палавіну свайго жыцьця жанкі плакалі ня толькі з прычын, годных плачу і роспачы, але і з прычын нічога ня вартых, як прыкладам, калі ўпадзе прыпадкам лыжка на памост, ўзьляціць курыца на лаву і г. п. У ацэне праяў бягучага жыцьця вяскоўцамі, а асабліва жанкамі, рэдка праяўлялася памяркоўнасьць і развага: больш-менш значнае здарэньне выклікала крайнасьці. Калі курыца прыпадкам забралася ня ляху з цыбуляй, жанка ужо галосіць і прычытуе, што курыца агалодзіла сям'ю. Лёгкае зачаджаньне,

ці недамаганьне праводзілася стогнамі і прычотамі ў чаканьні нямінучай сьмерці і асірочаньня дзяцей. Затое запраўды вялікае калецтва, пажар, цяжкую хваробу—умелі паранасіць з дзіўным спакоем.

У вёсцы былі свае „багатыры“ (г. зн., людзі багатыя), сераднякі і бедныя; пры гэтым захоўвалася свая кастовасьць. Гаспадарскай дачцэ, што вясну галадаючай, ня прыстала дружыць з бязумоўна больш сытай і лепш адзетай беззямельнай дачкой кутніцы, якая, вярнуўшыся са службы ў родную вёску, гасьціла да новай службы тыдзень-другі ў маці. Існаваў свой таварыскі этыкет, ня менш зьвязуючы, чым ў любой арыстакратычнай сфэры, свая градацыя ў адношаньні да суседзяў, а што найцікавейшае,—дзяленьне на свайго роду патрыцыяў і плебэяў. Радаводы ўсіх вяскоўцаў былі ўсім ведамы на некалькі пакаленьняў назад. І сямья, ў родзе каторай былі асобы, чым-колечы выдзяліўшыяся, а галоўна—багацьцем, калі не сваім, то іх сваякоў,—лічылася да добрародных, і, наадварот, семьі, ў якіх ня было ні „багатыроў“ ні выдатных людзей,—станавілі ніжэйшую касту. У ацэне вясковай апініі багацьце з аднэй стараны выклілала рабскае пакланеньне, а з другой—зайздрасьць і ненавісьць. Што пераважала,—трудно сказаць.

З індывідуальных рысаў характару асабліва цанілася скрытнасьць і хітрасьць. Людзей гутарлівых, адкрытых любілі, але іх не паважалі і не цанілі; наадварот, чалавека скрытага, замкнутага ў сабе,—баяліся і паважалі.

У стасунках паміж сабой сяляне кождую праяву свайго дабрабыту, разумеецца,—дабрабыту з пункту гледжаньня галоднай вёскі, стараліся скрыць. Першай тэмай размоў пры сустрэчы гаспадынь паміж сабой было сталае нараканьне на малы удой каровы, на ненясушчасьць курэй, на няўдачу сьпечанага хлеба, на благія адношаньні мужа, сьвякроўкі і г. п. Калі селянін, акром прыродных хвалуноў, хваліўся чым, то гэта мела якую-колечы надуманую мэту. Стала і звычайна ўсе жаліліся слушна й няслушна на ўсіх і ўсё: гэта было зялезнае правіла вясковага этыкету.

Магчыма, што гэтае правіла было узгадавана доўгалетняй прыгоннай няволяй, непасільнымі паборамі з сялянства, але яно і ў пазьнейшых пакаленьнях было выдатнай, кідаючайся ў вочы, рысай.

Яшчэ ў 1890-х годах падзел паміж сялянамі і дробнай вясковай шляхтай, якая жыла тэй самай заможнасьцю і бытам, быў у поўнай сіле. У адным з засьценкаў, прылягаючым да Пагоста, былі дзьве сямьі запашнікаў, Казлоўскі і Міцута. Адна сямья — сялянская, другая—сямья шляхты, прыпісанай гадоў з трыццаць раней да воласьці. Працуючы дзень ў дзень, абое поплеч, на чужой ніве ў арэндатара селяніна, Міцута да Казлоўскага заўсёды зьвяртаўся на „пане“, а Казлоўскі да Міцуты—на „ты“. Гэты стасунак не зьмяніўся нават тады, калі дачка Казлоўскага вышла замуж за Міцутавага сына; рожніца стала толькі ў тым, што Казлоўскі час ад часу пачаў называць Міцуту „пане сват“. Пры гэтым трэба заўважыць, што ў сваім падзеле сельскай беднаты на шляхту і не шляхту вяскоўцы кіраваліся не гэрольдычнымі паперамі, а толькі ім адным ведамымі мяркаваньнямі традыцыйнага характару.

Адношаньне да жыдоў у сялянства было протэкцыянальна грэблівае. Селянін цаніў у жыдзе яго практычнасьць і уменьне прыспасобіцца да жыцьця, што называў „хітрасьцю“, ахвотна ішоў да яго радзіцца ў трудным палажэньні і меў больш веры да яго рад, чым да рады інтэлігента-хрысьціяніна, але лічыў жыда ў істоце чымсьці ніжэйшым,

горшым ад сябе. Расавай і наагул ненавісьці ў стасунках між жыдамі і сялянамі ня было, істнаваў толькі глыбокі веравызнаўчы падзел і абустаронны рэлігійны фанатызм. На гэтым грунце разыгрываліся часам чорныя трагедзіі. Адну з гэтых трагедзій, яшчэ сьвежую ў людзкой памяці, апавядалі ў годы майго дзяцінства Пагашчане. Гаспадарскі сын і дачка карчмара ўзаемна закахаліся і умовіліся, што за тыдзень дзяўчына ўцячэ ад бацькоў, а ён за гэты час умовіцца з сьвятаром, каб ахрысьціў нявесту і павянчаў іх. Размову закаханых падслухала малодшая сястра, якая расказала бацьком маладой аб яе праектах перайсьці ў хрысьціянства. За некалькі дзён пасьля гэтага адбылося ў карчме галасьлівае сабраньне зьехаўшыхся з аколіцы жыдоў. А на другі дзень стала ведама, што старшая сястра карчмара памерла. Паводле вясковай вэрсіі яна была задушана пярынамі пасьля таго, калі ўсякія угаворы сабранай жыдоўскай старшызны ня здолелі яе адвярнуць ад паўзятай пастановы хрысьціцца.

Разумеецца, мог быць у гэтым здарэньні чысты прыпадак, які вёска вытлумачыла пасвойму, але такая легенда мела падставы ў бязмежным рэлігійным фанатызме сялян і жыдоў ў стасунках паміж сабой.

Адношаньне вяскоўцаў да акалічных маскалёў (так называлі стараввераў, паселеных тут пасьля 1863 году) было няпрыязным. Сяляне ўнікалі іх, як толькі маглі. У гэтым здарэньні прычына была не веравызнаўчая, а розны характар і псыхіка. У дадатку маскалі, як упрывільяваны ў краю элемэнт, трымалі сябе ў стасунку да мясцовага крыўскага сялянства зачэпна-вызываюча і за дадзены ім адпор мсьцілі нашым сялянам калі ня бойкай, то абвінавачаньнямі палітычнага характару, якія зазвычай прысьвядчалі дружна усей сваей калёніяй. Дзякуючы гэтаму, стасункі з маскалямі былі ўвесь час напружанымі.

Адзяваліся сяляне выключна ў домаробныя тканіны, белыя і чырвоныя кажухі. Першы чорны кажух быў зроблены ў вёсцы для аднаго вясковага хлапца, які выехаў у Пецярбург і працаваў у Пуцілаўскім заводзе. Ён прыслаў на кажух грошы і ў пісьме жаліўся, што ў горадзе сьмяюцца з яго чырвонага кажуха. Адступленьне ад старых традыцый пачаліся ад жаночых галаўных хустак. За імі пайшлі „кофткі", а пагадзя—і крамныя спадніцы. Аднак старыя жанчыны яшчэ ў 1895 годзе лічылі сорамам для сабе насіць крамніну замест домаробнага кужалю.

Гэтакай была наша крыўская вёска яшчэ гадоў 30—40. Сягоньня-ж варункі і псыхіка з грунту зьмяніліся. На лепшае, ці на горшае,—пакажа будучына, нам сучасьнікам трудна судзіць аб гэтым.

---

Ю. ВЕРАШЧАКА.

## СЛОЎНІК СТАРАКРЫЎСКАЙ АКТАВАЙ МОВЫ.

Праглядаючы граматы і акты, пісаныя на крыўскіх землях ад XIII да XVIII ст., заўважаецца гэткая эволюцыя ў мове. Ужо найдаўнейшыя акты не маглі выразіць падзей з жывога жыцьця слоўнікам багаслужэбных ц.-славянскіх кніг і ўносілі ў свой тэкст тэхнічныя і другія словы з крыўскай мовы, перарабляючы іх у пісоўні на ц.-славянскі лад. Смаленская Тарговая Праўда 1229 году ужо багата словамі з жывой народнай мовы. У меру разьвіцьця дзяржаўнасьці на крыўскіх

землях, павялічалася патрэбнасьць выпуску з урадовых канцэлярый што раз большага ліку урадовых дакумантаў у судовых, таргових, межавых і другіх справах, у якія з кождым годам ўсё больш і больш уходзіла народных слоў. Ужо ў дакументах XV ст. мы бачым толькі асьвячоныя традыцыяй царкоўна-боўгарызмы, як „азъ“, „реклъ“, „пакъ ли“ (ня больш 10°/₀ славянізмаў) сярод чыста крыўскай народнай мовы, якія, аднак, абазначаюцца ў напісаньні царкоўна-славянскім правапісам. Гэтая рожніца паміж вымовай і правапісам істнуе ва ўсіх старых мовах. Прыкладам, мы ведаем, што у францускай, ангельскай і гішпанскай мовах вымова напісаных літар падлягае фонэтыцы жывой мовы. Па ангельску пішацца colonel, а чытаюць — *колонэль* (палкоўнік); rough чытаюць — *раф* (шаршавы); bough — *баў* (сук); па французку пішуць hôtel, а чытаюць — отэль, champ — шан (поле), temps — тан (час). Гэтак сама і ў нашай старой пісоўні напісаньне літар *в*, *л*, *о*, *е* вымаўлялася іначай, чым пісалася. Словы з ц.-славянскім напісаньнем „былъ, шелъ, ведалъ, далъ“ ў чытанні вымаўляліся, як і цяпер: быў, ішоў, ведаў, даў; словы з літ. *о* „оксаміт, откуль“ чыталіся „аксаміт, аткуль“ і так далей. (Ад пачатку XVII ст., наадварот, пачалі вымагаць літэральнай вымовы напісанага).

На пачатку XVI ст. у мове дзяржаўных дакумантаў ц.-славянскіх слоў ужо немаль саўсім няма, у кождым здарэньні іх ня больш 2—3°/₀, а ў паасобных дакумантах і таго менш, але традыцыйны гістарычны правапіс, будучы зьвязаны ц.-слав. абэцэдай, астаецца той самы, што і ў папярэдніх стагодзьдзях, з вельмі нязначнымі адступленьнямі на карысьць фонэтыкі.

Ніжэй друкаваны слоўнічак, сабраны з дакумантаў Мэтрыкі в. кн. Літоўскага, перадрукаваных праф. Доўнар-Запольскім („Чт. въ Импер. Общ. Истор. и Древн. Росс.“, кн. IV. Масква, 1899 г.). Паасобныя словы гэтага слоўніка не ц.-славянскія, а крыўскія народныя, якія і сягоньня ўжываюцца па ўсей нашай тэрыторыі, што можна бачыць з даложаных выпісак са слоўніка Насовіча і другіх комэнтарыяў.

Для лепшага уясьненьня мовы актаў падаём перад слоўнічкам адрывак аднаго з дакумантаў (ibidem, б. 73).

„На память великий княз казал записати. Жерославчане светчили перед паном виленскимъ наместникомъ городенскимъ княземъ Александром Юревичомъ, а перед старостою Жомойтскимъ паномъ Станиславомъ Яновичомъ. Имена тымъ жорословчаном: Яковъ Короз, перед тымъ сорочникомъ былъ въ Жорославъце, а тыми разы сынъ его сорочникомъ, Данило Поботеньковъ, Хлебен, Борсукъ Ивановичъ, Иванюк Марковичъ. Светчили передъ ихъ милостью тымъ обычаемъ: мы помятуем гораздо, еще за великого князя Витовта, штож великий княз Витовтъ приехал на тое местцо, где тепере двор господаръский Жерославка. А тутъ в тот час на том местцы седели люди господаръскии Городенъскаго повета на имя Олексичи. И великому князю Витовту тое местцо подобалося на двор, и он тых людей своих Олекъсич с того села их звел и посадилъ ихъ на пущи на ихъ же отчине за Веретеею, где и тепер они седять. А на ихъ селищах справил собе двор, и держан тот двор Жерославка к Городну аж и до Витовта живота. И после великого князя Витовта такеж тот двор Жерославка держан къ Городну во вси лета живота великого князя Жикгимонта, ажъ до его смерти. А тивуном были в том дворе от великого князя Жикгимонта: перво Муровка, а другий Арод, а третий Мартинъ. Колижъ такъ великого князя Жикгимонта в животе не стало, ино по смерти его приехал Михайло Кголикгиновичъ, и въ тот двор самъ увезался и подержалъ со

два годы, корол его милость будучи еще великимъ княземъ тотъ дворъ Жерословку за ся на себе взял. И Михайло Кголикгиновичъ, што былъ там семъи своее и животины к Жерославце съ своих дворовъ припровадил, то за ся выпровадил. А то мы, панове, светчимъ верне а справедливе. А хто бы хотел о томъ инакъ поведити, нехай господаръ великий княз кажеть нас с тым перед собою очевисто поставити. Мы хотимъ добры довод на то вчинити, сами старцы всее волости Городенское; и тежъ и то, панове, поведаемъ вашой милости, што Скиньдир присылал к нам слугу своего, обецаючы нам по кожуху и по сукни а просечи насъ, абы то светчили, што он намъ кажеть. И мы того не вчинили, боялися есмо Бога и господаря великого князя".

АБОЗ. „Дал лічбу у вобозе Васко Костюшковіч" (Лічба Ваські Косьцюшковіча 1508 г., № 121). — Абоз, абозы — слова ўжыванае дагэтуль паўсюдна.

АДКУЛЬ. „А хотя бы і хотели откуль собе людей прыбавити" (Ліст кар. Жыгімонта I, 1507 г., № 106). — „Адкуль туча, адтуль і дождж" (Насовіч. 375).

АДНАКРОТ (однажды). „Што перво сего не однокрот жаловали нам люди нашы Неменчинское и Лыкгменское волости" (Вырок в. кн. Александра 1495 г., № 29).

„Аднакрот, калі я быў на кірмашы" (Раманаў, „Бел. сборн.", кн. IV, б. 126).

АКСАМІТЪ (бархатъ.) „И што теж давал до подскарбего нашого оксамиты, и одомашки и сукны" (Ліст кар. Жыгімонта I, 1509 г., №114).

„Наша Тацянка наша,
Спаймала сабе пташа,
А ў залёным жыце
У чырвоным аксаміце" (Нар. пес.).

„Узяла аксаміту на кабат" (Насовіч, 4).

АПАСЬЛЯ. „А опосля того Козарина держал братанич его Тишко" (Грам. кар. Александра 1499 г., № 66). — „Апасьля я ня буду ў дварэ" (Насовіч, 365). „Апасле прыду" (Там-жа, бал. 7).

АПРАВІЛІ (оправдали). „И мы их в томъ оправили и нашъ лист имъ на то дали" (Грам. в. кн. Александра 1495 г., № 35). — Аправіць, аправілі, знача — ўчынілі правым, апраўдалі; цяпер гэтае слова ня ўжывіецца.

АПЫТЫВАЦЬ (допрашивать). „Старых мытниковъ ковеньскихъ опытывали, жида Зубца и его товаришовъ" (Грам. кар. Александра 1499 г., № 43). — „Людзі апытаны, да нічого такога не сказалі" (Насовіч, 366).

АСТАНАК (остатокъ). „А на Божее нароженье мают нам останочную двесте копъ грошей дати" (Ліст кар. Александра 1498 г., № 55).

„Астанкі вазьмі сабе. Ніякага астанку не асталося" (Насовіч, 370).

БІСКУП (епископъ). „А иное давал на рускии церкви и бискупу киевъскому" (Лічба кіяўскага ключніка 1496 г., № 44). — Ужываецца цяпер для азначаньня асоб гэтага сану р.-каталіцкага веравызнаньня (Насовіч, 26). У смаленска-полацкіх граматах слова „пискуп", „біскуп" ужываецца і для азначаньня праваслаўных ўладык.

БУДАВАЦЬ (строить). „Печъ збудовал" (Квітацыя 1503 г., № 79). „Пан вялікую абору булуець, збудаваў" (Насовіч, 37).

# З АПОШНІХ ПАДЗЕЙ ЭМІГРАНЦКАГА ЖЫЦЬЦЯ.

Групка з дзесятай рукі нахлебнікаў маскоўскага ўраду ўчыніла чародную злачынную брахню. Гэта хаўрузія, сабраўшыся ў ліку дзевяці асоб у Бэрлін для падпісаньня акту раскаяньня, каб атрымаць за гэта— хто ўезд у Савецкую Беларусь, а хто мейсца лепшплатнага агента загранiцай, — апавесьціла сваё „дзелавое" сабраньне „2-й Беларускай Націянальнай Нарадай". А дзеля таго, што пры гэтым гешэфце патрэбны былі статысты, то ашуканскім спосабам заманілі да сябе дзьве-тры пастаронныя асобы, якія, пабачыўшы, ў чым справа, з абураньнем пакінулі „Нараду".

„Нарада" вынесла 5—6 рэзолюцій, але зьмест гэтых рэзолюцій пасароміўся надрукаваць нават старшыня з'езду п. Езавітаў у сваім „Голасе Беларуса", акром толькі аднэй, пісанай праўдападобна не пад дыктоўку невідомых суфлёраў гэтай „нарады", але па свайму ўласнаму надхненьню. Гэта адзіная, друкаваная ім рэзолюцыя, грaзіць новапазалочанымі ў Бэрліне капытамі нічым непаввіннаму імю „Крывічы".

Пры гэтым, як патрапна ахарактэрызавалі беларускія эс-эры (гл. „Бюлетэнь Загранічнай Групы Беларускай Партыі Соціялістаў Рэволюціанэраў" №1, лістапад 1925 г.), беларускі Чычыкаў, або тарговец мёртвымі душамі, Александар Цьвікевіч, запрапанаваў на продаж ім самім для сябе сфабрыкаваныя мандаты Б. Н. Р. І, відаць, такі гэты прайдоха ашукаў внешторгаўцаў, бо найперш выехаў у Менск. Рэшта, як чуваць, зьбіраецца такжа туды выехаць.

Ў нашым грамадзкім жыцьці адбылася падзея ў істоце нормальная. Нормальная, бо кожды здаровы арганізм павінен выдзяляць з сябе экскрэмэнты. Гэтак і наш незалежніцка-вызвольчы рух пазбыўся лішняга і непатрэбнага яму цягару.

Мы бачылі гэтых паноў ў ролях расійскіх акцябрыстаў, кадэтаў, „общероссовъ" да 1917 г. Як муць, ўзьбітая падзеямі 1917 г., плавалі яны нейкі час на паверхні нашага жыцьця, брудзячы і гразьнячы яго, а цяпер прыбіліся да савецкага берагу. Думаем, што як на нашым, так і на савецкім беразе на прадажных здрайцах пазнаюцца.

## РЭЗОЛЮЦІЯ СУВЯЗІ НАЦІЯНАЛЬНА-ДЗЯРЖАЎНАГА ВЫЗВАЛЕНЬНЯ БЕЛАРУСІ (КРЫВІІ).

Заслухаўшы на пленарным паседжаньні 20-XI-25 г. спавешчаньне аб спробе 12—16 кастрычніка змістыфікаваць у Бэрліне „2-ю Беларускую Націянальную Нараду", Сувязь Націянальна-Дзяржаўнага Адраджэньня Беларусі (Крывіі) выясьняе:

I. Спробу змістыфікаваць „2-ю Беларускую Націянальную Нараду" ўзяла на сябе, па даручэньню палітычных кірункаў, варожых беларускаму націянальнаму і дзяржаўнаму адраджэньню, хаўрузія авантурыстаў з 9-ці асоб, часьць якіх самазвана выдавалі сябе загранiцай за міністраў Б. Н. Р., ня маючы на гэта ніякіх юрыдычных падстаў.

II. Акром гэтай хаўрузіі авантурыстаў, цесна паміж сабой зьвязаных цёмным прошлым, ніякія беларускія (крыўскія) арганізацыі ані краёвыя, ані загранічныя з імі не засядалі і гаварыць ім за сябе не даручалі.

III. Пастановы і рэзолюцыі гэтай групы здрайцаў скіраваны супроць незалежніцка-вызваленчага беларускага (крыўскага) руху і разьлічаны на замяшаньне ў нашай грамадзкай апініі.

IV. Азначаны з'езд і яго пастановы выкліканы не якімі-колечы

ідэйнымі імкненьнямі, а выключна асабіста-матэр'яльнымі карысьцямі прадажных палітыканаў.

Дзеля гэтага Сувязь Націянальна-Дзяржаўнага вызваленьня Беларусі (Крывії) падае да ўсеагульнага ведама:

I. Крыўскі (беларускі) народ ніколі не пагодзіцца з падзеламі і ніякімі чужымі окупаціямі на сваёй зямлі; як дагэтуль, так і далей ён будзе цьвёрда і упорна змагацца за націянальнае вызваленьне і дзяржаўную незалежнасьць свае Бацькаўшчыны ў яе этнографічных межах.

II. Так званая „орыентація на Менск", пры цяперашнім цэнтралізме Саюзу Савецкіх Соціялістычных Рэспублік, гэта ёсьць служэньне маскоўскай вялікадзяржаўнасьці і падпіраньне чужога панаваньня на крыўскіх (беларускіх) землях, якія карыстаюцца толькі правамі аграніčана земскага самаўраду; гэты самаўрад дзеля баламучаньня апініі названы „Незалежная Савецкая Беларусь", на чале якой у дадатку стаіць 80% чужынцаў, пры 20% беларусаў.

## ПРАТЭСТ ГРАМ. ЯЗЭПА МАМОНЬКІ.

У Прэзыдыум Беларускай Націянальнай Нарады ў Бэрліне.

### ЗАЯВА.

Дзеля таго, што скліканая Нарада не мае поўнага прадстаўніцтва, як з заграніцы так і краю, хоць ініціятары нарады праз увесь час цьвердзілі, што будуць прадстаўнікі краю ад усіх палітычных напрамкаў. Як выявілася у далейшым, што ніякіх прадстаўнікоў з краю няма, а група эмігрантаў у ліку 9-ці асоб узяла на сябе сьмеласьць вынасіць рэзолюціі вялікай важнасьці для Беларускага руху. Асабліва вялікае значэньне мае рэзолюція аб становішчы пад Польскай акупаціяй і ў Радавай Беларусі.

Гэта рэзолюція зьяўляецца ня чым іншым, як самым звычайным зьменатычніцтвам. Асобы, прынімаўшыя гэтую рэзолюцію, сьвядома паставілі пад удары увесь Беларускі рух, як у Польшчы так і ў Латвіі. Гэтым актам яны даюць права Палякомі Латышом увесь Беларускі соціяльна-рэволюційны рух разглядаць як акцію Р. К П. і палітыку Масквы.

Асобы, якія пазволілі сабе прынімаць гэту рэзолюцію, выходзілі не з інтэрасаў працоўных масс Беларусі, а са сваіх асабістых вырахаваньняў і мяркаваньняў.

Пастановы гэтых 9-ці асоб зьяўляюцца шкоднымі для агульнага Беларускага Соціяльна-Рэволюційнага дзела як у краі так і заграніцай.

Прыймаць гэткія пастановы ніхто не упаўнаважываў гэтых асоб, і зьявішча гэнае ёсьць іх прыватная справа, нікога не абавязуючая.

Ад імені Партыі Беларускіх Соціялістаў-Рэволюціянэраў я ганьблю паступак гэтых асоб і заяўляю аб сваім выхадзе з Нарады, якая зьяўляецца не правамочнай выносіць падобныя пастановы.

Мамонька Язэп,
Сябра Нарады.

Бэрлін, 15 кастрычніка 1925 г.

Прыняў пратэст у справе Нарады 17 кастрычніка 1925 г.
Старшыня К. Езавітаў.

## БЮЛЕТЭНЬ Б. П. С. Р. АБ „КОНФЭРЭНЦІІ.“

У сваім бюлетэні загранічная Група Беларускої Партыі Сацыялістаў-Рэволюцыянераў ад 19 лістападу 1925 г. зьмесьціла гэткую заметку:

„Маскоўскія комівояжэры ўсясьветнай соціяльнай рэвалюціі, адкінуўшы думку аб рэволюціянізаваньні народных грамад, ужо даўно пачалі займацца субсыдываньнем загранічных камуністычных груп, паасобных дзеячоў профэсыйнага і соціялістычнага руху ды подкупам рожных палітыкаў, журналістаў, банкіраў. Разьвіваючы свае внешторгаўскія опэрацыі, яны паміж іншым, бяз жаднай агіды скупляюць і мёртвыя душы, тым больш, калі тыя ў сваім мінулым маюць хоць які-небудзь вызначны тытул.

Туляючыся у прыёмных рожных заходна-эуропэйскіх буржуазных урадаў, беларускі Чычыкаў, А. Цьвікевіч, бышы сябра Ураду Б. Н. Р., выпадкова сустрэўся з фактарамі па скупляньню мёртвых душ і зараз-жа запрапанаваў ім свой тавар, паабяцаўшы ў дадатку і мандаты даўно ужо неістнуючага ураду Б Н. Р. Торг адбыўся. За тыдзень склікаецца ў Бэрліне зборка некалькіх змучаных ад голаду і тугі па бацькаўшчыне беларускіх эмігрантаў пад гучнаю назоваю „2-я Нацыянальная Беларуская Конфэрэнцыя“. Са зьнешняй стараны „Нарада“ была абстаўлена так, што многасьць рожных напіткаў ды яды (а пры гэтым яшчэ і прыгожыя маладыя дзяўчаты) мелі сьведчыць аб „камуністычна-нэпаўскім раю“, які ужо зьдзейсьнены ў Радавай Беларусі, што само сабой не магло ня мець ўплыву на адпаведныя вынікі „Нарады“.

Афіцыяльна „Нарада“ адбылася 12—16 кастрычніка г. г. Быў прыняты і парадак дня. Адбылася нават і дыскусія — бач, ня ўсе аднолькавага былі думаньня! Але не зважаючы на гэту драбніцу, нарадай была прынята рэзолюцыя, бязумоўна, „падаўляючай большасьцю галасоў“. У гэтай рэзолюцыі, праўда, з подзіву годнай саромлівасьцю ды рожнымі ужымкамі і падскокамі прызнаецца, што ў Радавай Беларусі заложаны моцны фундамант незалежнай беларускай дзяржаўнасьці, ужо здзейсьнены нацыянальны ды соціяльны ідэал беларускага народу, але затое з поўнай рашучасьцю і адвагай праклінаюцца ўсе тыя беларусы, якія з гэтым не пагаджаюцца, яны проста лічацца „здраднікамі беларускага народу“.

Прычына скліканьня нарады ясная, вартасьць прынятай рэзолюцыі больш, чым зразумелая. Мо не варта было-б зьвярнуць і увагі на гэткую эміграцкую зборку, але наколькі яна імкнулася рэпрэзэнтаваць увесь беларускі вызваленчы рух за межамі Б. С. С. Р., то рэальная істотнасьць змушае выявіць запраўднае становішча ды ясна зазначыць, што нарада рэпрэзэнтавала ўсяго толькі некалькі асоб беларускіх эмігрантаў, якія дзеля сваіх асабістых інтэрасаў рашылі прыкрыцца сьцягам беларускага вызваленчага руху Гэта ёсьць ня што іншае, як самая нягодная спэкуляцыя, і беларускі працоўны народ павінен ведаць, што Бэрлінская „Нарада“ ёсьць прыватнае справа групы зьменатычнікаў, дзеля чаго ўсе яе пастановы ды рэзолюцыі ні для каго не абавязковы.

Да гэтага трэба дадаць, што частка дэлегатаў ад беларускіх эміграцкіх арганізацыі у Празе, пабачыўшы, што гэта за „Нарада“, з пратэстам яе пакінулі“.

## СВАЕ СВАІХ ЧУРАЮЦЦА.

Верны рыцар А. Цьвікевіча па спэкуляціі утрацiўшымі юрыдычную моц мандатамі Б. Н. Р., п. Пятрук Крэчэўскі, зьмесьціў у расійскай ковенскай часопісі „Эхо“ (№ 297, ад 15. XII. 1925) пасланьне супроць А. Цьвікевіча. „Эхо“, зьмяшчаючы пасланьне п. Крэчэўскага, дзеля ачавістай бязграматнасьці зьместу, засьцерагаецца на ўступе, што зьнімае з сябе адказнасьць за аддзельныя выразы як у яго палітычнай часьці, так і ў часьці што да ўспамінаных асоб. Ведаючы палітычныя і літэрацкія пазнаньні аўтора пасланьня, нас такая асьцярожнасьць расійскай газэты ня дзівіць. Зрэшта, зьмест пасланьня найлепш асьвятляе, як асобу аўтора, так і яго палітычныя горызонты, а дзеля гэтага друкуем ліст поўнасьцю, ў перакладзе з расійскай мовы:

„Ва ўсёй загранічнай прэссе паявілася повядомленьне, надрукаванае ў „Эхо“ 22. 11. 1925 г. № 278, аб маім пераезьдзе ў Менск, як прадсядацеля Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, разам з віцэ-прадсядацелем В. Захарко. Там-жа гаворыцца і аб перадачы Беларускім Урадам мандатаў Савецкай Беларусі.

Чуткі гэтыя на нічым не абаперты і інспіраваны з Масквы (Руль, № 1488). Прычынай да гэтага паслужыла Бэрлінская нарада зьменавехаўпаў 12—15 кастрычніка. На нарадзе пытаньне аб мандатах падыймалася, але пасьля таго, як стала ведама, што Урад яшчэ 4 кастрычніка г. г. падаў мце адстаўку, саўсім адпала.

Авантурызм гэткай пастаноўкі пытаньня, — перадача мандатаў Савецкай Беларусі, — сам па сабе сьведчыць, аб поўнай дурноце (у арыгінале—„глупости“) ініціятараў гэтага замыслу. У роўнай меры ён разьлічаны і на несьвядомасьць тых камуністычных дыплёматаў, каторыя вялі торг аб гэтыя мандаты.

Мандаты павінны быць зьвернуты таму, ад каго яны былі атрыманы. Няўжо-ж у цяжкі момант Савецкіх Соціялістычных Рэспублік, яго Сувязі прыйдзе ў галаву мысьль перадаць сувэрэнныя правы рускага народу Кітайскаму Імпэратару або Турэцкаму Султану. (Аўтор выпусьціў з пад увагі, што ні ў Кітаі імпэратара, ні ў Турціі султана даўно няма; тут проста адбілася псыхолёгія аўтора, якімі палітычнымі катэгорыямі ў 1925 годзе ён яшчэ думае. *Увага Рэдакцыі*).

Правал быў ачавісты, і камбінація не ўдалася, але гэта ня спыніла рацівых прыслужнікаў савецкай ўлады,—Цьвікевіча, Зайца, Пракулевіча,—зрабіць падлог і, ня будучы ўжо міністрамі, выдаць ад імя Ураду пакаянную заяву і прызнаньне савецкай ўлады.

Прэзыдыум Рады гэткі паступак назваў здрадай незалежнасьці Беларусі і ніякай адпавядальнасьці за гэта не прыймае, адкідаючы ў каранёх юрыдычнае значэньне гэткай заявы.

Вярхоўная ўлада на тэрыторыі этнографічнай Беларусі, згодна пастанове Рады Рэспублікі 13 сьнежня 1919 г., прыналежыць выключна Прэзыдыуму Рады, цяпер прабываючаму загранiцай, і таму авантура Цьвікевіча можа разглядацца толькі як здрада народу волі, каторага ён ня выпаўніў і перайшоў у абоз яго ворагаў, каб замацаваць уціск акупантаў над змучанай бацькаўшчынай.

Цяпер да Прэзыдыуму Рады перайшла выканаўчая ўлада. Прэзыдыум у сваёй далейшай рабоце акрэсьліць, ці патрэбна пры нястачы тэрыторыі выканаўчая ўлада загранiцай ў асобе Ураду або, абыдзецца пакуль без яе да выясьненьня моманту яе неабходнасьці,

Соціялізм і дэмократызм ніколі ня змогуць прымірыцца з дыктатурай Савецкіх Соціялістычных Рэспублік, а таму і наш пераезд ў Мінск мог бы стацца толькі пасьля упадку ладу дыктатуры.

Прадсядацель Рады Беларускай Народнай Рэспублікі
Прага. *П. Крэчэўскі*".

Калі п. Крэчэўскі называе падлогам тое, што яго „міністры", ня будучы міністрамі, прадавалі Саветам свае поўнамоччы, то як назваць паступак самога п. Крэчэўскага, які незаконным спосабам утварыў Урад Цьвікевіча, аб чым сьведчыць гэткі, ўручаны яму ў свой час, дакумант:

„Старшыне Прэзыдыуму Рады Б. Н. Р. п. А. Крэчэўскаму і Віцэ-старшыне В. І. Захарко.

Паважаныя Грамадзяне!

Паскольні нам ведама, пры Вашым учасьці ў Коўне стварыўся урад А. Цьвікевіча. Мы лічым, што гэты урад зьяўляецца незаконным, таму, што згодна канстытуціі., Урад Б. Н. Р. павінен выбірацца пленумам Рады Б. Н. Р., што ня было захавана пры яго утварэньні, і што ў гэтым прымалі удзел толькі два сябры Прэзыдыуму Рады Б. Н. Р., у той час, як мы, сябры Прэзыдыуму, нічога аб гэтым ня ведалі. Дзеля гэтага прапануемо Вам адпаведны загад, каб утвораны пры Вашым учасьці урад А. Цьвікевіча спыніў зараз-жа сваю урадовую працу і ўсе справы здаў Прэзыдыуму Б. Н. Р.

У далейшым, для вядзеньня націянальна-палітычнай акціі заграніцай, мы лічым патрэбным склікаць Прэзыдыум Рады Б. Н. Р. не пазьней першага лістапада 1923 г. ў Празе для вырашэньня гэтых спраў.

Калі-ж да гэтага часу сябры Прэзыдыуму, грам. Крэчэўскі і В. Захарко, не дадуць ніякага адказу і ня прыедуць у Прагу, дык мы выступім адкрыта супроць незаконнага Ураду і нарушэньня Вамі канстытуціі Б. Н. Р.

З пашанай:

Віцэ-старшыня Б. Н. Р. *П. Бадунва.*

Сэкрэтар *Я. Мамоньна*".

14. X. 1923 г.
Прага.

П. Крэчэўкі, атрымаўшы гэты ліст, не захацеў лічыцца з другімі сябрамі Прэзыдыуму Рады Б. Н. Р. Не глядзя на пратэсты ня толькі яго калегаў па Прэзыдыуму, але і на пратэсты партый і грамадзкіх арганізацій, п. Крэчэўскі прыкрываў авантуру А. Цьвікевіча.

Урэшце, з пяці асоб Прэзыдыуму Рады Б. Н. Р., як цьвердзіць сам п. Крэчэўскі, астаўся прэзыдэнт (Крэчэўскі) і віцэ прэзыдэнт (Захарка), якія ужо, маўляў, будуць стаяць, як мур, на незалежніцкай плятформе. А што-ж тады знача гэткага зьместу пратакол, сьпісаны на т. зв. „нарадзе" ў Бэрліне і надрукаваны ў „Савецкай Беларусі" (№ 259 ад 15. XI. 1925)?. (Гл. подпіс Захаркі!).

„ПРАТАКОЛ
пасяджэньня Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі.

Бэрлін „15“ кастрычніка 1925 г.

| СЛУХАЛІ | ПАСТАНАВІЛІ |
|---|---|
| Даклад старшыні Рады Міністраў А. Цьвікевіча аб сучасным стане Ураду БНР і аб агульным палітычным становішчы Беларусі. | У зьвязку з сучасным становішчам Беларусі, заходняя часьць якой знаходзіцца пад акупацыяй Польшчы, а усходняя — творыць Беларускую Савецкую Рэспубліку ў складзе Сацыялістычнага Савецкага Саюзу, у мэтах аб‘яднаньня ўсіх сіл народу для яго поўнага нацыянальнага і сацыяльнага вызваленьня ў поўным паразуменьні з краёвымі беларускімі арганізацыямі — пастанавілі: абвясьціць ад сёньнешняга дня Урад Беларускай Народнай Рэспублікі зьліквідаваным і спыніўшым сваю дзейнасьць. |

Старшыня Рады Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі А. Цвікевіч.
Вык. аб. міністра фінансаў Захарка.
Дзяржаўны Кантралёр Л. Заяц.
Дзяржаўны сэкратар В. Пракулевіч“.

„ПАСТАНОВА ДА ПРАТАКОЛУ

пасяджэньня Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі 15 кастрычніка 1925 г.:

У сьвядомасьці таго, што ўлада сялян і работнікаў замацаваная ў Менску—сталіцы Радавай Беларусі, запраўдна імкнецца адрадзіць Беларускі народ культурна, эканамічна і дзяржаўна, што Радавая Беларусь ёсьць адзіная рэальная сіла, якая можа вызваліць Заходнюю Беларусь ад польскага іга, у поўным паразуменьні з краявымі арганізацыямі, пастанавілі: спыніць істнаваньне Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі і прызнаць Менск адзіным цэнтрам нацыянальна-дзяржаўнага адраджэньня Беларусі.

Старшыня Рады Міністраў Б. Н. Р. А. ЦЬВІКЕВІЧ
Дзяржаўны Сэкратар ПРАКУЛЕВІЧ.
Дзяржаўны Кантралёр Л. ЗАЯЦ“.

Бэрлін, 15 кастрычніка 1925 г.

Далей, п. Крэчэўскі даводзіць, што ён цяпер зьяўляецца „вярхоўнай“ уладай на Беларусі.

У пастанове Рады Б. Н. Рэспублікі ад 13 сьнежня 1919 году няма ніводнага слова аб перадачы вярхоўнай улады над Беларусьсю п. Пятру

Крэчэўскаму. Там сказана вось што:

„Прэзыдыум Рады Б. Н. Р. разам з Радай Міністраў праз увесь час спыненьня чыннасьці сэсіі Рады карыстаецца усей поўнатой уласьці Рады ва ўсіх тых здарэньнях, калі трэба абараняць дзяржаўныя правы Беларускага Народу.“

І толькі,—больш гэтага аб ніякіх вярхоўных уладах няма мовы.

Знача, — Прэзыдыум Рады Б. Н. Р. разам з абранай пленумам Рады Б. Н. Р. Радай Міністраў (а не п. п. Крэчэўскі і Захарка) карыстаюцца поўнасьцю ўсіх правоў у тых здарэньнях, калі патрэбны выступленьні ў абарону дзяржаўных правоў Беларускага народу.

Абраная пленумам Рады Б. Н. Р. Рада міністраў астаточна спыніла сваю чыннасьць 20. IV. 1923 году, а знача, ад гэтай даты ўсе выступленьні п. Крэчэўскага апіраліся не на констытуцыю Б. Н. Р., а на самазванства ды на авантурызм п. Крэчэўскага і А. Цьвікевіча.

Мы згодны з вамі, п. Крэчэўскі, што А. Цьвікевіч майстар ад падлогаў, але нам такжа ведама, што пры фальшаваным пратаколе, які цяпер знаходзіцца ў судзьдзі першага участка гор. Коўны (справа В. № 2419/24 г.) фігуруе, побач прозьвішч А. Цьвікевіча, Захаркі, Зайца, Прокулевіча і інш., так-жа прозьвішча П. Крэчэўскага, напісанае яго ўласнай рукой.

Газэтныя ведамкі спанукнулі п. Крэчэўскага спозьненай датай рэагаваць супроць авантуры Цьвікевіча, дзеля гэтага мы ў шчырасьць гэтай заявы ня верым і перакананы, што Крэчэўскі кончыць тым, чым пачаў А. Цьвікевіч, толькі гэта чамусьці ня ўходзіць яшчэ ў чыесьці пляны.

Абзац аб выканаўчай уладзе ў пасланьні п. Крэчэўскага гэта — букет яго палітычнай „мудрасьці“.

Мы рады, што ўрэшце пачынае разьвівацца клубок інтрыг, якія ў апошнія тры гады навіваліся каля нашага змаганьня за незалежнасьць Беларусі. Пачынаюць ўрэшце выплываць чорныя сілуэты укрытых сіл, якія, за аблітыя крывёй Крыўскага селяніна чырвонцы, разьбівалі еднасьць беларускага адрадженча-незалежніцкага руху. Выходзяць наверх спружыны, парушаўшыя гэтыя прадажныя сілы на разьбіваньне беларускіх незалежніцкіх арганізацый у краю і на эміграціі, ды на абліваньне брудамі тых дзеячоў, якія цьвёрда стаялі і стаяць пры незалежніцкім сьцягу.

## ВЫСТУПЛЕНЬНІ ВОРАГАЎ НАШАГА ВЫЗВАЛЕНЬНЯ.

Пад скрытазовм „Н.“ адзін крутач зьмесьціў ў „Савецкай Беларусі“ (№ 262 г. г.) апісаньне „Беларускай Конфэрэнціі ў Бэрліне“. Пункт цяжкасьці гэтага „апісаньня“ ў нападках на грам. Ластоўскага. Наскрозь нікчэмная душонка умыслова ненормальнага маніяка, ня маючага у сваёй галавешцы ніводнай здаровай думкі, каб процістравіць яе на зьбіцьцё слушнасьці ўжываньня імя „Крывічы“ замест русыфікатарскага „Беларусы“, — кідае бязсорамную і брудную, як ён ў сабе, брахню, што „Ластоўскі зьвязаў свой лёс з літоўскай ахранкай“. Бедны, бедны ты чалавеча! Ніхто табе ў гэта не паверыць. Грам. Ластоўскі вышэй твае затручанай ядам гадзіны бруднай сьліны, якой ты сілішся апляваць яго. Бруд і яд гэтыя ляжа на цябе-ж самога!

Ластоўскі вінават ва ўсіх грахах, якія можа прыдумаць подласьць подлых душ, таму, што:

1) нікому ніколі не прадаваў сваей ідэі,

2) што сьлед яго працы відаць на кождай галіне нашага адраджэньня,

3) што ў момант, калі здрайцы прадаюць ідэю незалежнасці свае Бацькаўшчыны, ён як стаяў, так і стаіць пры сьцягу незалежнасьці Беларусі (Крывіі),

4) што подласьць называе—подласьцю і здраду—здрадай,

5) што калі „быўшыя людзі" запраўды збадзялі сябе службамі за грошы ў розных ахранках, то Ластоўскі знае адзіную службу, службу ідэі, за якую атрымлівае скоріпоны і церні, каторымі асыпаюць яго людзі маральнага калібру пана „Н".

Грам. Ластоўскі, каб быў пераконаным хадэкам, працаваў-бы чэсна з хадэкамі, ня лічучы сабе гэта ганьбай. Але грам. Ластоўскі па свайму пераконаньню належыць да радыкальных народнікаў-соціялістаў, і ў гэтым кірунку яго праца ідзе простай і чэснай лініяй ад самага пачатку, г. зн.,—ад 1902 году; такім яго знае ўсё крыўскае (беларускае) грамадзянства.

Нас дзівіць яшчэ адно: чаму гэту нічога ня вартую брахню зьмяшчае „Савецкая Беларусь"? Няўжо ж яна думае, што незалежніцкавызваленчую думку Беларускага (Крыўскага) Народу яна асіліць, абкідаючы сьвядомай ілжой аднаго з прадстаўнікоў гэтай думкі? Ці-ж орган Комуністычнай Партыі чуецца ўжо так збанкрутаваным са сваёй куртатай аўтономіяй Беларусі, выдаванай за незалежнасьць, што іншых чысьцейшых спосабаў змаганьня ня мае? Калі беларусом (крывічом) непатрэбна незалежнасьць, то вытлумачце — чаму? Можа пераканаеце. Але з маральных памыйніц чэрпаць прадажную брахню?.. Гэта-ж нікога не пераканае, а выклікае толькі агіду.

Нас вельмі дзівіць, чаму гэта Саветчына зьбірае выключна ўсякую рвань. Ленін слушна сказаў „в большом хозяйстве всякая дрянь пригодится", але-ж калі ўжо будзе выключна зьбірацца „дрянь", то за ёй і добрага ня ўбачыш.

С. М-СКІ.

## КНІГОПІСЬ І КРЫТЫКА.

І. П. ФУРМАН. КРАШАНІНА. Матарьялы да гісторыі яе у Віцебшчыне. Пад рэдакціяй члена-карэспандэнта Інстытуту Беларускай культуры М. І. Касьпяровіча. Выданьне Віцебскага Акруговага Таварыства Краязнаўства. Віцебск 1925. Мастацкі нагляд і малюнкі у тэксце Е. С. Мініна. Тыраж 75 экз.; 25 балонак тэксту і XV табліц рысункаў крашаніны; формат 20×17 цм.

Мастацкая старана гэтага выданьня можа конкураваць з лепшымі пробкамі гэтага роду работ загранічнай продукціі. Рысункі да кніжкі, заставкі, канцоўкі і віньеткі апрацаваў Е. С. Мінін.

Зьмест кніжыцы сьціслы, але дае шмат цэнных матэр'ялаў, нажаль, як і сам аўтор засьцерагае,—далёка не вычэрпываючых паднятага пытаньня. Працу гэту, так добра запачаткаваную грам. Фурманам, трэба было-бы расшырыць, асабліва ў гістарычнай часьці гэтай галіны нашага народнага мастацтва.

А перш-наперш трэба разабрацца ў імязоўніцтве. Даследаваньні над старакрыўскімі тканінамі вяліся ўжо з першых годаў нашага адраджэньня і устаноўлена, было дзе што цэннае. Гэтак, назоў „крашаніна", згодна актам XV—XVII ст. і народнаму імязоўінцтву, носіць кождая афарбаваная тканіна ў адзін колер бяз узораў. Для абазначаньня узорнай афарбоўкі тканінаў ужываўся тэрмін „набойка" „выбіванка". Назоў „сінільнікі" абазначае майстроў, якія фарбавалі палотны выключна на сіні колер, — „сінілі".

У далейшым мы будзем прытрымлівацца гэтага імязоўніцтва.

Нам незразумела, чаму аўтор, хочучы давясьці аб даўнасьці набойкавага умецтва, шукае прыкладаў не краёвых, а сягае да маскальскіх крыніц (Варлаам Хутынскі). Што гэта? Намёк на тое, што набойкавае умецтва прышло да нас з Масковіі? Ці гэта сьвядомае мяшаньне маскоўскай этнографіі з крыўскай? І ў першым і ў другім здарэньні пастаноўка неправільная, бо эміграцыя на ўсход ішла з крыўскіх зямель, а не наадварот, а знача мастацтва і этнографія былі пераношаны з крыўскіх зямель, а не наадварот. Тым часам такой агаворкі ў кніжыцы няма і, дзякуючы гэтаму, атрымліваецца прыкры недасказ, які можна так ці йначай тлумачыць.

Дасьледчыку набойкавых забыткаў могуць даць багаты гістарычны матэр'ял рызьніцы краёвых царквей і касьцёлаў, бо набойкамі падшывалі царкоўныя рызы, клалі іх для дыхту паміж подшыўкай і верхам і, ўрэшце, шылі з іх пакрыцьці для аналояў і інш., не выключаючы на т

саміх рыз. Пішучаму гэта здаралася бачыць па рожных рызьніцах нашага краю шмат крашанін (без узораў) і набояк (з узорамі) з XVI і XVIII ст. ст. Прыкладам, у Новым-Пагосьце (Дзіс. пав.) ў касьцеле, будаваным ў 1596 годзе, бачыў я вельмі старыя і вельмі мастацка выкананыя набойкі на палатне ў некалькі колераў, якія служылі на верх (а не на подшыўку) дзьвёх дальматык. Знача, для пацьверджаньня даўнасьці гэтага умецтва можна знайсьці краёвыя прыклады.

Мова кніжак, выдаваных у Вітабску пад рэдакціяй грам. Касьпяровіча, наагул добрая, але ня без граха. У кніжыцы ўжыта слова „масла“ ў расійскім значэньні, замест „алейная фарба“. У крыўскай (беларускай) мове слова „масла“ мае сьцісла акрэсьленае значэньне, гэта—тук, які атрымліваецца з кароўяга малака. Іншыя тукі, дабываныя з расьцін (канапель, ільнянога семя, маку), маюць назоў „алей“. А знача, да набояк ужывалі не кароўе масла, а алей дык і будзе — „алейная фарба“, „алейны малюнак“. Думаем, што як аўтор, так і рэдактар у новым выданьні кніжкі, гэту слушную увагу выкарыстаюць для папраўкі тэксту.

Маем надзею, што грам. І. Фурман далей павядзе працу над дасьледаваньнем крыўскіх (беларускіх) набойкавых майстэрань, іх гісторыі і, асабліва, над зьбіраньнем нязьмерна цэнных для гісторыі мастацтва рысункаў, якія трэ было-б адтвараць тымі колерамі, якія былі ў ужытку ў майстроў.

Ня ведаю, па чыей віне вёску „Серады“, („Сяроды“) у кніжцы перамянавалі ў „Сяруты“ з дадаткам „б. Сяруцкае вол.“, замест Серадоцкае, Сяродзкае воласьці. У кождым здарэньні спамылка дужа брыдкая і не дасьціпная. *Власт.*

Праф. У. ПІЧЭТА. ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ. Частка першая. Дзяржаўнае выдавецтва. Масква—1924 — Ленінград. 134 балоны ў 4-ку Друкавана 3000 экз.

Нястача навукова апрацаванай гісторыі Крывіі (Беларусі) даткліва адчуваецца ў нашай маладой пісьменнасьці. Хадзілі чуткі, што такую гісторыю апрацовуе вядомы сваімі досьледамі крыўскай мінуўшчыны праф. Доўнар-Запольскі. Мы ня ведаем, якога зьместу мае быць гісторыя Доўнар-Запольскага, але можам з пэўнасьцю сказаць, што нечакана вышаўшая з друку „Гісторыя Беларусі“ праф. Пічэты не запоўніць быўшай у нашай пісьменнасьці пусткі. Гэту конспэктыўную сваю работу праф. Пічэта выканаў, ні на адзін момант не спыніўшыся на істотнай гісторыі нашага народу і краю. Гісторыя праф. Пічэты гэта — апавяданьне аб мінуўшчыне крыўскага (беларускага) народу, расказанае ў сьціслым зьвязку з гісторыяй Кіява і Масквы ў духу „общерусскости“. Да ацэны гістарычных падзей аўтор падыходзіць не са стараны інтэрасаў крыўскага (беларускага) народу, а са стараны надуманай і ня маючай падстаў у мінуўшчыне тэорыі аб „адзінай Русі“.

Пачатак Варага-Рускай улады ў нашай гісторыі трэба разглядаць так сама, як у расійскай гісторыі разглядаецца татарская навала. Імя напоўлегендарнага Рурыка павінна пераймаць чытачоў такой самай гразой, як і імя Батыя, бо паняволеньне ўсходнага Славянства пад уладу Варагаў нічым ня рожніцца ў сваёй істоце ад іншых вядомых у гісторыі чужацкіх нападаў.

Трохсотлетняя абарона полацкіх Крывічоў, гэта — наш геройскі пэрыёд. „Крыважэрнасць і лютасьць“ павінна быць прыпісана не Ўсяславу Полацкаму, а, наадварот, — варажскім ватагам, якія, абаснаваўшыся у Ноўгарадзе і Кіяве, стараліся пазбавіць свабоды адзінае, яшчэ змагаўшаеся з імі, ўсходна-славянскае племя Крывічоў. Постаць князя

Ўсяслава Полацкага, геройскага змагара за незалежнасьць, ў нашай гісторыі павінна займаць такое-ж самая мейсца, як у гісторыі Русі — постаць Александра Неўскага.

З гісторыі Смаленскай, Северскай і Тураўскай зямель на першым мейсцы павінны быць пастаўлены тыя высілкі, якія Крывічы клалі, каб звольніцца ад кіяўскага абсолютызму і яго дынастыі, а ня тое, як рвалі і дзялілі нашу зямлю нашчадкі Русаў. У кніжцы-ж праф. Пічэты апошняе саўсім засланяе першае: ён уладу Русаў на крыўскіх землях легалізуе...

Апісуючы дынастычныя змаганьні Яраславічаў, Расьціславічаў і др., праф. Пічэта ні словам не абмовіўся аб тым, што, акром тарговых шляхаў, змаганьне Крывічоў з Русамі было, папершае абаронай ад чужацкай навалы, а, падругое, — ў гэтых змаганьнях важыліся дзьве сыстэмы дзяржаўнага кіравецтва: з аднэй стараны (са стараны Крывічоў) клаліся высілкі на абарону глыбока дэмократычнага славянскага народапраўства, а з другой стараны (са стараны Русі-Варагаў) несены быў нам, побач з палітычнай няволяй, нормандзкі фэодалізм, пераніцаваны пад уплывам хрысьціянства ў візантыцкі абсолютызм, за якім ішло рабства народных масс.

У аддзеле „Беларусь у складзе в. кн. Літоўскага“ аўтор паўтарае перадпатопныя басьні, адкінутыя навейшай гістарычнай крытыкай. Басьні гэтыя знамяніта падпіраюць другую, паложаную ў аснову гісторыі Пічэты, старую ману аб істнаваньні ў прошлым „агульнарускасьці“. Бо што прасьцей: была Русь, гэту Русь заваявалі часьцю Літва, часьцю Татары, пазьней высілкамі Масквы была яна ізноў злучана ў адно „пракавечнае цэлае“. Знача — радуйцеся і весялецеся рабы вялікай Расіі!

Праф. Пічэта ведае, што ў істоце-то яно было ня так. Агульна рускай на ўсходнай Славяншчыне была толькі дынастыя і царква, а паасобныя землі станавілі аддзельныя палітычныя і націянальныя камплексы, са сваімі асобнымі цэнтрамі, інтэрасамі, народнай мовай, звычаямі і абычаямі, — і гэтае племяннное дзяленьне зламала, па доўгім змаганьню, сілу і адзінства дынастыі Русаў. Не узяўшы ўсяго гэтага пад увагу, аўтор ня мог выясьніць ні генэзы літоўскай дзяржаўнасьці, ні мейсца ў гэтай дзяржаўнасьці Крыўскага народу, — і яму прышлося здаволіцца зьбітымі і нічога ня вартымі паўтарэньнямі з Карамзіна і Ілавайскага.

Аўтор прамаўчвае такжа адну з цікавейшых балон нашай гісторыі— аб колёнізацыі Крывічамі поўначы, ўсходу і поўдня. Ён не расказаў таго, як крыўская колёнізацыя ішла сьпярша на поўнач да Ноўгарада, як абаснавалася там і што яе адарвала ад мэтраполіі, калі і наскольні адарвала. Прамаўчаў такжа аб нашай крыўскай колёнізацыі на ўсход, аб яе дынамічнай сіле, каторая, ператравіўшы ў сабе фінскіх тубыльцаў і ўбраўшы значную дозу мангольскага элемэнту, вытварыла ўрэшце новую маскоўскую народнасьць, якая будучы па мове славянскай, па крыві асталася фіна-татарскай. Як гэты крыўска-фіна-татарскі конглёмэрат прысваіваў і прысвоіў сабе назову „Русь“, нішчыў пры помачы Татараў незалежныя ўсходнаславянскія княствы і ўрэшце разьбіў—ня сілай, а інтрыгамі—незалежнае в. кн. Літоўска-Крыўскае. Як пасьля пад „братняй“ маскоўскай апекай крыўскі народ стаўся „Белымі-Русамі“, малодшай галіной „Вялікарускага племя“.

Нам у нашай гісторыі, ў час адраджэньня народу, патрэбна об'ектыўнае абаснаваньне яго кроўнага права на самаістасьць, а не апраўданьне чужацкага панаваньня над намі.

Гісторыя праф. Пічэты гэта ёсьць пераказ правінціяльнай (абласной)

гісторыі з пункту гледжаньня расійскага вялікадзяржаўніцтва. Новага гэта кніжка нічога ў нашу пісьменнасьць ня ўносіць. Яна ёсьць перафразоўкай на крыўскую мову ідэй Карамзіных і Іловайскіх для апраўданьня маскоўскага панаваньня над нашым народам.

Прачытаўшы надрукаванае на агорцы імя праф. Пічэты, рэктара Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту, мы спадзяваліся знайсьці ў кніжцы іншы зьмест. Думалі, што аўтор хоць-бы са ўзгляду на сваё высокае становішча ў Беларусі, калі ня з іншых мяркаваньняў, дасьць хоць цень, хоць намёк *нашай крыўскай* гісторыі ў сваёй брашуры. Тым часам сустрэліся мы з нічым не маскаваным „собирательствомъ". Пасьля гэтага нам зразумела і іншае, дагэтуль незразумелае, з дзейнасьці „Беларускага" Унівэрсытэту, які свае публікацыі друкуе мовай Масквы, а ня Менска. *Ю. В—ка.*

ПРАФ. У. ІГНАТОЎСКІ ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ Ў XIX І Ў ПАЧАТКУ XX СТАЛЕЦЬЦЯ. Лекціі, чытаныя студэнтам Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту. Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі. Менск, 1925. 251 балона ў 4-ку. Друкавана 10.000 экз.

Гісторыя Беларусі (Крывіі) праф. Ігнатоўскага зьяўляецца спробай апрацаваць нашу гісторыю XIX ст. Пры чым аўтор лішне многа удзяляе увагі справам расійска польскіх стасункаў і на асноведзі гэтых палітычных падзей вырысовуе палажэньне нашага народу. Праўда, сялянства ў часе прыгоншчыны не адыгрывала значнай палітычнай ролі, але сялянства было адзіным прадстаўніком нашай націі, якая ня мела ў сабе іншых грамадзкіх станаў. Дзеля гэтага сьпісаньне крыўд, захадаў расійскай і польскай стараны абасноваць праўнасьць панаваньня над крыўскім народам і яго тэрыторыяй ды адношаньне да гэтага ўсяго самога народу, — аб'екту, за які ідзе спрэчка і змаганьне, — павінна было-бы заняць больш мейсца ў кнізе.

Недастаткам кнігі зьяўляецца лішне шырокае карыстаньне польскімі гістарычнымі матэр'яламі, якія, асабліва ў апісаньні палітычных падзей, зьбіваюць аўтора.

Але віна тут ня гэтулькі самога аўтора, ў якога ёсьць увесь час імкненьне даць ацэну гістарычных падзей XIX ст. з пункту гледжаньня нашых народных інтэрасаў, сколькі віна у нераспрацаванасьці самога пытаньня.

Наша гісторапісь знаходзіцца яшчэ ў зародку,— і няма ня толькі распрацаваных архіўных матэр'ялаў з пункту нашага ўласнага погляду, але найгорш, што яшчэ гэты погляд ня выраблены. Хоць ён ужо ў працы праф. Ігнатоўскага „Гісторыя літэратуры" як-бы намячаецца: гэта — імкненьне проціставіць наш народ, як гістарычны індывідум у стасунку да акружаючых яго падзей і ўплаваў. Выдзяленьне народнай індывідуальнасьці ёсць істотнае заданьне ўсякай гісторапісі і адзіны крытэрый для ацэны прац, якія апісуюць нашу мінуўшчыну. Прыкладаючы апошні крытэрый да ацэны працы праф. Ігнатоўскага, мы павінны сказаць, што пры ўсёй яго добрай волі, з заданьня свайго ён пераможцам ня выйшаў, асабліва ў апісаньні падзей XX стагодзьдзя

Павінны зазначыць такжа, што ўжываньне жаргонных слоў у навуковай пісьменнасьці не падходзіць да яе. Гэтак, слова „унія", чамусьці у праф. Ігнатоўскага надрукавана „вунія". Ідучы гэтым шляхам, трэба хіба пісаць „алепстрыка", „ляндар", „цяцялісты" і г. д. *В. Л.*

## ЗЬМЕСТ.



---

Застаўкі з кніг Віленскай Сьвята-Троецкай друкарні XVIII ст.

## ВАЖНЕЙШЫЯ СПАМЫЛКІ ДРУКУ.

| Балона. | Радок зьверху. | Надрукавана. | Трэба чытаць. |
|---|---|---|---|
| 2 | 6 | прывялі | прынялі |
| 14 | 53 | вяласной | валасной |
| 15 | 31 | панач | нанач |
| 16 | 18 | пяпрытомнасьці | няпрытомнасьці |
| 18 | 23 | грымиулі | грымнулі |
| 19 | Агаловак | энографіі | этнографіі |
| 22 | 2 вынаска, 7 рад. | пуктуальная | пунктуальная |
| 23 | 1 вынаска, 4 рад. | прадаўжцаелем | прадаўжацелем |
| 27 | 3 | зьязваў | зьвязваў |
| 37 | 22 | тэр- | тэрміны |
| 37 | 28 | ў кацe | ў канцы |
| 37 | 30 | Кіяўшчыны | Кіяўшчына |
| 39 | 11 | Аё сць | А ёсьць |
| 40 | 48 | афіціяльна | неафіціяльна |
| 55 | 1 | купепка- | купецка- |
| 55 | 11 | *Котлеревскій* | *Котляревскій* |
| 76 | 28 | *с.* | *ж.* |
| 86 | 8 | х | іх |
| 86 | 27 | цкава | цікава |
| 100 | 18 | мале | мала |
| 102 | 6 | не ў разброд | не ў раздроб |
| 107 | 51, гр. 2 | інгрэдзіантам | інгрэдзіентам |
| 108 | 20, гр. 1 | проэктаваных | проектаваных |
| 108 | 15, гр. 2 | Towarystwa | Towarzystwa |
| 110 | 7, гр. 1 | ужываньня | ужываньне |


Redaktorius-leidėjas K. Dūž-Dušiauskas.

Рэдактар-выдавец К. Дуж-Душэўскі.

**Францішак Багушэвіч. Дудка Беларуская.** Выданьне Міністэрства Беларускіх Спраў у Літве. Коўна, 1922 г., бал. 74; 15×11 цм.

**Ганс-Хрыстыян Андэрсэн. Казкі.** Пераклад пад рэдакцыяй Власта. Выданьне Міністэрства Беларускіх Спраў у Літве. Коўна, бал. 64; 19×13 цм.

**К. Дуж-Душэўскі і Ластоўскі. Слоўнік геамэтрычных і трыганамэтрычных тэрмінаў і сказаў.** (Расійска-Беларускі і беларуска-расійскі). Выданьне Міністэрства Беларускіх Спраў у Літве. Коўна 1923 г., бал. 128; 19×13 цм.

**Н. Малышэў. Фізыолёгія і анатомія чалавека.** Падручнік для сярэдніх школ. Пераклад з расійскага. Выданьне Міністэрства Беларускіх Спраў у Літве. Коўна, 1923 г., бал. 120; 22×15 цм.

**В. Зеленскі. Ботаніка.** Падручнік для сярэдніх школ. З расійскай мовы пэраклаў К. Душэўскі. Выданьне Міністэрства Беларускіх Спраў у Літве. Коўна, 1924 г., бал. 160+XVI; 24×17 цм.

**В. Ластоўскі. Падручны Расійска Крыўскі (Беларускі) Слоўнік.** Выданьне Міністэрства Беларускіх Спраў у Літве. Коўна, 1924 г., бал. 832; 17×11 цм.

**К. Езовитовъ. Бѣлоруссы и Поляки.** Документы и факты изъ исторіи оккупаціи Бѣлоруссіи поляками въ 1918 и 1919 годахъ. Переводъ съ бѣлорусскаго. Ковна. „Изд. им. Ф. Скорыны". 1919. Балон 124, 25×17 цм. (вычарпана).

**І. Г. Антонаў. Успаміны аб польскай акупацыі Гарадзеншчыны у 1919 – 1921 г. г.** Малюнкі гвалту і здзеку фацэтных польскіх паноў на Беларусі (Мае перажываньні). 1921 году. Балон 83; 22×13 цм.

**Наша зямля.** Двухтыднёвая часопісь. № 1. (Кастрычнік 1920 г.).—№ 2 (Сьнежань 1920 г.).—№ 3 (Лістапад 1921 г.). Балон 16; 20×15 цм.

**Крывіч.** Месячнік літэратуры, культуры і грамадзкага жыцьця *1923 год*: № 1. Чэрвень. — № 2. Ліпень. — № 3. Жнівень. — № 4. Верасень - Кастрычнік. — № 5. Лістапад. — № 6. Сьнежань. 64 бал., 25×16 цм. — *1924 год*: № 1 (7). Студзень - Сакавік. — № 2 (8). Красавік - Сьнежань. 120 бал., 28×21 цм. — *1925 год*: № 9 (1). Студзень - Чэрвень, 120 бал., 28×21 цм. — № 10 (2). Ліпень - Сьнежань, 124 бал., 28×21 цм.

**Праф. Р. Віппэр. Падручнік Новай Гісторыі з гістарычнымі плянамі.** Пераклад К. Дуж-Душэўскага з 4-га дапоўненага расійскага выданьня. Выданьне Беларускага Цэнтру ў Літве. Коўна, 1925 г., бал. 128; 23×16 цм.

**Праф. Р. Віппэр. Падручнік Навейшай Гісторыі з гістарычнымі плянамі.** Пераклад К. Дуж-Душэўскага з 4-га дапоўненага расійскага выданьня. Выданьне Беларускага Цэнтру ў Літве. Коўна, 1925 г., бал. 156; 23×16 цм.

**В. Ластоўскі. Гісторыя Крыўскай (Беларускай) кнігі (друкуецца).**

„Švyturio" spaustuvė, Kaune, Miškų g-vė, 11 Nr.
Друкарня „Швітурыс", Коўна, Лесная вул., № 11.